## ПЕРШЫ ГЕНЕРАЛ

Пачалася грыбная «эпідэмія». У суботу і нядзелю сотні машын, аўтобусаў, напоўненых людзьмі з кошыкамі і вёдрамі, вырываюцца з Мінска па ўсіх промнях дарог, што рассякаюць квадраты лясоў, блізкіх і далёкіх. Уяўляю гэтыя дарогі і прыгарадныя лясы з вышыні, з самалёта — бачыў неаднойчы, адлятаючы ў далёкія падарожжы ці вяртаючыся дадому.

Выязджаем на досвітку ў кірунку не лепшых лясоў, не самых грыбных — гэта цвёрдае перакананне майго сябра Міхася, заядлага грыбніка, якому належыць заслуга адарваць мяне ад пісьмовага стала, ад рукапісаў, сваіх і чужых, і пацягнуць на цэлы дзень у незнаемы лес.

Міхась выказвае свае меркаванні наконт таго, што ёсць лепшыя грыбныя мясціны — за Лагойскам, пад Чэрвенем, на Уздзеншчыне. Але трэці пасажыр робіць выгляд, што не чуе гэтага. Вядзе ён у свае лясы.

Ён, гэты трэці,— генерал у адстаўцы Жмянькоў Піліп Рыгоравіч. А з генераламі не спрачаюцца, іх слухаюць і выконваюць загады. Так у самым пачатку пажартаваў я.

Піліп Рыгоравіч азірнуўся на мяне, весела бліснуў маладымі вачамі. Зусім не дзеля прыгожага эпітэта, якім належыць узвысіць генерала, пішу я гэтае слова — «маладым». У яго сапраўды маладжавы твар. Па вачах, шчаках і нават па снежных вусіках чалавеку ніяк нельга даць столькі год, колькі ён у сапраўднасці пражыў,— без нечага невялічкага семдзесят. Выдавала... шыя. О, гэта здрадлівая частка цела! Яна выдае не толькі жаночыя гады!

Мяне здзіўляла: чаму пры такім маладжавым твары шыя гэтак бязлітасна спаласавана маршчынамі? Ззаду, з карку, на які я міма-волі, бо гойдаўся адзін на заднім сядзенні, мусіў глядзець усю дарогу, скура на шыі ажно пабурэла, задубела, і маршчыны ненатуральна глыбокія, як шрамы. Я падумаў, што тры вялікія вайны і некалькі меншых — Іспанія, Фінляндыя — не пакінулі бачных слядоў на твары, на руках старога генерала, але, мусіць, адбіліся вось такім чынам — на шыі.

Нічым іншым чалавек, які вёў нас у грыбы, не вызначаўся. Невысокі, крыху па-старэчы, згорблены, хударлявы. Толькі апрануты трохі дзіўна: падношаны, з тонкага генеральскага сукна фрэнч і цывільны капялюш, стары, зялёны, з шырачэзнымі палямі. Такія капелюшы мы насілі як былі маладыя — гадоў пятнаццаць назад. Хоць я разумеў, што гэта вельмі зручна, каб лазіць па ельніку, але

капялюш гэты трохі смяшыў. Карцела пажартаваць наконт яго, але я не адважваўся — толькі пазнаёміўся з чалавекам і зусім не ведаю, як ён ладзіць з гумарам.

Міхась трохі суцешыўся, калі міма яго не надта борздага «Масквіча» прашмыгнула колькі «Волгаў». Грыбнікі абганялі адзін аднаго, хітравалі.

Прыгадалася, як некалі хітравалі мы з бацькам, і я расказаў пра гэта сваім спадарожнікам.

Ляснік, які лепш за каго іншага ведаў свой абход, адкрыў «залатую жылу» за балотам, у маладым дубняку, дзе раней грыбоў не знаходзілі. За якую гадзіну мы з бацькам нарэзалі крамяных бурштынавых — адзін у адзін — баравікоў не два кошыкі, а два кашы — круглыя, лазовыя плецяні, якія ў нас, на Гомельшчыне, носяць на плячы і ў кожны з якіх можна насыпаць пуды два бульбы.

Калі мы вярталіся з такім багатым зборам, нас убачылі грыбнікі з бліжэйшай вёскі — Краўцоўкі. Нават сярод лесавікоў, многія з якіх у той час жылі з грыбоў, ягад ды з парубкі лесу, столькі «дабракоў» — так ласкава ў нашых мясцінах называюць белыя грыбы — у лесніковых кашах зрабілі падзею. Калі назаўтра на досвітку мы з тымі ж кашамі выйшлі ў халодны туманны паўзмрок лесу, каб наведаць ураджайны дубнячок, то выявілі, што леснічоўка наша ў асадзе. Пад парканам, за стажком сена, пад роснымі кустамі крушынніку ў канцы гарода, у маладым сасняку за хлявом ляжалі грыбнікі — каб прасачыць, адкуль ляснік носіць гэтулькі «дабракоў». Але вопытныя лесапарубшчыкі не ўлічылі той пільнасці, якую меў не толькі ляснік, але і яго сын, хлапчук, бо да яе прывучыла нас лясное жыццё ўдалечыні ад вёскі, ад людзей. Першы ж зялёны след на срэбнай ад расы траве пра ўсё расказаў, усё адкрыў. І бацька прыняў вясёлае рашэнне: павадзіць «грыбных шпіёнаў» за нос. Гады за тры да гэтага парубшчыкі паранілі бацьку ў нагу — у той час леснікі вялі цэлыя баі,— і ён моцна кульгаў. Але не пашкадаваў свае пакалечанай нагі, абы захаваць у тайне грыбніцу. Бацька павёў «шпіёнаў» па самых бязгрыбных мясцінах, па балоце, па лесасеках, зарослых маладым асіннікам і калючай малінай.

Абрасіліся з ног да галавы. Выхадзілі дзесятак вёрст, набілі ногі. Я, малы, высалапіў язык, не рады быў грыбам, беламу дню. Пакуль не пераканаўся, што самыя ўпартыя з назіральнікаў знемагліся ці, зразумеўшы, што іх знарок водзяць не там, адсталі, бацька далека абыходзіў запаветны дубняк. А ён такі зноў шчодра ўзнагародзіў нас за ўвесь паход, за мазалі на нагах.

Вярнуліся дадому позна, калі ўжо сонца паднялося над лесам, высушыла расу. Колькі грыбнікоў-мужчын сядзелі каля леснічоўкі, сушылі вопратку, елі звараныя мамай кіяхі і са смехам расказвалі, як «яе крывы чорт» вадзіў іх па ўсім абходзе. Бацька слухаў іх і цешыўся, як дзіця.

Аднак усё-такі нехта перахітрыў нас. Калі мы наблізіліся да свайго дубняка на трэці ранак, нас сустрэла вясёлае ауканне. Там было паўвёскі людзей. Нам асталіся адны карэньчыкі. Ох, як бацька лаяў гэтага апошняга найхітрэйшага грыбнога разведчыка! Маўляў, калі ты высачыў, то і хадзіў бы адзін, а не прыводзіў бы ўсю вёску. Ды, мабыць, у таго чалавека быў іншы характар.

Генерал пасмяяўся з гэтае прыгоды майго далёкага маленства.

Завярнулі мы з шашы ў невялікі лес, на першы погляд — зусім не грыбны, бо здаваўся ён залішне акультураным і вытаптаным.

Міхась сказаў не без крыўды:

— Вам прастор і воля, а мне, як вартавому сабаку, належыць пільнаваць сваю прыватную ўласнасць. Далека не адыдзеш, а то яшчэ хто колы здыме.

— А вось каб я павёў, то пакінулі б машыну ў двары лесніка.

Так мы трохі шпіганулі генерала. Але і гэта ён нібы не пачуў. Рыхтаваўся да грыбнога паходу з такой сур'ёзнасцю, быццам распрацоўваў план Сталінградскага акружэння ці па меншай меры Бабруйскага катла. Прайшоў крокаў колькі, адчуў, што нешта муляе ў боце, сеў на пянёк і з сур'ёзнасцю старога салдата пераабуўся. Я за той час ужо абшнырыў ладную плошчу вакол машыны і нават падабраў два баравікі-перастаркі, чым усцешыў і Міхася і сябе: не без грыбоў, значыцца, лясок, генерал вёў не на «авось».

Урэшце генерал экіпіраваўся, нават ножычак расклаў, выцер аб халяву бота і паспрабаваў на палец вастрыню ляза. У кішэню фрэнча засунуў загорнуты ў цэлафан бутэрброд, хоць у нас былі прыпасы на агульны абед. Мяне такая сур'ёзнасць трохі смяшыла. Грунтоўна рыхтуецца таварыш, нібы хоча сабраць усе грыбы. Але ўвогуле чалавек гэты зацікавіў ужо з іншага боку — з творчага: характар! Калі мы рушылі з ім у глыб лесу, я вырашыў не адставаць — паназіраць, спатрэбіцца калінебудзь такі персанаж. Але хутка прыкмеціў, што генерал «водзіць за нос» мяне гэтак жа, як мы некалі з бацькам — вяскоўцаў. Тут ужо мяне апанаваў паляўнічы азарт. О не, чортаў дзед, ад мяне адчапіцца не так проста. Я ведаю лес, а таму, як добры шахматыст, ведаю ўсе твае хады наперад: куды ты павернеш, калі «выпішаш пятлю». Ды дарэмна я перабольшваў сваю пільнасць і не верыў у генеральскі спрыт. Як ні сачыў я за ім, як ні перасякаў яго

хітрыя петлі, праз нейкія паўгадзіны і след гэтага старога грыбніка прастыў. Паспрабаваў аукнуць — можа, думаў, па прывычцы адгукнецца. Дзе там!

Хадзіў я доўга. Вытаптаў нямала і прасвечаных сонцам саснякоў, і густых змрочных ельнікаў, і зіхатлівых ад белаты ствалоў бярэзнікаў — тут прыкметней, чым у хвойным лесе, адчувалася наступленНе восені: залатыя пятачкі ляжалі пад нагамі, кружылі ў паветры, свяціліся ў зеляніне крон. Лес той, хоць не ўражаў пушчанскай веліччу, аднак меў сваю прыгажосць. У ім была разнастайнасць. Толькі грыбоў мала. А гэта ўжо грыбніку, ды яшчэ такому, які не часта вырываўся з горада,— трагедыя.

Стомлены, нездаволены, у думках лаючы Жмянькова і Міхася, які паслухаўся старога дзівака, вярнуўся я да машыны.

Міхась увесь свой грыбны ўлоў, а ён быў бадай не меншы, чым у мяне — не трэба было далека хадзіць! — пусціў на суп, які весела булькаў у кацялку і на сто метраў вакол даваў такі апетытны пах, што ў мяне адразу пацяклі слінкі і забылася няўдача. Сцвярджаю, што грыбны суп, звараны ўмелымі рукамі на агні, з дымком, з добрымі спецыямі, нікольні не ўступае юшцы, нават двайной і трайной. Дастанецца мне ад рыбакоў, але, як кажуць філосафы, ісціна даражэй.

Настрой мой перад супам і іншымі прысмакамі, выстаўленымі на брызенце каля вясёлага агеньчыка, сапраўды палепшаў. Але я ўсё-такі пабурчаў, выказаў сябру нездавальненне, што ён так легка пайшоў за адстаўным генералам — павёз, куды таму ўздумалася па старэчай прыхамаці.

— Такі дзянёк страцілі! Цуд!

— Кажуць, ты хочаш напісаць апавяданні пра Леніна?

Я ўжо даўно перастаў здзіўляцца такім пераходам у размове, якія рабіў мой даўні сябра. Гэта яго ўлюбёная манера весці размову. Некаторых нашых агульных сяброў яна раздражняла. А я звыкся. Таму зусім сур'ёзна пераключыўся сам:

— Хачу. Але, прызнаюся табе, і баюся. Стварыць вобраз Ільіча — задача непамернай цяжкасці. Хачу паспрабаваць напісаць вобразы людзей, лёс якіх, жыццё вызначаліся ленінскімі ідэямі. Скажаш, што лёс кожнага з нас вызначаны рэвалюцыяй? Гэта так. Але я хачу пашукаць людзей, якія, калі нават непасрэдна і не сустракаліся з Ільічом, то пісалі яму ці ён пісаў ім, слаў тэлеграмы, даваў указанні. Такіх ленінскіх дакументаў тысячы! І яны рабілі веілізарны ўплыў на жыццё...

— Піліп Рыгоравіч сустракаўся з Леніным.

Я падскочыў з плашча, на якім разлёгся, каб адпачыць пасля доўгага блукання па лесе.

Жмянькоў вярнуўся, калі цярпенне наша пачало пераходз.іць у раздражнёнасць і да прыску згарэла вуголле, на якім падаграваўся суп.

Генерал з'явіўся пераможцам — з паўнюткім кашом цудоўных баравікоў. Нядобрае пачуццё — зайздрасць. Усё свядомае жыццё я выпальваў яго з сябе, але, убачыўшы гэтыя баравікі, ледзь не лопнуў ад зайздрасці. Ды і ў

Міхася таксама раптам пачырванеў карак, а на скронях запульсавалі сінія жылкі.

— Ну, Піліп Рыгоравіч, вы падобны на май го нябожчыка бацьку. Індывідуаліст!

— Ды што вы! Я ж вас гукаў-гукаў! Ведаеце, увесь дзень перажываў, што вы адсталі,— апраўдваўся генерал, нібыта збянтэжаны, а ў вачах, бачыў я, чорцікі скакал!, гэтакія насмешліва-гарэзлівыя, як у хлапчука, якому ўдалося перахітрыць усіх сваіх самых хітрых сяброў. Але схаваў Жмянькоў грыбы ў машыну — і пачала затухаць наша зайздрасць, тым больш, што ў гэты момант зноў смачна запах адкрыты Міхасём наварысты, упрэлы на вуголлі суп.

За абедам я павёў наступленне:

— Піліп Рыгоравіч, чалавек вы, як мы заўважылі, не вельмі гаваркі. Больш слухаеце ды ўсміхаецеся ў свае сівыя вусікі. Але майце на ўвазе, што ад нашага брата адчапіцца нялёгка. Кажуць, вы сустракаліся з Леніным? Не глядзіце так дакорліва на Міхала Міхалавіча. Мы жывём як салдаты ў баі, а не як генералы ў грыбах.

Жмянькоў засмяяўся.

— Ох, і бязлітасны ж вы! На грыбы трэба ўдача, а не ўзаемавыручка,— і тут жа змяніўся выраз яго твару: зрабіўся задумліва-сур'ёзны; чалавек як бы намагаўся ўспомніць нешта вельмі далёкае, але дарагое,— Нічога асаблівага я вам не раскажу, хлопцы. Сустрэча гэтая, хоць яна многае вырашыла ў маім жыцці, была вельмі кароткая. Але мне не хочацца быць падобным на некаторых з тых, хто аднойчы здалёк пабачыў Ільіча, а цяпер піша даўжэзныя ўспаміны. І часам блытаюць. А блытаць грэшна, не дазволена... Лепш маўчы ўжо, калі не ўпэўнены.

— Памяць часам падводзіць, асабліва праз соракпяцьдзесят гадоў, — сказаў я.— За гэта вінаваціць нельга.

Піліп Рыгоравіч не згадзіўся:

— Ды не. Такія сустрэчы не забываюцца. Я помню кожную рысу, кожнае слова. Да таго ж, скажу вам пра асаблівасць старэчага мозгу:

праз яго, як праз рэдкае рэшата, працэджваецца тое, што здарылася ўчора, і вельмі моцна, жалезна, як кажуць, трымаюцца падзеі маленства, юнацтва. Мне было шаснаццаць гадоў... І ўсё навокал бурліла. Але ведаеце што? Давайце спачатку паабедаем. Бо, калі вам хочацца паслухаць, то пачну я

здалёк. Самае цікавае, я лічу, у біяграфіі маёй гэта тое, як на перавале гісторыі два розныя чалавекі змагаліся за душу хлопца — беларуса, які нарадзіўся вось у гэтых мясцінах.

— Вы адгэтуль? —здзівіўся я.

— Кіламетраў пятнаццаць не даехалі да маёй Сакавішчыны.

Хлопцу мінаў чатырнаццаты год. Але маці па-ранейшаму, як малога, звала яго — Піліпок. А ўсе вяскоўцы — Жменька. Гэта не мянушка, сапраўднае прозвішча, у Сакавішчыне нямала Жменысаў. Але іншыя мелі ці паважаныя імёны — дзед Тамаш, Ганна Парасчына — па маці чамусьці, ці мянушкі. Ціхана Жменьку, Піліпковага дзядзьку, уся воласць ведала пад мянушкай «Японец». Скажы ў суседняй вёсцы сапраўднае прозвішча, імя — не ведаюць, скажы Японец — кожны ведае, стары і малы. А яму, Піліпку, прозвішча зрабілася мянушкай. Скажуць Жменька — і ўсім вядома, што размова ідзе пра яго, старэйшага Рыгоравага сына, які астаўся за гаспадара, калі бацьку летась забралі на вайну. Можа таму так ласкава звалі яго старэйшыя, што быў ён нег.ялічкага росту, канапаты, але шчыры — у працы стараўся не адстаць ад дарослых. Японец, які наглядаў за братавай гаспадаркай, неаднойчы казаў:

— Піліпок, не бяры на пупок. Надарвешся. А нам з табой, брат, яшчэ рабіць і рабіць. Пакуль цар рускі ды цар нямецкі знюхаюцца зноў, колькі салдацкай крыві нральецца! Невядома, калі твой бацька вернецца. А нам трэба і сваіх малых карміць і армію.

Дзядзька Японец лічыўся ў наваколлі дзіваком. Вярнуўшыся з японскай вайны кульгавым, ён не вельмі кідаўся да работы ў полі. Аднак жыў не бедна, бо «меў талан» — мастак; быў на ўсе рукі: канавал, ветэрынар, лекар, шавец, майстар па машынах. Браў за сваю працу Японец па-боску; цвёрдую стаўку назначаў толькі за шыццё ботаў ды за рамонт стрэльбы, за лячэнне каровы ці каня — хто што дасць. А калі людзей лячыў, то і зусім адмаўляўся ад платы, казаў: «Грэх нажывацца на чалавечай хваробе».

У Піліпка былі малодшыя брат і сястра. Але маці больш, чым малых, шкадавала яго, ажно няёмка часам рабілася ад мацярынскіх клопатаў ды пяшчот. Перад людзьмі няёмка.

Прынясе маці абед на поле.

— Адпачні, Піліпок, а я паару за цябе.

Зямля — жвір ды каменне. Босыя ногі наб'еш — гарацъ падэшвы, усё цела ломіць. Калі суседзі блізка не аралі — згаджаўся хлопец. Ляжа — тут жа заспе. Прачнецца — сонца ўжо нізка, а маці ўсё арэ, каб не будзіць сына. А то часам замест маці — іншых клопатаў у яе хапала — дзядзька Ціхан за плугам кульгае. Як жа тут няёмка не зробіцца, што гаспадар паўдня праспаў?!

Цераз год, пад восень пятнаццатага, вайна прыйшла ў гэтыя мясціны. Пашматаваны недзе ў Польшчы рускі фронт каціўся на ўсход. Пацягнуліся фурманкі бежанцаў. Іх вёску таксама гналі ў бежанцы, расказваючы жахі пра нямецкія зверствы. Але Японец адмовіўся ехаць: ён ужо быў на адной вайне, а таму не вельмі верь^ таму, што пісалі газеты.

— Брэшуць многа,— казаў ён,— Навошта немцам страляць усіх нас, сялян? А карміць іх хто будзе? Яны, брат, таксама не дурныя. Ведаюць, што без людзей — зямля мёртвая, нікому не патрэбная.

Піліпку хацелася ў бежанцы разам з усімі — ірвалася неспакойная хлапечая душа ў свет. Ды маці трымалася за мужавага брата, грамацея, як за сцяну. Каб ён паехаў, то і яна б не адстала ні на крок. А раз Ціхан аставаўся, то і яна не зрушыла з месца.

— Лепш ужо, сынок,— пераконвала маці Піліпка,— паміраць на сваёй зямельцы.

Ды і Піліпка страх апаноўваў ад думкі, што ён апынецца на чужыне без дзядзькі, які ўсё ведаў і ўсё ўмеў.

Не адны яны асталіся. Усе тыя, у каго не было на чым ехаць, у каго, як казалі, ні каня, ні вала. І яшчэ колькі гаспадароў. Нават багацеі асталіся ў мястэчку.

Баі, калі фронт падступіў, вырашылі, як параіў Японец, перачакаць у лесе. Выбраліся з коньмі, каровамі, свіннямі, хіба толькі курэй не ўсіх палавілі. Забраліся ў самы гушчар, будану парабілі. Дзень сядзелі, два, тыдзень, а яно ўсё грыміць і грыміць, то з аднаго боку, то з другога. А пасля гарматы блізка змоўклі, а кулямёты ды вінтоўкі ўсё яшчэ білі каля самай іх Сакавішчыны. Дажджы пайшлі. Дзеці пачалі хварэць. Пайшоў Японец у разведку. Дзень не вяртаўся. Жонка яго, дзеці, Піліпкова маці, ды і іншыя бабы, голасу нарабілі на ўвесь лес — загінуў чалавек, без якога, ведалі, жыць будзе яшчэ цяжэй. Але пад вечар Ціхан Жменька прыкульгаў і прывёў з сабой траіх немцаў у страшных рагатых касках. Людзі напалохаліся, бо і ў дзядзькі выгляд быў невясёлы. Паведаміў ён сумную навіну: фронт спыніўся каля самай іх вёскі, за вярсту нейкую, не больш, па рэчцы. І хоць Сакавішчына на гэты бок, пад немцамі, але нікога немцы ў прыфрантавую вёску не пускаюць, ды і хат многа згарэла.

— Не выгналі свае ў бежанцы, дык немцы гоняць.

Загаласілі бабы. Але дзядзька заспакоіў.

— Адбіўся я перад іх афіцэрамі. Няма, кажу, на чым далека ехаць. І няма каму. Бабы, дзеці ды я — кульгавы. Дамовіўся, што ў Ліпуны пераедзем, займем хаты тых, хто ў бежанцы падаўся.

Ліпуны — вёска вёрст за восем, за лесам; там воласць была, і туды сакавішчанскія часта хадзілі, людзей тамашніх ведалі. Недалёка ўсё-такі, лес свой, зямля свая блізка, можа як-небудзь бульбачку ўдасца выбраць — без яе не пражыць доўгую ваенную зіму.

Пераехалі ў Ліпуны. Дзядзькава сям'я і Піліпкова занялі адну хаціну, вокны якой накрыж былі забіты аполкамі. Дзядзьку, як самага пісьменнага, бо валасное начальства ўцякло, немцы за старасту прызначылі. Чалавек непалахлівы, Японец дамогся, каб немцы дазволілі забраць што-ніштто з гаспадарак у Сакавішчыне, што не раскралі «служкі цара і айчыны» і служкі «кайзера і фатэрлянда», і выбраць бульбу з поля, хоць з тых палосак, што бліжэй да Ліпуноў, у тыле фронту.

І вось аднойчы позна ўвосень, у канцы кастрычніка —раніцай у калюжах звінеў ужо лядок,—выехалі яны абедзвюма сем'ямі, са старымі, з малымі, каб выхапіць да мацнейшых маразоў бульбу яшчэ на адной ніве — Піліпковай, выбіраць на якой нямецкае камандаванне доўга не дазваляла. «Паламаў шапку» дзядзька нямала, каб атрымаць гэты дазвол.

Дзень быў сонечны, але халодны. Палоска гэтая ляжала за густым бярэзнікам, на ўзгорку, зямля жвірыстая, але ў пачатку лета ішлі дажджы, і бульба вырасла неблагая.

Бярэзнік парадзеў ужо, лісце, якое яшчэ асталося на дрэўцах, не гарэла золатам, а цямнела, пабурэлае, апаленае замаразкамі. Вярсты за чатыры, на паплавах, дзе закапаліся ў зямлю руская і нямецкая арміі, то ўсчыыалася, то сціхала кулямётна-вінтовачная страляніыа; была яна не такая злосная, як раней, калі ішло нямецкае наступленне, а нейкая нясмела-лянівая, быццам салдаты абедзвюх армій моцна стаміліся. Гарматы ўвогуле маўчалі, і тых, хто працаваў на полі, не палохала ўжо больш страляніна. Звыкліся. Нават малая Піліпкова сястра Ганулька не баялася. Толькі бабуля Наста жагналася, калі пачынаў дробна выбіваць кулямёт. Немцаў таксама перасталі баяцца. Былі сярод іх гады, рабаўнікі, але былі і такія, што разумел! сялянскія клопаты і турботы: вайна вайной, а жыць трэба. Японец, які меў справу і з афіцэрамі і з салдатамі, зрабіў выснову са сваіх назіранняў:

— Усюды адно і тое ж: паны ёсць паны, сяляне ёсць сяляне.

Немцы праязджалі міма па дарозе. То адзіночныя коннікі несліся галопам — веставыя, тлумачыў дзядзька Ціхан. То група уланаў у

прыгожых блакітных мундзірах праехала павольным трушком, гойдаючыся ў сёдлах. То цягнуліся фурманкі — даўжэзныя арбы на жалезных восях. Колы не пішчалі, не рыпелі, як у сялянскім возе, а грымелі на ўзгорку па каменні, як машыны. І коні ў немцаў добрыя — здаравенныя, на крыжы ў кожнага хоць кладзіся спаць. Усе гнядыя. Пілíпок зайздросціў на такія коні. Каб яму такі! На такім кані ўсё зрабіў бы ў гаспадарцы ён сам. Ні ў каго дапамогі не прасіў бы. Хіба толькі парады ў дзядзькі Ціхана. А то ў іх буланага рэбры тырчаць, і кульгае ён. «Як я,— жартуе дзядзька Ціхан.— Але і з ліха бывае дабро. Затое нас, кульгавых, на вайну не ўзялі».

Кулямёты і гарматы не прыцягвалі Піліпковай увагі, як цягнулі яны да сябе іншых яго равеснікаў. Ён баяўся мёртвых, баяўся падыходзіць, калі везлі іх праз сяло, бо адзін раз пагледзеў і колькі начэй сніў, крычаў у сне. Цёмнага хлява і сенцаў пачаў баяцца: здавалася, у кутках стаяць мерцвякі, цягнуцца да яго сінімі рукамі; такая рука забітага немца звісала з арбы і цёрлася аб кола.

Піліпок падкопваў капачкай засохлыя калівы, выварочваў наверх ружовую бульбу,— бабы следам выбіралі яе. Услухоўваўся ў страляніну, і яму рабілася страшна ад думкі, што во цяпер, калі свеціць сонца,

шугае ветрык, ганіць па полі апалае лісце, людзі зусім блізка — там, на паплавах, дзе ён пасвіў каня,— забіваюць адзін аднаго. Навошта? Рускія салдаты, як адступалі, дык усе былі падобныя да яго бацькі — яны з маці вочы прагледзелі. І немцы — без рагоў, без хвастоў. Людзі як людзі. Навошта ж ім забіваць адзін аднаго?

Уся яго чулая дзіцячая душа пратэставала супроць такога забойства.

Маці часта перад абразамі моліцца за бацьку.

Піліпок думаў пра бацьку і шаптаў словы гэтае матчынай малітвы, не ва ўсім зразумелыя, не такія, як гавораць у іх, але тым больш словы гэтыя здаваліся таямніча-цудадзейнымі: «Святые отцы и небесные силы, соблюдите его, раба божьего, от острой сабли и меча, от свинцовой пули и пушечного боя...»

Ехалі два нямецкія салдаты на такой самай добрай арбе, спыніліся, адзін прыйшоў да іх на паласу, нешта гаварыў, але з усяго Піліпок зразумеў два словы: «Арбайт, арбайт... гут, гут!» — працуйце, маўляў, гэта добра.

Немец паляпаў дзядзьку па плячы, а пасля паказаў на амаль поўны мяшок бульбы, паказаў знакамі, каб дзядзька ўзяў мяшок і нёс. Памог узваліць на плечы. Салдат ішоў за кульгавым селянінам, які сагнуўся пад цяжарам, і весела насвістваў. Апякло гэта душу Піліпку

балючай крыўдай. Хацелася схапіць камень і шпурнуць у спіну немцу. Можа хлопец нават памкнуўся нешта зрабіць такое, бо маці кінулася да яго, замаліла:

— Сынок!

Дзядзька занёс мяшок на арбу, вярнуўся нібыта ўсміхаючыся, але ўсе бачылі, як дрыжалі яго пабялелыя губы.

Дзядзька Ціхан заўсёды жартаваў, што б ні здарылася.

— Бачылі, які вясёлы салдацік? Маўляў, працуйце, працуйце, гут, гут, а мы тут як тут і будзем спажываць. Жартаўнік, далібог жа. І праўда, гэтак ад нашай працы да вечара можа нічога не астацца. Давай, брат Піліп, пахаваем мяшкі ў кустах.

Занеслі бульбу ў лагчыну, дзе раслі альховыя кусты. Пасля пакідалі на паласе, на вачах, не больш за паўмяшка, ды і то самую дробненькую, нібы толькі пачалі выбіраць і бульба ўрадзіла нікчэмная.

На дарозе незнаема загрукатала — не так, як фурманкі, і не так, як гарматы, калі іх цягнуць коньмі. Узняўся слуп пылу. З-за ўзгорка вынырнула чорная бліскучая машына. За год вайны ніхто ў іх мясцінах такой не бачыў. Аэраплан бачылі. Грузавікі бачылі. А пра такую, на якой цар ды генералы ездзяць, толькі чулі.

— Тамабіль,— сказаў дзядзька Ціхан.

Нават ён, пісьменны чалавек, назваў гэты самаход няправільна. Бабуля пачала хрысціцца, заклікаць багародзіцу прачыстую і ўсіх святых ратаваць іх, грэшных, ад сілы нячыстай.

Аўтамабіль спыніўся каля самага бярэзніку, у канцы іх паласы. З яго выйшлі нямецкія афіцэры ў доўгіх блакітных шынялях, аплеценых залатымі «вяроўкамі», у высокіх шапках з бліскучымі казыркамі. Напэўна, і генералы там былі. Мабыць, генерал рукой у чорнай пальчатцы паказаў на Піліпка, на дзядзьку, на жанчын, на малых, якія пакінулі выбіраць бульбу і глядзелі на дзіва-машыну, і злосна закрычаў. Тут жа да іх падбеглі два маладыя афіцэры, загергеталі, як гусі. Адзін трохі ўмеў па-руску:

— Ман... матка... ехаць, ехаць! Здзесь ніхт... Крыг! Вайна! Вайна!

Другі сек паветра рукой, паказваючы на захад.

— Шнэль! Шнэль!

Што такое «шнэль» — ведаў не адзін дзядзька, бадай усе ўжо даведаліся за месяц жыцця пад немцамі. Штодня чулі гэтае «шнэль» — хутчэй, хутчэй!

Хуценька сабралі кошыкі, мяшкі, лапаты і ўподбег — у лагчыну, дзе ў кустах пасвіўся буланы, стаялі калёсы і была прыхавана ў розных месцах накапаная бульба.

Аўтамабіль стаяў нядоўга. Афіцэры паглядзелі на разасланую на перадку машыны карту. Генерал паказаў чорнай пальчаткай на адзін бок дарогі, на другі. Узняўшы пыл, машына паехала далей — да іх Сакавішчыны, туды, адкуль далятаў стук,—здавалася, зусім мірны, быццам малацілі цапамі, але не па снапах, а па голым таку.

Не паспелі дзядзька і Піліпок запрэгчы каня і сабраць мяшкі, бо не вельмі спяшаліся, нягледзячы на нямецкае папярэджанне і на жаночы страх — бабуля і маці падганялі: «Хутчэй, Ціханка, Піліпок, а то каршуны гэтыя, калі паедуць назад, задзяўбуць. Яшчэ стрэліць каторы! Бог ведае, што ў іх на вуме. Чужакі!»,— як зноў на дарозе загрукатала, ды так, што, здавалася, задрыжала, застагнала зямля.

Выехала на пагорак батарэя. Чатыры гарматы. Такія, што кожную гармату цягнула па шэсць здаравенных коней. Ды па тры былі запрэжаны ў даўжэзныя вазы, накрытыя брызентам. Батарэя збочыла каля бярэзніку і пачала заварочвацца якраз на іх палосцы. Конскія капыты, велізарныя колы глыбока ўгрузалі ў зямлю, трушчылі бульбу. Гарматы раз'ехаліся ўздоўж бярэзніку, салдаты распраглі коней, пачалі капаць ямы.

— Займаюць пазіцыю, — растлумачыў дзядзька; зрабіўся ён нейкі сурова-засмучаны і адразу заспяшаўся ехаць адсюль.— Паплачце, бабы, па бульбачцы ды ўцякайма хутчэй. З гэтымі цацкамі не жартуюць.

На бальшак не падаліся. Паехалі ўзмежкамі — паўз сухое балота, цераз ліпуноўскія саснякі. Але пачулі, што па шляху прагрукатала яшчэ адна батарэя. Бачылі з узгорка: заварочвалася яна непадалёку ад першай, за другой градой бярэзніку.

Дзядзька ўсё больш і больш хмурнеў, здавалася — твар яго, збаранаваны маршчынамі, чарнеў, як ралля пасля дажджу.

— Відаць, зноў наступаць збіраюцца. Ой, колькі пашматаюць яны нашых гэтымі пушкамі! Колькі крыві рускай пральюць!

Бабуля загаласіла:

— Можа Рыгорка наш дзе тут.

За бабуляй — маці.

Ад напамінку пра бацьку сціснулася, зашчымела Піліпкава сэрца.

Хлопец не быў наіўны летуценнік, не думаў, як іншыя, нібы бацька яго такі герой, што куля не зачэпіць, піка не праколе, шабля не возьме, а снарад ён адкіне ад сябе. Не, хоць па-ранейшаму ўсе звалі яго Піліпком, ён даўно ўжо быў як мужчына і добра ведаў, як прыходзіць бяда. Але фантазія ў яго яшчэ дзіцячая — гарачая, нястрымная. І ён адразу ўявіў бацьку ў акопе і як пачнуць страляць

гэтыя гарматы. Ад такіх снарадаў не схаваешся. І вось ужо бацька мёртвы. Звісае з фурманкі сіняя рука... Ажно ўскрыкнуў ад такога ўяўлення.

Маці загаравала:

— Ударыў нагу, сынок? Казала ж — абуй лапці. Няцёпла ж ужо.

А дзядзька нібы ведаў, дзе забалела ў пляменііка, нібы чытаў ягоныя думкі.

— Во каб нашым як перадаць, дзе немцы батарэі паставілі! Накрылі б, міленькіх. Толькі колы каваныя паляцелі б угару.

Піліпок ажно страпянуўся ад тых слоў. Хіба можна перадаць? Як?

Скрынелі нязмазаныя колы. Буланы спыняўся на пясках, адпачываў. Каня не падганялі. Шкадавалі. Стаял! за возам, панурыўшы галовы, — дзядзька, бабуля, маці. Быццам на возе ляжаў нябожчык. Быццам хавалі каго. А на мяшках сядзела Ганулька, адна нокала і смяялася, што конь не слухаецца яе. Малой было весела, бо яна не ведала яшчэ ліха.

Піліпок глядзеў на дзядзьку. Чаму Японец змоўк і больш ні слова пра тое, як можна перадаць сваім, дзе сталі нямецкія батарэі.

Але калі выехалі з сасняку і ехалі па-за ліпуноўскімі гумнамі да бежанскай хаты, у якой жылі, на бальшаку ўзняла пыл яшчэ адна артылерыйская запражка — тры пары гнядых цяжкавозаў і фурманкі са снарадамі следам. Тады дзядзька сказаў:

— Праз Ласінае можна прайсці. Восень сухая. Акопаў на балоце няма.

Бабуля не ўцяміла. Піліпкова маці зразумела, што да чаго. Нягучна, каб старая не чула, замаліла:

— Што ты надумаў, Ціханка? Хіба майго Рыгора мала, што ён там? Асіраціш адразу дзве сям'і. Загінем без цябе, дзеверка. Так мы за табой — як за сцяной. Старасту немцы не зачэпяць.

— Які я да ліха стараста ім! Знайшлі дурня! — узлаваўся на хвіліну дзядзька, але тут жа супакоіў жанчыну:— Не калаціся, Ганна. Нічога я не надумаў. Куды мне, інваліду японскаму! Языком памянціць — адно і магу.

Можа праўда — дзядзька сказаў і забыўся, бо, пакуль бульбу ссыпалі пад падлогу — няхітрая хованка ад акупантаў,— пакуль абедалі ды іншымі справамі займаліся на чужым падворку — ні слова болей не сказаў пра тыя батарэі. А ў Піліпка так моцна заселі ў галаве гарматы гэтыя, што ні пра што іншае думаць ён не мог — толькі пра іх і пра бацьку. Думаў яшчэ пра балота — Ласінае, што недалёка ад іх Сакавішчыны, праз якое можна прайсці і сказаць нашым, рускім, дзе

немцы паставілі батарэі. Думаў, што каб ён пайшоў, то напэўна знайшоў бы там бацьку. Але разумеў, што яму не прайсці. Прайсці можа толькі дзядзька Ціхан, ён ведае ўсе сцежкі на тым дзікім балоце, зарослым з краю альхоўнікам, а пасярэдзіне — чэзлымі сасонкамі. Не, цераз балота можа і ён, Піліпка, прабраўся б, хадзіў жа ў журавіны ды вясной па яйкі качыныя. Але — адкуль падысці, каб мінуць немцаў? Вось тут, па сухім, па чужым полі без дзядзькі не пройдзеш. Позна ўвечары немцы хадзіць забараняюць, страляюць адразу ў кожнага, хто адгукнецца па-руску.

Адвячоркам вухнула недалёка гармата, страсянула зямлю. Хлопца скаланула. Ён ажно сеў на гародзе, чакаючы, што вось-вось заравуць усе батарэі, як тады, калі спыняўся тут фронт; яны, хто не паехаў у бежанцы, сядзелі ў лесе. Адзін бог ды немцы будуць ведаць, колькі смяртэльнага жалеза паляціць на галовы рускіх салдат, на яго, Піліпковага, бацьку. І нікога тады папярэджваць не трэба. Позна будзе.

Хацелася крычаць і грызці зямлю ад роспачы.

Але кананада не ўсчыналася. Праз колькі хвілін недзе далека, можа ў рускіх, адгукнулася яшчэ адна гармата. І сціхла. Сюды, у Ліпуны, кулямётная і вінтовачная страляніна далятала чамусьці на досвітку ды калі вецер дзьмуў з усходу.

Піліпок ведаў — дзядзька расказваў, што перш, чым усчынаць артылерыйскі агонь, робяць прыстрэлку. Ён быў упэўнены, што гэта прыстрэлка, за якой пачнецца агонь усіх батарэй, якія яны бачылі і якіх не бачылі.

Хлопец сядзеў у гародзе і не варушыўся. З напружаннем і з болем чакаў. Яго пачало ліхаманіць. Гарачка не праходзіла, калі ён, не дачакаўшыся грукату многіх гармат, вярнуўся ў хату. Пільнае матчына вока ўбачыла, што сын дрыжыць увесь.

— Захварэў ты, Піліпок? — занепакоілася яна.

— Ды не, мама. Нічога я не захварэў.

Было нямала клопату ўгаварыць маці, каб пусціла спаць з дзядзькам на сенавал. Ціхан увесь час там спаў, хоць ночы ўжо стаялі халодныя,— каб лепей чуць, што робіцца навокал: у прыфрантавой вёсцы гаспадару трэба пільна вуха трымаць, калі ў старой драўлянай хаце спяць дзеці, бо ўсё можа здарыцца — ці шалёны снарад заляціць, ці варожыя салдаты якое паскудства зробяць.

Ляглі на гарышчы ў хляве, на духмяным сене. Сцішыліся. Але, пэўна, сена сваім шамаценнем выдавала не толькі кожны рух, але і кожны ўздых ці ўдар сэрца. Дзядзька працягнуў руку, памацаў Піліпкоў лоб.

— Цябе, праўда, калоціць нешта.

Тады хлапчына павярнуўся да яго, горача зашаптаў у твар:

— Дзядзечка Ціханка, хадзем!

— Куды?

— Нашым скажам!

— Вунь яно што! — свіснуў Ціхан і змоўк, задумаўся, відаць, і ў яго не выходзілі з галавы тыя батарэі.

— Ты ж казаў — па Ласіным можна прайсці.

— Па Ласіным можна, але як да Ласінага дабрацца?

— Хадзем, дзядзька. Гэта ж столькі яны нашых салдат паб'юць!

— Эх, Піліпок! Тут мы, можа, і ўратуем каго, то ў іншым месцы паб'юць. Вялікае гэта паскудства — вайна. Каб яе, праклятую, спыніць. Але не мы яе пачыналі — не нам спыняць. Цары ды генералы пачыналі, яны і спыняць, калі пабачаць, што мала народу астаецца, што хлеб няма каму сеяць ды жаць.

Але Піліпку было не да разважанняў пра цароў, пра хлеб, пра долю сялянскую, хоць звычайна слухаў ён дзядзьку з цікавасцю і павагай, бо, здавалася, разумнейшага чалавека ў іх няма і не было нават тады, калі ўсе сакавішчынскія мужчыны дома рабілі.

Хлопец за сваё:

— Хадзем, дзядзька!

— Ды як жа мы пойдзем удваіх? Падумаў ты, гаспадар? На каго баб, дзяцей пакінеш? Гэта ж табе не па журавіны і не на паляванне. Пойдзеш — і не вернется. Фронт, брат, гэта не месца для гулянак. Думаеш — проста так хадзіць туды-сюды?

— То давай я адзін пайду. Толькі ты раскажы, куды выйсці. А там — я ведаю.

— Спі! — узлаваўся дзядзька,— А то папружку распераку... Знайшоўся мне ваяка!..

Доўга маўчалі. Але заснуць Піліпок не мог і зноў не стрымаўся.

— Дзядзька...

— А каб табе... Во назола! — але ў голасе Ціхана не чулася больш злосці. Ён падняўся, злез з сенавала. Сказаў нешта каню — відаць, падклаўшы капусных лістоў, бо конь смачна захрумстаў. Схадзіў у хату, вярнуўся праз нейкі час і ціха паклікаў:

— Піліпок! Не заснуў? Злазь.

Хлопец катком шаснуў уніз, босы, нават світку на сене забыўся.

— А світка дзе, лапці?..

Панавала цішыня позняга вечара, глухая, асенняя. Толькі пасярод вёскі — у папоўскім доме, які займалі немцы (поп таксама падаўся ў бежанцы!), ціха іграў гармонік, мірна гэтак, як на вячорках.

Аднак музыка чужая, незнаемая, зусім не такая, як на нашых вяселлях і гулянках.

Ноч была зорная, халодная. Да раніцы, напэўна, мароз пакрые стрэхі і поплаў шызым інеем.

Дзядзька і Пілiпок, прыгнуўшыся, выйшлі на загуменне, адтуль у поле. З узгорка ўбачылі: на ўсходзе — там, дзе іх родная вёска, узнімалася зарыва.

— Пажар,— сказаў Пілiпок, усё яшчэ дрыжучы ад холаду і хвалявання.

— Не, гэта месячык,— здагадаўся дзядзька.— Трэба нам паспяшацца, каб дабрацца да балота, пакуль месячык не падымецца.

Дзядзька захапіў з сабой аброць, каб на выпадак, калі трапяць немцам, сказаць, што шукаюць каня. Шлігіку даў абломак драўляных віл — рагача, якімі накідваюць снапы на воз, на сціртy ў гумне.

Хвойнікі і бярэзнікі дзядзька абыходзіў, ведаючы, што ў іх ці каля іх размешчаны нямецкія батарэі ды іншыя тылавыя часці.

Ішлі спачатку полем. І ўсё адно ледзь не наткнуліся на немцаў. Добра, што там заржаў конь. А пасля пачулася чужая гаворка.

Месячык вылез з-за далёкіх лясоў, з-за фронту вогненна-чырвоным векам велізарнай дзяжы, у якой замясілі не хлеб, а нейка.е крывавае месіва. Ажно страшна было на яго глядзець. Але, узнімаючыся вышэй, месячык меншаў, пабялеў, як звараны гарбуз, аднак свяціў усё ярчэй і ярчэй.

Дзядзька спяшаўся. Напалохала іх нейкая птушка, што шуханула з-пад самых ног, — можа сава мышэй лавіла ў быльнягу. Ціхан, стары чалавек, ажно ўскрыкнуў. Не ішлі — беглі. Дзядзьку нялёгка было з яго пакалечанай нагой. Цяжка дыхаў, спатыкаўся. Аддыхаліся, калі ўлезлі ў балота, дзе ніякага чорта не магло быць — так сказаў дзядзька. Але гэта яшчэ не Ласінае. Каб дабрацца да яго, трэба прайсці цераз лес, цераз дубовы гай, пасля — па маладым алешніку. Лесу гэтага дзядзька баяўся больш за ўсё. Сапраўды, наперадзе, на ўзлессі, гарэлі кастры — мабыць, грэліся салдаты. Можа яны, кастры гэтыя, памаглі ім абысці нямецкія заслоны.

У лесе было ціха, прыемна пахла сухім лісцем, але яно шамацела пад нагамі. Ступалі высока падымаючы ногі.

Зрэдку падалі з дубоў жалуды, стукалі аб зямлю гучна, як стрэлы. Таксама палохалі. У алешніку пайшлі хутчэй. Угрузалі ў дрыгву, натыкаліся на купіны, прадзіраліся праз зараснікі ажыны.

— Вось яно і Ласінае,— сказаў дзядзька, калі адкрылася чыстая прастора, залітая матавым святлом месяца.— Цяпер прыкіну, дзе насцілка — і з богам, Шліпок.

Дзядзька неяк адразу супакоіўся і пасмялеў: не стаў цяжка дыхаць і загаварыў не хрыпатым шэптам, а трохі не на поўны голас.

— Ох, і будзе мне ад Ганны, — уздыхнуў ён,— Але, брат, ты сам... Каб не звінеў над вухам, як камар, то і ў мяне не зашкрабло б на сэрцы. Чаго не зробіш для сваіх. Мы з табой рускія людзі, браток, праваслаўныя.

Нагадаў дзядзька пра маці — і Піліпку да слёз зрабілася шкада яе; яна была такая добрая, ласкавая, асабліва пасля таго, як бацьку ўзялі на вайну.

Хлопец супакойваў у думках маці:

«Не гаруй, мамачка. Я ж вярнуся. Скажу нашым пра батарэі — і назад. Можа пра татку даведаюся».

Дзядзька і ўначы, пры месяцы, знайшоў драўляную дарогу, якую салдаты абедзвюх краін не маглі знайсці сярод белага дня. Насцялілі яе, гэтую дарогу, вельмі даўно, і яна зарасла травою, асела ў багну; апошнія гады былі дажджлівыя, балота не касілі, толькі востраў; улетку не ездзілі, і на дарогу гэтую забыліся. Нават з навакольных вёсак мала хто яе ведаў — старыя дзяды, наляўнічыя ды такія «грамацеі», як Ціхан Жменька. Ён яшчэ раней расказваў Піліпку, што гадоў можа пятнаццаць ці дваццаць назад хітры пан аддаў сялянам суседняй вёскі Касякі гэтае балота і востраў на ім бясплатна на тры гады, каб сяляне раскарчавалі балота, выкапалі канаву для асушкі, праклалі дарогу. Пакуль на востраве быў лес, сяляне секлі яго, касілі траву, насцялілі драўляную дарогу, а пра асушку і не падумалі — не дурныя, каб у балоце класці апошняе здароўе. Пан зразумеў, што ў сялян не менш розуму і хітрасці, чым у яго, і дабрата яго скончылася: забараніў карыстацца балотам, і яно зноў зарасло чэзлым лесам, хмызняком.

— Ну, брат Піліп, напрасіўся, то давай — з богам, як кажуць. Мне нельга. Мяне немцы зловяць — не паверацць, расстраляюць на месцы як шпіёна. А цябе... калі затрымаюць на балоце, хлусі, што вяртаешся з бежанцаў у сваю Сакавішчыну... Прывядуць да мяне, да старасты. Калі ў полі наскочыш — скажы, што каня шукаеш. Аброць бяры з сабой. З насцілу не саступай, у глыбокае не лезь, мацай дно віламі, а то яшчэ засмокча дзе. На востраве прыслухайся. Я так думаю — там наш дазор. Але маглі і немцы забрацца. Вяртайся заўтра ўначы. Балота пераходзь пад раніцу, але так, каб да відна лес праскочыў. У полі пачакай дня, каб не блукаць і не наскочыць на батарэю. Акалееш толькі. Папрасі ў нашых анучы сухія, салдацкія. Дадуць. За такі подзвіг боты не шкада даць. Добра, каб табе далі боты, — выказаў дзядзька даўняе жаданне набыць пляменніку

добрыя боты, але тут жа цвяроза разважыў: — Не, нічога не бяры. А то калі трапіш да немцаў — не адбрэшашся. Ну, давай, Піліпок. «Каждый да совершит свое», — гаворыцца ў свяшчэннай кнізе. Такая твая планіда. А мая... заядуць мяне бабы. Голасу будзе... Але ты пра гэта не думай. Не баішся?

— Не-эк,— адказаў Пілiпок бадзёра, з радасцю і здзіўленнем адчуваючы, што перастаў дрыжаць, хоць тут, на балоце, яшчэ халадней, чым у полі, і сапраўды нічога не баіцца.

Дзядзька аддаў яму аброць, сціснуў худзенькае пля-

чо пад латанай світкай, моцна сціснуў, патрымаў так і пасля лёгенька штурхнуў:

— Ну, ідзі...

І Пілiпок пайшоў...

Адразу ступіў у ваду, на слізкія бярвенні, але ногі былі ўжо мокрыя, і холаду ён не адчуў. Дзіўна: сапраўды-такі страху не было ніякага. Дома баяўся цёмнага хлява, цёмных сенцаў, праскокваў іх як можна хутчэй, напалоханы расказамі пра дамавікоў і розную нячыстую сілу. Яшчэ могілак баяўся. Калі верыць казкам, на балоце водзяцца ўсе чэрці. Аднак ніякіх чарцей у тую ноч ён не баяўся, нават не думаў пра іх. Падумаў пра больш рэальную небяспеку: хадзілі чуткі па вёсках, што ваўкі, пакаштаваўшы мярцвячыны — колькі забітых ляжала на палях ды ў лясах! — пачалі нападаць на жывых людзей.

Але і ваўкоў Пілiпок не спалохаўся — па-сталаму разважыў, што там, дзе штодня грыміць страляніна, ды не толькі кулямётная і ружэйная, але і гарматная, ваўкі не стануць бадзяцца. Не дурныя. Хіба цяжка ім адысці далей, дзе ціха? Зямля вялікая! І лясоў многа. Пра тое, як дзядзьку будуць «есці» бабы, якога голасу наробяць яны, не думаў; пра іншае — як рускія афіцэры і салдаты будуць дзякаваць яму, Пілiпку. Але ён скажа: «Не трэба ніякай падзякі! (Хоць прыйсці дддому ў ботах было б ого як добра!). Знайдзіце мне б'ацьку». Паглядзяць генералы ў спісы: у якім палку служыць Рыгор Жменька? І павязуць туды Пілiпка. Як здзівіцца і як узрадуецца бацька! «Сын твой, Рыгор Сямёнавіч, герой, ён прынёс важныя весткі! Дзякуем табе за такога сына!»

Але яшчэ больш выразна ўяўлялася хлопцу сустрэча дома — з дзядзькам Ціханам, з маці, з бабуляй, з сёстрамі і братамі. Во дзе будзе мора шчаслівых слёз, калі ён раскажа, што страчаўся з бацькам, жывым, здаровым. Малыя будуць зайздросціць на боты... Боты ўсётакі яму павінны даць!

Спачатку туман вісеў нізка-нізка — па калені, па пояс. А над галавой зіхацелі асеннія зоркі і свяціў месячык — поўня. Злева

ўдалечыні, дзе, напэўна, канчаецца балота і зямля раздзелена акопамі, у неба ўзляцелі дзве ракеты, рассыпаліся зоркамі. Адтуль дакацілася рэха глухой страляніны.

Балота маўчала. Нават вайна абмінула гэтую багну.

Але хутка туман ахутаў хлопца, з'еў зоркі і месяц. Пiлiпок пачаў трывожыцца.

Дзядзька тлумачыў: да вострава трымайся насцілу, за востравам кіруйся трохі лявей месяца, вунь на тую жаўтаватую зорку. Але ў такім тумане нічога не відно, і на балоце лёгка заблудзіцца.

Ахоплены і радасным уяўленнем і трывогай — дабрацца б шчасліва да мэты! — хлапчына, апіраючыся на вілы, спрытна, як заяц, скакаў па слізкім, замшэлым бярвенні насцілу, Дарогу гэтую як знарок хто схаваў: ад берагоў яна ляжала пад вадой, а пасярэдзіне балота амаль уся наверсе, зусім сухая. Пільнуйся толькі, каб не зламаць нагу, трапіўшы на гнілую маснічыну.

Перад востравам вада дайшла да калень, і рагач з бакоў намацваў не дрыгву, а цвёрдае, як у рэчцы, дно.

Мабыць, вартавыя пачулі, як ён плюхаў, бо, як тольКі Піліпок выбраўся на сухое, яго спыніў глухі, як з-пад зямлі, але суровы голас:

— Стой! Хто ідзе?

Хлопец здрыгануўся, прысеў, стаіўся. Але тут жа сцяміў, што пытаюцца па-руску — значыцца, свае, і смела адказаў:

— Я!

— Хто — ты?

— Жменька.

— Што яшчэ за чменька?

— Дзядзечка, я да вас. Хачу нешта сказаць... Я свой, дзядзечка, рускі.

— Дзіця? — спытаў другі голас.— Што за чорт?

— Не чорт я, дзядзечка. Не бойцеся. Я тутэйшы. З Сакавішчыны. Гэта веска наша. Піліп Жменька. Прозвішча ў нас такое. Мой бацька салдат...

— А ну — рукі ўгору! І вылазь на свет божы!

Піліпок спачатку ўзняў рукі, трымаючы вілы, але тут жа ўцяміў, што ў змроку хоць і месячнай, але туманнай ночы нялёгка разгледзець, што за зброя ў яго руках, і кінуў рагач на зямлю.

Двое дазорных у даўгіх шынялях з вінтоўкамі наблізіліся да яго.

Заікаючыся ад хвалявання, хлопец стараўся хутчэй сказаць пра галоўнае:

— Дзядзечкі, там... немцы... цэлы дзень пушкі вазілі... На нашым полі паставілі... ля бярэзніку... і яшчэ павезлі... Дзядзька Ціхан кажа — можа наступленне новае павядуць...

Салдаты слухалі моўчкі, не выказваючы пі радасці, ні ўдзячнасці. Піліпку здалося, што яны не вераць, і ён зноў нагадаў:

— Мой бацька салдат, у нашым войску.

Але і на гэта дазорныя нічога не адказалі.

Толькі калі Піліпок расказаў, як дзядзька Ціхан правёў яго на балота, салдат спытаў:

— А чаго ён сам не пайшоў, дзядзька твой? Малога паслаў...

Доўга прыйшлося тлумачыць, чаму не мог пайсці дзядзька. Тое, што дзядзька ранены на японскай вайне, салдат неяк узварухнула. Пачалі распытваць пра гаспадарку, пра дзяцей. А пра батарэі нямецкія нібы і забыліся. І не спяшаліся нікуды хлопца весці, хоць Піліпок разумеў, ды і дзядзька казаў, што яго павінны прывесці да вышэйшага камандзіра, можа нават да генерала. Дзядзька вучыў, як трымаць сябе перад афіцэрамі, як звяртацца да іх. Хлопец спалохаўся, як бы гэтыя салдаты, такія абыякавыя да таго, галоўнага, з-за чаго ён ішоў, не надумалі адаслаць яго назад. Нясмела спытаў:

— Куды ж мяне, дзядзечкі?

Салдаты, адразу абодва, пачухалі патыліцы.

— Цябе да начальніка каравула трэба,— і адзін спытаў у другога: — Але хто павядзе, Іван? Ты ці я?

Іван доўга маўчаў. Піліпок зразумеў, што нікому з іх не хочацца аставацца тут, пасярод балота, аднаму. Баяцца напэўна, як ён у сенцах. Не дарэмна яго за чорта палічылі. Іван, відаць, быў чалавек добры, ціхі, паслужлівы, бо ўрэшце згадзіўся:

— Вядзі ты. Я адзін пакаравулю. Толькі хутчэй вяртайся.

— Ды куды ўжо вяртацца! Змену прышлюць.

Іван стоена ўздыхнуў. Піліпку зрабілася шкада салдата, якому трэба стыць тут, на балоце, можа да раніцы. Калі тую змену прышлюць?

— Бяры, хлопча, свае вілы. Пайшлі.

У каравульным бліндажы ўсе спалі — салдаты на падлозе, на саломе, афіцэр, перацягнуты партупеямі,— узваліўшыся грудзьмі на самаробны, на козлах, хісткі столік.

Чадзіў ліхтар «лятучая мыш», было душна, смярдзела прэлымі анучамі.

Салдат, які прывёў Піліпка, выцягнуўся перад сонным афіцэрам, узяў пад казырок, сказаў даволі гучна:

— Ваша благароддзе!

Афіцэр не прачнуўся. Спаў ён па-дзіцячы моцна, ажно слінкі цяклі на стол.

Прачнуўся нехта з салдат, параіў:

— Ты іх патрусі добра. Іх благароддзе ведаеш, як спіць.

Салдат нясмела дакрануўся рукой да афіцэрскага пагона, зашаптаў у вуха:

— Ваша благароддзе! Ваша благароддзе!

Афіцэр урэшце падхапіўся, адразу ж нацягнуў на галаву фуражку, якая ляжала на стале, няўцямна залыпаў вачамі і тут жа пачаў лаяцца:

— Чаму гарланіш, дурань, над вухам? Не навучыш вас, скаціну, ніяк!

— Ваша благароддзе! — у адказ выцягнуўся салдат і далажыў на поўны голас: — Пост нумар два затрымаў перабежчыка... Адтуль, з-за фронту...

Афіцэр пераверў сонныя вочы на Піліпка, прыжмурыўся, доўга ўглядаўся ў постаць хлопчыка з аброццю цераз плячо, з рагачом. Здзіўлена перапытаў, як бы не даючы веры:

— Гэ-эты?

— Так точна, ваша благароддзе!

Афіцэр хмыкнуў і зняважліва махнуў рукой, як бы адкінуў іх, і салдата і хлопца, ад сябе.

— На гаўптвахту! Заўтра разбяромся.

Дзядзька расказваў, што такое гаўптвахта, як туды садзілі салдат, і Піліпка спалохала гэтае слова, спалохала, што яго не пусцяць да вышэйшага камандзіра, не дадуць расказаць пра тое, дзеля чаго ён ішоў праз ноч, па балоце, па ледзяной вадзе... А можа здарыцца, што і дадому не адпусцяць.

Ён ступіў да стала і, поўны рашучасці, ледзь не крыкнуў:

— Немцы батарэі ставяць на вас!.. Там, за балотам,— махнуў віламі так, што афіцэр адхіснуўся. І, пэўна, толькі ў той міг адляцеў ад яго сон.

Падхапіўся, паправіў партупею, пісталет на баку, як перад вышэйшым камандзірам.

— Батарэі? Якія батарэі? Чакай. А ну, пайшлі са мной!

Вось у такім выглядзе — у мокрых штанах і лапцях, у саматканай світцы, з рагачом у руцэ і з аброццю цераз плячо Піліп Жменька апынуўся ў афіцэрскім бліндажы.

Бліндаж быў вялікі, як добрая хата. Гарэлі ажно дзве яркія лямпы. «Во не шкадуюць газы»,— падумаў сялянскі хлопец. Сцены

абшыты новымі шалёўкамі, столь — з бярвенняў, ад іх прыемна пахла смалой. У нос яшчэ ўдарыла добрым тытунём і духамі.

Жыхары бліндажа не спалі, хоць быў позні час. Чалавек пяць сядзелі за сталом, гулялі ў карты. Тут жа, на стале, стаялі прыгожыя, пузатыя і тонкія, нізкія і высокія пляшкі і шклянкі, у крышцы з-пад кацялка дыміла гара недакуркаў. Каравульны афіцэр увайшоў у бліндаж першы і нейкі момант знарок загароджваў сабой маленькую постаць хлопчыка.

— Панове афіцэры! Увага! Маю сюрпрыз!

Не ўсе адарваліся ад карт, чалавекі два нехаця павярнулі галовы.

— Які яшчэ сюрпрыз?

Тады афіцэр ступіў убок, і тыя, што павярнуліся, убачылі Піліпка.

Нехта гукнуў:

— О-о! — і прыцягнуў увагу ўсіх.

Аднекуль збоку — Піліпок адразу не ўбачыў яго — выйшаў малады афіцэр, у накінутым на плечы шынялі, з забінтаванай рукой, якую трымаў на павязцы — стракатай хусціне, і першы выказаў сваё здзіўленне, аглядаючы хлопца:

— Што гэта? «Явление Христа народу» — і нервова засмяяўся.

— Прапаршчык Дакука! — упікнуў яго высокі, светлавалосы афіцэр, які падняўся з-за стала, зашпіліў гімнасцёрку, падперазаў папругу з бліскучай спражкай.

Піліпок адчуў, што афіцэр гэты, бадай, самы галоўны, хоць за сталом сядзелі старэйшыя за яго, адзін зусім сівы.

— Перабежчык, З-за лініі фронту. Кажа, немцы падцягваюць артылерыю, — дакладваў, між тым, начальна каравула.

Піліпок зразумеў, што нарэшце ён такі дабраўся да мэты, і адразу пасмялеў, узбадзёрыўся, успомніў усе дзядзькавы парады. Стукнуў віламі аб падлогу (у гэтым бліндажы нават падлога была), нібы прыкладам вінтоўкі, перапыніўшы афіцэра, і гучна, па-салдацку, пачаў расказваць усё па парадку — як выбіралі бульбу, як прыехалі немцы, а пасля прывезлі батарэі, як дзядзька сказаў: «Во, каб перадаць нашым!» І пра балота нагадаў, што па ім прайсці можна, бо акопаў там няма. Толькі пра сябе Піліпок не сказаў, як дамагаўся ў дзядзькі, каб пайсці сюды — пасаромеўся, няхай думаюць, што ўсё зрабіў дзядзька.

Але ўсё адно сівы афіцэр пахваліў яго:

— Малайчына! Ах які малайчына!

Яго падтрымаў высокі афіцэр; ён падышоў, паклаў руку на Піліпкова плячо.

— Панове! Мала сказаць — малайчына! Будзем глядзець глыбей. Хіба не бачыце вы яскравейшага прыкладу патрыятызму рускага народу? Салдат японскай вайны...

— Да вашага ведама, штабс-капітан Залонскі,— тут народ беларускі,— перапыніў яго афіцэр з перавязанай рукой; ён, схіліўшыся, хадзіў па бліндажы, раз-пораз перасмыкаючы плячамі — ускідваў шынель, што спаўзаў з плеч; мабыць, яму балела рука, бо гаварыў ён як бы праз зубы, крывіўся.

— Тут народ славянскі. І праваслаўны,— прымірэнча растлумачыў сівы.

Піліпок лавіў кожнае слова, і хоць не ўсё разумеў, але словы запамінаў добра. Вельмі ж усё было незвычайнае, і запомнілася тая ноч на ўсё жыццё.

— Не, панове, гэта той прыклад, пра які павінна ведаць уся Расія. Калі звесткі, якія прынёс гэты хлопец, пацвердзяцца, запэўняю вас — я пастараюся...

Прапаршчык Дакука ўзяў з рук у Піліпка вілы, стукнуў рагамі ў столь.

— Чалавецтва было шчаслівае, калі ваявалі вось такой зброяй.

— Дарэчы, як тваё імя, брат? — ласкава спытаў Залонскі ў хлопца, забіраючы ў прапаршчыка рагач, таксама з цікавасцю аглядаючы яго.

— Піліп Жменька.

— Як? Як?

— Жменька, панове афіцэры, па-руску,— горсточка,— растлумачыў Дакука.

— Горсточка? Сур'ёзна? Цікава ж, чорт вазьмі!

— Жменя — старое славянскае слова. Рускаму высокаасветнаму дваранству гэта варта ведаць...

— Прапаршчык Дакука! Калі вы яшчэ раз падобным чынам зачэпіце рускае дваранства...— абурана падхапіўся вусаты чырванатвары афіцэр.

— Панове!.. Панове!..— заспакоіў Залонскі.— Не забывайцеся, калі ласка... Ротмістр Ягашын! У вас у планшэце трохвёрстка. Давайце лепш паглядзім, дзе немцы ставяць батарэі.

Залонскі вярнуўся да стала, адсунуў шклянкі, карты. Вусаты дастаў вайсковую карту, разгарнуў на стале.

— А ну давай, брат Жмянькоў, бліжэй,— запрасіў Залонскі.

Пиліпок не адразу ўцяміў, што афіцэр гэтак перарабіў яго прозвішча.

Афіцэрскія галовы, сівыя, бялявыя, чорныя, як у вусатага, схіліліся над сталом.

Вадзілі па карце пальцамі, запалкамі. На здзіўленне Пілiпку, чыталі знаёмыя назвы, распытвалі, якая вёска Сакавішчына, якая Касякі, Паперня, колькі хат, як стаяць, ці глыбокая рэчка, які лес навокал. Абураліся, што карта старая, не ўсё на ёй ёсць. Спрачаліся.

— Гэта вось тут, на вышыні 112.

— Не, панове, хлопец кажа, што ля дарогі. А дарога вось тут.

Пiліпок адказваў, калі ў яго пыталіся. А тут дазволіў сабе растлумачыць панам афіцэрам, што батарэі размясціліся не на вышынях, на пагорках яны былі б відны, як «блыха на пупе» (прыгадаў дзядзькава выслоўе), а батарэі схаваліся ў лагчынах за ляскамі. Насмяшыў Залонскага.

— Ды ты, брат, проста народжаны стратэг. Калі-небудзь станеш добрым бамбардзірам,— сказаў штабс-капітан.

Спачатку хлопец слухаў толькі тых, што схіліліся над сталом і гаварылі пра вайсковыя справы, часам зразумела, а часам — на чужой мове. А пасля дзве рэчы пачал! адцягваць Піліпкову ўвагу. Першая — невялікая карціна на сцяне бліндажа, над драўлянай канапай. Адразу не ўбачыў яе, не да таго было, каб разглядаць сцены, а потым неяк выпадкова зачапілася вока. На карціне намалявана зусім голая жанчына. Піліпка гэта ўразіла больш, чым што іншае. I збянтэжыла.

Ён саромеўся глядзець у той бок, баяўся, што нехта з афіцэраў убачыць, што ўсё-такі ўпотай зрэдку кідае ён туды позіркі, бо невядомая сіла — нячыстая сіла! — цягнула глянуць на гэтую сарамату.

А яшчэ адцягваў увагу ад афіцэрскай размовы прапаршчык Дакука. Прозвішча смешнае, і сам ён дзіўны. Можа таму, што паранены і яму балела? Але адзін ён не схіліўся над сталом, не браў удзелу ў абмеркаванні таго, што расказваў Піліпок. Хадзіў па бліндажы, перасмыкаў плячыма, зрэдку кашляў і бубніў нешта сваё — вершы чытаў, але дзіўныя нейкія, не такія, якія вучыў на памяць Піліпок (ён ажно дзве зімы хадзіў у школу).

Афіцэры распытвалі ў хлопца, якія з выгляду гарматы тых нямецкіх батарэй, і спрачаліся пра іх калібр, а Дакука ў гэты міг казаў:

— Затоплю камин. Буду пить. Хорошо бы собаку купить, — і, уздыхнуўшы, паўтарыў: — Хорошо бы собаку купить...

Піліпку гэта было дзіўна і нават трохі смешна. Ён не ведаў, што такое камін. У іх кажуць — комін, але паляць печ, а не комін. А пасля гэтае дзіўнае жаданне купіць сабаку. На ліха яму на вайне сабака?

Штабс-капітан Залонскі доўга распытваў пра балота, пра дарогу цераз яго — ці можна прайсці кавалерыі?

Ціліпок пачаў быў расказваць пра пана і мужыкоў, як пан хацеў ашукаць людзей з гэтым балотам, ды сяляне таксама не дурныя, але асекся, прыгадаўшы, што афіцэры —» паны. Ды і Дакука перапыніў — спытаў нібы ветліва, але ўедліва:

— Панове афіцэры, няўжо нікому з нас не прыходзіць у галаву, што перад намі стаіць чалавек, які зрабіў патрыятычны подзвіг, і ён мокры па пояс, ён ішоў па балоце, а на двары кастрычнік.

Астатнія афіцэры паглядзелі на Дакуку са злосцю, а Залонскі замітусіўся, нібы зрабілася яму няёмка.

— Але, але... — і паклікаў у дзверы: — Каравульны! Фельдфебеля! — а пасля да Піліпка: — На, брат, ад прастуды выпі.

Наліў чарку зялёнага і густога, як мёд, пітва, сунуў

У руку плітку ў залатой паперцы; такія цукеркі Піліпок бачыў толькі аднойчы ў краме ў мястэчку, куды ездзіў яшчэ з бацькам да вайны. Пітво апякло ўсё путро. Зашумела ў галаве. Шакаладку шкада было псаваць, вельмі ж прыгожая. Але афіцэр патрабаваў:

— Еш, еш.

Ад віна і шакаладу пачалі зліпацца павекі. Да свядомасці даходзілі ўжо не ўсе словы. Не пачуў, хто што сказаў, але прачнуўся ад роспачлівага, хоць і нягучнага, крыку Дакукі:

— Вам хочацца крыві? Больш крыві? Гэта не вайна, гэта — бойня! Разня!

— Вы малакасос, прапаршчык,— злосна сіпеў чорны і вусаты ротмістр Ягашын.— Вам дае прыклад гэты сялянскі хлапчук! — паказаў на Піліпка.— Павучыцеся ў яго!

— Панове, панове,— супакойваў штабс-капітан Залонскі.— Пасаромейцеся! У прапаршчыка — нервы... Ён дарэмна не паехаў у шпіталь. Мы цэнім ваш патрыятычны ўчынак, прапаршчык Дакука. Але вам варта палячыць... і руку... і нервы.

— Я паеду, Панове. Я паеду,— раптам скарыўся прапаршчык, хутаючыся ў шынель; яго біла ліхаманка, хоць у бліндажы было горача. Ён папрасіў:

— Наліце мне выпіць.

Начаваў Піліпок у салдацкай зямлянцы, цеснай і сырой, дзе ўпокат на прэлай саломе спала чалавек дванаццаць. Туды яго прывёў злосны заспаны фельдфебель. Па загаду капітана ён даў хлопцу новыя анучы і старыя штаны. Ботаў не даў, хоць капітан сказаў: «Абмундзіраваць у сухое!», а фельдфебель гаркнуў у адказ: «Слух... вша бродзь...»

Разбудзілі хлопца свежае паветра і страляніна. Стралялі так блізка, што ён падхапіўся спалоханы, няўцямны са сну. Дзверы былі адчынены, у зямлянку лілося, як крынічная вада, празрыстае халоднае паветра і святло сонечнай раніцы.

Пілiпок, напэўна, адразу выскачыў бы, каб не ўбачыў, што бліжэй да дзвярэй, да святла, на бярозавых кругляках сядзяць два салдаты, чысцяць вінтоўкі, і ніводзін з іх, як кажуць, брывом не павёў на тую страляніну, што ўсчалася можа за якую сотню крокаў. Немалады салдат, які чамусьці адразу, з першага позірку,

нагадаў хлопцу дзядзьку Ціхана, весела падміргнуў і жартаўліва павітаўся:

— Здравія жалаю, ваша благародзія.

Хлопец адказаў сур'ёзна, паважна, як казаў суседзям:

— Добрай раніцы вам.

— Раніца, брат, добрая, ды трохі шумная. Чуеш?

— А што гэта, дзядзька?

— Як што? Прачнуліся мы, прачнуліся немцы. За ноч набілася гары ў насы, у глоткі і ў дулы кулямётаў. Ну, вось... і чхаем, кашляем, плюёмся. Культурныя людзі гэта робяць у цёмным месцы, у насовачку, а мы ў твар адзін аднаму... крывавымі пляўкамі.

Дзіўна гаварыў гэты салдат. Немагчыма было зразумець: ці то ён жартуе, ці кажа занадта сур'ёзна, са злосцю.

— І так кожную раніцу? — спытаў Пілiпок і падумаў, што недарэчнае яго пытанне, бо сам жа, бадай, кожную раніцу чуў гэтую музыку, толькі што з Ліпуноў яна далёкая, глухая.

— Бывае, што і за цэлы дзень ніяк не можам адхаркацца. А ўвогуле больш за год плюёмся ўжо... за бацькуцара і айчыну...

— Іван Свірыдавіч,— як бы дакараў яго другі салдат, насцярожана азірнуўшыся на адчыненыя дзверы і, напэўна, жадаючы перавесці гаворку на што іншае, уздыхнуў: — А дзянёк які! Боскі. На восень не падобна.

Але Івана Свірыдавіча дзень не зацікавіў, ён амаль сурова спытаў у хлопца, які хутка і ўмела накручваў на новыя анучы аборкі ад лапцяў:

— А ты адкуль узяўся тут?

— Я адтуль,— хлапчына кінуў у той бок, дзе стралялі.

— Адкуль адтуль?

— З-за фронту.

Іван Свірыдавіч свіснуў, выказваючы здзіўленне; кляцнуўшы затворам, паставіў вінтоўку ў кут.

— Вунь ты які герой! У такім разе давай расказвай. Цікава. А то я гляджу, што гэта табе павага такая ад паноў афіцэраў.

Больш проста і смела, чым уначы афіцэрам, Піліпок расказаў усё па парадку — чаму, з якой нагоды, якім чынам апынуўся ён у гэтай зямлянцы.

Салдаты закурылі з аднаго кісета і слухалі моўчкі, уважліва, зрэдку Іван Свірыдавіч што-ніщто ўдакладняў. Спытаў, колькі яны зямлі маюць — Піліпкова сям'я і дзядзька Ціхан. Колькі коней. Па колькі душ у сем'ях. І яшчэ сказаў, што ён таксама на японскай ваяваў. Піліпок пасля гэтага ўбачыў яшчэ большае падабенства Івана Свірыдавіча з дзядзькам Ціханам і сэрцам пацягнуўся да салдата: свой чалавек, і гаворка ў яго амаль такая ж, як гавораць у іх вёсцы — не панская, не гарадская. Толькі думкі Іван Свірыдавіч выказваў загадкавыя, незразумелыя. Выслухаў, як Ціхан згадзіўся адпусціць Піліпка і правёў да балота, уздыхнуў, быццам цяжка яму зрабілася:

— Значыцца, і дзядзька твой учадзеў?

Піліпку нібы вяроўку пад ногі нацягнулі, калі ён бег што сілы. Спатыкнуўся і не адразу дапяў, на што наляцеў. Так і тут: папярхнуўся, змоўк, няўцямна глядзеў на салдата. Другі салдат папракнуў сябра:

— Іван Свірыдавіч, нельга ж так... Пе разумее хлопец.

Тады Іван Свірыдавіч усміхнуўся і растлумачыў, але не менш загадкава:

— Ёсць, хлопча, асобы дурман, як той багуновы, пах нібыта прыемны, а галава кружыцца. Хлопец ты, бачу, недурны, падрасцеш — можа зразумееш, калі не затлумяць табе галавы. Калі вернешся дадому, то перадай дзядзьку наша салдацкае дзякуй. Можа праўда звесткі вашы пра тыя батарэі ўратуюць жыццё не аднаму салдату. Вось за гэта дзякуй, што падумалі вы з дзядзькам, каб сірот было менш на зямлі. Раманавы не думаюць пра гэта.

Піліпок не здагадаўся тады, хто такія Раманавы. Хоць некалі ў школе чуў царскае прозвішча, ды яно не запомнілася — магчыма, з-за свае звычайнасці; у вёсцы іх быў Раман Парыцкі, і ўсе казалі: Раманаў конь, Раманавы авечкі. Ды ўвогуле не пра гэта ён думаў, стоячы перад салдатамі. Усе іншыя ўражанні, усе думкі засланіла адна. У паноў афіцэраў уначы не адважыўся спытаць. Але тут перад ім былі салдаты, простыя, гаваркія — свае людзі. І Піліпок, надзеўшы світку, падперазаўшы яе вяроўчынай, камечачы шапку ў руках, спытаў:

— Дзядзечка, а як мне бацьку майго знайсці? Ён тут, у войску нашым...

Іван Свірыдавіч зноў свіснуў, але ціха ўжо, працяжна, без здзіўлення, а як бы спачувальна.

— Вунь яно што! А адрас ты маеш які?

— Адрас?

— Ну, пісьмо бацькава. Горад які...

— Дык ён жа на фронце.

— Тады нумар палявой пошты... Не помніш? Што ж твой дзядзька — грамацей такі, а бацькавага адраса не сказаў.

Ад бацькі пісьмо было вясной, яны з дзядзькам пісалі адказ, кожнае слова паўтаралі ўголас, а бабуля і маці слухалі і плакалі. Сапраўды, на канверце, па які дзядзька хадзіў ажно ў Ліпуны, яны пісалі нейкі нумар — больш за тысячу. Дзіўна, што ні ён, Піліпок, ні дзядзька Ціхан не падумалі, каб прыгадаць той адрас. А без адрасу...

— Ты стагі кідаў? — спытаў Іван Свірыдавіч, здзівіўшы Піліпка такім пытаннем, якое здалося не да месца.— А іголку ў стозе не губляў? Лёгка хіба знайсці іголку ў стозе? Вось так, брат, цяжка знайсці салдата. Можа помніш, як да вайны часць называлася? Дзе стаяла?

— Дык бацьку ж забралі, як вайна пачалася.

Пабедавалі салдаты, што не могуць памагчы хлопцу.

Хоць рушылася надзея знайсці бацьку, але неяк лягчэй зрабілася ад добрай і шчырай спагады. Ды тут яго паклікалі. Фельдфебель. На салдат ён мацюкнуўся — проста так, для парадку. Але з Піліпком быў добры, лагодны — не такі, як уначы. Павёў па доўгай пакручастай траншэі. Па-ранейшаму там, на лініі акопаў, ляскаталі кулямёты, праўда, не так злосна, як паўгадзіны назад, калі разбудзілі хлопца: цяпер кулямёты быццам дражнілі адзін аднаго. На пясчаным пагорку, дзе траншэя была самая глыбокая, над галавой заціўкалі кулі, шлёпалі ў пясок каля самага бруствера. Піліпку захацелася паглядзець, як кулі прабіваюць зямлю. Але не паспеў ён падумаць, як атрымаў па патыліцы ад фельдфебеля, які ішоў следам.

— Не высоўвайся, дурань! Я за цябе адказваю. А то тут не адзін кулю злавіў.

У лагчыне, дзе працякаў ручай і куды кулі не даляталі, каля паходнай кухні Піліпка накармілі смачным супам. Кухар падліваў яму гушчы разы два, стаяў побач, глядзеў, як хлопец есць, і ўздыхаў. Піліпок здагадаўся: успамінае сваіх дзяцей.

Пасля фельдфебель павёў яго абмундзіроўвацца. Ды тут, у капцёрцы, Піліпкова мара — боты — не ўзрадавалі, а наадварот, засмуцілі і нават абразілі. Боты былі не простыя салдацкія, а хромавыя, бліскучыя, маленькія, на высокіх абцасах. Хлопец адразу сцяміў, што

боты жаночыя. Ды і фельдфебель, гледзячы, як Піліпок абувае іх, растлумачыў:

— З сястры міласэрнай сцягнуў.

Піліпок уявіў, як сястра (бачыў іх, калі нашы адступалі), у белай касыначцы, з чырвоным крыжыкам над ілбом, маленькая кволая, не хацела аддаваць боты, і як вусаты фельдфебель паваліў яе і сцягнуў боты. Ад такога ўяўлення зрабілася брыдка, прыкра, крыўдна, траха не да слёз шкада было незнаёмае сястры. Хацеў адмовіцца абуваць гэтыя боты. Ды пра суровасць фельдфебеляў расказваў яшчэ дзядзька, і Піліпок больш, чым афіцэраў, баяўся гэтага вусатага негаваркога чалавека, які можа сцягнуць боты нават з сястры. Нейкая маленькая прыязнасць да яго з'явілася толькі тады, калі фельдфебель сам, умела, спрытна, пачаў падшываць рукавы і полы ў шынялі, які мусіў надзець Піліпок.

Шынель падабаўся. І шапка салдацкая. Во каб з'явіцца гэтак дадому! Дзядзьку пад казырок: «Ваша благароддзе! Радавы Піліп Жменька вярнуўся з баявога задання!» Колькі радасці было б у маці, у бабулі, у малых! Успомніў пра іх — і зноў засмуціўся. Засмактала ў сэрцы: так яны блізка — маці, дзядзька — і так далека. Калі сюды ішоў, усё здавалася прасцей. А цяпер думаў з трывогай — як вярнуцца? Можа салдацкая апратка гэтак аддаліла? І хлопцу стала шкада світкі свае і лапцяў. Не стрымаўся — папоасіў фельдфебеля, каб вопратка не згубілася дзе ў завалах салдацкай амуніцыі.

— Мне ж, дзядзечка, назад ісці, за фронт.

— Калі снарад капцёрку не разнясе — нікуды не дзенецца,— няласкава буркнуў фельдфебель.

Прыемна стаць такім жа салдатам, як бацька недзе. Але ў нязвыклай амуніцыі адчуваў сябе няёмі^а і нязграбна. Даўгі шынель блытаўся ў нагах, вузкія абцасы ботаў угрузалі глыбока ў пясок. Ботаў гэтых Піліпок проста-такі саромеўся. Здавалася, што салдаты, якія стаялі каля кухні, сустракаліся ў траншэі, разглядалі яго з насмешкай. Многія пыталіся:

— Што, папаўненне?

Адны казалі «гаспадзін фельдфебель», другія ж звярталіся проста, па-свойску — «Іваныч».

Але ўсім ён адказваў коратка і непрыветліва:

— Папаўненне.

А Піліпку хацелася кожнаму праўдзіва і далікатна растлумачыць, хто ён і чаму тут.

Адзін салдат, што бег з цэлай вязанкай пустых кацялкоў, пакручаста мацюкнуўся на такі фельдфебеляў адказ, выгукнуў:

— Даваяваліся, маць вашу...

Фельдфебель узлаваўся, сунуў салдату пад нос кулак:

— Ты ў мяне, сукін сын, дакаркаешся да трыбунала!

І хоць пасля гэтага фельдфебель зрабіўся яшчэ больш суровы і пануры, Пілiпок зразумеў, што салдаты яго не вельмі баяцца і што, відаць, у сапраўднасці ён не такі ўжо злосны.

У тым жа афіцэрскім бліндажы, куды Пiлiпка прывялі ўначы, тыя ж афіцэры аглядалі яго ў новай форме. Нехта ўхваліў:

—Харош!

— Чым не салдат?! — заключыў другі.

А прапаршчык Дакука сказаў:

— А па-мойму, дрэнна. Навошта гэты маскарад? Калі вы хочаце паказаць патрыёта, пакажыце яго ў натуральным выглядзе.

Капітан Залонскі нахмурыўся, памаўчаў і раптам згадзіўся:

— Панове, прапаршчык мае рацыю. Фельдфебель! Вярнуць у ранейшы выгляд! Аброць і рагач!

Назад фельдфебель ішоў такі злосны — нікому ні слова ў адказ ні на прывітанне, ні на пытанні! — што Піліпку ажно шкада яго зрабілася. Хлопец адчуваў сябе вінаватым: праз яго гэтулькі турбот чалавеку!

Але затое як хораша адчуў ён сябе ў свзёй світцы І ў лапцях! Цяпер і салдаты глядзелі на яго зусім інакш — з цікавасцю, са спачуваннем. І ніхто не пытаўся пра папаўненне — ні сур'ёзна, ні ў жарт. Можа ад гэтага, фельдфебель павесялеў. Гаваркім не зрабіўся, але як быі пасвятлеў у твары.

Фельдфебель не павёў Піліпка назад у бліндаж, а пайшоў з ім яшчэ далей, за кухню, у бярэзнік, дзе стаялі фурманкі і казацкія коні; асядланыя — сёдлы новенькія, з жоўтай скуры, рыпучыя. У Піліпка вочы загарэліся, калі ён убачыў гэтых коней. Лепшыя за нямецкія. У тых нейкія цяжкавозы, а ў нашых — вараныя рысакі, адзін у адзін, ногі што вытачаныя і ўвесь аж спружыніць.

У той час хлопец больш за ўсё на свеце любіў коней, і нікому так не зайздросціў, як тым, хто мае добрыя коні. Нясцерпна яму захацелася праехацца на такім вось скакуне, у рыпучым сядле, уставіўшы ногі ў бліскучыя страмёны.

Неўзабаве ў бярэзнік прыйшлі Залонскі і ротмістр Ягашын. Іх яшчэ не было відаць, а спешаныя казакі пастроіліся на ўзлеску ў шарэнгу. Піліпок ніяк не мог уцяміць, як яны даведаліся аб падыходзе афіцэраў.

Капітан прывітаў іх:

— Здарова, арлы!

Казакі адказалі яму гучна і весела:

— Здра... жа... вша бродзь...

Паклікаўшы фельдфебеля і Піліпка, штабс-капітан падышоў з імі да асядланых коней, да самых прыгожых.

— Ездзіць у сядле можаш?

— Угу! — радасна выгукнуў хлапчына, траха не калоцячыся ад радасці і страху: раптам здарыцца, што конь не залюбіць і скіне?

— То вось твой конь, — сказаў капітан, паказаўшы на меншага і не такога прыгожага, як іншыя, каня.

Але ўсё адно — і гэты конь быў выдатны. Піліпок з дзіцячай нястрыманасцю падбег да яго, смела схапіў повад аброці, уставіў лапаць у стрэмя. І хоць конь скасавурыўся на такога нязвыклага конніка і рвануўся, каб не даць яму сесці, Піліпок са спрытам вавёркі апынуўся ў сядле. Нацягнуў повад. Конь заскакаў, але не падбрыкнуў — скарыўся. Піліпок глядзеў з вышыні на каштана і фельдфебеля пераможцам. Ды ў гэты час ротмістр распусціў строй казакоў. Яны падышлі да коней і...

Спачатку засмяяўся нехта адзін, угледзеўшы такога конніка. За ім — другі, трэці... Праз хвіліну рагатала можа пяцьдзесят чалавек. Піліпка ашаламіў іх смех. Хлопец не мог зразумець (ды і пасля не зразумеў) — чаму яны смяюцца? Са світкі? З лапцяў? З вілаў, якія ён не выпускаў з рук? Дык нават паны ніколі не смяяліся са світкі яго. А казакі — не паны. Багацеі, казаў дзядзька Ціхан. Але чаму багатыя павінны смяяцца з яго беднасці?

Хацелася стукнуць каня рагачом, вырвацца з гэтага кола і паляцець цераз фронт — д ад ому, да маці, да дзядзькі. Няхай страляюць услед. Свае. Немцы. Хто хоча.

Але нікуды ён не мог паляцець. Глядзеў на каштана з надзеяй, чакаючы, што той загадае ўсім змоўкнуць, дасць каманду: «Кругом! Шагам арш!» — і казакі, пасаромленыя, знікнуць, а яны паедуць куды трэба.

Залонскі не смяяўся. Глядзеў на конніка так, быццам прыцэльваўся ці прыцэньваўся. Але калі ён сказаў: «Злазь!» — хлопец адчуў сябе такім абражаным, што, як споўз на зямлю кулем саломы, захацелася яму — не, не зараўці, а ўчыніць нешта такое, ад чаго самому зрабілася страшна.

Смех сціх. Ды Піліпок баяўся падняць вочы, твар яго то пылаў, то захалодваў — ажно ледзяны пот выступіў на ілбе.

— Дайце абознага каня! — загадаў афіцэр.

Падвялі вельмі звычайнага каня — такога, як гняды дзядзькі Ціхана, як іншыя коні ў іх вёсцы, на якіх суседзі паехалі ў бежанцы.

Неасядланага каня. І аброць звычайная. Раменная, праўда, не пяньковая.

— Сядай!

Піліпок так лёгка ўскокваў на любога каня, калі ездзілі на папас, а тут скочыў раз — і споўз назад, скочыў другі — упусціў рагач і пачуў, што спаўзаюць аборкі на левай назе. Ніколі ж такога не было. Калі ўжо не ладзіцца, дык усё не ладзіцца. Варта сесці на зямлю і нанава перакруціць аборкі. Але падскочыў казак, схапіў за нагу, каб памагчы ўзлезці на каня.

— Вот как, лях, это делается,— сказаў казак.

Гэта таксама пакрыўдзіла: які ён лях? Ён жа рускі, усе ў іх вёсцы — праваслаўныя, гэта ў засценку Паперня, дык там ёсць палякі, хоць і тых ляхамі ў іх не называюць — такія ж сяляне, толькі што ходзяць не ў царкву, а ў касцёл.

Казакі не смяяліся, калі Піліпок сеў на абознага каня, без сядла. Нават панурыліся, быццам няёмка ім зрабілася. Ды гэта не суцешыла хлопца.

Капітан агледзеў яго і сказаў:

— Так будзе больш натуральна. Паехалі.

Спрытна скочыў у сядло. Гарачы скакун прыгожа заскакаў пад ім. Але Піліпку больш не хацелася любавацца афіцэрскімі коньмі.

Наперадзе ехалі капітан і ротмістр, за імі два казакі, а Піліпок плёўся ззаду. Адставаў. Аднак шкадаваў сцёбнуць каняку повадам. Зрэдку Залонскі азіраўся і нават спыняўся, каб пачакаць яго. Ды такая ўвага не кранала. Пасля крыўды і абразы апанавала абыякавасць, нішто больш не цікавіла. Хацелася аднаго: дадому! Хутчэй дадому! Ад думкі, што нялёгка будзе назад дабірацца, апанаваў страх.

Па дарозе праляталі веставыя, павольна цягнуліся фурманкі, прагрукаталі гарматы, амаль такія ж, як тыя, нямецкія. Піліпок падумаў, што, магчыма, звесткі, якія ён прынёс, падказалі нашым, што трэба падцягнуць батарэі. Аднак чамусьці не ўзрадаваўся гэтаму. Не вельмі нават глядзеў на фурманкі, на гарматы. Увагу займаў яшчэ адзін просты клопат: як на хаду, на кані, паправіць аборкі ад лапця, якія ўсё больш і больш спаўзалі. Ажыў крыху, калі прыехалі ў мястэчка, бо хоць і ўехалі з другога канца, па другой вуліцы, пазнаў гэтае мястэчка: ездзіў на кірмаш яшчэ з бацькам і з дзядзькам Ціханам. Падсвінка прывозілі сюды зусім нядаўна, за які месяц да таго, як прыйшоў фронт, — на спаса, здаецца. Адгэтуль да іх Сакавішчыны вёрст дзесяць ці дванаццаць — блізка, таму ўсё здалося знаёмым і родным, дарма, што быў тут усяго два разы. Асабліва зашчымела сэрца, калі з вузкай вуліцы выехалі на плошчу: той жа

чырвоны касцёл, тыя ж крамы, двухпавярховы белы дом — гімназія, як тлумачыў некалі дзядзька Ціхан. Плошча здалёк нагадвала кірмаш: бадай, столькі ж фурманак, коней, людзей. Толькі на кірмашы стаялі вазы, простыя, сялянскія, з задранымі ўгару аглоблямі, вішчалі, свінні, рыкалі каровы, і ўсё стракацела ад бабскіх, дзявочых хустак, ад крамніны, якую яўрэі-гандляры раскладалі на сталах. І пахла на кірмашы адмыслова: сенам, дзёгцем, яблыкамі, булкамі, вяндлінай.

Цяпер на плошчы фурманак было хіба трохі менш, чым на кірмашы. І ніводнай распрэжанай. Не тырчалі аглоблі, не стракацелі хусткі; дзе-нідзе паміж шэрых шынялёў і шапак палымнеў казацкі башлык; зусім рэдка чарнела ці бялела цывільная апратка. З былых крамаў салдаты выносілі не крамніну, а мяшкі і скрынкі з патронам!, грузілі на фурманкі. Да гімназіі падляталі коннікі, за жалезную агароджу было прывязана мoжа паўсотня асядланых коней. І пахла на плошчы конскім потам і гноем.

Афіцэры спешыліся.

Піліпок таксама хацеў злезці з каня. Ім, афіцэрам, казакам, добра — яны ехалі на сёдлах, а ён, нябога, добра-такі набіў тое месца, якім сядзеў.

Але капітан Залонскі сказаў:

— Пасядзі на кані, Жмянькоў, пакажам цябе генералу ў такім выглядзе. Няхай палюбуецца, якіх герояў нараджае зямля руская.

Пасля гэтых слоў хлопец пачаў здагадвацца, навошта яго пераапраналі і пераабувалі з салдацкага зноў у світку, у лапці. Аднак чаму пасадзілі на абознага каня без сядла — гэтага ўсё яшчэ ніяк не мог уцяміць. Праўда, крыўда і абраза, якія праз усю дарогу засланялі свет белы, як бы патанулі ў віры іншых пачуццяў, перажыванняў, а наверх зноў усплыў хлапчукоўскі гонар: сам генерал зацікавіўся ім! Сарамлівы, ціхі, Піліпок яшчэ ўчора, напэўна, памёр бы ад страху, каб сказалі, што ён павінен гаварыць з генералам. Тут таксама сэрца трохі забілася, але не вельмі, ён нават сам здзівіўся, што так смела чакае генерала. А чаго яму баяцца? Не дзеля забаўкі перайшоў фронт.

Генерал не выходзіў доўга. У Піліпка аж самлела спіна. Салдаты-фурманы цікавіліся хлопцам — што за ён, што так доўга сядзіць на кані перад ганкам штаба? Падыходзілі, каб пагутарыць, распытаць. Піліпку хацелася пагаварыць з людзьмі, але казакі, якія пільнавалі яго, нібы арыштаванага, палохалі салдат генералам. І тыя тут жа знікалі. «Далей ад граху», як сказаў адзін. Нікому не хацелася без патрэбы трапляць на вочы высокаму начальству.

Нарэшце генерал выйшаў.

Спачатку выскачыў на ганак маладзенькі афіцэрык, маленькі, вяртлявы, як хлапчук, і зычна скамандаваў:

— Смірна!

Плошча застыла. Нават, здалося, коні тыя паслухаліся каманды, кінулі грызці адзін аднаго, узнялі галовы.

Пасля з'явіўся высокі сівы стары, з белымі вусамі, у мундзіры іншага колеру, чым у паноў афіцэраў, аплеценым срэбнымі «вяроўкамі», з ордэнамі на грудзях і з арлом на шапцы — дакладна такі, якога Піліпок, чакаючы, уяўляў, нібы бачыў раней. Пасля ўспомніў, што рускі генерал нечым падобны на нямецкага, якога бачыў учора на полі. Генерал махнуў белай пальчаткай — афіцэрык гукнуў:

— Вольна!

Коні фыркнулі.

Следам за генералам выйшла можа дзесяткі тры афіцэраў. Наперадзе — штабс-капітан Залонскі, ён задаволена ўсміхаўся. Генерал нацягнуў пальчатку і праз адно шкельца, якое вісела на ланцужку на шыі, агледзеў незвычайнага конніка ў світцы, з аброццю цераз плячо. Усміхнуўся. Басавіта прагудзеў:

— Малайчына! — і прывітаў: — Здароў, герой!

— Добры дзень...— нясмела адказаў хлопец, але ўспомніў дзядзькаву навуку і тое, як салдаты звярталіся да афіцэраў, і дадаў: — Ваша благародзія...

— Здравія жалаю, ваша высокаблагародзіе...— шыпеў з-за каня казак, падказваючы, як трэба вітацца з генераламі.

Генерал, мабыць, пачуў, бо лагодна заўважыў:

— Нічога, навучыцца,— і паклікаў Піліпка.— Хадзі сюды!

Піліпок саскочыў з каня і, набліжаючыся да ганка, сарваў з галавы свой зашмальцаваны картузік, бо заўсёды здымаў яго перад настаўнікам і папом.

Генерал паклікаў яго пальцам бліжэй і паклаў руку ў пальчатцы на непрычасаную бялявую чупрыну. Паўтарыў:

— Малайчына! Як імя?

— Піліп Жменька... ваша высока...

— Піліп Жмянькоў,— паправіў Залонскі.

— Малайчына, Жмянькоў! — зноў сказаў генерал. Больш, відаць, яму не было чаго гаварыць, ён павярнуўся, сказаў невядома каму незразумелыя Піліпку словы: —т Разведка пацвердзіць —хадайнічайце перад Стаўкай аб Георгію.

Нічога асаблівага не адбылося, узнагароды генерал не даў і пра батарэі нямецкія не спытаў нават, быццам не дзеля гэтага ён, Піліпок,

ішоў сюды, але хлопец усё роўна ўсцешыўся, узбадзёрыўся, забыўся на крыўду. І ўсё можа пайшло б добра, ды неўзабаве паны пакрыўдзілі зноў. Прывялі ў пакой з заіфатаванымі вокнамі, і тоўсты афіцэр распытваў пра ўсё-ўсё: і пра батарэі, і пра дзядзьку, і колькі людзей у вёсцы асталося, і якія пагоны ў тых нямецкіх салдат, што стаяць у Ліпунах, і пра балота, і пра таго пана, які хацеў абдурыць сялян. Здавалася, што такая цікаўнасць павінна была б яшчэ больш узрадаваць хлопца. Павінна была б, калі б... калі б тоўсты дапытваў так, як афіцэры ўначы, у бліндажы. А гэты дапытваў так, быццам нічому не верыў, быццам перад ім быў не свой, не рускі, а які-небудзь немец, шпіён. Задаваў адны і тыя ж пытанні па пяць разоў, блытаў знарок, збіваў з панталыку.

Добра, што ў пакоі сядзеў капітан Залонскі. Праўда, ён маўчаў, але калі Піліпок глядзеў на яго, просячы паверыць, падтрымаць, адводзіў вочы, як бы адчуваючы няёмкасць. Гэта трохі стрымлівала Піліпкову злосць.

Калі выйшлі, капітан ціха кінуў:

— Дурань.

Хлопец зразумеў, што гэта пра таго, тоўстага, і зноў узбадзёрыўся, адчуваючы да Залонскага амаль любоў і захапленне ім: ёсць і паны разумныя, добрыя. А можа ён не з паноў? Вельмі хацелася, каб такі чалавек быў з сялян. Каб свой быў, як дзядзька Ціхан. Капітан як бы адчуў хлапцову прыхільнасць і ўзнагародзіў яго за гэта. Шчодра ўзнагародзіў. Павёў у краму. Крама гэтая асталася адзіная на ўсё мястэчка, і ў ёй можна было купіць усё, што трэба панам афіцэрам і салдатам: іголку і каньяк, падкову і сукно на мундзір.

Залонскі сказаў крамніку — худому, але чыста апранутаму яўрэю.

— Хаім, ты бачыш гэтага хлопца?

— Пане капітан, хіба Хаім аслеп?

— А ты ведаеш, хто гэта?

— Калі ён тутэйшы і можа сказаць два словы, то я вам скажу, з якой ён вёскі.

— Сур'ёзна? Ты можаш пазнаць? — здзівіўся каштан,— Скажы, Піліп, яму два словы.

Але хлопец не ведаў, што сказаць, хоць адчуваў

сябе тут смялей, чым у штабе, бо крамнік — не пан, а свой чалавек, сяляне казалі яму «ты», сварыліся з ім і тут жа мірыліся, пляскалі далоняй аб далошо, калі сыходзіліся ў цане.

— У цябе ёсць сестры, браты? І дзе твой бацька?

— У мяне ёсць сестры і брат, Малыя. І матка. А бацька на вайне,— і, узрадаваны, Пілiпок павярнуўся да капітана: — Каб мне знайсці бацьку...— але тут жа прыгадаў іголку і стог — і асекся.

— О, о! — гукнуў крамнік.— То гэты малады чалавек або з Паперні або з Сакавішчыны. Калі ён скажа, што не, то няхай адсохне мой язык.

Пілiпок нікольки не здзівіўся, што тутэйшы чалавек пазнаў, з якой ён вёскі. А капітан здзівіўся.

— Ты геній, Хаім. Ты мог бы стаць вялікім вучо-
ным.

— Пане капітан, не смейцеся з беднага яўрэя. Геніі — .у Пецярбурзе і ў Маскве. Можа яны ёсць у Парыжы. А я ўсё жыццё гандлюю селядцамі ў гэтым смярдзючым мястэчку.

— То ведай: гэты твой зямляк заслужыў, каб насіць лепшыя боты, якія ў цябе ёсць. На яго нагу. Маеш?

— Калі трэба боты, то будуць боты.

Перагнуўшыся цераз прылавак, Хаім глянуў на Пі-
ліпковы лапці, нырнуў у вузенькія дзверы ў задняй сцяне крамы.

Упершыню Пілiпок астаўся з капітанам адзін на адзін. І ўпершыню перад чалавекам, які больш за ўсё падабаўся ў самым пачатку, адчуў няёмкасць і нават боязь, хоць Залонскі глядзеў на яго з добрай усмешкай.

— Ты праваслаўны, Жмянькоў?

— Але, мы ходзім у царкву.

— Калі ў цябе будуць пытаць, чаму ты пайшоў цераз фронт, адказвай: я ішоў за веру, цара і айчыну.

— За веру, цара і айчыну, — паўтарыў хлопец.

—Разумеет сэнс гэтых слоў?

— Разумею.

— О, ды ты адукаваны хлопец, Жмянькоў. Мы зробім з цябе нацыянальнага героя.

Пілiпок тады не зусім разумеў, што такое — национальны герой, але слова «герой» зноў-такі кранула яго хлапечы гонар.

— Крыжык у цябе ёсць на шыі?

Крыжыка не было; крыжык яму адзявалі толькі ў той дзень, калі маці ці бабуля вяла на прычасце.

Крамнік вярнуўся з ботамі, з цудоўнымі новымі бліскучымі ботамі, галоўнае — мужчынскімі і якраз паназе, як быццам памераў і за колькі хвілін пашыў на заказ — во, меў вока чалавек! Такія боты ажно шкада было абуваць. Але капітан загадаў пераабуцца. Хаім паслужліва падаў зэдлік і тут жа спытаў:

— А да ботаў, пане капітан, што? Камзол? Штаны? Мундзірчык?

— Пакуль што нічога. Пакуль што. Не, яшчэ адну рэч трэба. Крыжык. Нацельны. Маеш? Ці твая рэлігія забараняе?

— Хе! Дрэнная тая рэлігія, якая забараняе чалавеку гандляваць. Залаты?

— Хаім! Ты ж разумны чалавек... Хто з мужыкоў...

— Ай-я-яй! Я такі пляснуўся ў лужыну. Пан афіцэр даў мне добры ўрок.

Піліпок начапіў на шыю маленькі медны крыжык, які, відаць, праляжаў не адзін год, бо моцна пазелянеў.

Боты рыпелі, як у таго пана каморніка, што летась, перад вайной, абмерваў палеткі. Хлапец пераступаў з нагі на нагу і слухаў рыпы як самую салодкую музыку. Адно бянтэжыла: куды дзяваць старыя лапці? Капітан параіў выкінуць.

«А як жа я пайду назад цераз балота?» — хацеў спытаць Піліпок, але пабаяўся, што капітан адкажа: «Пойдзеш у ботах». А ботаў было шкада, хацелася прынесці іх дадому вось такія — новенькія, рыпучыя.

Капітан дзіўна ўсміхнуўся і сказаў:

— Табе шкада развітацца з імі? Я разумею. Што ж, захаваеш свае лапці. Хаім, запакуй! Ушануем сімвал рускага мужыка, яго мудрасць і ашчаднасць.

— О-о, а ён такі мудры, гэты мужык, я вам скажу!

Піліпку здалося, што ў пахвале такой ёсць трохі

здзеку з мужыка, і ён, у душы пакрыўджаны, сцяўся, быццам на яго замахнуліся. Але капітан адказаў вельмі сур'ёзна:

— На плячах яго трымаецца дзяржава наша. Грудзьмі сваімі загарадзіў ён цара і айчыну ад злейшых ворагаў.

І Піліпок зноў адчуў удзячнасць і пашану да гэтага

прыгожага афіцэра, які ў паводзінах сваіх і ў словах так непадобны на іншых паноў.

Крамнік, згаджаючыся: «О, так, о, так, пане каштан»,— грэбліва, двума пальцамі, узяў лапці, загарнуў у тоўстую рудую паперу, перавязаў матузком.

Іншай узнагароды, як боты, Піліпок не хацеў і не чакаў. Хіба каб яшчэ малым які гасцінец далі. Але прасіць сорамна, ды і небяспечна што-небудзь такое несці: затрымаюць немцы — не растлумачыш, адкуль узяў. А боты... боты, перайшоўшы балота, ён абуе, а лапці выкіне; на заляпаныя трохі гразёю боты немцы, напэўна, не звернуць увагі, бо, кажуць, у іх, у Нямеччыне, усе ходзяць у ботах, старыя і малыя, у горадзе і ў вёсцы.

Піліпок толькі і думаў пра тое, як уначы пойдзе назад, што будзе адказваць, як будзе маніць, калі — крый божа! — сапраўды трапіць да немцаў. Страху не меў. Так думаў — на ўсялякі выпадак. А ўвогуле быў упэўнены, што вернецца гэтак жа шчасліва, як і сюды дабраўся. Маці шкадаваў: плача яна недзе цэлы дзень, дзядзьку лае. А дарэмна лае. Праўду сказаў той салдат, Іван Свірыдавіч: весткі тыя, што ён, Піліпок, прынёс, можа ад смерці кагосьці з іх уратуюць. То хіба ж не варта рызыкнуць, каб ураптаваць сваіх людзей ад смерці?

Заняты думкамі пра дамоўку, пра вяртанне да родных сваіх, хлопец быў амаль абыякавы да ўсяго, што адбывалася вакол.

Абедам яго кармілі дзеншчыкі штаба, немаладыя салдаты, але нейкія чужыя, нібы паны, няпростыя, не свойскія, як дзядзька Ціхан, як Іван Свірыдавіч. Нават «іх благароддзе» пан капітан і то здаваўся прасцейшы за іх, ва ўсякім разе — больш уважлівы і ласкавы.

Не вельмі зацікавіў і ваенны фатограф, які на вуліцы і ў будынку, у вялікім пакоі, фатаграфаваў хлопца ў розных паставах. Піліпок бачыў фатографа на кірмашы, і ў вёску да іх ён прыходзіў, рабіў карткі за яйкі, за сала. Толькі скрынка ў таго была аблупленая, а ў гэтага — вялікая, бліскучая, з доўгім чорным рукавом, адмысловай трыногай, і амуніцыя на фатографе новенькая, як кажуць — з іголачкі, лепшая, чым на франтавых афіцэрах, хоць пагоны звычайныя, салдацкія. Вядома, было б нядрэнна прынесці дадому сваю картачку, але Піліпок разумеў, што гэта немагчыма,— картка выдасць яго, як нішто другое. А таму ён даволі спакойна і абы-

якава, стомлены і санлівы пасля абеду, стаяў перад апаратам, лена выконваючы загады здымшчыка. Той крычаў амаль узлавана:

— Ды весялей, весялей ты глядзі! Будучы герой! Што ты — як варона на плоце ў асенні дзень? Вышэй галаву! Кій свой пакладзі на плячо! Ды не так! Э-э, які ты, брат, недарэка! Не верыцца, што ты мог перайсці фронт! Як сонная курыца!

Піліпок не баяўся чалавека са скрынкай, хоць той і ў вайсковым адзенні, і знарок не вельмі пяўся выконваць яго загады. Нават хацеў на яго абразлівыя мянушкі адказаць:

«Сам ты варона!»

Але стрымаўся: навошта заядацца з чалавекам, якога бачыць, напэўна, першы і апошні раз?

Калі вярталіся назад на пазіцыі, нехта зліטаваўся (Піліпок не сумняваўся, што Залонскі — хто ж яшчэ!) — яго каня таксама асядлалі. Праўда, сядло далі аблезлае, падранае, без аднаго стрэмя, але ехаць на ім было лягчэй.

Аднак усё роўна пад вечар хлопец стаміўся так, як не стамляўся выбіраючы цэлы дзень бульбу ці барануючы поле.

Расказаўшы новым салдатам пра сябе (Івана Свірыдавіча ў зямлянцы не было), паслухаўшы іх, Пілiпок заснуў непрыкметна, прытуліўшыся спінай да шурпатых бярвенняў сцяны. Ды пасля нехта з салдат падаслаў яму шынель і паклаў на бок: дзіця ёсць дзіця.

А позна ўвечары хлопца разбудзілі і сказалі, што ён павядзе атрад на той бок.

Сказаў чорны, вусаты і суровы з выгляду ротмістр Ягашын. Пілiпок чамусьці баяўся гэтага маўклівага чалавека, які, хоць і ездзіў разам у штаб, аднак за ўвесь дзень не сказаў яму ніводнага слова. Але ўсё адно хлопец узрадаваўся — нарэшце, пойдзе дадому!

Атрад чакаў у бярэзніку каля паходных кухняў. Конны. Але коннікі дзіўныя, у цемры яны мелі злавесны выгляд — у чорных бурках і чорных папахах. І гаварылі не па-русску, не як казакі. Пілiпку асобнага каня не далі. Яго легка, як зусім малога, падхапіў адзін з коннікаў, пасадзіў перад сабой. Ад буркі пахла аўчынай, але не так, як ад дзядзькавага кажуха. Чужым пахла. Ехалі да вострава. Там, на востраве, было не два вар-

тавыя, як у мінулую ноч, а многа салдат. І капітан Залонскі. Ен сказаў Пілiпку па-вайсковаму каратка і рашуча:

— Выведзеш да тае батарэі, што бачыў.

Хлопец хацеў сказаць, што ўначы не так проста выйсці туды, бо гэта няблізка ад балота, а каля балота — немцы, і ў цемры на іх легка наскочыць. Але ніхто яго не слухаў. Капітан даваў загады іншым людзям.

Пілiпок адразу як бы пасталеў за якую хвіліну, бо адчуў усю сур'ёзнасць і небяспечнасць таго, што будзе рабіцца ў гэтую ноч. Перад страшнай невядомасцю здалося недарэчным шкадаваць такую рэч, як боты. Цяпер яны — не дарагая ўзнагарода, а так — драбяза, якую сунулі яму, як малому цукерку. Каб боты былі не на нагах, ён, напэўна, легка кінуў бы іх у кусты. Але не было калі пераабувацца, і ён шыбнуў у кусты пакунак з лапцямі.

Ішлі па насціле і па вадзе моўчкі, нават ступаць стараліся так, каб дрыгва не чаўкала. Пілiпок — першы, мацаючы рагачом у тых мясцінах, дзе насціл разрываўся. За ім — Ягашын. Ён лічыў крокі — колькі прайшлі, і, калі правальваўся так, што чэрпаў халявамі ваду, шэптам лаяўся брыдкімі словамі, чамусьці ўспамінаючы «турэцкага бога». Следам за імі ланцугом ішлі тыя, у папахах, але без бурак, у адных фрэнчах з кішэнямі для патронаў: буркі пакінулі на востраве. Над балотам узняўся туман, але стаяў яшчэ нізка. На грудках горцы,

як прывіды, выходзілі з туману, і Пілiпок бачыў, як уздымалі яны галовы к чорнаму небу: маліліся ці шукалі свае зоркі? Ад гэтага рабілася жудасна.

Ротмістр спыніўся, спытаў у Піліпка:

— Далека да берага?

— Не ведаю.

— Па маіх падліках — недалёка. Пойдзеш адзін і разведает, што там.

Такі давер зноў усцешыў і амаль узрадаваў: ротмістр, яго каўказцы баяцца ісці, а вось ён пойдзе і разведае. Дзіўна: адзін ён адчуваў меншы страх, чым з салдатамі. Падумаў: добра было б, каб на беразе чакаў дзядзька Ціхан. Вось ён прывёў бы дакладненька да батарэі, бо помніць тут кожны куст і кожны камень...

На беразе нікога не было — дзядзьку рана, ён сказаў, што чакаць будзе пад раніцу.

Дзіўна, што немцы дагэтуль не выявілі насцілу і не ставяць пост на выспе, як нашы. Але немцы блізка: чуць правей бліскаюць агеньчыкі — пэўна, там акопы і зямлянкі.

Піліпок вярнуўся.

Па лесе ішлі, трымаючыся адзін аднаго. Пад нагамі шамацела лісце —і ротмістр зноў лаяўся. Фыркнулі недалёка коні — і ўсе застылі, прыгнуліся да зямлі. Ягашын зноў паслаў Піліпка: калі наперадзе нікога няма, няхай кугікне па-савінаму.

Піліпок без перашкод выйшаў на ўзлесак і кугікнуў. Атрад доўга не прыходзіў, і ён, баючыся, што яны пайшлі не туды, кугікнуў тройчы. За гэта афіцэр, калі падышоў, упікнуў:

— Раскаркаўся! Загадай дурню богу маліцца. Куды цяпер?

Піліпок прызнаўся, што ён не ведае, куды ісці. Нічога ж не відаць — ноч. Вёў яго сюды дзядзька.

Афіцэр зноў вылаяўся.

— Герой!..

Пасля стаў на калені, выцягнуў з кішэні кругленькую рэч накшталт кішанёвага гадзінніка, але стрэлка ў ім свяцілася жоўта-зялёным водбліскам і дрыжала. Піліпок не ведаў тады, што прылада такая называецца компасам.

Ротмістр зашамацеў паперай, сказаў нешта горцам. Яны схіліліся над ім, загарадзілі з усіх бакоў. Тады ён чыркнуў запалку, каб разгледзець карту. Доўга прымяраў нешта той прыладай са стрэлкай. Паказаў Піліпку рукой:

— Сюды.

Што ж, сюды дык сюды... І хлопец зноў пайшоў першы. Без страху і асаблівай асцярогі. Яму — абы хутчэй скончыць гэтую справу, развітацца і вярнуцца дадому: батарэю можа і не знойдзе, а Ліпуны знойдзе і пасярод ночы. Дойдзе да раўчука, паўз раўчук да дарогі...

Ішлі яны нядоўга. Раптам наперадзе зусім блізка ўгору шуганула белая ракета. Асвяціла наваколле. Пілiпок прасачыў за яе палётам, і калі яна, прачарціўшы ў небе дугу, падала ўніз, глянуў на зямлю і...

Ротмістр ірвануў яго за нагу, гнеўна зашаптаў:

— Лажыся! — і выліў цэбар брыдкіх слоў,— Звязаўся я, дурань, з табой!.. Знайшлі праваднікa, ідыёты!

— Дзядзечка,— забыўся хлопец на «ваша благароддзе»,— там — батарэя.

— Дзе?

— Вунь тутачка недалёчка пушкі стаяць. Хіба вы не ўбачылі?

Адкуль хлопцу было ведаць (ён жа ішоў наперадзе), што калі ўзвілася ракета, ротмістр і яго славутыя харобрыя коннікі ўраз зарыліся насамі ў зямлю, нюхалі пасохлы палын.

—Ты не памыліўся? — адразу палагоднеў Ягашын.

— Ды не, на свае вочы бачыў, як вас удзень. Там кусты правей. Адна пушка ля самых кустоў, другая вышэй на пагорачку...

— Ша! Ляжы і не пікні! — і сам адпоўз назад. Шамацеў быльнік — спаўзаліся ў адно месца чаркесы.

Ротмістр доўга шаптаўся з імі. Пасля вярнуўся назад да Пiлiпка, які за гэты час угледзеў там, дзе бачыў пушкі, агеньчык — нехта курыў, напэўна вартавы. Сказаў афіцэру пра агеньчык. Той быццам не паверыў:

— Нешта адзін ты ўсё бачыш.

Гэта пакрыўдзіла хлопца; хіба ж ён сляпы, ці што?

— Вы гутарылі, а я глядзеў.

Ляжалі на астылай зямлі доўга, так доўга, што Пілiпок нават заснуў, ці яму здалося так. Ва ўсякім разе, скалануўся ад холаду — «душа прымерзла к целу», як казала маці. Ноч хоць і немарозная, ды восень ёсць восень, а світка яго — ветрам падбітая.

Побач курыў у рукаў ротмістр і зноў чамусьці лаяўся, сам сабе, пад нос.

Пiлiпок не стрымаўся, далікатна спытаў:

— Ваша благароддзе, чаму мы ляжым?

— Не твая справа! Заткніся! — прашыпеў афіцэр.

Здалося Пiлiпку, што ротмістра ліхаманіць, цела ажно цялё-паецца, быццам не на зямлі ляжыць, а гойдаецца ў сядле. Нарэшце

ротмістр нешта сказаў салдату, што ляжаў побач. Той шэптам, на сваёй мове перадаў каманду іншым. Горцы падняліся і, схіліўшыся ледзь не да самай зямлі, асцярожна ступаючы, пайшлі ў бок батарэі.

Ротмістр сказаў Піліпку:

— Ты аставайся тут, — і гэтак жа асцярожна пайшоў за сваімі падначаленымі.

У хлопца бліснула думка: «А навошта мне мерзнуць тут? Ці не шыбануць у другі бок — дадому? Калі добра пабегчы, нагрэешся і хутка будзеш на печы».

Не адразу ён пачуў, што ззаду, у нагах яго, ляжыць чалавек. Пачуў — уразіўся і спалохаўся. Нічога не баяўся, а тут моцна-такі спалохаўся.

«Вартуюць. Навошта мяне вартуюць?»

Горац падпоўз і лёг побач, на тое месца, дзе ляжаў ротмістр, зацмокаў языком.

— Малчык, зачэм вёл? Зачэм рэзат, нэ понымаю. Мала страляць, мала рубаць шашкай, да? Надо рэзат горла, да?

Толькі тады Шліпок зразумеў, што ротмістр і горцы пайшлі рэзаць нямецкіх салдат. Уявіў, як іх рэжуць, сонных, — жахнуўся. Прыгадаў словы маладога афіцэра з дзіўным прозвішчам — Дакука: «Вам хочацца крыві? Гэта не в айна, гэта — бойня!»

Піліпок упершыню падумаў, што калі яго вартуюць, то, напэўна, не хочуць адпускаць дадому. Вырашыў: «Уцяку. Як; толькі пойдзем назад, у лесе ўцяку».

Начную цішыню паласнуў жудасны крык — там, на батарэі. І адразу ж бухнуў стрэл. Шуганула ўгору ракета, засіпела і патухла ў вышыні. Навокал усчалася страляніна. Недалёка загрукаталі боты аб зямлю — беглі. У святле другой ракеты, дальняй, Піліпок разгледзеў, што бягуць ротмістр і чаркесы, нясуцца, што ёсць сілы, міма іх, да лесу і балота. Хлопца таксама апанаваў страх; ён забыўся пра сваё жаданне ўцячы і кінуўся следам за імі. Горац, што быў пры ім, задыхана клікаў:

— О, алах! О, алах!

Піліпок не чуў раней такога слова і думаў, што той кліча некага са сваіх. Але хіба такі ціхі кліч мог пачуць алах?

Стралялі па ўсім фронце. Напэўна, на нямецкую трывогу адгукнуліся рускія акопы. Усе дальнія стралялі, безумоўна, у белы свет, як у капейку. Але на батарэі, пэўна, пачулі ці ўбачылі, куды пабеглі «начныя госці». Кулі ціўкалі над галавой. Адзін з горцаў упаў і закрычаў амаль такім жа жудасным голасам, як нехта там, на артылерыйскай

пазіцыі. Усе, акрамя ротмістра, кінуліся назад, падхапілі раненага таварыша, панеслі.

Ротмістр лаяўся, падганяў:

— Быстра! Вы! Жалкія трусы!

У лесе пайшлі павольней. Спыняліся. Насцярожана ўслухоўваліся ў блізкую і далёкую страляніну, якая паступова затухала. Слухалі кожны шолах. Палохаліся ўласных крокаў. Выбіліся ў густы алешнік і там грузлі траха не па пояс ў балоце. Чапляліс.я за купіны, за карэнне. Падалі. Паранены стагнаў.

Ротмістр кіпеў — чуваць было па яго сапенні, але маўчаў — не лаяўся, баяўся ўзвысіць голас. Накінуўся быў на Піліпка злосным шэптам:

— Ты куды нас завёў, Сусанін?

— А хіба я вёў? Вы самі беглі,— на гэты раз смела запярэчыў хлапчына.

— Ды беглі,— памаўчаўшы, згадзіўся ротмістр.— Як зайцы. Як апошнія баязліўцы. Цьфу! Славутыя лазутчыкі! «Языка» і таго не змаглі ўзяць. Ды я са сваімі казакамі...

Горцы, якія спыніліся адпачыць, загаманілі на сваёй мове. Адзін сказаў:

— Зачэм, ваша благароддзе, ругаць? Зачэм не брал казак? Наш лазіл балота, да? Наш ходзіл горы! Как его брацъ, «языка», когда он кричал, как баран?

Ротмістр сурова асек:

— Разгаворы!

Выйшлі з алешніку на голае балота, над якім вісеў белы туман. Спыніліся на сухім грудку, не ведаючы, куды ісці далей. Дзе ён, той плёс чыстай вады, пад якой хаваўся насціл,— направа ці налева?

Пілілок быў упэўнены, што адхіліліся яны направа, ён з вопыту, з блуканняў на папасе ведаў, што ўначы чамусьці заўсёды адхіляешся ўправа. Пайшлі налева. І сапраўды хутка знайшлі знаёмы плёс.

Калі вярнуліся да атрада, хлопец палічыў, што ён сваю справу зрабіў, сумленна, да канца і нават больш, чым думаў сам і чым меркаваў дзядзька Ціхан, а таму трохі нясмела, хвалюючыся, забыўшыся на вайсковы тытул, сказаў афіцэру:

— Дзядзечка, мне ж дадому трэба. Я пайду...

Ротмістр не адразу нават зразумеў.

— Да якога дому?

— Да сваіх. Да маткі... У Аіпуны.

— Ты што — ашалеў? Чуў, якога шуму нарабілі? Акрамя таго, я маю загад даставіць цябе ў полк жывога ці мёртвага.

Гэтае «ці мёртвага» страшэнна ўразіла хлопца. «Навошта я ім, ды яшчэ мёртвы?»

Спалоханы, ён больш і не падумаў, каб уцячы. Паслухмяна пайшоў цераз балота. Зноў наперадзе.

— Вось так тутэйшы хлапчына Пілiпок Жменька стаў радавым 117 Кацярынаслаўскага пяхотнага палка 2-й арміі Піліпам Жмяньковым,— перапыняючы расказ, заключыў генерал з сумнай усмешкай.

Я зразумеў: тая далёкая кастрычніцкая ноч была мяжой, ад якой пачыналася зусім іншая біяграфія, іншы лёс, ды і сам чалавек зрабіўся другі.

Пра сваё лапцюжнае маленства генерал расказваў з замілаваннем, прачуласцю, падрабязна, дэталёва, але трохі як бы адасоблена: пэўна, не толькі нам, слухачам, але і самому яму здавалася, што расказвае ён не пра сябе, а пра некага іншага. Не дарэмна, відаць, і форму расказу выбраў такую — ад трэцяй асобы: герой — не я, а ён — той далёкі хлопец.

Даўно астылі рэшткі нашага грыбнога супу, засохлі на газеце скібкі хлеба. Згарэла галлё, якога мы з Міхасём нацягалі, чакаючы генерала. Невысокае верасnёўскае сонца, якое апоўдні выглянула з-за хмар і добра яшчэ прыпякала, пачало хавацца за маладыя сосны, што абступалі прасеку, на якой мы так утульна асталяваліся.

— То можа час і дадому, — сказаў генерал, глянуўшы спярша на сонца, пасля на гадзіннік.— Па дарозе даскажу.

— Ды не, Піліп Рыгоравіч, дарогі, здаецца, будзе мала. Даскажыце тут. У лесе лепш слухаецца. Пэўна ж самае цікавае ў вас наперадзе.

— Можа не самае цікавае, але былі яшчэ прыгоды. Што ж, калі маеце такое жаданне, то давайце нарыхтуем дровы, каб агеньчык трашчаў. А заадно разамнёмся трохі. А то памлелі мае старыя ногі.

Аднак падняўся ён з зямлі больш спрытна, чым мы, маладзейшыя. Узброіўся сякерай.

Прыцягнулі цэлую гару галля.

Весела палыхнула полымя кастра...

— Праўда, салдатам зрабілі мяне не адразу. Дзён колькі я быў ніхто, прыблудны хлопчык у салдацкай зямлянцы. На мяне як бы забыліся. Паны афіцэры забыліся.

На другі дзень пасля начнога паходу я чакаў, што штабс-капітан Залонскі пакліча і зноў скажа словы, якія ўзбадзёраць,— скажа, калі я вярнуся дадому. Але ніхто не клікаў. Самому ісці ў афіцэрскі бліндаж было боязна. Блукаў па траншэях у надзеі спаткаць Залонскага, ды той быццам знік з батальёна.

Ротмістр Ягашын сказаў на балоце: «Ведаеш, што такое ваенная тайна? Трымай язык за зубамі пра тое, што адбылося ў гэтую ноч,— нікому ні слова».

Але я не вытрымаў. Раніцой Іван Свірыдавіч спытаў:

— Куды цябе цягалі на ўсю ноч?

І я расказаў праўду. Я ўвогуле не ўмеў маніць. А схлусіць такому чалавеку — усё роўна што дзядзьку Ціхану. А хіба ж дзядзьку не расказаў бы я ўсё, няхай бы хоць пеклам пагражаў вусаты ротмістр?

Іван Свірыдавіч нахмурыўся, калі я расказаў пра напад на батарэю.

— І многа парэзалі іх, немцаў?

— Не. Хіба аднаго. Ён закрычаў нечалавечым голасам. Чаркесы ўцяклі. Ротмістр лаяў іх. Называў палахліўцамі.

— Мяснік, сукін сын, гэты ротмістр,— у злосці сказаў Іван Свірыдавіч.

Я не разумеў злосці яго.

Успомніўшы ротмістраў наказ і сваю размову з Іванам Свірыдавічам, я пачаў думаць: караюць мяне за тое, што не ўмеў хаваць тайны ваеннай. За гэта могуць доўга не пусціць дадому. Каб правучыць. Могуць зусім не пусціць. Ад думкі такой халадзеў. Маці ж памрэ ад гора. Хто араць будзе, сеяць?

У дадатак да сваіх душэўных пакут, у той дзень аДчУЎ я ўвесь жах вайны. Да таго пры ўсёй цвярозай сялянскай развазе я ўсё яшчэ аставаўся хлапчуком-рамантыкам, якому хацелася подзвігу, славы.

Немцы, напэўна, вырашылі адпомсціць за начную вылазку рускіх, за страх, які перажылі, і якраз жа ў абед, калі салдаты з акопаў пацягнуліся па траншэях да палявых кухняў, зрабілі нечаканы моцны артылерыйскі налёт. Казалі пасля — паўгадзіны стралялі. А мне, гаротнаму, здалося — дзень і ноч: навокал то святлела, то засцілалася цемрай. Малацілі па зямлі, як цапамі.

Я таксама ішоў да кухні, калі разарваўся першы снарад. Мяне, навічка, яшчэ пацягнула глянуць — дзе, як? Але нехта з салдат схапіў за каўнер, зацягнуўў вузкую і глыбокую бакавую траншэю. Траншэя канчалася пакрыццем з бярвенняў у два ці ў тры накаты. Але пакуль мы прыбеглі, у шчыліну тую набілася людзей, як селядцоў. Тады той жа незнаемы салдат штурхнуў мяне ў яму ад снарада — дагэтуль жыве ў арміі перакананне, што снарад ніколі не трапляе ў старую варонку.

Над намі, здавалася, раскалвалася неба, пад намі — сутаргава ўздрыгвала і лопалася зямля: пясок, камякі, трэскі, анучкі нейкія, а можа часткі цела чалавечага — ляцелі ўгору і падалі на нас, засыпалі ў

яме жывых. Дагэтуль помню, які смяртэльны страх апанаваў мяне. Да таго многа розных страхаў перажыў я, але такі ўпершыню — калі здалося, што гэта канец, што я пахаваны ўжо. Бегчы, уцякаць? Паспрабаваў вылезці з ямы, шкроб пальцамі зямлю, да крыві здзіраючы пазногці. Але блізкі разрыў адкінуў назад, у магілу, і ўсё перавярнулася дагары: унізе — нябесная бездань, а нада мной — зямля, увесь цяжар яе. Зямля забіла вушы, рот, вочы, і я нічога не чуў, нічога не бачыў і... не адчуваў. Нават страх знік, бо, здавалася, ратунку няма, а таму няма чаго трапятацца і кідацца: ляжы ціха, канай і чакай, калі ангелы панясуць цябе на неба — пра такое шчасце расказваў нам у школе айцец Яўстафій. Але, мабыць, бог не хацеў яшчэ пускаць да сябе, і неба, шэрае, асенняе, доўга, бясконца доўга кідала на зямлю маланкі і гром.

Калі раптам сціхла і пачуўся чалавечы голас: «Жывы?» — здалося мне, што гэта пытаюць ужо на небе, бо на зямлі сто гадоў не было такой цішыні. Не адразу паверылася, што я жывы. Падняў мяне на ногі той жа салдат, што цягаў за каўнер па траншэі.

— Маліся богу. Пранесла,— сказаў салдат.

Але бога ў душы маёй пе было, была там пустэча, цёмная і глухая, як бяздонная яма. Аглушаны, душэўна паранены, я хадзіў як цень.

Пад вечар хавалі забітых. На вясковых могілках вярсты за паўтары ад пазіцый. Адпявалі нябожчыкаў два папы ў чорных рызах. Дымілі залатымі кадзіламі, нараспеў чыталі імёны тых, хто ляжаў у дамавінах, не такіх, як рабілі ў вёсцы нашай — з дошак, а як скрынкі — з шалёўчын. Дамавіны стаялі каля даўжэзнай магілы. Я налічыў іх дзевятнаццаць. Нябожчык у адной быў накрыты белай прасцінай, пасля казалі —не знайшлі галавы. У другой дамавіне я пазнаў таго фельдфебеля, які ўчора — не верылася, што гэта было ўсяго дзень назад — адзяваў мяне ў вайсковае, а пасля раздзяваў, бо так чамусьці захацелася афіцэрам.

Зрабілася млосна. Я адышоў ад магілы і сеў пад каржакаватай сасной. Усё іншае ўспамінаецца як страшны сон. Не толькі тое, што адбывалася ў той дзень, але і на другі ці можа нават на трэці. Усё пераблыталася ў галаве. Прасвятленне пачалося са слёз. Далібог, не помню — на другі ці на трэці дзень залез я ў вузкую бакавую шчыліну, каб быць далей ад людзей, падумаў пра свой няшчасны лес, успомніў маці, дзядзьку, і зрабілася так шкада сябе, што я захліпаў, як малы.

Там і знайшоў мяне Іван Свірыдавіч.

— Ты чаго?

— Да-до-му хачу.

Пачухаў салдат патыліцу, уздыхнуў.

— Дадому, брат, і я хачу. Але слязьмі не даб'ешся свайго права. Пайшлі.

Прывёў да афіцэрскага бліндажа. На шчасце наша, штабс-капітан Залонскі выйшаў сам. Іван Свірыдавіч руку пад казырок.

— Ваша благароддзе, дазвольце звярнуцца.

— Я слухаю вас, радавы Галадушка.

Не ў прыклад іншым афіцэрам, Залонскі ўмеў слухаць салдат ветліва, уважліва.

— Чаму гэтага хлапчыну не адсылаюць дадому? Што ад яго яшчэ трэба?

Штабс-капітан задумаўся — нахмурыў бровы, прыжмурыў адно вока, як бы прыцэльваючыся.

— Радавы Галадушка, вы — адукаваны чалавек, а ставіце пытанне так, што я не толькі маю права... я абавязаны... так, абавязаны адказаць проста: «Кру-гом! Шагам арш!» Стоп! Я не раблю гэтага. Я тлумачу: гэты хлапчына чакае ўзнагароды. За свой патрыятычны ўчынак; Жмянькоў прадстаўлены да вышэйшай узнагароды. Ні я, ні нават вы, Галадушка, не пойдзеце ўручаць яму ўзнагароду туды,— з усмешачкай кіўнуў капітан на нямецкія пазіцыі,— Спадзяюся, цяпер вам зразумела...

Не, упарты салдат не хацеў нічога разумець, гэтак жа, як я, прызнацца, мала што зразумеў з іх размовы.

—Высачайшы ўказ будзе надрукаваны?

Капітанаў твар перасмыкнуўся, як бы нехта нябачны сцёр з яго дабрату і лагоднасць.

— Радавы Галадушка, усе мы служым богу, цару, айчыне. Салдат японскай кампаніі Жмянькоў, дзядзька Піліпа, пасылаючы пляменніка, думаў пра нашы вышэйшыя ідэалы... Ён даверыў нам пляменніка, салдацкага сына, і мы паклапоцімся пра яго... Няхай у вас баліць галава па кім іншым. Можаце ісці. А ты, Жмянькоў, астанься.

Вось з таго моманту я стаў салдатам. З таго асенняга адвячорка. Залонскі зрабіў мяне сваім дзеншчыкам. І сам умела, цярпліва, не спяшаючыся навучаў быццам бы і не вельмі складаным, але па сутнасці даволі хітрым лакейскім абавязкам, якія ўсталёўваліся стагоддзямі. Панам я да таго не служыў — на сваёй зямлі рабіў. Разы два памагаў бацьку, калі той рабіў у маёнтку на сенажаці ці ў жніво. Але на нашага пана асабліва не скардзіліся, казалі, што плаціць ён лепш за іншых. Праўда, абурэнне супроць паноў я чуў часта, былі ў вёсцы людзі, якія не баяліся сказаць праўду. У нашай жа сям'і

бунтароў не было. Наадварот, і бабуля, і маці, і бацька, і асабліва ў школе — настаўнік і поп, вучылі верыць у бога, паважаць старэйшых і багатых, дзялілі людзей хіба толькі на добрых і злых. Адзін толькі дзядзька Ціхан часам кпіў з бога, з цара, але нязлосна, здавалася, абы папалохаць бабулю: тая жагналася і лаяла дзядзьку бязбожнікам, адступнікам, злодзеем. Чаму «злодзеем» — гэтага я ніяк не мог зразумець.

Працаваць я ўмеў. Працаваў дома цяжка, асабліва апошні год. Таму дзяншчыцкая работа здалася амаль забаўкай — падмесці, падаць абед, віно, прышыць падкаўнерык ці гузік, занесці пакет, паклікаць, каго трэба. Кемлівасці ў мяне не бракавала. Адным словам, Залонскаму не спатрэбілася вялікіх намаганняў, каб за які тыдзень, не больш, навучыць мяне прыслужваць яму і іншым панам.

Ласкай пакарыў прыгожы адукаваны афіцэр мае сэрца. І спакоем, уважлівасцю, хітрым уменнем гаварыць як з дарослым, з роўным. Аднак ніколі не дазволіў ні сабе, ні мне пераступіць нейкую вельмі акрэсленую мяжу паміж намі, якую ён адразу правёў і якую я ўвесь час адчуваў. Але тады мяжа тая здавалася мне зусім натуральнай: хто ён, а хто я! Хіба мог я нават падумаць, што магу калі-небудзь памерацца з ім!

А ўвогуле чалавеку нямнога трэба, нават даросламу, не кажучы ўжо пра хлапчука; даволі, каб вышэйшы, дужэйшы — той, хто над ім, паляпаў па плячы, сказаў цёплае слова, працягнуў пернічак — і чалавек, калі ён не вызваліўся ад забабонаў сацыяльных, рэлігійных, палітычных,— гатовы тут жаператварыцца ў лакея і аддана служыць свайму дабрадзею.

А Залонскі ўмеў зачараваць не толькі такога смаркача, якім быў я! О, як ён гэта ўмеў! Нават у адносінах з барадатымі салдатамі!

Я не адразу зразумеў, што не ён старшы ў батальёне, што камандзір — падпалкоўнік Шувалаў, а Залонскі начальнік штаба. Але Шувалаў быў глухаваты пасля кантузіі, маўклівы, заўсёды п'яны, і ўсю ўладу ў батальёне трымаў штабс-капітан. Яго не баяліся. Яго любілі. Салдаты любяць дэмакратычных афіцэраў.

Толькі Іван Свірыдавіч сказаў, калі я пахваліўся, што буду дзеншчыкам:

— У яго служыць лёгка — друг народу.

Але, здалося мне, сказаў з насмешкай. Хоць я цягнуўся да гэтага салдата — свой чалавек, насмешка яго не падабалася. Між іншым, як разумею цяпер, Залонскі паклапаціўся, каб я не быў пад уплывам радавога Галадушкі. На трэці дзень службы мяне перасялілі з салдацкай зямлянкі ў зямлянку каптэнармуса і фельдфебеля. Яны

спачатку сустрэлі варожа, але хутка змянілі свае адносіны. Калі я ўбачыў, што і фельдфебель і унтэры пачалі амаль ліслівіць перада мной, то — грэшны, каюся праз пяцьдзесят з нечым гадоў — задраў нос. Пра дамоўку ўспамінаў толькі ўначы, прачынаючыся ад сноў,— тады сціскалася сэрца, агортваў смутак. А ўдзень круціўся, лётаў, як тая вавёрка, па траншэях, на КП, у склад, на кухню, спазнаваў таямніцы службы, спрытна казыраў афіцэрам — і пра іншае забываўся, прываблівала ўся мішура, засмоктвала балота вайны, думалася пра новыя подзвігі. Нават у часе артылерыйскіх налётаў больш так не хаваўся і не дрыжаў. Залонскі заклікаў да смеласці і сам паказваў прыклад. Трэба сказаць праўду — баязліўцам ён не быў.

Вучыў мяне не толькі дзяншчыцкай службе. Больш. Расказваў пра «устройство Государства Российского» — найвялікшай імперыі, на чале якой стаіць усемагутны і наймудрэйшы з цароў — Мікалай Другі, Самадзержац Усяе Русі, Вялікі Князь польскі, літоўскі, курляндскі, фінляндскі, і гэтак далей, і гэтак далей. Але я ніяк не мог запомніць усіх царскіх тытулаў. Пра цара Залонскі гаварыў з такой жа пашанай, як пра бога. Кніжачкі з салдацкай бібліятэкі даваў чытаць. Цікавыя кніжачкі. Хітрыя. Тоненькія, просценькія. І ўсё пра мудрасць цароў і пра подзвігі салдат — верных служкаў царскіх.

І поп са мной часта гутарыў. Малітвы паўтаралі — тыя, якія я ведаў. І новыя вучылі. Сэнс малітваў тлумачыў. Адным словам, рыхтавалі мяне да нечага.

Гэта нешта прыйшло тыдні праз два. З газетай прыйшло, якую прывёз веставы штаба дывізіі ў халодную і дажджлівую раніцу. У тую раніцу нават немцы маўчалі — не стралялі. У суседзяў недзе, праўда, бухалі пушкі, а «нашы немцы» мелі бога ў сэрцы: была нядзеля. Афіцэры можа да відна гулялі ў карты і спалі позна. Мы з дзеншчыкам камандзіра батальёна цішком, ступаючы на насочкі, прыбіралі са стала рэшткі іх балявання. Тут у бліндаж, як вецер, уварваўся мокры пасыльны. Мы на яго зашыкалі. Але дывізійныя кур'еры не вельмі баяліся афіцэраў-франтавікоў. Знарок грымнуў так, што разбудзіў і Залонскага і ротмістра. Адзін глухі Шувалаў не прачнуўся. Капітан, не вылазячы з-пад коўдры, разарваў тоўсты пакет — у ім былі газеты, некалькі газет. Прабег па адной вачамі і заззяў увесь, закрычаў:

— Панове! Панове! Ягашын! Будзі камандзіра! — падхапіўся, абняў ротмістра, трусіў за плечы соннага камандзіра,— Вадзім Паўлавіч! Вадзім Паўлавіч! Ды прачніцеся вы!

— Што? Трывога? — лыпаў вачамі стары падпалкоўнік.

— Указ! Імператарскі указ. Чытайце. Жмянькоў! Паглядзі! Віншую цябе. Што я вам казаў, панове? Мы маем нацыянальнага героя!

У газеце быў мой здымак — у лапцях, з аброццю цераз плячо. Ці даўно тое было? А здалося, што прайшло немаведама колькі часу. Такі здымак трохі азмрочыў маю радасць; для мяне меў большае значэнне здымак, чым царскі ўказ аб узнагароджанні Георгіеўскім крыжам. Сэнс узнагароды я зразумеў пазней. А вось здымак у газеце — гэта рэч. Во каб дзядзька Ціхан і маці паглядзелі! Шкада, не дойдзе да іх газета. Але бацька... Бацька недзе ў нашым войску і, безумоўна, прачытае. І знойдзе мяне! Праз газету знойдзе.

Стаіўшы дыханне, слухаў я Залонскага, які чытаў пра мой подзвіг. Усё было не так. Не білі дзядзьку немцы. І не казаў ён слоў: «Ідзі, дарагі пляменнік. За цара, за бацьку нашага. За веру праваслаўную... Жыцця не пашкадуй, а перадай нашым, як супастаты германскія катуюць народ. Каюся я, што не паслухаў сваіх, не паехаў у бежанства. Ратуйся хоць ты...» І пра батарэі, пра ўмацаванні нейкія таксама нагароджана было такое, чаго я не бачыў і не казаў. Але гэта толькі першае адчуванне — што не так, а пасля пачало здавацца, што сапраўды ўсё было так, як напісана. Пра мяне — дык яшчэ нічога: усё-такі ў галоўным праўда была. А каму вядома, што казаў дзядзька і што я думаў?! Але ў той жа газеце расказвалася пра подзвіг ротмістра Ягашына: як ён з невялікай групай разведчыкаў вывеў са строю буйнакаліберную нямецкую батарэю. Паколькі ў допісе гэтым не гаварылася нічога пра мяне — што я вёў групу цераз балота, то, паслухаўшы, я заключыў: расказваецца пра нейкі іншы начны паход ротмістра ў нямецкі тыл. І я глядзеў на Ягашына з захапленнем. Во дзе сапраўдны герой!

І за штабс-капітана радасна было. Безумоўна, усё прыдумаў ён, бо мае разумную галаву. Вось Шувалаву, дык невядома, завошта далі такі ж ордэн: камандзір батальёна абыякавы да ўсяго на свеце, акрамя картаў ды віна. За колькі дзён я слова ад яго не пачуў, быццам не існавала мяне, ці не чалавек я. Хаця б вылаяўся, ці што. Баяўся я батальённага. І не любіў.

Ягашын, які крыклівы і злосны, але і той абняў мяне. жартаўліва пацягнуў за вушы, пратанцаваў вакол стала. А пасля, голячыся, фанабэрыста падкручваў вусы і спяваў. А Шувалаў сядзеў пануры, надзьмуты, як стары індык, быццам не радасць, а бяду прынеслі ў бліндаж. Залонскі паслаў мяне разнесці ў роты газеты (іх было некалькі), каб пачыталі салдатам, а заадно паклікаць ротных і ўзводных камандзіраў. Была ж нядзеля, ішоў дождж, немцы маўчалі, дык чаму не замачыць узнагароды!

Пацягнула мяне, наіўнага дурня, перш за ўсё пахваліцца Івану Свірыдавічу. Ускочыў у іх зямлянку, крыкнуў:

— Во! Чытайце! — аддаў газету, а сам далей па слізкіх траншэях, у якіх дзе-нідзе вады было ледзь не па калені.

Вяртаўся назад — зноў не стрымаўся ад спакусы заглянуць у зямлянку таго аддзялення, дзе Іван Свірыдавіч. Наблізіўся — і пачуў смех. Смяяліся салдаты. «Радуюцца»,— падумаў я, заглядваючы ў адчыненыя дзверы, з якіх моцна патыхала смярдзючым тытунём і прэлымі анучамі.

— Заходзь, заходзь, герой! — крыкнуў Іван Свірыдавіч; калі я пераступіў парог, спытаў: — Радуешся?

Не помню, што адказаў, мабыць гмыкнуў ці кіўнуў галавой.

— Дурань ты цёмны,— сказаў сярдзіта салдат,— А падумаў ты, што гэта можа дзядзьку твайго пад шыбеніцу падвесці? Прачытаюць немцы — і будзе твой крыж яму крыжам надмагільным.

— Немцы ж па-нашаму не разумеюць,— азваўся нейкі салдат-прасцячок.

— Галава дубовая! Не разумеюць! Ёсць такія, што спецыяльна сядзяць на нашых газетах. Разведка. Што мы пішам пра іх, пра сябе. Скажы дзякуй, што ў некага зварыла-такі галава не напісаць, з якой ты вёскі. «Патрыёты», сукіны сыны! Пра сябе толькі думаюць! — вылаяўся Іван Свірыдавіч, і зноў да мяне: — А цяпер раскажы, як ротмістр цэлую батарэю знішчыў.

Салдаты засмяяліся. Тады я зразумеў, што ў газеце апісаны той начны наш паход, пра які на другі дзень я расказваў тут, у гэтай зямлянцы, праўду.

Расказваць зноў я не мог. Вельмі ўразілі мяне словы пра дзядзьку. Ашаламілі. Даверліва, па-дзіцячы спытаў я ў Івана Свірыдавіча:

— Што ж цяпер рабіць, дзядзечка?

Зразумеў салдат, што мне не да смеху. Ды і не адзін ён разумеў.

— А што ты зробіш? Як кажуць, бог не выдасць — свіння не з'есць. Фронт вялікі. На якім участку ты перайшоў — не напісалі. Я ж кажу — дзякуй ім хоць за гэта.

Выйшаў я з зямлянкі з сумным настроем. Вылез з траншэі пад сосны, не думаючы пра кулі; сосны былі пашчапаны кулямі. Доўга стаяў, не зважаючы на дождж. Углядаўся за фронт, у дажджавую імглу, туды, дзе асталіся родныя людзі. Уявілася жудасная карціна: перад царквой у Ліпунах — шыбеніца, у пятлі — дзядзька. Не, не мёртвы — жывы. І вочы яго, вусны просяць: «Ратуй мяне, Піліпок!» Але юнацкая фантазія багатая. Тут жа — іншы прывід. Газета трапіць не немцам. Газета трапіць дзядзьку. Ён прынясе яе дадому... А гюгым думкі паляцелі ў другі бок. Газету чытае бацька. Не, бацьку паклікаў

ужо генерал: «Дзякую табе, Рыгор Жменька, за сына. Будзеш ты камандаваць батальёнам. А цяпер ляці ў 117 полк і забяры сына».

Прыходжу ў бліндаж — а там бацька, у афіцэрскіх пагонах, за адным сталом з Залонскім. «А вось і герой ваш!»

Так гэта ўявілася, што на нейкі момант паверылася, нібы сапраўды бацька прыехаў. Вярнуўся ў бліндаж — а там іншае. Адчыніў дзверы — і зноў пачуў смех, гэтакі ж, як у салдацкай зямлянцы. Смяяўся прапаршчык Дакука, трымаючы газету. Ротмістр Ягашын кінуўся да яго.

— Вам чаму смешна, прапаршчык? З чаго смеяцеся? З Указа гасудара? З патрыятызму народу?

— Я смяюся ад радасці за вас, пан ротмістр,— сур'ёзна адказаў прапаршчык і прачытаў вершы:

— И вечный бой! Покой нам только снится. Сквозь кровь и пыль...

Афіцэры прыціхлі, быццам няёмка зрабілася ім. Дакука чытаў яшчэ нешта, чаго я не запомніў. Але чары вершаў кончыліся, больш ніхто не слухаў — рыхтавалі стол на святочнае снеданне. Ён, Дакука, сярод людзей зноў быў адзін, як у тую ноч, калі мяне ўпершыню прывялі ў бліндаж. Цяпер я разумеў прапаршчыка, бо часам і сам аставаўся вось такім адзінокім сярод гэтых людзей. Ні віно, ні яда яго не цікавілі. Доўгі, нязграбны, ён сядзеў у кутку і ціха-ціха кранаў струны гітары; яны не спявалі — жаласна стагналі. Мяне ўбачыў не адразу, хоць я і круціўся тут, зноў падхоплены хваляй афіцэрскай радасці, зноў забыўшыся на размову ў салдацкай зямлянцы. Убачыў мяне Дакука — здзівіўся чамусьці.

— Гэта ты — вялікі патрыёт?

Зноў насцярожыліся паны афіцэры. Але прапаршчык зноў прачытаў вершы, здалося мне, знаёмыя — як песня, якую спявалі ў нас:

«А когда ж мне, дитятко, Ко двору тебя ждать?» «Уж давай мы как следует Попрощаемся, мать».

І дадаў:

— Жыві, атроча. Я вып'ю за цябе.

Але выпіць яму не далі. Раптам узлаваўся Залонскі, пачырванеў, ціха-ціха, нібыта спакойна, але рашуча загадаў Дакуку пайсці змяніць дзяжурнага афіцэра Антонава, спевака, выпіваку, рагатуна.

Прапаршчык не сказаў ні слова, здалося мне — пайшоў ахвотна, аднак усё адно стала шкада яго: паспрабуй пад такім дажджом пасядзець у акопах! Калі дзверы за ім зачыніліся, нехта сказаў:

— Белая варона.

Але ніхто не падтрымаў: ці таму, што прысутнічалі мы — дзеншчыкі, кухар — ці таму, што ніхто з паноў не хацеў лічыць сябе чорнымі варонамі.

«Прайшоў агонь, ваду, медныя трубы». Кажуць, прайсці медныя трубы — гэта прайсці цераз славу, самае цяжкае выпрабаванне. Была ў мяне слава, пазней, у сталыя гады, сапраўдная, заслужаная. Ды ніколі ўжо так не кружылася галава, як закружылася тады, у чатырнаццаць гадоў. Не, не ў той дзень, калі прыйшлі газеты і афіцэры запівалі царскія ўказы. У той дзень на мяне не звярталі ўвагі: павіншавалі — і забыліся. У той дзень у мяне больш смутку было, бо адчуваў я сябе адзінокім, як той прапаршчык Дакука. І раздвоеным: хацелася пайсці да Івана Свірыдавіча, да салдат, але чамусьці было боязна, праўду баяўся пачуць, ці што. Чалавек часам цягнецца да праўды і баіцца яе.

У славу я акунуўся на трэці дзень. І панесла мяне, браткі, за воблакі.

Залонскі зноў павёз у мястэчка, у штаб дывізіі. Там доўга круцілі мяне ажно тры вайсковыя краўцы і да вечара скроілі мундзірчык — парадны, як належыць георгіеўскаму кавалеру. Пасля ўсе разам — Шувалаў, Залонскі, Ягашын, афіцэры са штаба — паехалі на конях да станцыі, адтуль цягніком — у Мінск. Упершыню ехаў я па чыгунцы, бо ад нас яна далека — вёрст сорак. Ужо ад аднаго гэтага галава кружылася.

А пасля — Мінск з гмахамі, якія вясковаму хлопцу здаліся бог ведае якімі вялікімі, з конкай, з такім мноствам людзей, што ўвесь горад здаўся вялізным кірмашом. Колькі паноў у капелюшах! Колькі паняў і паненак у футрах! І вайскоўцаў — больш, чым на фронце. Здзівіла, помню, мноства міласэрных сясцёр. Усіх жанчын у форме я лічыў тады за сясцёр, пазней даведаўся, што большасць з іх аціраюцца ў розных штабах ды камітэтах.

Крыж Георгіеўскі ўручылі мне ў бялюткай зале, з бліскучай і слізкай падлогай, па ёй боязна было хадзіць. Паўз сцены стаялі афіцэры ў парадных мундзірах і пані ў шыкоўных сукенках. Яны дружна пляскалі ў далоні. Угары, недзе над галавой, іграў ваенны аркестр.

Генерал (пасля я даведаўся — камандуючы фронтам Эверт) гаварыў прамову аб патрыятызме народу і маім подзвігу. Яго часта перапынялі воплескамі.

Спачатку мяне апаноўваў страх, а потым у нейкі міг (бываюць такія пераскокі) я зрабіўся спакойны і ўпэўнены, нават, калі хочаце ведаць, трохі нахабны — гэткая сумесь кароткай лакейскай вывучкі і сялянскай хітрасці: за ўсім назіраў пільным вокам, усё запомніў, каб

нічога не прапусціць і выхапіць што-небудзь смешнае, што можна расказаць салдатам; я ўжо ведаў, што салдаты любяць смешнае пра генералаў і паноў. Калі ад'ютант прычапіў мне на грудзі Георгія чацвёртай ступені, а генерал нахіліўся і халоднымі вуснамі чуцьчуць дакрануўся маёй скроні, Залонскі, які стаяў непадалёк, кіўнуў галавой, і я закрычаў звонкім голасам — ажно рэха адбівалася ад узорыстай столі:

— Ваша правасхадзіцельства! Я дзякую гасудару імператару, бацьку нашаму. Дзякую вам, ваша правасхадзіцельства, і ўсім вам, вашы благароддзі, дамы і паны! За веру, цара і айчыну не пашкадую свайго маладога жыцця!

Прамова мая зрабіла ўражанне. Грымнулі трубы аркестра. Білі ў далоні. Старыя пані прамакалі хусцінкамі вочы.

Нездарма вучыў мяне Залонскі і ў бліндажы, і ў цягніку, і тут, у Мінску, перад уручэннем узнагароды. Вучань я быў кемлівы, настаўніка не пасароміў. Дваранства, афіцэры, чыноўнікі царскія, іх жонкі і дочкі, ачмурэлыя ад патрыятычнага чаду, напалоханыя нядаўнім нямецкім наступленнем, на адзін вечар пусцілі ў вышэйшы свет сялянскага хлопца. Я стаў кумірчыкам старых паняў. Яны кармілі мяне ў буфеце цукеркамі, шакаладкамі, паілі, як каня, усялякімі напіткамі. За ўсё жыццё я не з'еў столькі салодкага, як у той вечар. У мяне распытвалі пра подзвіг. І я, просты, ціхмяны хлапчына, які дома лічыў за вялікі грэх зманіць каму-небудзь старэйшаму,— там, каб падабацца паням, бессаромна хлусіў, заліваў, як кажуць, так, што ў самога вушы вялі. Праўда, большасць гэтай хлусні не сам я выдумаў — узяў з газеты ды з таго, што расказвалі Залонскі і Ягашын карэспандэнтам. І пра нямецкія зверствы там, у тыле (яны былі, зверствы, але ж я іх не бачыў). І пра тое, як дзядзька сказаў: «Ідзі, пляменнік, за веру нашу праваслаўную, за цара». І як я поўз між нямецкіх дазораў. (Чорт іх бачыў, гэтыя дазоры!)

— Філіпка! А каб злавіў цябе немец?

— А рагач навошта?

— Рогач? Цо то рогач? — прапішчала нейкая полечка.

— Рагач — гэта вілы.

— Даў бы ў грудзі — не пікнуў бы. Вінтоўку — з рук.

— Ах, які малайчына! Во дзе сіла народная!

— А каб іх многа было, немцаў?

— Што вы, мілая, прычапіліся да хлопца? Вам трэба, каб на дзіця наваліўся цэлы полк?

— Філіпка! А дзе ты будзеш цяпер?

— На фронце.

— Кім?

— Дзеншчыком капітана Залонскага. Калі падрасту — стану унтэр-афіцэрам.

— Брава! Брава!

— А вам не страшна на фронце? — спыталася нейкая маладзенькая «божая кароўка».

Адказалі за мяне:

— Любачка мая! Ён з пекла поўз — не баяўся. А цяпер ён сярод сваіх. Чаго яму баяцца на фронце?

— Калі ў чалавека ёсць вера, месца для страху няма. Хіба не праўду кажу?

— О так, пані.

Толькі адна жанчына, маладая і прыгожая, мяне бянтэжыла. Яна ні пра што не пыталася, але слухала ўважліва, і вочы яе былі сумныя, як у маці, калі праводзілі на вайну бацьку. Між іншым, яна сказала:

— Не еш болей шакаладу. Пакладзі ў кішэню.

Збянтэжыла гэтым папярэджаннем. Знікла мая ўзрушанасць, гаварлівасць, жаданне пакрасавацца перад панамі.

Відаць, я зрабіўся нецікавы, бо пані пачалі патроху вывальвацца з кола, што акружала мяне, як спіцы тыя, калі кола рассыпаецца. Калі асталося іх зусім мала, я сказаў жанчыне з сумнымі вачамі праўду:

— У мяне бацька на фронце. Каб знайсці бацьку...

Відаць, яна зразумела, бо сумна ўздыхнула, паднялася, зашамацеўшы аксамітамі, паклала мяккую пахучую руку мне на галаву, і я сцяўся, сціх ад гэтай простай ласкі.

Зноў папярэдзіла:

— Шакаладу больш не еш.

Пра бацьку нічога не сказала. Але пажадала:

— Няхай паможа табе бог.

Між іншым, бацька мой астаўся жывы; скалечаны, вярнуўся дадому.

Ваяваў ён у тую восень не так далека — пад Рыгай, бліжэй да Піцера. Але газеты тае не бачыў — не да газет было салдату. І ніхто яго не шукаў, хоць усе абяцалі мне знайсці.

Слава — што ап'яненне ад віна. Пакуль п'еш, пакуль шуміць у галаве, адчуваеш сябе ў раі — большага, здаецца, шчасця не трэба. Але ненадоўга гэта. Звычайна хутка надыходзіць пахмелле, баліць галава, пакутуеш ад душэўнай пустэчы. На вайне слава, бадай, самая кароткая. На вайне ўсё кароткае.

Вярнуўшыся з Мінска на фронт, дзён колькі хадзіў я бравым салдацікам, выставіўшы ўперад, як пеўнік, грудзі, любуючыся вайсковай

формай і крыжыкам. Але хутка ўбачыў, што афіцэры і салдаты абыякавыя да славы маёй. Адзін хіба Залонскі ўсё яшчэ падаграваў яе. А Іван Свірыдавіч, хоць павіншаваў, здавалася, больш сардэчна, чым іншыя, пасля пасміхаўся — не з мяне, з камедыі, якую зрабілі генералы і афіцэры з натуральнага ўчынку майго і дзядзькі Цiхана. Распісваючы мой подзвіг, яны напусцілі на людзей яшчэ больш чаду і дурману. Тады я не вельмі разумеў яго словы, можа нават менш разумеў, чым некаторыя вучоныя афіцэрскія размовы, бо гаварыў Галадушка нібы ўсё правільна, а разумець трэба было наадварот; салдаты не дурныя, яны разумел!; не ўсе, вядома, але Іван Свірыдавіч тады яшчэ не прызначаў сваіх гаворак для ўсіх; пятнаццаты год — не семнаццаты. Дайшлі б такія думКі да палявой жандармерыі — адразу трыбунал.

Пайшлі дажджы. У такі час і ў нашых мясцінах хапае сырасці. Але ў тую познюю восень дождж можа паўмесяца ліў штодня. Салдацкія зямлянкі заліло вадой, у траншэях і акопах яе на калена, сценкі, брустверы апаўзлі. Нават з каманднага бліндажа я выліваў дзесяткі вёдзер, гадзінамі працаваў так, што лоб не прасыхаў. Немцам, відаць, было яшчэ горш, бо нашы пазіцыі на ўзвышшы, а іх — у балоце. Можа таму аднойчы раніцой, калі, здавалася, зямлю заліваў сусветны патоп, а салдаты пахаваліся дзе хто мог, немцы знянацку, без артылерыі, атакавалі пазіцыі батальёна, парэзалі калючы дрот і ўскочылі ў акопы першай лініі.

Паны афіцэры яшчэ спалі пасля карцёжнай гульні, калі ўсчалася страляніна. Выскачылі з бліндажа ў кашулях. З пярэдняй лініі панічна беглі салдаты. Залонскі адразу зразумеў, што здарылася. Выхапіў рэвальвер і, лаючыся, пагнаў салдат назад.

Я дагнаў Залонскага і перадаў яму шынель. Пасля ён хваліў мяне за гэта і расказваў як пра новы мой подзвіг: во, маўляў, які малайчына яго дзяншчык!

Атака захапіла, як плынь ракі, і я бег разам з іншымі на першую лінію. Па траншэях, па полі, угрузаючы ў твань. Захлынаўся ад «ура» і дажджу. Чаму бег? Навошта? Без зброі. Бег пакуль, пакуль не ўбачыў перад сабой немца ў рагатай касцы, з якой сцякала вада. У яго быў разяўлены рот. Немец скочыў наперад і лёгка і спрытна, як на вучэнні, праткнуў кінжальным штыком нашага салдата. У жывот. Штык выйшаў збоку ад хлясціка. За якія, можа, два крокі ад гэтага салдата быў я, і бліскучае лязо, што выйшла з яго спіны, нацэлілася на мяне. Я застыў на месцы, малы, бездапаможны. Не ад страху. Ад неспадзяванасці. Помню, што па лязе не пацякла кроў — з яго сцякала ўсё тая ж чыстая нябесная вада. Але салдат узмахнуў

вінтоўкай, выпусціў яе і пачаў валіцца на Спіну. Мабыць, у гэты ж міг нехта з нашых стрэліў у немца, бо той таксама выпуСціў вінтоўку і ўпаў тварам у гразь.

Салдат ляжаў на спіне, і нямецкі штык тырчаў у яго жываце, цяжкі прыклад вінтоўкі дзіўна гайдаўся. Я стаяў над ім. Салдат быў жывы; Ен убачыў мяне і прахрыпеў:

— Браток, выцягні...

Я рвануў вінтоўку, Тады пырснула кроў, Пацякла па шынялі на зямлю, змяшалася з дажджом і гразёю.

— Санітара...— прасіў салдат.

Але я аглух, анямеў. Не чуў ужо ні «ўра», ні стрэлаў, ні шуму дажджу, ні стогнаў і просьбаў параненых. Немец таксама быў яшчэ жывы. Ён стагнаў і таксама аб нечым прасіў — па-свойму, па-нямецку,

Можа быць, што з таго моМанту скончыЛася для мяне рамантыка вайны. І купанне мае ў славе скончылася. Я выкупаўся ў крыві, у гразі, пад асеннім дажджом — у жудасцях вайны. Ладна скроены, чысценькі шынялёк мой ператварыўся ў брудную анучу, І мне ніколькі не шкада было яго. Каб і крыж згубіў, таксама, напэўна, не засмуціўся б.

Атаку адбілі. Але радасц! не было ні ў салдат, ні ў афіцэраў: многа лягло нашых. Падпалкоўнік Шувалаў адразу пасля бою смяртэльна напіўся І, п'яны, плакаў.

Адзін Залонскі, па-ранейшаму стрыманы, спакойны, зрабіўся яшчэ больш дзейны, даваў загады аб умацаванні абароны, аб пахаванш забітых, эвакуацыі раненых, пісаў данясенні, рэляцыі.

У баі асабліва вызначыліся прапаршчык Дакука і радавы Галадушка.

Дакука першы падняў свой узвод, застрэліў нямецкага капітана, які камандаваў атакай, захапіў яго планшэтку. У прапаршчыка не загаілася яшчэ старая рана, а яго зноў паранілі. І зноў ён адмовіўся паехаць у шпіталь. Піў, крывіўся ад болю, ад гарэлкі і... чытаў вершы:

> Но взгляд упал на небо: небо ясно,
> Луна чиста, светла —
> И страх исчез... как часто, как напрасно
> Детей пугает мгла.

Дзіўна: колькі я пасля перачытаў вершаў — і ніводнага не помню... А вось тыя, што чытаў Дакука, дагэтуль помню, хоць тады не разумеў іх. Толькі ў Акадэміі ўжо даведаўся, што больш за ўсё прапаршчык чытаў Блока і Буніна.

Да таго дня іншыя афІцэры, аКрамя хіба Залонскага, ставіліся да Дакукі з насмешкай і паблажлівасцю — я ўсё прыкмячаў,— як

дарослыя да малога, як паны да адукаванага мужыка. З тае атакі адносіны да яго змяніліся, але ўбачыў я гэта пазней, калі сам трохі апрытомнеў ад крывавага відовішча, Усё калечыла душу вясковага хлапчыны ў той дзень, Другім жудасным відовішчам было пахаванне забітых. Пасля артналёту, хавалі хоць па-чалавечы, па-хрысціянску: адпяваў поп, грымеў салют. А тут — пад праліўным дажджом забітых без дамавін апусцілі ў яму, куды наліло вады. Целы патанулі ў жоўтай вадзе, Усплылі шапкі, якія клалі на грудзі забітым. Поп прабубніў колькі хвілін, калі нябожчыкі ляжалі над голымі бярозамі, без кадзіла — яго заліло дажджом, і знік. Не было салюта. Стаялі Залонскі, яшчэ два-тры афіцэры, я ды паўузвода салдат.

Хоць і быў я страшэнна ашаломлены, але ў дзіцячым сэрцы гарэў агеньчык — хацелася ўсім рабіць добрае. У вёсцы, каЛІ паміраў чалавек, усе суседзі рабіліся добрыя, нават тыя, з кім нябожчык сварыўся. А тут жа не адзін чалавек памёр. Даведаўся я, што штабс-капітан рэляцыю на Івана Свірыдавіча напісаў — да вышэйшай узнагароды,— і захацелася парадаваць салдата, бо яшчэ не зусім разведаўся чад і дым у галоўцы маёй. Пайшоў сказаў Івану Свірыдавічу — а ён у адказ мацюком, як абухам. Ляжаў ён у зямлянцы на мокрай саломе, накрыўшы твар мокрым шынялём. Калаціла яго, курчыла. Захварэў чалавек. У шпіталь трэба. Але ў шпіталь яго не завезлі. Пазней даведаўся я, што гэта за хвароба. У ісонтратацы Іван Свірыдавіч закалоў двух немцаў; калі не хочаш, каб цябе нанізалі на штык, мусіш калоць, вайна — машына бязлітасная. Ваяваў чалавек больш за год, бачыў усё — і атакі, і забітых. Але тое, што сам ён, сваімі рукамі, вось гэтак — штыком, забіў людзей, давяло, магчыма, да самай цяжкай хваробы; два дні выварочвала вантробы, ні піць, ні есці не мог, знясілеў, ажно хістаўся, пазелянеў, злосны зрабіўся.

Між іншым, узнагарод за той бой нікому не далі — ні афіцэрам, ні салдатам, хоць там быў сапраўдны гераізм. Ды ў вышэйшага камандавання свае меркаванні. Некаму нешта не спадабалася, дарэмна Залонскі распісваў подзвіг батальёна.

Кончылася маё любаванне славай — апанавалі роспач і смутак, такі смутак, што часам хах;елася скуголіць па-сабачы. Жыццё дома, беднае, у непасільнай працы, здавалася цяпер раем. Ніколі я не казаў такіх ласкавых слоў маці, дзядзьку, бабулі, братам і сестрам, родным і стрыечным. Нават да свайго кульгавага каня звяртаўся я з пяшчотай і прасіў дараваць, што часам у злосці сцябаў яго. Гэта зрабілася маёй малітвай на сон — назваць імёны ўсіх блізкіх. Як мне хацелася да іх! Але — дзіўная рэч — за нейкі месяц франтавога жыцця з'явілася тое, што называецца салдацкай салідарнасцю, душэўнай прысягай — не

богу, не цару, не айчыне — людзям, салдатам. Івану Свірыдавічу. Дзеншчыку камандзіра батальёна маўкліваму дзядзьку Яўмену Косаву. І Залонскаму. Можа нават у першую чаргу яму — капітану. Пакінуць гэтых людзей у акопах, у халодных зямлянках, пад абстрэлам, а самому пайсці ў цёплую хату, на печ — гэта ж здрада! Інакш не назавеш. Калі замерзла балота, але не выпаў яшчэ снег, зямля ляжала чорная і ночы былі цёмныя-цёмныя, я падумаў, што дзядзька Ціхан прыйдзе шукаць мяне. Дзядзька ведае ўсё наваколле, як сваю хату, і, безумоўна, здолее перайсці лінію фронту ў такую ноч. Пераканаў сябе, што абавязкова прыйдзе. Чакаў яго — і меў радасць: так хацелася пабачыць роднага чалавека, даведацца, як яны жывуць там без мяне. Але разам і пакутаваў: што скажу, калі дзядзька запатрабуе, каб я пайшоў з ім дадому? Трохі прыйшоў да раўнавагі, калі ўспомніў словы Івана Свірыдавіча, што няма мне туды, за фронт, дарогі: немцы ж, напэўна, маюць газету са здымкам. Жыла яшчэ дзіцячая наіўнасць, нібы фатаграфія ў газеце так уразаецца кожнаму, хто яе пабачыў, у памяць, што мяне, жывога, адразу ж пазнаюць.

Дзядзька не прыйшоў. Выпаў снег —і я перастаў чакаць яго. (Праз тры гады даведаўся, што дзядзька не мог прыйсці: неўзабаве немцы выслалі ўсе сем'і далей ад фронту, ажно пад Сувалкі.)

Не варта вам расказваць, што такое акопнае жыццё. Якое жыццё! На вайне людзі не жывуць. Яны дзейнічаюць як механізмы, дэталі, вінцікі адной вялікай і страшнай машыны. Толькі тады, калі чалавек выпадае з гэтае машыны, пачынаецца чалавечае жыццё, нават калі апаноўваюць пакуты не меншыя, маральныя і фізічныя — голад, холад, боль. Але за фронтам, за пазіцыямі, чалавек усё-такі жыве. У акопах жа, ды яшчэ зімой — гэта нейкае пячорнае існаванне, дзе людзей мучыць адна думка: як выжыць — ад варожай кулі, ад снарада, які можа заляцець у любы міг, ад холаду, ад вошай, ад прастуды?

Зіма стаяла суровая. Дровы інтэнданцтва не падвозіла, і ў нашым лясным краі салдаты не проста стылі — мерзлі. Удзень паліць у зямлянках забаранялася, каб не дэмаскаваць пазіцыі. Запальвалі, калі цямнела. А дровы — хоць выкручвай іх; секлі навакольныя хмызы, пакуль разгарацца — паўночы праходзіць. У афіцэрскія бліндажы давалі дровы сушэйшыя — з куханных запасаў. Дзяжурылі мы каля печы па чарзе; адну ноч дзядзька Яўмен, другую я — падкідалі паленні, каб паны афіцэры не змерзлі. Калі не было карцёжнай ігры, то капітан Залонскі (тады ён стаў ужо капітанам) позна чытаў. І мяне прымушаў чытаць салдацкія кніжачкі — пра рускіх цароў ды пра герояў, якія жыццё аддавалі за цароў. Часта сам расказваў рускую

гісторыю. Цікава расказваў — заслухаешся. Але выходзіла з яго расказаў, што мудрэйшых, як рускія цары, не было на свеце. Адзін быў неі дурны — Напалеон, ды і таму канец прыйшоў у Расіі. Хітра пан афіцэр даводзіў, што ўсё ў дзяржаве трымаецца на царскім розуме, што, маўляў, без «государя-императора», не вырасла б жыта, не скавалі б плуга, не адлілі б гарматы, і салдаты хадзілі б не як салдаты, а як быдла.

Між іншым, калі я пачаў трохі разбірацца, што да чаго, то прыкмеціў, што ў размовах, у спрэчках у афіцэрскім коле, за выпіўкай, Залонскі зусім не быў такі манархіст (слова гэтае я пачуў ад прапаршчыка Дакукі), як, напрыклад, ротмістр Ягашын. Той кінуўся на Дакуку з рэвальверам, калі прапаршчык выказаўся з насмешкай пра ваенныя здольнасці — не, не цара! — вялікага князя. Чуць разнялі іх, п'яных. Дзіўна, што Залонскі не паварушыўся, калі яны схапіліся за рэвальверы. Мяне спалохаў яго спакой. Я доўга думаў: няўжо капітан так спакойна пыхкаў бы цыгаркай і не зрушыўся б з месца, калі б Ягашын стрэліў у прапаршчыка?

Але нішто не магло пахіснуць мае адданасці каштану, улюбёнасці ў яго. Дабратой прывязаў ён юнага дзеншчыка. Ды і не аднаго мяне. Дзядзька Яўмен таксама любіў начальніка штаба. «Ента — чалавек»,— казаў ён, і я ведаў, што ў маўклівага тамбоўца вышэйшай пахвалы не было. Пра ротмістра ён казаў: «Ента — гаспадзін, ядрона вош, на высокім кані сядзеў бы, каб грашанятак больш меў, зямелькі, значыцца».

І салдаты любілі Залонскага. Іван Свірыдавіч таксама добра выказваўся пра яго яшчэ тады, увосень, калі я толькі перайшоў. Хоць пазней часам пасміхваўся, калі хто хваліў яго благароддзе^

Аднойчы, не помню, з якой нагоды, разгаварыўся я ў салдацкай зямлянцы, захацелася ведамі пахваліцца, і пачаў я «цёмным салдатам» расказваць пра «святое житие» імператараў расійскіх. Безумоўна, блытаў і хлусіў, упэўнены, што ніхто больш за мяне не ведае.

Паслухаў мяне Іван Свірыдавіч, уважліва гэтак паслухаў і пахваліў: «Малайчына, кажа, добрую памяць маеш; каб пайшоў у навуку, падбіў бы панам абцасы». А пасля пачаў сам расказваць пра тое ж — пра тых жа цароў, пра тыя ж паходы і войны. Але вынікала з яго расказу зусім іншае: ні святымі, ні разумнымі цары не былі, не за праўду і веру ваявалі, а дзеля ўзбагачэння свайго і ўсіх паноў. Цары ды паны багацелі, а мужыкі кроў лілі, касцьмі зямлю ўгнойвалі. Моцна гэта мяне ўразіла — што адно і тое ж можна па-рознаму разумець і тлумачыць. У кніжачках і расказах Залонскага было больш прыгажосці, і яна вабіла, гэтая прыгажосць, бо душа юнацкая ўсё яшчэ

прагнула незвычайнага. А ў расказах Івана Свірыдавіча — адчуваў я нутром — праўда, тая праўда, якой не хапала людзям; нездарма салдаты слухалі яго, разявіўшы раты, самі выводзілі гэтую праўду. Іван Свірыдавіч тады яшчэ адкрытых высноў не рабіў: маўляў, я расказаў, а вы думайце, калі маеце галовы. Можа старым салдатам лягчэй было, яны паўздыхаюць, памацюкаюцца і — кожны за сваё. А ў маёй юнацкай галаве доўга немаведама што рабілася! Такая блытаніна, такая каламуць, што сам чорт заблудзіўся б у думках маіх і перажываннях, як у лесе. Сэрца мае разрывалася паміж Іванам Свірыдавічам і Залонскім. Між іншым, добра помню: я паверыў амаль адразу, што мінулыя войны пачыналіся з-за тых прычын, пра якія расказваў Іван Свірыдавіч, а вось што да той вайны, якая забрала ў мяне бацьку, родную хату і самога загнала ў акопы, то чамусьці я доўга ніяк не мог пагадзіцца, нібыта пачалася яна з-за таго, што цары, паны ды буржуі ніяк не маглі падзяліць паміж сабой свет — зямлю, моры, пралівы і людзей. Навошта зямля і як яе дзеляць, гэта я, сялянскі сын, ведаў. Але мае ўяўленне аб вялікім свеце было абмежаванае, і я, напрыклад, ніяк не мог уявіць, што людзі могуць забіваць адзін аднаго з-за вады, ды яшчэ салёнай,— са школы я ведаў, што ў моры вада салёная. Юнацкая душа мая пратэставала, што столькі людзей гіне, льецца столькі крыві з-за такіх нізкіх чалавечых пачуццяў. Гэта ж тольКі непісьменныя сяляне могуць пабіцца за разору ў полі ці за пакос на сенажаці. І то дзядзьку Ціхана абуралі такія бойкі; ён спяшаўся развесці суседзяў, сароміў іх, лаяў, мірыў. А каб цары ды генералы ішлі адзін на аднаго вайной з-за салёнай вады — такая прычына здавалася мне несур'ёзнай. Больш да сэрца была тая прычына, якую чуў з самага пачатку вайны,— што ў немцаў іншы бог, што яны здзекаваліся з нашага бога і цара, хочуць захапіць нашы землі, паставіць над рускімі людзьмі свайго кайзера, перавярнуць усіх у сваю веру. З-за гэтага кожны пойдзе на бой. Той жа Галадушка кінуўся ў атаку і закалоў двух немцаў. Хіба ж кінуўся б ён, каб не верыў ні ў бога, нІ ў цара і быў перакананы, што вайна ідзе з-за нейкіх праліваў на краі свету, якіх ніхто з салдат не бачыў і ніколі не ўбачыць?

Цяжкі гэта быў роздум, пакутлівы. Хацелася пагаварыць яшчэ з кім-небудзь, хто мог бы ўсё прасвятліць. Але хоць Іван Свірыдавіч і не папярэджваў, я даходзіў сваім розумам, што лепш, каб паны афіцэры пра такія размовы не ведалі. Магчыма, што я нават трохі спалохаўся і разгубіўся на нейкі час. Пачаў слухаць Івана Свірыдавіча з недаверам і нават стрымліваўся, каб АімНі раз заглянуць у салдацкую зямлянку. А цягнула туды ў доўгія зімнія вечары, бо афіцэрскія карцёжныя

размовы пра віно, пра жанчын, пра выйгрышы, даваенную службу, якія ў пачатку я слухаў з цікавасцю, пачалі надакучаць — нудна, аднастайна. Толькі і было цікавае — вершы, якія чытаў Дакука.

Залонскі гутарыў са мной удзень, калі мы ставаліся ўдвух — ён выконваў свае штабныя абавязкі, а я — дзеншчыкоўскія. І ўсё больш зачароўваў. Зусім дарагім чалавекам, як бацька, як дзядзька Ціхан, зрабіўся ён мне пасля аднаго выпадку.

Я дзяжурыў з' бліндажы ў халодную ветраную ноч. Удзень была адліга. Валёнкі намоклі, і мае абавязкі пашырыліся: не толькі паліць печ, каб бліндаж не астыў і паны афіцэры не памерзлі, але і прасушыць іх абутак, шкарпэткі. Але ноч мае сваю сілу — я заснуў. Прачнуўся ад крыкаў:

«Гарым, панове!»

У бліндажы было поўна едкага дыму. Афіцэры ў сподніках выскачылі на двор. А я неі разгубіўся: намацаў вядро з вадой, заліў печку.

Выявілася, што спаліў я фетравыя буркі ротмістра Ягашына. Убачыўшы сваю абнову — падарунак маці — абвугленую, ротмістр даў мне такую аплявуху, што з вачэй маіх пасыпаліся зялёныя іскры. Але тут жа пачуў я гнеўны голас Залонскага:

— Што вы робіце, ротмістр? Як вам не сорамна? Ганьба! Я не дазволю біць салдата! Тым больш такога салдата! Якое дзікунства!

— Пайшоў ты!.. — Ягашын вылаяўся груба, па-салдацку,— Слінявы інтэлігент! Смярдзючы дэмакрат!

Яны моцна схапіліся. Камандзір батальёна ледзь развёў іх. Ягашын у тую ж ноч перабраўся ў ротную афіцэрскую зямлянку, а праз тыдзень перавёўся ў другі полк.

Яны сябравалі — капітан Залонскі і ротмістр. І раптам гэтак пасварыліся! Чуў я пасля ад узводных афіцэраў, што каб гэта не ў акопах, не на вайне, то яны напэўна страляліся б на дуэлі. З-за мяне.

Цяпер, магчыма, цяжка ўявіць, як гэта ўразіла, расчуліла, узрадавала сялянскага хлопца, што яго пан, яго афіцэр гатоў быў страляцца з другім афіцэрам, каб абараніць свайго дзеншчыка.

Я пакляўся сам сабе, што буду адданы капітану да смерці, жыцця не пашкадую за яго. І як пасля стараўся, каб ва ўсім дагадзіць свайму дабрадзею, каб было яму заўсёды цёпла, чыста, утульна! Я гатовы быў у любы момант засланіць яго ад кулі, ад шаблі.

Іван Свірыдавіч не пасміхваўся, як звычайна, калі раніцой я расказваў салдатам пра гэтае здарэнне, а слухаў уважліва, сур'ёзна і распытваў, як хто з афіцэраў лаяўся, якімі словамі, асабліва зацікавіла яго, што Залонскі сказаў: «Мінуў той час, калі салдата білі»,— і яшчэ: «Не забывайце, ротмістр, што вы ў акопах».

Іван Свірыдавіч так адазваўся на гэтыя словы: «Разумеюць паны афіцэры. Глядзі, можа з каторага людзі будуць».

Многа было на фронце падзей розных — баёў, разведак, смерцяў, салдацкай бяды, дасціпных жартаў. Каб пра ўсё расказаць, трэба не дзень, а тыдзень сядзець каля гэтага вогнішча. Я раскажу толькі пра тыя падзеі, што найбольш уразілі мяне, назаўсёды пакінулі след у маёй мяккай тады, як гліна, юнацкай душы, і што былі звязаны з гэтымі двума чалавекамі — Залонскім і Галадушкам, якія па-рознаму ўплывалі на мяне, па-рознаму вучылі.

Вясной шаснаццатага года, пасля нашага няўдалага наступлення, падпалкоўніка Шувалава забралі і камандзірам батальёна прызначылі Залонскага. Мне здалося, што ён не вельмі ўзрадаваўся такому павышэнню, бо на віншаванні афіцэраў адказваў: «Я штабіст, Панове. Штабіст».

Неўзабаве капітан захварэў на экзему.

У тую вайну гэта была вельмі пашыраная хвароба; лекары казалі — ад акопнай сырасці, а прапаршчык Дакука даводзіў, што экзема — нервовае захворванне. Афіцэры гэтаму не хацелі верыць, лічылі, што, маўляў, слабыя нервы — прыкмета баязлівасці. А ў боязі смерці прызнаваўся толькі Дакука. Магчыма, за гэта яго не любілі, што ён часта казаў: «Усе мы дрыжым за сваё жыццё, бо даражэй за яго нічога ў нас няма. А бясстрашных герояў мы іграем. Як акцёры. Адны гэта робяць таленавіта, другія — бяздарна. Я бяздарны акцёр, Панове. Я не ўмею іграць героя».

Асабліва не падабаліся такія размовы Ягашыну.

Той крычаў: «А гасудар-бацюшка? А вера і айчына вам не даражэй за жыццё, прапаршчык?» Дакука бляднеў і адказваў дзіўна: «Я ідэаліст, ротмістр. Для мяне — усё іншае, самае высокае, існуе да таго часу, пакуль існую я. Дарэмна вы мяне лаеце марксістам, марксісты — матэрыялісты. Я — ідэаліст». Са здзіўляючай здольнасцю запамінаў я тады словы, самыя адмысловыя, вучоныя. Але сэнс многіх афіцэрскіх размоў зразумеў значна пазней, пасля рэвалюцыі, калі вучыўся на курсах чырвоных камандзіраў.

Выкарыстаўшы сваю хваробу, Залонскі папрасіўся ў адпачынак. Паехаў дадому. Лепш, як дома, нідзе франтавік не адпачне, не палечыцца. Дзеншчыка ўзяў з сабой. Не толькі дзеля сябе, каб усюды — у дарозе, дома — мець служку, але і каб узнагародзіць мяне за адданасць.

Сапраўды, паездка была — найвялікшай і самай прыемнай узнагародай. Я атрымліваў магчымасць пабачыць свет, іншае жыццё.

Бо што я дагэтуль бачыў, акрамя вёскі свае ды акопаў, калі не лічыць кароткай, як сон, паездкі ў Мінск па Георгія?

Праўда, дарога была недалёкая — у Харкаўскую губерню, пад Сумы.

Ад Мінска капітан ехаў у вагоне першага класа, у шыкоўным купэ, дзе ручкі зіхацелі, як; залатыя. Мяне прымасціў у гэтым жа вагоне, у цесным правадніковым катуху. Між іншым, сусед Залонскага па купэ, сівы палкоўнік, таксама вёз свайго дзеншчыка, але яго служка, гэтакі ж, як сам палкоўнік, стары вусаты дзядзька, ехаў у салдацкім вагоне і прыходзіў выконваць даручэнні на вялікіх супынках. Я ж увесь час быў пад рукой. Падавай панам афіцэрам на столік — выставіў пляшку каньяку, добрую закусь, якую капітан купіў у Мінску. Шчодрасць капітанава была даспадобы старому палкоўніку. Мабыць, Залонскі расказваў яму пра мяне, бо, калі я ўвайшоў у купэ, палкоўнік сказаў: «Вы знайшлі скарб, каштан. А ты, хлопча, у асобе Усевалада Аляксандравіча маеш бацьку роднага. Шануй яго. Гэта залаты чалавек, гонар арміі рускай».— Каньяк зрабіў палкоўніка шчодрым на пахвалы. «Рады старацца, ваша благароддзе,!» — крыкнуў я на ўвесь вагон і гатовы быў са скуры выскачыць, каб дагадзіць панам афіцэрам.

У Гомелі цягнік стаяў каля гадзіны. Я атрымаў дазвол пагуляць па вакзале і... упершыню ўбачыў вайну з іншага боку — як больш шырокае народнае гора.

На мінскім вакзале панавала армія дзеючая, баявая, і ўвесь лад нагадваў там прыфрантавую абстаноўку — як, напрыклад, у штабе дывізіі, у мястэчку, куды я часам ездзіў з рознымі даручэннямі.

На фронце параненых бачыш адразу пасля атакі ці артналёту, а пасля іх вывозяць. А ў Гомелі на вакзале я ўбачыў безліч інвалідаў, калек, на мыліцах, перавязаных. Людзі гэтыя, ды і здаровыя салдаты, паводзілі сябе зусім інакш, чым на фронце і ў Мінску,— не выцягваліся так перад афіцэрамі, не казыралі, смела крычалі, лаяліся, многія былі п'яныя, пілі і елі тут жа на лаўках, доле. Невядома з-за чаго тоўсты чыгуначны жандар прычапіўся да маладога салдата і, здаецца, хацеў яго павесці некуды, бо трымаў за локаць. Але іх тут жа абкружылі салдаты. Пачуліся воклічы: «Што яму трэба ад салдата? Медаль хоча зарабіць? На перадавой пакажы свой гераізм, жандарская морда! Адгадаваў ражку!»

Жандар выхапіў свісток, каб узняць трывогу, паклікаць на помач. Але нехта за спіной у яго кляцнуў затворам вінтоўкі, і рука жандарская са свістком павісла ў паветры. Ён адпусціў салдата і, смешна перакульваючыся, падтрымліваючы шаблю, пабег па зале.

«Айда, браток, у эшалон! Там яны не пасмеюць шукаць»,— і ўся група салдат ураз рассыпалася, злілася з натоўпам.

Здарэнне гэтае зрабіла на мяне дзіўнае ўражанне — дваістае, як шмат што іншае. Меў ужо я ў той час даволі моцнае пачуццё салдацкай салідарнасці, а таму не мог не захапіцца смеласцю незнаемых салдат. Але, прывучаны да вайсковага парадку, навучаны павазе да старэйшых па чыне, маючы ўжо грунтоўнае ўяўленне аб тым, што такое армейская дысцыпліна, што ўся сіла войска — у ёй, у дысцыпліне, я спалохаўся: што ж тады можа здарыцца, калі на перадавой салдаты вось так перастануць падпарадкоўвацца афіцэрам? Не стрымаеш жа фронту, і немцы перамогуць нас, заваююць Расію. Разам з тым успомніліся некаторыя словы Івана Свірыдавіча аб тым, як жыве народ, што ён думае пра вайну. Дзіўна: Галадушка нікуды не выязджаў з перадавой, нават у штаб дывізіі яго не пасылалх, а усе ведаў — як жывуць людзі, пра што думаюць.

На прывакзальнай плошчы да мяне нясмела падышлі дзве дзяўчынкі ў лахманах. Старэйшая вяла малую за руку, і тая нясмела папрасіла:

— Дзядзечка, дай капеечку ці сухарык.

Можна было засмяяцца, што мяне, хлапчука, назвалі дзядзькам. Але выгляд дзяўчатак скалануў сэрца. А яшчэ больш кранула і ўсхвалявала, што гаварыла дзяўчынка гэтак жа, як у нашай мясцовасці. Я спытаў — адкуль яны.

— З-пад Слоніма мы, бежанцы. Нас тут многа. Мы ўсю зіму ў палатках жылі. Мерзлі.

За якую мінуту, пакуль мы стаялі, дзяўчынка рас-, казала нямала жахаў, якія выпалі на долю бежанцаў.

Я аддаў ім капейкі, якія меў ад франтавой палучкі, і пануры, з цяжкімі думкамі пацягнуўся ў свой першакласны вагон. На маю радасць ад вясны, ад незвычайнай паездкі, ад палкоўнікавай пахвалы як бы наплыла хмара. Я думаў: добра, што наша сям'я не паехала ў бежанцы. Але тут жа адчуваў сваю віну перад маці, перад малымі. Выходзіла, што я здрадзіў ім, пакінуў адных. Зрабілася сорамна за сваё жыццё. Хоць яно і нялёгкае і небяспечнае — увесь час на перадавой, але ж ніводнага дня я не галадаў так, як гэтыя дзяўчынкі, і апратку ды і абутак добрыя маю. Бач, боты як наглянцаваў.

Пад дзвярамі купэ я пачуў, што паны афіцэры, якія таксама прагульваліся, гавораць пра тое ж — што ўбачылі на вакзале.

— Салдаты разбэшчваюцца ў тыле, пан палкоўнік. На фронце дысцыпліна трымаецца. Блізкасць ворага ўзнімае баявы дух. Я веру ў

рускага салдата, — пачуў я словы Залонскага і ўзбадзёрыўся: мой капітан усё-такі лепшы за ўсіх, бо ён заўсёды за салдат.

— Вы аптыміст, Усевалад Аляксандравіч,— адказаў палкоўнік.— А я вам прызнаюся па шчырасці... Я інспекцірую і тылавыя часці і франтавыя. І мне часам робіцца жудасна, што такая маса — мільёны! — мужыкоў атрымала зброю і навучылася нядрэнна страляць. Гэта ж стыхія!

— Стыхію трэба ўмець накіраваць.

— Дарагі капітан, стыхію лёгка накіраваць тады, калі дзейнічае адна сіла, у адным кірунку,— наша сіла. На жаль, гэта не так. Дзейнічаюць розныя сілы. Я вам скажу па сакрэту: у апошні час раскрыты ў часцях арганізацыі сацыял-дэмакратаў, гасудар вымушаны быў зацвердзіць смяротныя прыгаворы. Вы ведаеце, што лідэр самага ваяўнічага крыла рускай сацыял-дэмакратыі — яны называюць сябе бальшавікамі, не ведаю чаму... дык вось, глаўкаверх, кажучы ваеннай мовай, гэтых бальшавікоў Ленін, які знаходзіцца ў Швейцарыі, выступае — за што б вы думалі? — за паражэнне Расіі ў вайне. Вы можаце ўявіць: рускі чалавек выступае за паражэнне! Мне паказвалі яго артыкул. Напісаны, скажу вам, так, што людзей са слабым патрыятычным зарадам можа абяззброіць зусім.

— Не клюне непісьменны рускі мужык на інтэлігенцкую пісаніну.

— Вы — малады чалавек, капітан, але пяты год вы, безумоўна, помніце. Пра гэта мы не павінны забываць. Але я зайздрошчу вашаму аптымізму. Дай божа, каб у нас больш было такіх франтавікоў. А то часам і афіцэры раскісаюць. Вып'ем за ваш аптымізм, Усевалад Аляксандравіч!

Зноў-такі я добра запомніў словы, але, безумоўна, не ўсё зразумеў. Адно здзівіла. Прозвішча ЛЕНІН я чуў разоў колькі з вуснаў Івана Свірыдавіча. Але гаварыў ён пра Леніна як пра свайго настаўніка, які шмат чаму навучыў яго, рабочага, памог разабрацца ў складаным жыцці. Відаць, я не ўсё чуў ці салдат не ўсё пры мне казаў, але зразумеў я менавіта так, што Ленін — яго, Галадушкаў, асабіста знаёмы вучоны чалавек, разумны і добры, які без карысці для сябе перадаваў свае веды простаму рабочаму, як, да прыкладу, дзядзька Ціхан вучыў мяне гаспадарыць ці як вучыць капітан Залонскі армейскай службе ды іншай мудрасці. І раптам ад палкоўніка даведваюся, што Ленін не проста знаёмы Івана Свірыдавіча, што ён галоўны, як бы галоўнакамандуючы нейкай невядомай мне арміі бальшавікоў і што палкоўнік баіцца і гэтай арміі і самога Леніна, хоць і жыве той недзе далёка ў чужой краіне. (Пра Швейцарыю я ад

афіцэраў чуў неаднойчы, ведаў, што яна не ваюе і называецца нейтральнай, што яна багатая і прыгожая.)

Нечаканае адкрыццё гэта яшчэ больш пераблытала думкі ў маёй галаве, у якой і без таго была каша. Перайначылася ўсё мае ўяўленне пра Івана Свірыдавіча. Быў проста добры, гаваркі, пісьменны салдат, які шмат ведаў і цікава ўмеў расказаць, за гэта яго любілі іншыя салдаты, і я цягнуўся да яго — свой чалавек, бо які б добры ні быў Залонскі, але ён пан, з ім ніколі мне не быць роўным. А такім, як Галадушка,— рабочым — я таксама магу стаць, абы захацеў ды не ленаваўся. А тут раптам, пасля таго, што пачуў я ад палкоўніка, Іван Свірыдавіч ператварыўся ў маім уяўленні ў нейкую загадкавую таямнічую асобу, Калі ён ведае Леніна і вучыўся ў яго, як казаў (а на хлуса ён не падобны), то, напэўна, і сам ён бальшавік.

Мяне разрывала ад цікаўнасці даведацца, што гэта за людзі — бальшавікі. Але ў каго спытаеш у вагоне? Па тым, як гаварылі паны афіцэры, я добра ўцяміў: у іх пра гэта не запытаеш, тым больш, што пачуў я іх размову за дзвярамі — нібы падслухоўваючы. Значыцца, прыйдзецца чакаць, пакуль вернемся ў батальён, бо спытаць можна толькі ў Івана Свірыдавіча,— адзін ён растлумачыць папраўдзе. Але і ён як бы аддаліўся ад мяне ў сваю таямнічасць: спалохала думка, што калі Ленін, настаўнік яго, хоча паражэння Расіі ў вайне, то Іван Свірыдавіч таксама хоча гэтага і робіць нешта такое, каб немцы перамаглі наш батальён, полк, армію. Але Іван Свірыдавіч і здрада — ніяк не сумяшчаліся. Хіба кінуўся б такі салдат першы ў атаку, як кінуўся Галадушка, калі немцы атакавалі нашы пазіцыі? Узводны Дакука лічыць Галадушку лепшым салдатам і хадайнічаў колькі разоў, каб прысвоіць яму унтэрафіцэрскае званне, даць аддзяленне. Здзіўляўся ўзводны, здзіўляліся я і салдаты, што прадстаўленне яго не ідзе далей штаба палка. Няўжо Залонскі, такі разумны, адукаваны, не хоча мець разумнага унтэр-афіцэра? Ці можа ў штабе ведаюць пра Івана Свірыдавіча нешта такое, чаго не ведае Дакука, не ведаю я?

Адным словам, Гомельскі вакзал і афіцэрская размова прымусілі мяне моцна задумацца над тым, што пачуў, убачыў, што робіцца навокал. Дзесяткі пытанняў, што варожыя салдаты, наступал! на мяне з усіх бакоў. І адказаў на іх не было. Я стаяў перад гэтым страшным войскам абяззброены, адзінокі, няўмелы.

Прыехалі раніцой. Паспешліва выходзячы з вагона, бо цягнік на той станцыі спыніўся мінут на пяць, не больш, капітан узлавана прабурчаў: «Свіння». Я здагадаўся, што ён вылаяў палкоўніка, які не прачнуўся, каб развітацца.

На маленькім пероне пад акацыямі капітана страчалі жонка і бацька. Пані Антаніну Сяргееўну я адразу пазнаў, бо штодня глядзеў на яе картачку, якая стаяла на століку ў бліндажы. І там я любаваўся яе прыгажосцю. Але жывая яна была яшчэ прыгажэйшая. Маленькая, з адмысловым стажком светлых валасоў, у бялюткім, як снег, плацці, у блакітнай, як неба, касынцы на шыі, з букецікам ярка-чырвоных кветаК у руцэ, пані здалася мне казачнай прынцэсай. Вельмі падабалася, што яна першая кінулася да мужа, абняла І заплакала гэтак, як плакал! нашы вясковыя бабы. Як бы разгублены, капітан прасіў: «Супакойся, Тоня, я прашу цябе. Бачыш,— я жывы, здаровы. Супакойся». А стары пан з абвіслымі вусамі стаяў збоку і паблажліва ўсміхаўся, чакаючы сваё чаргі, каб абняць сына. Дачакаўся, абняў — пацалаваў у дзве шчакі, у лоб, паляпаў па плячах. Сказаў:

— Дужа рады, сынку.

Нарэшце пані ўбачыла мяне.

— Сева! А гэта твой добры ангел, пра якога ты пісаў? — і дадала нешта па-французску. Падышла да мяне, мяккай духмянай ручкай правяла па шчацэ, нібы праверыла, ці не расце ў мяне часам барада. Сказала: — Прелесть.

Я ашалеў ад нечаканасці, ад разгубленасці і грымнуў:

— Рады старацца, ваша благароддзе!

Пані Антаніна весела засмяялася. А стары пан пахваліў:

— Малайчына! Герой! Дзякую за службу, хлопча! — І працягнуў мне руку. Руку мне паны паціскалі толькі аднойчы — калі крыж уручалі. А каб вось так, проста пры сустрэчы — то гэтага не было ніколі, і я зусім разгубіўся і ў той жа час расчуліўся і ўзрадаваўся. А тут яшчэ капітан сказаў:

— Трэба табе, Пііп, вучыцца цалаваць дамам руК1. Выходзіш, брат, у свет.

— Ця навука не така складана,— адказаў яго бацька з усмешкай.

Мой капітан і яго жонка размаўлялі па-руску ці па-французску. А стары пан — па-ўкраінску; пасля я пачуў, што з сынам ён гаворыць па-польску і па-руску, а з усімі іншымі — толькі па-ўкраінску.

Трохі паводдаль на пероне стаялі станцыйныя служачыя. Калі павіталіся сваякі, начальнік станцыі сказаў кароткую прамову, павіншаваў «доблестного защитника царя и отечества» з вяртаннем у родны кут, пажадаў шчасліва адпачыць і запэўніў, што яны, чыгуначнікі, робяць «усё, каб воіны праваслаўныя не адчувалі патрэбы ні ў хлебе надзённым, ні ў снарадах баявых на галовы супастатаў нашых, германскіх варвараў».

Я падумаў, што з хлебам яшчэ як-ніяк абыходзіліся, хоць зімой паёк падрэзалі, а вось снарадаў не хапае, інтэндантаў клянуць не толькі салдаты, але і афіцэры.

Гімназістка паднесла капітану кветкі.

За станцыйным плотам стаялі цікаўныя — дзеці, сяляне. Там жа панскія коні: стаеннік пад сядлом, другі — запрэжаны ў двухколку, і конь-працаўнік у аглоблях звычайнай арбы, на якой снапы возяць.

Капітан павітаўся з фурманам — нізкарослым дзядком у доўгай кашулі, у саламяным капелюшы; абняў старога, паляпаў па плячы, сказаў, што дужа рады бачыць дзядулю Антона бадзёрым і што, маўляў, той нікольні не пастарэў.

— Спасыбі, паночку. А чаго ж я маю старыцца ў такого гарного пана, як бацько ваш? — адказаў стары з пашанай, сур'ёзна, але мне чамусьці пачуўся ў яго словах смутак.

Стары пан спрытна ўскочыў у сядло, весела сказаў: «Даганяйце!» — і паімчаў па пыльнай дарозе ўздоўж чыгункі. Маладыя палюбаваліся ўслед яму.

— Які герой папа!

— О, ён нястомны! Аддаў у салдаты ўпраўляючага заводам, злавіў, што той краў,— і цяпер сам, адзін, займаецца і маёнткам і заводам. Ад цямна да цямна працуе.

Капітан і жонка селі ў двухколку, на мяккае сядзенне, засланае кwяцістым дыванком. Пані ўздзела плашчык, нацягнула пальчаткі і ўпэўнена ўзяла ў рукі лейцы. У такой ваяўнічай паставе, кіруючы цудоўным канём, яна выглядала, здалося мне, яшчэ больш казачнай. Я прымасціўся на возе наміж чамаданамі, і мы з дзедам няспешліва выехалі з мястэчка.

Ранак быў сонечны. Звінелі жаўранкі. Квітнела ўсё навокал. Збажына па калена вырасла, а там у нас, за Мінскам, яшчэ толькі сеялі: з акна вагона бачыў я жанчын і такіх хлопцаў, як я, што ішлі за сохамі, баронамі. З цягніка здавалася — худыя коні і людзі хістаюцца ад ветру. Тут, на Украіне, усё было лепшае — коні, пасевы. Так, прынамсі, здалося спачатку. Дзед маўчаў, быццам і не было мяне на возе. Здзіўляла мяне такое ўпартае маўчанне, але не вельмі трывожыла: забыўшыся на свае начныя пакутлівыя разважанні, на фронт і на ўсё на свеце, я думаў пра пані — зачаравала яна мае сэрца; думаў з юнацкай узнёсласцю, з незнаемым да таго хваляваннем. Вельмі хацелася дзеля яе зрабіць нешта незвычайнае, гераічнае — уратаваць, напрыклад, ад смерці капітана ці самую яе. Аднак скрып арбы, спевы птушак, аднастайнасць стэпу закалыхалі, і я заснуў. І... сніў пані, праўда, не вельмі прыгожа. Прачнуўся ад сораму.

Мабыць, пакуль я спаў, падслепаваты дзед, сам са спіны падобны на падлетка, разгледзеў, што вязе не нізкарослага салдата, а хлапчука. Убачыў, што я расплюшчыў вочы, зацікаўлена спытаў:

— А ты відкіля, сынку? Кількі ж років тобі?

Я расказаў пра сябе, як трапіў на фронт. Дзед слухаў, ківаў галавою, уздыхаў:

— А божэ! Шчо наробыла ця проклята війна.

Першы тыдзень жыў я ў стэпавым маёнтку як у раі.

Начаваў у садзе, у летнім флігелі, які прызначаўся — так мне растлумачылі — для гасцей, паноў. А я адзін жыў там. Гэта мяне, дурня, цешыла, напаўняла гонарам: во Піліпок Жменька як жыве — як пан, няхай бы пабачылі вяскоўцы! Кармілі, праўда, на кухні, але вельмі смачна — з панскага стала, казала кухарка. І нічога не прымушалі рабіць. Але гэта мне не падабалася: не быў я ніколі лежабокам, не ўмеў нічога не рабіць, а галоўнае — хацелася прыслужваць свайму дабрадзею лепш, чым на перадавой,— з удзячнасці і... каб часцей бачыць пані. А то я рэдка бачыў яе. Ды і пана свайго. Яны позна ўставалі, калі сяляне ўжо абедалі, і пасля доўгага снедання, на якое прыязджаў з цукровага завода стары пан, скакалі на конях у стэп. Пасля дзён на колькі паехалі ў Харкаў. Без мяне. І гэтая іх аддаленасць усё больш распальвала мае ўяўленне, і пані ўсё больш зачароўвала мяне. Увечары я ўпотай, як злодзей, з кустоў, слухаў, як іграе яна на раялі, прагнуў хоць праз гардзіны на вокнах убачыць яе постаць. А пасля слухаў спевы салаўёў і да раніцы не мог заснуць. Так ва мне, пятнаццацігадовым, абуджаўся мужчына. Цяпер пра гэта смешна ўспамінаць: я пакутаваў ад рэўнасці да Залонскага, што ён адзін заўладаў такой пекнатой. І адначасова раўнаваў да яе — што забрала яна майго капітана; каб не яна, усё было б прасцей, я заўсёды быў бы ў панскіх пакоях, бо па-ранейшаму, як на фронце, прыслужваў бы афіцэру.

На мяне кідалі вока, часам адважваліся зачапіць дзяўчаткі, якія рабілі на кухні, у садзе, на гародзе. Там была сапраўдная прыгажосць, Але я, слуп дубовы, быў абыякавы да гэтых проста адзетых красунь — у іх былі цыпкі на босых нагах, мазолістыя рукі і аблупленыя ад сонца рабацінністыя носікі. Мяне цягнула да паноў. Во якая гэта зараза для незагартаванай юнацкай душы — апынуцца ў панскіх умовах! Жыццё не бачыў навокал. І пра тое жыццё, якое раней бачыў,— да фронту, І ў салдацкіх зямлянках, і ў Гомелі на вакзале, пачаў забываць.

Ды, на шчасце, нядоўга трымаўся ў галаве ружовы туман, сама пані развеяла яго. Сустрэла неяк у садзе. Ласкава павіталася. Назвала

гэтак жа, як дома мяне звалі,— Піліпок. І працягнула залатую пяцёрку.

— Гэта табе, на гасцінец. Купіш нешта.

Не скажу, што быў я абыякавы да грошай. Не. Бядняк, я ведаў ім цану, ведаў, колькі зараблялі бацька і дзядзька, колькі атрымлівалі салдаты, як зберагалі гэтыя капейкі дадому.

Разгублены, ачумелы ад нечаканасці і ад шчасця, што пані так блізка і што так размаўляе, я не ведаў, што рабіць. Але тут жа падумаў, што ніколі не растрачу гэтую пяцёрку, буду заўсёды насіць пры сабе як дарагі падарунак; таму ўзяў яе, непаслухмяным языком прашаптаўшы падзяку.

Яна неяк інакш, чым звычайна, неяк нервова і непрыгожа засмяялася і спытала:

— Скажы, Піліпок, многа ў вас там сясцёр міласэрных? Усевалад Аляксандравіч ходзіць да іх? Дружыць з якой?

Што агнём апаліла мяне. Афіцэры часам запрашалі да сябе міласэрных сясцёр, пілі і цалаваліся з імі. І капітан зрэдку ездзіў у мястэчка; я падоўгу на холадзе вартаваў коней каля аднаго дома. У дом той мяне ніколі не запрашалі, але я здагадваўся, што там паны афіцэры весяляцца.

Але я адразу сцяміў, якую здраду пані захацела купіць за залатоўку, І зрабілася да болю, да слёз брыдка і крыўдна: як яна пра мяне думае!

— Не! Не! Не! — амаль закрычаў я.

Яна, безумоўна, зразумела гэтае рашучае не — што муж яе нікога не мае, святым жыве, святым ваюе за цара і веру, і, задаволена засмяяўшыся, паківала мне пальчыкам:

— О, я ведаю: вы, мужчыны, салідарныя. А ты верны раб свайго пана.

Падыходзіла да мяне казачная прынцэса, адыходзіла звычайная баба — хітрая, помслівая, злосная, і, пэўна, сама здрадлівая, калі так хацела пераканацца ў мужавай здрадзе.

Абразіла яна мяне моцна. Двойчы. Што купіць хацела і што рабом назвала. Пяцёрка пякла далоню. Хацелася шпурнуць яе ўслед пані: на, падавіся сваёй пяцёркай! Але стрымала сялянская разважлівасць: лепш аддам грошы бежанцу ці інваліду, калі назад будзем ехаць. Няхай хто парадуецца. І — помню — прашаптаў, як клятву:

— А рабом вашым я не буду! Не! Ніколі!

З таго дня пачаў я бачыць у тым раі іншае жыццё. Больш не хацелася ўжо ні ў панскія пакоі, ні гуляць па садзе, чакаючы, калі

выйдзе маладая пані, падорыць усмешку. Пачаў я блукаць у наваколлі. У вёску пайшоў — да сялян, да «парубкаў», а «парубкі» тыя — мае равеснікі, бо ўсе старэйшыя на вайне. Пазнаёміўся я з імі дзіўна. Калі першы раз прыйшоў, убачыла мяне нейкая цётка і загаласіла на ўсё сяло: «А дзітка моя рідна!». Не сцяміўшы што да чаго, я разгубіўся і паспяшаўся хутчэй прайсці міма. За вішнёвымі садамі на поплаве дагнаў мяне хлопец.

— Не хадзі тут, — кажа.

Я нават натапырыўся.

— Чаму мне нельга хадзіць тут?

— Майго брата на вайне забілі. Маці як убачыць салдата — цэлы дзень галосіць.

А на другі дзень гэты ж хлапчына — Грыцук — прыйшоў у маёнтак і запрасіў да сябе: маці захацела мяне пабачыць.

Частавала малаком, тварагом, ціха плакала і разоў колькі прымусіла расказваць, чаму я, такі малы, апынуўся ў войску. Слухала і — адчуваў я — не зусім верыла. Не сцяміў я адразу, чаму жанчына дзіўна паводзіла сябе. Грыцук растлумачыў пасля: падумалася маці, што пачалі ўжо браць на вайну такіх, як я, і вельмі спалохалася, што і малодшага сына забяруць. Зразумеў я страх яе, вярнуўся назад у хату і доўга пераконваў няшчасную маці, што такіх, як я і Грыцук, не бяруць, што я выпадкова апынуўся на фронце. Але з расказу, напэўна, вынікала, што ўсё-такі затрымалі мяне паны афіцэры, не пусцілі дадому, і таму перакананне мае не супакойвала, а яшчэ больш наганяла на жанчыну страху. Не верыла яна панам:

— Пагубляць паны дзіток малых.

Грыцук працаваў у гаспадарцы гэтак жа, як год назад рабіў я, толькі што каня ў іх не было: аралі, вазілі на валах. Я з радасцю ўзяўся памагаць свайму равесніку і праз гэта пасябраваў з іншымі «парубкамі». Збіраліся ўвечары за сялом каля лазовага плятня, які адгароджваў выган для жывёлы ад пасеваў. Сядзелі на пыльнай траве, дзе пахла рамонкамі, крапівой, гноем, малаком, і падоўгу гаварылі пра вайну. Безумоўна, я быў у цэнтры ўвагі. Мяне слухалі, і я, грэшны, пачаў нават злоўжываць — мяшаць праўду з маной. Расказваў пра тое, што чуў ад афіцэраў, ад салдат, так, нібы сам быў удзельнікам гэтых падзей. Але, каб надаць праўдзівасць сваім учынкам, я мусіў выдумляць як мага большы гераізм, каб прыпісаць яго капітану Залонскаму.

Помню, учынак аднаго падпалкоўніка і яго ад'ютанта, пра які афіцэры чыталі ў газеце і, відаць, не вельмі верылі — пасміхваліся, я прысвоіў Залонскаму і сабе. Нібыта ехалі мы ўдваіх са штаба дывізіі і наскочылі на нямецкую кавалерыйскую разведку. Нас двое, іх

дзевяць, але мы не разгубіліся. Капітан выхапіў шаблю і тут жа засек нямецкага афіцэра, я праткнуў пікай улана, астатнія, як зайцы, кінуліся ўцякаць, але мы дагналі і яшчэ траіх прыкончылі, астатніх узялі ў палон. А ў мяне ніколі не было ні пікі, ні шаблі. Я ўмеў страляць толькі з вінтоўкі і нагана — навучыў Залонскі.

Знайшоўся-такі адзін разумны хлопец, які спытаў, паслухаўшы маю хлусню:

— Чаму ж табе другога Георгія не далі? За такі ўчынак! Вунь дзядзька Підсуха аднаго германца злавіў, і то яму далі і водпуск і Георгія.

Я пачырванеў у цемры, злоўлены за язык, але хлопец сам падказаў мне, як маніць далей:

— А нам завошта па цэлым месяцы водпуску далі? І ўзнагароды будуць! Не ўсё адразу.

Паверылі.

Той жа парубак, здаецца, Паўло яго імя, неяк сказаў:

— Дзіўна ты гаворыш, маскаль. Не так, як другія маскалі.

Я ўспомніў словы прапаршчыка Дакукі і сказаў, што я не маскаль, я — беларус. Хлопцы з таго ўкраінскага сяла ў шаснаццатым годзе нічога не чулі пра беларусаў.

Упарты Паўло запярэчыў — маўляў, няма такога народу; ён тры гады хадзіў у школу, пра многія народы чуў і чытаў, а пра беларусаў ні ў адной кніжцы не напісана.

А мне ўпершыню вельмі ж спадабалася далека ад родных мясцін быць прадстаўніком не сяла свайго, не воласці, а цэлага народу. І я з такой жа ўпартасцю, як Паўло, даводзіў, што ёсць такі народ. Доўга спрачаліся. Безумоўна, ні ён, ні я не мелі ніякіх доказаў, я нават не здагадаўся прывесці ў доказ мову сваю, не падобную ні на ўкраінскую, ні на рускую. Відаць, іншых таксама зацікавіла наша спрэчка, бо нехта прапанаваў пайсці да Багдана Арцёмавіча, каб высветліць — ёсць такі народ ці няма.

Я падумаў, што Багдан Арцёмавіч — настаўнік. Ажно не: звычайны селянін, як усе іншыя, стары, з казацкімі вусамі, у палатнянай кашулі. Мазанка яго меншая за іншыя, але лепш пабелена.

— Дужэ вчоны дзід,—растлумачылі мне хлопцы. І, казалі, да вучонасці такой сам дайшоў, бо грошай на вучэнне ні бацькі яго, ні сам ён ніколі не мелі. Бядняк з беднякоў. Такі вучоны, што сам стары Залонскі баіцца яго, сам прыязджае часам адведаць, і яны моцна спрачаюцца. Нават прыстаў баіцца Багдана Арцёмавіча, бо ніхто не ведае так законы, як ён. Нездарма ў маладосці яго колькі разоў садзілі ў турму. Цяпер таксама часам пагражагоць турмой, расказвалі

хлопцы, але баяцца — стары ўжо Багдан Арцёмавіч, і людзі яго любяць, шануюць, могуць узбунтавацца, не дадуцьукрыўду такога чалавека.

То можаце ўявіць мой нацыянальны гонар, калі такі паважаны дзідусь пацвердзіў:

— Е, хлопцы, такі народ. Найблішчы сусід наш і крыўны брат. З відного кораня мы — рускі, украінці, білорусы — як бы від маты рідноі. Ходыв я по зэмлі вашой. Дужэ ж бідны твой народ, хлопчэ, біднішы, ніж мы, украінці. Зэмлі пусты, а дэ ўрадлівы — паны захапілы.

Горка мне зрабілася за беднасць майго народу і адначасова радасна, што ведаюць адукаваныя людзі пра яго. Дакука панам афіцэрам даводзіў, што я — беларус, і гэты дзед ведае, дзе і як мы жывём.

Багдан Арцёмавіч зацікавіўся мною, доўга распытваў, адкуль я, хто бацькі і як трапіў да войска. Пра маладога Залонскага сказаў:

— Калі гімназістам быў, то часта заглядаў у гэтую хаціну. Любіў паслухаць старога, Багдана. Афіцэрам стаў — заганарыўся ці баіцца...

Мне зрабілася трохі крыўдна за капітана: не падобны ён на ганарыстага чалавека, і не баязлівец. Я сказаў, што Усевалад Аляксандравіч добры, салдат не крыўдзіць. Усміхнуўся стары:

— Залонскія ўсе добрыя, народнЫ. Дзед іх першы вызваліў нас ад паншчыны. Але каму ад гэтага лепш стала? Во пра што я многа думаў.

Пагаварыўшы, Багдан Арцёмавіч начапіў акуляры на матузку і пад паветкай, пры святле ліхтара «лятучая мыш», пачаў чытаць нам вершы. Мяне спачатку здзівіла: такі стары, а забаўляецца вершамі, як прапаршчык Дакука.

Багдан Арцёмавіч трымаў кніжку, але чытаў па памяці — сапраўды, як Дакука. Толькі вершы былі іншыя. Упершыню я пачуў Кабзара. Ды не, не ўпершыню. Чуў на фронце, як салдаты спявалі «Рэвэ та стогнэ Дніпр шырокі». А там, пад паветкай, у чэрвеньскую ноч, калі з гародаў пахла канаплямі і укропам, даведаўся я, што песню гэтую напісаў Тарас Шаўчэнка. Нібы добрым плугам прааралі глыбокія барозны ў маёй гарачай галаве словы нязвыклай, але зразумелай мовы.

І не в однім отім селі,
А скрізь на славній Украіні
Людей у ярма запрягли
Паны лукаві... Гинуть! Гинуть!..

Моцна ўразілі гэтыя вершы. Вунь, выходзіць, як вучоныя, пісьменныя людзі пісалі пра сялян і паноў! Ды калі! Калі і дзеда майго,

нябожчыка, яшчэ, напэўна, на свеце не было. А мы сядзелі ў вёсцы і нічога не чулі — цёмныя людзі!

Не ведаю, што дайшло да старога пана: ці тое, як я расказваю пра подзвігі яго сына, ці тое, што я наведваюся да Багдана Арцёмавіча, слухаю Кабзара. Ці можа пан захацеў паказаць мяне людзям — во, маўляў, якія ваююць! — ці адарваць ад кампаніі крамольнага праўдалюба? Але нечакана стары Залонскі праявіў да сынавага дзеншчыка ўвагу, якую не праяўляў усе два тыдні майго жыцця ў маёнтку. Узяў з сабой у паездку на далёкія сенажаці, кіламетраў за трыццаць, у пойму вялікай ракі. Ехалі ў той рысорнай двухколцы, сядзелі побач; спачатку пан сам кіраваў канём, пасля я. Гаварыў пан са мной як з роўным. Расказваў пра землі, пра ўраджай, пра сваю службу ў войску. На нейкі час ён заварожваў мяне, абуджаў гонар і самалюбства. Але раптам, нібы ззаду, услед нам, пачынаў гучаць голас Багдана Арцёмавіча:

А як не бачиш того лиха,
То скрізь здається любо, тихо,
І на Украіні добро.

А я бачыў ліха і ў сябе дома і тут. Бачыў вайну. Успамінаў, як хлопцы казалі, што пан і нават прыстаў баяцца старога самавука: думаў, што я магу зрабіцца такім, як ён, і адчуваў сваю перавагу над панам, усё менш і менш бянтэжыўся ад такога суседства ў двухколцы, усё больш хлусіў, калі пан пра нешта пытаў, але хлусіў не дзеля карыслівасці, не ад жадання паказаць сябе, а плёў лухту проста так — на злосць, блазнуючы. Разумны і хітры пан, безумоўна, здагадваўся, што я «заліваю», але чамусьці не выкрываў мяне, наадварот — заахвочваў.

Залонскі скардзіўся, што не хапае людзей, а таму давялося пачаць сенакос раней, чым трэба; трава магла б яшчэ расці, але пазней, калі сяляне пачнуць сваё сена парадкаваць, цяжка будзе наняць касцоў. Шкадаваў, што няма дагэтуль закону, які прымусіў бы кожнага працаваць на панскім полі, бо з поля гэтага ўсё прадаецца войску — сена, авёс, пшаніца. Пасля ўжо я дапяў, як хітра пан забіваў у маю галаву, як цвік, думку, што калі б не было маёнткаў ды іншых добрых гаспадарак, то армія даўно асталася б без хлеба і фуражу. А без хлеба доўга не павающ — гэта я добра ведаў.

З высокай кручы мы з панам доўга любаваліся зялёным морам сенажацяў, якія разразала стужка ракі, і касцамі. Іх было чалавек дваццаць,. усе ў белым; ішлі яны адзін за адным, як гусіны вырай. Касцамі нельга было не любавацца — у нас я не бачыў, каб так касілі,

бо прастораў такіх не было: на балотах ды хмызняках дваццаць чалавек адзін за адным, наступаючы на пяты, не пойдуць.

А пад'ехалі мы да касцоў, кінулі яны працу, бязладна стоўпіўшыся, — і ўбачыў я старых змарнелых людзей, з бруднымі пацёкамі поту на маршчыністых тварах, у мокрых ад поту сарочках. Ніводнага маладога. На вясёлае панскае прывітанне адказалі нявесела, не ўсе нават знялі з сівых і лысых галоў старыя, як самі яны, саламяныя капелюшы.

Пан пахваліў іх за зробленую працу, і тут жа папрасіў больш сабраць баб ды дзяцей, каб зграбаць сена, пакуль пагода трымаецца. Паабяцаў: на вячэру ставіць піва, гарэлкі і барана ў кацёл. Адзін стары падзякаваў за ўсіх. А другі спытаў:

— Можа, паночку, сынок вам казаў, калі ж гэтая праклятая вайна кончыцца? Ім там відней, на фронце.

Мне здалося, што хітры, вясёлы і знаходлівы пан разгубіўся — не чакаў, пэўна, ад дзядоў такога пытання, ды яшчэ так раптоўна — адразу пры сустрэчы.

— Паб'ём немца — і вайне канец. А немец ужо не той. Вытхнуўся. Сын мой з першага дня на фронце і бачыў іх, немцаў, у пачатку і цяпер. А у нашых слаўных арлоў баявы дух мацнее. Во, гляньце на гэтага хлопца! Яму пятнаццаць гадоў, а ён сам, добраахвотна прыйшоў у нашу армію,— і пан звярнуўся да мяне, упершыню парускy: — А ну, рядовой Жменьков, расскажи честному народу, как вы бьете вильгельмовских вояк.

Не чакаў я, што так павернецца, і захлынуўся ад хвалявання і страху. Што расказаць? Як? Стаяў перад касцамі на санцапёку, глядзеў у іх змарнелыя, худыя барадатыя і безбародыя твары і... лыпаў вачамі, як ягнятка бясслоўнае. Ды раптам словы прарвалі перашкоду, як вада грэблю, і хлынуў паток... Я адразу пачаў з таго подзвігу, якому не верыў сам, не верылі салдаты і нават афіцэры, хоць пра яго пісалі ў газеце. Капітан Залонскі і я, вяртаючыся са штаба, наскочылі на нямецкі раз'езд, нас двое, іх... не дзевяць ужо, дванаццаць...

Хлопцам я расказваў легенду ад юнацкага жадання паказаць сябе: во які я герой! А тут пачаў верзці гэтую лухту на злосць пану, пратэстуючы: раскажу, маўляў, самае неверагоднае, няхай падумаюць, што я хлус, але зразумеюць, што і ўсё іншае, што расказваюць ім пра вайну, таксама хлусня.

Пасылка, як кажуць логікі, была хоць і несвядомая, але правільная: хочаш выкрыць нешта — давядзі да абсурднага перабольшання. Але каб дамагчыся гэтага, трэба мець большы вопыт, дасціпнасць,

спакой. (Вось цяпер бы я расказаў пра той «подзвіг» так, што мяне зразумелі б правільна і старыя і малыя.) А тады я занадта хваляваўся, чырванеў, пыкаў-мыкаў, і маё хваляванне надало неверагоднай гісторыі праўдзівасць. Дзяды паверылі, слухалі сур'ёзна, уважліва.

Пан Залонскі спачатку вельмі здзівіўся — у яго, як кажуць, вочы на лоб палезлі; ён адзін зразумеў, што ўсё хлусня, і спалохаўся, што я магу выставіць ягонага сына ў недарэчным, смешным становішчы. А пасля пан паспакайнеў і пачаў памагаць мне: дзе я казаў не па-руску, а збіваўся на родную мову, ён тлумачыў па-ўкраінску і што-ніщто нават дадаваў, пашыраў — маўляў, яму добра вядома пра гэты сынаў подзвіг.

Вось так, міжволі, я выступіў агітатарам за вайну да пераможнага канца і ўславіў свайго дабрадзея-капітана.

Брыдка і сорамна зрабілася, калі я пераканаўся, што старыя сяляне, кожны з якіх мог бы дзедам маім быць, паверылі мне. Пан пахваліў пры іх:

— Малайчына, Піліп! Не дарэмна табе Георгія далі.

А мне хацелася крыкнуць: «Не верце! Усё я нахлусіў! Усё — ад пачатку да канца!»

Але пан быў хітры, ён спытаў, ці ўмею я касіць. Касіць я ўмеў. Пан узяў косы ад двух самых старэйшых дзядоў, і мы з ім сталі ў рад, прайшлі два доўгія пакосы. Хоць каса была нязвыклая — ручка інакш насаджана, чым у нас, я не адстаў ад старых касцоў, больш таго — «падразаў» пану пяты. Ён зноў пахваліў мяне, пахвалу падтрымалі касцы; яна была заслужаная, а таму прыемная. Аднак ўсё роўна цэлы дзень я саромеўся глянуць у вочы касцам.

Вярнуўшыся з сенажаці, мы пачалі зборы да ад*езду на фронт; мяне загружалі рознымі даручэннямі, і ўсё больш у вячэрні час, таму я ніяк не мог выбрацца ў вёску, каб сустрэцца з хлопцамі. А я цвёрда вырашыў на развітанне сказаць ім усю праўду.

Раней, чым я сам здолеў пайсці да новых сяброў, у маёнтак заглянуў Грыцук і сказаў, што Багдан Арцёмавіч хоча пабачыць мяне. Узрадаваўся я, што патрэбны такому чалавеку!

Як змоўшчыкі, выйшлі мы праз панскі сад у поле і па разорах, робячы немалы круг, хаваючыся ў высокай ужо зялёнай пшаніцы, рушылі да сялянскіх агародаў. Там жа, у полі, я прызнаўся Грыцуку:

— Як мы з капітанам немцаў пасеклі шаблямі ды ў палон узялі — то гэта ўсё няпраўда, схлусІў я.

— А ты думаў — мы такі дурны, шчо відразу і павірылы? Ні.

Крыўдна зрабілася: выходзіць, хлопцы слухаць слухалі, але не верылі, а пасля смяяліся і ўвогуле, відаць, больш не верылі. А шмат

што з таго, што я расказваў,— святая праўда. Сказаў пра гэта свайму новаму сябру. Грыцук заспакоіў:

— Чаму не повірылы? Повірылы. Дэ праўда — то вона відна здалэк.

Напачатку размова са старым вясковым самавукам расчаравала. Ён распытаў пра салдат-украінцаў у нашым батальёне, колькі іх, адкуль яны, старыя ці маладыя, хто пісьменны. А хіба я цікавіўся гэтым? Калі хто трохі цікавіў мяне больш— дык гэта горцы з эскадрона Ягашына, іх дзіўныя буркі, зусім незразумелая мова.

А хахлы, як называлі ў батальёне ўкраінцаў, нічым не розніліся ад усіх іншых салдат. Хіба што трохі інакш размаўлялі. Але я даўно зрабіў адкрыцце: салдаты ўсе гавораць па-свойму — як хто дома гаварыў, так і на фронце. У паноў афіцэраў адна мова — як у кніжках, а смяшней за ўсё гавораць унтэр-афіцэры і фельдфебелі — і не па-панску, і не па-сялянску; з іх і афіцэры смяюцца і салдаты.

Шчыра кажучы, нямнога я мог расказаць Багдану Арцёмавічу пра яго землякоў. І, зноў-такі, адчуў расчараванне, калі ён панрасіў завезці ім падарунак невялічкую кніжку, тыя ж Тарасавы вершы, якія чытаў нам. Хоць вершы моцна ўразілі мяне, але перадаваць іх еалдатам, якім на фронце не да кніжак,— здалося мне дзівацтвам старога цывільнага, мала дасведчанага пра франтавое жыццё. Без энтузіязму ўзяў я кніжачку. Магчыма, што Багдан Арцёмавіч адчуў гэта, бо раптам неяк вельмі даверліва І сур'ёзна панярэдзіў:

— Паетарайся не паказваць яе афіцэрам. Хоць «Кабзар» цяпер і не пад забаронай, але не любяць паны нашага Тараса. Ой, не любяць моцна!

Пасля гэтых слоў сустрэча мая са старым самавукам, размова наша, Тарасавы вершы і кніжка, якую я павінен павезці салдатам, набылі зусім іншы сэнс — таямнічасць, неабходнасць, для ўсіх неабходнасць: для мяне, для салдат, для Грыцука, для іншых хлопцаў і для самога Багдана Арцёмавіча. А калі ён, да таго ж, папрасіў напісаць яму, ды не проста так, а пра некаторыя рэчы замаскаванымі словам! — «каб ваенная цэнзура не чаплялася», я вырас у сваім уяўленні да персоны, без якой наўрад ці абыдзецца чалавецтва.

З такім адчуваннем ехаў я на фронт. Многа разоў мацаў мяшок, дзе сярод падарункаў, якімі шчодра ўзнагародзілі мяне за службу стары пан і маладая пані, і прысмакаў, што наклала кухарка, ляжаў загорнуты ў новую пару бялізны «Кабзар». Я вёз яго як бомбу — з тайным страхам, пра які саромеўся прызнацца самому сабе, і яўнай радасцю, што чалавек, якога баіцца сам пан, даверыў мне такую рэч. Папярэджанне старога зрабіла мяне канспіратарам. Перш чым ад-

даць кніжку каму-небудзь з салдат-украінцаў — каго з іх выбраць? — я расказаў пра ўсё Івану Свірыдавічу. Ён паслухаў і нахмурыўся — спачатку, відаць, не спадабала-

ся яму такая перадача. Папрасіў даць кніжку яму. А дні праз два, дзяжурачы на кухні, паклікаў мяне да калодзежа, каб я паліў на спіну — быў спякотны дзень — і, задаволена фыркаючы, сказаў:

— А дзед твой малайчына. Ведае, што нам трэба. Кніжка правільная. Як песеннік. Гуртам спяваць будзем песні Кабзаровы. Усе — украінцы, рускія, беларусы. Прыходзь — цябе навучым.

Тады ж я спытаў у яго:

— Іван Свірыдавіч, а хто такі Ленін?

— Ленін? А хто табе сказаў пра Леніна?

— Вы ж самі неяк казалі салдатам, што ёсць такі вучоны чалавек.... рабочых вучыць і вас навучыў... А я чуў ад паноў афіцэраў, што ён, хоць і рускі, а хоча, каб немцы разбілі нас.

— Афіцэры гавораць пра Леніна? — здзівіўся і як бы ўзрадаваўся салдат.— Ну, ну, раскажы, што ты чуў,— і павёў далей ад калодзежа, каля якога бясконца снавалі салдаты, з сасняку ў лагчынку павёў, да балота.

Ляглі мы на вільготны мурог. Паслухаў ён, што пачуў я ў вагоне, задумаўся. Доўга думаў. Мне нават здалося — задрамаў. Не, сказаў:

— Цяжка табе, хлопча, зразумець усё адразу. Моцна тваю галаву тлумілі і тлумяць. Але калі ты мне верыш і дружбай нашай даражыш, то ведай: Ленін — лепшы друг такіх, як мы з табой,— рабочых, салдат. Ён вучыць, што гаспадарамі ў краіне павінны быць тыя, хто робіць. А хто робіць на зямлі, хто робіць на заводзе? Фабрыканты, паны? Ці можа цар арэ і сее?

— Не падзеляць,— сказаў я.

— Што не падзеляць?

— Зямлі не падзеляць. І заводаў не падзеляць. На ўсіх не хопіць.

Іван Свірыдавіч засмяяўся і даў мне лёгкую пстрычку па лбе.

— Эх ты, галава яловая! «Не падзеляць!» Сам сабе не верыш. Ну, нічога, калі імкнешся, то зразумееш, што да чаго. Галава ў цябе хоць і яловая, але не пустая. І мазгамі ты ўмееш варушыць.

Лета тое было гарачае. Помніце, цар кінуў у чэрвені мільёны салдат на нямецкія ўмацаванні, але наступленне на заходнім фронце захлынулася крывёю. У афіцэраў панаваў уздым у сувязі з поспехам генерала

Брусілава на поўдні. Нават прапаршчык Дакука рваўся ў бой. Батальён капітана Залонскага паспяхова атакаваў нямецкія пазіцыі, і мы прасунуліся наперад. Між іншым, яшчэ пад вясну нас перакінулі

на другі ўчастак фронту, на поўдзень ад родных маіх мясцін, за Нясвіж, і я не мог больш марыць, што калі-небудзь пераможцам ускочу ў сваю Сакавішчыну, у Ліпуны і вызвалю ад «нямецкіх вандалаў» (о, слоў я нахапаўся!) маці, дзядзьку, бабулю, дзяцей. Увогуле дзіцячыя мары пра подзвігі — каб зрабіць штосьці гераічнае — неяк непрыкметна адступілі; цяпер, як іншыя салдаты, я пачаў думаць пра тое, як бы выжыць у гэтай калатнечы, тольКі салдаты пра гэта разважалі ўголас, а я пакуль што саромеўся — каб не палічылі баязліўцам.

Але наступленне тое акрыліла і мяне. Узброены рэвальверам, ні на крок не адставаў я ад свайго камандзіра, гатовы грудзьмі загарадзіць яго ад кулі і шаблі. І салдаты ў першы дзень ішлі ў атаку дружна, хоць палова іх асталася ляжаць у мяккай высокай траве лагчыны, што раздзяляла нашы і нямецкія пазіцыі і дзе за ўсю вясну не ступілі чалавек ці жывёла.

На трэці дзень контратакавалі немцы і пагналі нас назад, на старыя ўмацаваныя пазіцыі, а пасля — далей. Тады зноў кінулі ў наступленне нас, каб адбіць свае абжытыя акопы. Праз тыдзень такіх баёў з батальёна мала што асталося. Увесь полк адвялі ў тыл на папаўненне. Сярод навабранцаў — бязвусых яшчэ чувашоў і мардвінаў, некаторыя з якіх выглядалі больш дзецьмі, чым я, асабліва тыя, хто дрэнна гаварыў па-руску, і барадатых суровых тамбоўцаў, запасу трэцяй катэгорыі,— апынулася некалькі маскоўскіх рабочых. Яны адразу вылучаліся сваім выглядам, паводзінамі. Пасля я даведаўся, што на фронт іх паслалі на пакаранне за тое, што дрэнна паводзілі сябе на заводзе. «Дрэнна паводзілі» для мяне тады значыла — не хацелі працаваць. А я не любіў гультаёў, таму паставіўся да гэтых людзей падазрона.

Залонскі, прачытаўшы сакрэтны пакет, вылаяўся і сказаў незразумелыя словы:

— Не хапала яшчэ мне выконваць жандарскія абавязкі!

Іван Свірыдавіч пасля вясновай кантузіі атрымаў назначэнне пісарам роты.

Камандзір батальёна і начальнік штаба займалі лепшую ў вёсцы хату: гаспадыня і яе дочкі самі гатавалі, падавалі, мылі посуд, і ў мяне аставалася больш, чым калі, вольнага часу.

Пісары — батальённы, студэнт-добраахвотнік, і першай роты — Іван Свірыдавіч — са сваімі жалезнымі скрынкамі прымасціліся на тым жа падворку ў прасторным свірне» Натуральна, што я круціўся каля іх, начаваў з імі; у свірне — прахалода, зернем і травамі пахла.

Таму помню, што Іван Свірыдавіч, пазнаёміўшыся са спісам папаўнення, радасна пацёр рукі.

— Залатыя людзі пачалі прыбываць.

— Хто гэта залаты ў вас? — спытаў студэнт.

— Ды гэтыя — барадачы-тамбоўцы, — адказаў Іван Свірыдавіч.

— Знайшоў золата — дзядоў сівых! Ім лапці на печы плесці, а не ў атаку хадзіць.

А я чамусьці адразу здагадаўся, што Іван Свірыдавіч мае на ўвазе не дзядоў, а — маскоўскіх, заводскіх. Карцела спытаць, чаму яны «залатыя». Але я ўжо ведаў, што ў Галадушкі свой погляд на людзей і на з'явы; калі ён не сказаў праўды батальённаму пісару, то, значыцца, гэта такая тайна, якую не кожнаму можна даверыць. І людзі тыя, відаць, не такія кепскія, як я падумаў пра іх, калі пачуў нездаволенасць афіцэраў: «Усю крамолу да нас».

Адзін з гэтых «крамольнікаў», Павел Кузняцоў, у першы ж дзень стаў вядомы ўсяму батальёну: музыка, песеннік, жартаўнік. Гэткі весялун бестурботны. Усім спадабаўся. Хоць некаторыя старыя салдаты, слухаючы яго прыпеўкі, змрочна бурчалі: «Пабачымо, як ты ў баі запяеш».

Там жа, на адпачынку, капітан Залонскі аднойчы спытаў:

— Жмянькоў, ты любіш мяне?

Збянтэжыўся я.

— Так точна, ваша благародзія.

— Калі мы ўдвух, можаш казаць мне — Усевалад Аляксандравіч.

— Так точна, Севалад Ляксандравіч.

— Ты ведаеш, што камандавацц батальёнам нялёгка?

— Так точна, ваша... Севалад Ляксандравіч!

— Але, брат, нялёгка, асабліва калі баі і асабовы склад мяняецца. Прыходзяць новыя людзі... Я павінен ведаць, што за яны, чым яны жывуць, пра што думаюць. Добры камандзір той, хто ведае сваіх людзей. Тады ён заўжды можа быць справядлівы. Але ў мяне не сто вушэй і не сто вачэй. Ты павінен памагчы мне. Ты часцей бываеш з салдатамі. Расказвай, калі ласка, мне, пра што яны гавораць паміж сабой.

Я тут жа прыгадаў размовы, якія вёў з салдатамі Іван Свірыдавіч. Ніхто мяне не папярэджваў, каб я трымаў язык за зубамі, але я сам дапяў, што такія салдацкія размовы не для панскага вуха. Хіба можна было сказаць панам пра тое, што гаварылі ўкраінскія хлопцы і Багдан Арцёмавіч?

Разам з тым хацелася астацца шчырым і праўдзівым перад камандзірам, які ніколі нават асабліва голасу не павысіў на мяне. Як жа сумясціць гэта — салдацкую салідарнасць і адданасць афіцэру?

Сумеўся я.

Капітан спытаў:

— Дамовіліся, Піліп?

Я не здолеў адказаць бадзёрым: «Так точна!»

І ён «раскусіў» маю збянтэжанасць.

— Эх, Жмянькоў, Жмянькоў, таіцца пачынаеш ад мяне. Хітраваць. Нядобра, брат, нядобра. Хто на цябе ўплывае? Тыя дурні, якія лічаць, што афіцэр — вораг салдату. Ты можаш сказаць, што я вораг табе?

— Ніяк не, ваша благародзія!

— Ну вось... Я дамагаюся аднаго, каб так, як ты, думалі усе. Як камандзір, я хачу быць бацькам для салдат. Як Сувораў. Помніш кніжку? Бо хто пра іх паклапоціцца, накорміць, абароніць ад такіх гарачых галоў, як ротмістр Ягашын? — далікатна нагадаў ён зімовую гісторыю.

Каб капітан не быў такі добры да мяне, да салдат, папрок яго так моцна не сцёбнуў бы па сэрцы. Была шчырасць у маім адказе, які не сам прыдумаў — вычытаў у кніжцы, але, безумоўна, была і хітрасць — хутчэй скончыць непрыемную размову:

— Ваша благародзія... Севалад Ляксандравіч, жыцця не пашкадую за вас!

Усміхнуўся капітан.

— Не жыццё патрабую. Наадварот, сцерагу тваё жыццё. Маленькай дапамогі прашу.

Умеў панок павязку з душы садраць, каб была душа адкрытая, што рана, чуць дакраніся — баліць.

Пасля той размовы я пачаў баяцца слухаць, пра што гавораць салдаты, бо з дня на дзень чакаў, калі Залонскі спытае, што я чуў. А я мог расказаць пра подзвіг, якога не было, але маніць пра іншае не навучыўся, маўчаць навучыўся, а хлусіць — не, і ведаў, што мяне лёгка можна злавіць, заблытаць. Дык, здавалася мне, лепей менш чуць і менш ведаць, тады лягчэй будзе: калі нічога не чуў, то нічога і не скажаш і ніхто ніякай хітрасцю не распытае ў цябе пра тое, чаго не ведаеш.

На маё шчасце, Залонскі ні пра што не пытаўся — цярпліва чакаў, калі я зраблюся даносчыкам.

Полк, між тым, зноў вярнулі на перадавую. Немцы, напэўна, помсцілі за «брусілаўскі прарыў». Эверт і Рагоза шалелі ад няўдач на

сваім фронце. Хоць газеты паведамлялі пра зацішша на Заходнім фронце, я пераконваўся, што газетам верыць нельга: касілі ў нас людзей, як чарот. Штодня артналёты. Штодня атакі і контратакі, сэнсу якіх ніхто не разумеў — ні афіцэры, ні салдаты. Людзей не хапала — пашырыліся мае абавязкі. Сувязным паміж штабам і ротамі я быў увесь час. Але пасыльным у штаб палка раней рэдка хадзіў. А ў тое гарачае лета Залонскі пасылаў часта. Гэта не па абед на кухню хадзіць і не міскі мыць, а баявое заданне, і я любіў яго. Часам прыходзілася паўзці пад кулямі, перабягаць пад снарадамі. У палку ведалі мяне, страчалі прыветліва, ад'ютанты штаба чамусьці называлі «галубком».

— Ляці, галубок. Прывет твайму капітану.

— Слухаюся, ваша бродзь! — хоць дзіцячая мянушка гэтая — «галубок» — і не падабалася мне, зневажала.

Аднойчы, кал і я, атрымаўшы пакет, рушыў у штаб палка, дагнаў мяне ў траншэі Іван Свірыдавіч і папрасіў знайсці ў зброевай майстэрні яфрэйтара Лізунова Савела Гаўрылавіча і перадаць яму падарунак — кісет з махоркай.

Кісет добры, новы, скураны; тады ўсе маладыя афіцэры і салдаты, хто мог, рабілі такія, каб махорка, запалкі ці крэсіва не адсырвалі ў акопах. Але я адразу здагадаўся, што кісет незвычайны, не проста так, ды і не казаў Іван Свірыдавіч раней, што ў яго ў палку ёсць сябра. Калі ён займеў такога? Новае заданне і ўзрадавала і спалохала. Паклаў кісет за пазуху і адчуваў, што ажно сэрца мацней загрукала. Вельмі карцела зазірнуць — што ў кісеце? Развязаў скураны шнурок і... расчараваўся. У кісеце — жменя самасаду і складзеная ў кніжачкі — як для цыгаркі — франтавая газета «Наш вестник».

Зброевая майстэрня размяшчалася ў адрыне на краі сяла; знайсці яе было лёгка, бо ў сценах прарэзалі вокны, і рамы гэтых акон мелі дзіўны выгляд — як крыжы. Людзей у майстэрні было нямнога, і яны мала чым нагадвалі салдат: без шапак, без папруг, у скураных зашмальцаваных фартухах. Напроці акон — бліжэй да святла — станкі, якія адразу зацікавілі мяне, бо хоць за час, што прабыў на фронце, я і пабачыў нямала рознай тэхнікі, але такія станкі бачыў толькі ў кніжках. На таку раскідана розная зброя: вінтоўкі навалены — нашы, нямецкія, кулямёты станковыя і ручныя, і нават задрала дула скалечаная марціра.

Савелі Гаўрылавіч адразу адгукнуўся на маё запытанне. Немалады ўжо чалавек, хоць для хлопца, якому пятнаццаць, саракагадовыя людзі здаюцца дзядамі. Нечым ён быў падобны да Івана Свірыдавіча. Відаць, тым, што абодва нейкай асаблівай паставай,

рухамі прыкметна адрозніваліся ад тых, што прыйшлі ў армію ад сахі і бараны.

Лізуноў вельмі ўзрадаваўся падарунку ад сябра, быццам многа дзён не курыў. Проста ззяў чалавек, гукаў на ўсю майстэрню.

— Ай ды Іван, ай ды малайчына! Такога самасаду раздабыў! Хлопцы, налятай! Ну і задымім! Усе мухі падохнуць! — запрасіў ён іншых майстроў і тут жа пачаў скручваць цыгарку, хваліў мяне,— А ты, брат, як ангел, пасланец ад бога. Ты адкуль такі ўзяўся? І крыжык маеш ужо? Ну, герой! Ажно зайздрасць бярэ. Мы тут спін не разгінаем над гэтым ламаччам, і ніхто нам меднага медаліка не хоча даць. Хаця б аднаго на ўсіх,— весела падміргваў яфрэйтар сваім сябрам, тым, хто падышоў, каб закурыць самасаду. Убачыўшы, што мяне цікавяць станкі, Лізуноў пачаў расказваць, дзе які станок — такарны, свярлільны... Спытаў, ці хачу я навучыцца працаваць на такіх машынах. Безумоўна, я адказаў, што хачу. Лізуноў весела, як бы радуючыся сваей перамозе, закрычаў:

— Купец Дзямідаў! Хадзі сюды! Паслухай, што кажа юны селянін! В ось табе яшчэ адзін прыклад! Не так ужо моцна яна трымае, зямля, асабліва тых, у каго яе мала. Машына, брат, прыцягвае з не меншай сілай. Так адбылося ў Англіі, Амерыцы. Так будзе ў нас, на святой Русі.

— На святой Руси петухи поют. Скоро будет день на святой Руси,— прачытаў вершы самы малады з салдат-майстроў і весела засмяяўся. Вершы такія я чуў упершыню, яны спадабаліся мне. (Вярнуўшыся ў батальён, я прадэкламаваў іх прапаршчыку Дакуку і спытаў: «А як далей?» Здавалася, прапаршчык павінен ведаць. Ен няўважліва паціснуў плячамі — не ведаў).

Праводзячы мяне, на двары Лізуноў перадаў мне для Івана Свірыдавіча таксама кісет, але не скураны — палатняны з адмысловай вышыўкай.

— Трэба парадаваць дружбачка добрым тутыньком, а то самасад яму агорк,— і спытаў у мяне: — Курыш? Не? Малайчына! Не ўжывай гэтага зелля. Карысці ад яго ніякай, а шкоды многа. Але хто прывык, таму, брат, сумна жыць без цыгаркі. Радасці мала ў рабочага чалавека. Цыгарачку пасмокчаш — лягчэй на душы робіцца,— і, нахіліўшыся бліжэй, амаль шэптам папярэдзіў: — З газеткі, якая ў кісеце, нікому закурваць не давай, — і выразна падміргнуў,— Дынаміт у ёй. Выбухне. Калі ты сябра Івана Свірыдавіча, то хлопец з галавой і разумее, што да чаго. Заходзь. Мы табе трафейны рэвальвер адрамантуем, не будзеш цягаць гэты карабін. Не па тваім плячы ён.

Моцна пацiснуў руку на развiтанне i зноў падмiргнуў: маўляў, трымайся!

А ў мяне затрапятала сэрца: во тое тайнае, незвычайнае i небяспечнае, пра што я падумаў, калi атрымаў кiсет ад Iвана Свiрыдавiча. Гонарам напоўнiўся, што такiя людзi даверылi мне тайну сваю. Згараў ад жадання хутчэй заглянуць у кiсет: якая яна, тайна? Няўжо адна газетка? Але што ж гэта за газетка, якую так сакрэтна трэба перадаваць?

Нi Iван Свiрыдавiч, нi гэты салдат у фартуху не папярэдзiлi, каб я не заглядваў у кiсеты. Я меў права глянуць. Але апаноўваў страх. Здавалася — пакуль я не ведаю, што нясу, то як бы не маю да гэтага дачынення i нiшто мне не пагражае. А як даведаюся — пераступлю нейкую мяжу, камусьцi здраджу... Каму? Богу, цару, капiтану Залонскаму? Мне нiкому не хацелася здраджваць. Усiм хацелася памагчы. Капiтан — добры. Iван Свiрыдавiч таксама добры. Але Залонскi пан. Iван Свiрыдавiч рабочы i вучыць салдат не любiць паноў, не верыць iм. Каму ж я павiнен больш верна служыць?

Нёс я лёгкi кiсет за пазухай, што бомбу. За сялом доўга шукаў такое месца, дзе б нiхто нават здалёк не ўбачыў, што я дастаў з-пад гiмнасцёркi, што разглядаю. Спачатку ў густыя прырэчныя кусты залез. Не, ненадзейна. Можа за другiм кустом ляжыць хто. Мала хiба ходзiць людзей памiж штабам i перадавой? Ды i сяляне працуюць у полi, жнiвень — познiя яравыя жнуць. Збочыў з дарогi ў чыстае поле, на пожню, лёг у разору, дастаў кiсет i доўга баяўся развязаць, быццам i сапраўды ў iм дынамiт.

Газета была складзена ў такую ж кнiжачку, як i тая, што ляжала ў Галадушкавым кiсеце. Разгортваў я гэтую кнiжачку з такой асцярожнасцю, нiбы баяўся, што газета можа рассыпацца ў попел. I ледзь не закрычаў ад паўторнага расчаравання i крыўды, калi прачытаў назву «Iнвалiд». Газета гэтая, як «Наш вестник», прысылалася ў батальён, я чуў, як Iван Свiрыдавiч аднойчы, чытаючы гэтую газету салдатам, высмейваў хлуслiвага «Iнвалiда». Дык няўжо ён i Лiзуноў вырашылi пасмяяцца з мяне, пазабаўляцца? Ды раптам з «Iнвалiда» выпалi ў разору два жаўтаватыя лiсткi. I ў вочы адразу кiнулiся нязвыклыя словы загалоўка: «Таварышы салдаты!»

Вось яно тое, незвычайнае!

З душэўным трапятаннем шаптаў я, як малiтву, простыя, праўдзiвыя i страшныя сваей смеласцю словы лiстоўкi: «Два гады льюцца патокi крывi i гiнуць мiльёны рабочых i сялян. Краiна без хлеба, без палiва, без вопраткi i абутку — вось да чаго давяло гаспадаранне самадзяржаўных уладароў. Смерць у акопах, смерць у

царскіх казематах — вось што чакае нас. Дзе ж выйсце з гэтага тупіка? Выйсце ў барацьбе за звяржэнне царскага самаўладства. Толькі рэвалюцыйнае выступленне пралетарыяту і рэвалюцыйнай арміі здолее пакласці канец гэтай крывавай непатрэбнай вайне, якая нясе разарэнне і няволю працоўным масам — сялянам і рабочым. Станавіцеся ў рады рэвалюцыйнай арміі пад чырвоным сцягам Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі! Адзін за ўсіх, усе за аднаго! Няхай жыве рэвалюцыйнае яднанне салдат і рабочых!»

Так я пачаў выконваць ролю сувязнога салдацкай рэвалюцыйнай арганізацыі. Але, безумоўна, пра работу самой арганізацыі меў прымітыўнае ўяўленне; мала што я ведаў пра ўплыў на салдат такіх людзей, як Галадушка, Кузняцоў, Лізуноў. Наколькі моцны гэты ўплыў, які плён далі лістоўкі, што я прыносіў ад аружэйнікаў,— гэта я добра зразумеў месяцы праз два ці тры, позна ўвосень.

За год службы дзеншчыкам у камандзіра батальёна я зрабіўся адукаваным ваенным. Па розных нябачных для іншых прыкметах здагадваўся, што рыхтуецца новае наступленне, відаць, раней, чым пра гэта даведваліся камандзіры рот і ўзводаў. Ва ўсялякім разе, пісар роты Іван Свірыдавіч Галадушка нічога не ведаў яшчэ, калі пачуў гэтую навіну ад мяне. Здзівіўся, заклапаціўся, пачаў абурацца:

— Зноў мора крыві салдацкай выльецца. Дзеля чаго? Армія не можа наступаць. Армія абяскроўлена, рэзерваў няма. Але што цару і генералам да крыві рабочых і сялян! Чым больш яе льецца, тым больш золата плыве ў іх кішэні.

Між іншым, гэта, бадай, адзіны выпадак, калі Іван Свірыдавіч сказаў пры мне так вось адкрыта, як пісалася ў лістоўках.

Нарэшце падрыхтоўка да наступлення зрабілася яўнай, толькі дзень і час трымаўся ў сакрэце. Усё нібыта ішло звычайна — як у красавіку, як у чэрвені. Адно хіба моцна ўсхвалявала салдат: раздалі проціваеазы. Наш батальён ні разу не трапляў пад газавую атаку, але былі ў нас салдаты са шпіталяў, якія пакаштавалі гэтай нямецкай атруты. Газаў баяліся больш, чым куль, снарадаў. Але мне здавалася, што людзей страшыла не столькі тое, што немцы пусцяць газы, колькі недасканаласць проціваеазаў. Большасць салдат не маглі прабыць тры — пяць мінут у смярдзючай гумавай масцы з цяжкай бляшанкай, якая вісела пад барадой, цягнула галаву ўніз, біла па грудзях, калі чалавек бег, і моцна замінала страляць. Сярод салдат хадзілі чуткі, што гэта здраднікі-немцы, якія сядзяць пад аховай царыцы-немкі і захапілі ўсе інтэнданцкія пасады, знарок зрабілі такія проціваеазы, каб салдаты не здолелі ні страляць, ні бегчы. Казалі, што першыя проціваеазы, прыдуманыя франтавікамі,— нос і рот закрываўся

змочанай у спецыяльным растворы ватай — былі больш надзейныя. Сам капітан Залонскі, калі трэніраваліся афіцэры, здолеў пратрымацца ў процівагазе мінут пяць, не больш. Яго ванітавала, твар пасінеў. Прапаршчык Дакука ўвогуле адмовіўся нацягваць маску, сказаў, што лепей ён задыхнецца ад газаў, чым ад процівагаза. «Ці не ўсё адно ад чаго паміраць», — змрочна заключыў ён. Даўжэй за ўсіх пратрымаўся я — паўгадзіны; смурод гумы, ад якога шмат каго ванітавала, мне нават спадабаўся. «Подзвіг» мой быў адзначаны па батальёне ў загадзе, капітан ставіў мяне, няпоўналетняга, у прыклад іншым.

Батальён узнялі па трывозе на досвітку, хоць ніхто ў тую ноч не спаў, бо ўсе ведалі, што наступленне назначана на заўтра. Уначы слухалі, як сапёры рэзалі калючы дрот свае загароды; загарода гэтая дорага каштавала, калі яе ставілі: немцы палілі на кожны начны шолах.

Як толькі роты занялі свае пазіцыі на першай лініі акопаў, адкуль мусілі кінуцца ў атаку, пачала біць наша артылерыя — апрацоўвала нямецкую перадавую. Многа снарадаў ірвалася на нейтральнай паласе. На камандным пункце, дзе стаялІ Залонскі, паручнік Лебедзеў — наш новы начальнік штаба, афіцэры з палка, з дывізіі і дзе круціўся я, гатовы выканаць любое даручэнне, выказвалі боязь, каб артылерысты не накрылі свае пазіцыі. Але ўсё абышлося добра. Было холадна, ветрана. Вецер дзьмуў з усходу на захад, ад нас на немцаў, і гэтая акалічнасць адзначалася афіцэрамі як спрыяльная ва ўсіх адносінах — і бегчы лягчэй, і газы немцы не здолеюць выкарыстаць. Сівы падпалкоўнік са штаба дывІзіі зняў шапку і памаліўся: «Памажы нам, божа!»

Афіцэры лічылі, што яны ўсё прадугледзелі. Немцаў, напэўна, захапілі знянацку, бо артылерыя іх адказала не адразу. А калі пачала страляць, то ўдарыла не па нашай перадавой, а па тылах, па артылерыйскіх пазіцыях. Калі выбухі нашых снарадаў таксама перамясціліся некуды за сасняк, што чарнеў на ўзгорку за нямецкай перадавой, тады адразу пачуўся голас камандзіра другой роты, самай блізкай ад КП:

— Арлы! За веру, цара і айчыну! У атаку! На ворага! Ура-а-а!

Загучалі каманды ў далёкіх ротах.

На бруствер вылезлі афіцэры — камандзіры ўзводаў. На фоне шэрага світальнага неба дзіўна махалі маленькімі рэвальверамі:

— За мной! У атаку! Ура-а-а!

Аднак прайшла хвіліна, другая — і больш ніводная галава не вытыркнулася над акопам. Нідзе. Ні блізка, ні далека. Нямецкія кулі ціўкалі рэдка, такі агонь не мог прыціснуць людзей да зямлі.

— Што такое?

— Што здарылася, капітан Залонскі? — закрычалі штабнікі.

Ашаломлены такой неспадзяванасцю, Залонскі кінуўся з каманднага пункта ў акопы. Я шмыгнуў за ім. Насустрач нам бег гэткі ж разгублены камандзір другой роты паручнік Малінін.

— Радавыя не падымаюцца ў атаку, пан капітан.

— Як не падымаюцца? Чаму?

Мы ўскочылі з траншэі ў пярэдні акоп, шырокі, абжыты, з драўлянай сцяной, з нішамі і кулямётнымі гнёздамі.

Салдаты нерухома ляжалі грудзьмі на бярвеннях, трымаючы вінтоўкі на брустверы. Але ніхто не страляў. Здалося, што ўсе паснулі. Далібог, я так і падумаў, што немцы пусцілі «сонны газ», бо гаворка сярод салдат пра такі газ была. Але чаму ж не заснулі афіцэры? І не засынаю я?

Залонскі выхапіў рэвальвер, стрэліў угору, закрычаў:

— Салдаты! Воіны праваслаўныя! У атаку на ворага лютага — за мной! — і палез на бруствер. Але, вылезшы на горб, не ўзняўся на поўны рост, бо агледзеўся і ўбачыў, што ніхто з «праваслаўных воінаў» не паварушыўся, ніхто не глядзеў нават у яго бок, глядзелі адзін на аднаго. Я ўбачыў, што некаторыя ўпотай усміхаюцца. Капітан скочыў назад у акоп, пабег уздоўж яго, спалоханым, плаксівым голасам молячы:

— Браткі! Што ж гэта такое? Каму вы служыце?

Каму паверылі? Здраднікам? Ворагам? Гэта ж бунт. Бунт! Ды за гэта пад ваенна-палявы суд! Усіх! Усіх! Панове афіцэры! Падняць людзей у атаку! У атаку!

Зноў надрыўна закрычалі ўзводныя, унтэр-афіцэры. Салдаты не паварушыліся. З бакоў, у другіх ротах, таксама не чуваць было звыклага магутнага «ўра». Адзінокія стрэлы. Адзінокія крыкі.

Мне зрабілася шкада Залонскага, ён жа добры, ён ніколі не ўдарыў ніводнага салдата. Каб я ведаў, як памагчы яму, то, напэўна, кінуўся б на дапамогу. Але адначасова захапляла такая салдацкая еднасць, згуртаванасць, такая агульная змова. Я здагадаўся, чыя гэта работа, і людзі тыя — Іван Свірыдавіч, Лізуноў — адразу выраслі ў маіх вачах незвычайна. Гэта ж выходзіць, што яны маюць над салдатамі большую сілу, чым усе афіцэры. Я адчуў гонар, што хоць трошкі памагаў ім — сувязным быў і пра наступленне за тыдзень сказаў, даў ім час, каб падгаварыць салдат.

Так супярэчліва перапляталіся мае пачуцці — і за капітана і за салдат.

А Залонскі за гэтыя хвіліны йератварыўся ў зусім іншага чалавека. Ён не прасіў больш. Ён лаяўся самымі брыдкімі словамі, якіх ад яго ніколі не чуў я.

— Быдла! Смярдзючая чэрнь! Вошы акопныя! Перастраляю, сукіных сыноў! Вас кулямёты прымусяць пайсці ў атаку! У атаку! — і ўдарыў дулам рэвальвера салдата па галаве. Той заенчыў:

— Завошта? Браткі!

Тады штук пяць вінтовак, быццам самі па сабе, спаўзлі з бруствера, і дулы іх павярнуліся на камандзіра батальёна і на мяне, бо я стаяў за ім. Мне нават здалося, што грымнуў залп. І я, шчыра прызнаюся, страшэнна спалохаўся. Адчуўшы, што яшчэ жывы, як мыш, нырнуў у бакавую траншэю: на ліха мне гэтак паміраць ад сваіх салдат, якім я памагаў! Але ж яны пра гэта не ведаюць; застрэляць афіцэра, а заадно і дзеншчыка яго.

Не, залпу не было. Гэта, ачухаўшыся ад артналёту, адазваліся немцы — ударылі іх кулямёты, паласуючы зляжалы дзёран бруствера. Міма мяне прайшоў Залонскі, хістаючыся, спалатнелы, трымаючы ў апушчанай руцэ рэвальвер дулам у зямлю. Я падумаў, што камандзір ранены, і рушыў за ім, каб памагчы. З каманднага пункта як вецер здзьмухнуў і афіцэраў і салдат сувязі.

У бліндажы штабісты сустрэлі нас нацэленымі на адчыненыя дзверы рэвальверамі. Сівы падпалкоўнік крычаў у тэлефонную трубку:

— У батальёне бунт! Бунт! Пасылайце казакаў!

І раптам адхапіў трубку, быццам яна апякла вуха;

ніжняя сківіца яго адвісла, як у нябожчыка, вочы зрабіліся шкляныя. Ляскаючы зубамі, заікаючыся, прамовіў:

— М-ме-мя-не п-п-па-а-сла-лі ведаеце куды? Ш-што ж гэта такое, па-панове?

Адбывалася страшнае, незразумелае для афіцэраў і незвычайнае, цікавае — для мяне. Дарэчы, я лепш, чым усе яны, разумеў, што адбылося.

Фельдфебель першай роты, якога салдаты не любілі, ускочыў у бліндаж з крыкам:

— Яны ўзнімуць нас на штыкі!

Афіцэры збіліся ў кутку бліндажа, за сталом, як спалоханыя навальніцай цяляты. Я не паверыў, што салдаты могуць пакалоць афіцэраў, і мяне смяшыў іх страх: столькі слоў кожны з іх сказаў салдатам пра смеласць і гераізм, а самі дрыжаць, як зайцы пад мокрым кустом.

Пасля я даведаўся: камандзір першай роты паручнік Сукнавалаў хацеў застрэліцца там жа, у акопе. Унтэр адабраў у яго рэвальвер. Ён

прыйшоў у бліндаж, абвёў усіх позіркам ашалелых вачэй і, упаўшы на стол, за якім неаднойчы весела гуляў у карты, заплакаў, як дзіця — наўзрыд, калаціўся, біўся галавой. Залонскі сказаў яму:

— Супакойцеся, паручнік. Сорамна.

— Дайце мне рэвальвер. Я застрэлюся. Я не хачу больш жыць. Гэта ганьба! Ганьба! Усім нам.

— Але, гэта ганьба,— пацвердзіў сівы падпалкоўнік са штаба дывізіі і раптам немаведама з якой прычыны накінуўся на мяне: — А ты чаго круцішся каля паноў афіцэраў? Шпіёніш? Пайшоў прэч, гніда!

Я выскачыў з бліндажа страшэнна пакрыўджаны і пайшоў у акопы — да салдат.

Немцы баяліся атакі і, каб не даць нашым узняцца, не шкадавалі патронаў; кулямёты іх як не захлыналіся. Пэўна, яны не разумелі, што адбываецца, думалі, што рускія падрыхтавалі нейкую хітрасць, таму цішыня ў нашых акопах палохала іх больш, чым атака казацкіх сотняў.

У акопе мяне сустрэў падпаручнік Дакука. Я здзівіўся: ён адзін з афіцэраў паводзіў сябе так, быццам нічога асаблівага не здарылася,— ні спалоху, ні разгубленасці на яго твары. Спытаў:

— Жмянькоў! Куды змылася камандаванне? Спалохаліся салдацкай забастоўкі? — ён першы ўжыў дзіўнае для мяне слова, сэнс якога я ведаў, але лічыў, што баставаць могуць толькі рабочыя. Ад Івана Свірыдавіча я чуў пра такія забастоўкі, але ні ад каго не чуў, што могуць забаставаць салдаты, ды яшчэ на вайне.

— Салдатам не хочацца паміраць,— спакойна разважаў падпаручнік,— А каму хочацца? Табе хочацца? Мне, брат, таксама не хочацца. Салдаты забаставалі супроць смерці. Але немцы могуць контратакаваць. Здаецца, салдаты не думаюць здавацца ў палон. Яны будуць адбіваць контратаку. Смерць адбіваць. Хто імі будзе камандаваць? Схадзі, калі ласка, спытай у харобрага рускага дваранства.

З дваранства Дакука часта кпіў. Некалі, зімой яшчэ, ротмістр Ягашын сінеў ад гэтых кпінаў і разы два хапаўся за кабуру. Залонскі паблажліва пасміхаўся і адзін на адзін супакойваў ротмістра: маўляў, прапаршчыка трэба зразумець — сын фельчара атрымаў права вучыцца ва універсітэце, але ў кішэнях яго заўсёды гуляў вецер; ад гэтага злосць і зайздрасць да тых, хто меў большыя магчымасці.

Пакрыўджаны падпалкоўнікам са штаба, я агрызнуўся на Дакукаву просьбу, адчуўшы ў ёй насмешку:

— Самі схадзіце спытайце.

Падпаручнік здзівіўся.

— І ты бастует? То можа і капітан твой забаставаў? — і раптам з лагоднага зрабіўся злосны, абазваў мяне дурнем і сказаў, што і Залонскага, і яго, і «всех дураков и трусов» расстраляюць, калі яны не будуць камандаваць у час нямецкай контратакі, і салдаты падымуць рукі ўгору.

Дакука заўсёды цікавіў мяне, але прыгарнуцца да яго я не мог — калючы ён быў. Афіцэры яго не любілі. І салдаты таксама не вельмі любілі, бо не разумелі: часам ён быў залішне гарачы і крыклівы, а часам абыякавы да ўсяго і на простыя пытанні адказваў незразумелымі кніжнымі словамі. Але ў тую раніцу, магчыма, салдаты палюбілі яго. Расказвалі: калі ніхто не кінуўся следам за ім у атаку, падпаручнік споўз назад у акоп, смачна мацюкнуўся, але на салдат не крычаў, не называў быдлам. Сеў на дно акопа, сказаў:

— Бастуем? Чорт з вамі. Але спачатку застрэльце свайго ротнага. Я не хачу, каб з-за вас мяне павесілі. Вы не хочаце паміраць — і я не хачу паміраць. Але калі хто з вас думае здацца немцам —атрымае кулю ў спіну. Майце на ўвазе. Калі хто мае такі намер, няхай спачатку застрэліць мяне. І афіцэраў. Унтэры! Заняць месцы каля кулямётаў. Страляць па немцах, калі яны контратакуюць, і па сваіх, хто паспрабуе здацца ў палон.

Немцы не пайшлі ў атаку. Над нашымі акопамі не ўзняўся ніводзін штык з белай хусткай. Як заўсёды, агрызнуліся нашы кулямёты. Не першы дзень і не першы тыдзень мы стралялі менш, чым немцы, — не хапала патронаў. Таму, здавалася, дзень набыў сваю акопную звычайнасць. У акопах і ходах запахла крупнікам — неслі з кухні сняданак.

Афіцэры вярнуліся ў свае роты. Прадстаўнікі са штабаў палка і дывізіі ўцяклі. Але на іх месца з'явіліся іншыя афіцэры, больш маладыя, смелыя, але больш маўклівыя і загадкавыя. Відаць, яны прынеслі чутку, што не адзін батальён не падняўся ў атаку — уся дывізія адмовхлася ісці ў наступленне.-

Капітана Залонскага гэтая чутка — убачыў я — узрадавала. А камандзіра першай роты паручніка Сукнавалава яшчэ больш спалохала; ён зноў плакаў і хапаў за рукі незнаемых афіцэраў:

— Што ж гэта робіцца, панове? Гіне Расія. Гіне Расія. Да чаго мы дайшлі?

Мяне таксама ўзрадавала, што «забаставала» ўся дывізія, хоць наўрад ці разумеў я сэнс свае радасці. Паімчаў па хітрым спляценні траншэй, каб перадаць гэтую чутку Івану Свірыдавічу. Здзівіўся, калі ўбачыў у бліндажы, што пісар гне спіну над ротнымі паперамі з такім выглядам, нібы нічога не адбылося, а калі і адбылося, то, нібыта, яго

асабіста мала цікавіць. Але на мае паведамленне, што забаставала ўся дывізія, засмяяўся ўзрушана, паціраючы далонямі стрыжаную галаву. І здзівіўся:

— Як, як ты кажаш? Забаставала? Але ж і выдумаў! Во «эканаміст»!

— Далібог, праўда,— пабажыўся я.

Сур'ёзны зрабіўся Іван Свірыдавіч, спытаў, ад каго я пачуў такую навіну. Устрывожыўся, пачуўшы пра з'яўленне незнаемых афіцэраў. Папрасіў сказаць каму-нікаму ў ротах пра тое, што ўся дывізія не выйшла з акопаў, і пра з'яўленне афіцэраў контрразведкі. Сам тут жа схаваў паперы ў жалезную скрыню — не да ротных спраў было — і пайшоў да салдат.

Але доўга яшчэ нішто не прадракала бяды. Знікла напружанасць. Пайшоў дробны асенні дождж. Нават немцы супакоіліся. Сам па сабе абвясціўся адбой баявой трывогі. Аднавіўся ранейшы парадак дзяжурства і караулаў, Тыя, хто меў права адпачываць, схаваліся ад дажджу ў зямлянках. У адной такой зямлянцы, куды я выпадкова заглянуў, бестурботна гулялі ў карты. Падпаручнік Дакука, які піў звычайна менш за іншых афіцэраў, паспеў дзесьці добра набрацца і, на здзіўленне мне, прачытаў усё яшчэ спалоханаму Сукнавалаву вершы, якія я пачуў ад майстра ў зброевай майстэрні і якіх ён, Дакука, нібыта не ведаў.

— На святой Руси петухи поют. Скоро будет день на святой Руси.

Сукнавалаў завішчаў, быццам яго рэзалі. Крычаў, што Дакука сацыяліст, вораг цара і айчыны, што Расія гіне ад такіх, як ён. Дакука на гэта адказаў на дзіва для п'янага стрымана:

— Паручнік, я хацеў бы ўбачыць вашу патрыятычную фізіяномію пасля таго, як вы пагадуеце два гады вошай у акопах.

Сукнавалаў аціраўся ў тыле і на фронт трапіў зусім нядаўна, месяцы два назад.

Цэлы дзень спатрэбіўся ашаломленаму камандаванню, каб падрыхтавацца да пакарання палкоў, якія не пайшлі ў наступленне.

Адвячоркам пазіцыі нашага батальёна з тылу занялі спешаныя казакі. Яны з'явіліся нечакана, як з неба ўпалі; першым чынам захапілі кулямёты, абяззброілі тых, хто дзяжурыў у акопах, стаяў у караўле, пасля — іншых усіх, акрамя афіцэраў, Вінтоўкі так і асталіся ляжаць пад дажджом на брустверах, стаяць у пірамідах у бліндажах, нішах акопаў, Казакі былі маўклівыя, спрытныя і злосныя: калі адзін унтэр-афіцэр не захацеў аддаць трафейны рэвальвер, яго спаласавалі бізунамі. Салдатам не дазволілі ўзяць ранцы, мяшкі, кацялкі. Усё асталося. Можа за якую паўгадзіну батальён па вузкіх і

слізкіх ходах, траншэях быў выведзены ў лагчыну, якая не прастрэльвалася немцамі. Пастроіліся паротна, акружаныя казакамі. Камандаваў казакамі ротмістр Ягашын. Ён скакаў перад строем на вараным данцы, уздымаў яго на дыбы перад тварамі салдат, ляскаў бізуном і брыдка лаяўся:

— Даваяваліся, сукіны сыны! Хрыстапрадаўцы! Кайзеру прадацца хацелі за гарохавую пахлёбку? Здраднікі! Шыбеніцы вам мала!

Ротмістр як бы радаваўся, што такое здарылася з батальёнам Залонскага. Я адчуваў, што ён помсціць капітану. Ды ён і не таіў гэтага, бо крычаў і такое: «Даліберальнічаліся, такую вашу маць?» Гэта ўжо ніяк не магло адносіцца да салдат; пераважная большасць іх бачылі ротмістра ўпершыню, бо з таго часу, калі яго эскадрон быў пры нашым батальёне, некаторыя ўзводы можа па тры разы абнаўляліся. Бог сцярог, як любіў жартаваць Дакука, толькі двух чалавек — Залонскага і яго, падпаручніка. Іm і крычаў Ягашын, бо ўспомніў і «вальнадумныя песенькі» і «дзячкову філасофію».

Кожнае ротмістрава слова сцябала капітана. Я бачыў, як Залонскі ўздрыгваў і сутуліўся. Мне шкада было камандзіра гэтак жа, як тады, калі ён крычаў у акопе, гразіў, а салдаты нават не паварочвалі галовы.

Адзін з тых афіцэраў, што непрыкметна з'явіліся ў батальёне яшчэ ўдзень, пачаў выклікаць салдат па прозвішчы. Першага назваў Паўла Кузняцова. Той адгукнуўся.

— Тры крокі ўперад! Шагам арш! — закамандаваў Ягашын.

Былы рабочы выйшаў зусім не па-вайсковаму — зрабіў не тры крокі, а некалькі кароткіх, без каманды павярнуўся, усміхнуўся строю. Тут жа падскочыў ваенны жандар і надзеў яму наручнікі. Салдаты загудзелі. Павел усміхнуўся: было відаць, што нічога іншага ён не чакаў і што арыштоўвалі яго не ўпершышо.

На салдацкае абурэнне ротмістр адказаў камандай, і казакі выхапілі шаблі, гатовыя кінуцца на бяззбройных і секчы чалавечыя галовы.

Між тым, афіцэр-жандар, не выказваючы, не ў прыклад Ягашыну, ніякіх пачуццяў, ніякіх гнеўных слоў,

на выгляд абыякавы да ўсяго, назваў іншыя прозвішчы. Ляскалі замкі ланцугоў.

Хто наступны?

Левафланговы, маленькі, я стаіўся, замёр, а сэрца калацілася, як у злоўленага птушаняці. Чакаў, што наступны будзе:

— Жмянькоў!

Баяўся арышту і адначасова хацеў, каб паклікалі і мяне. Няхай убачыць батальён, што я не дзяншчык, не лакей у капітана, што я... во які я!..

Так біліся, змагаліся два пачуцці ў маім трапяткім сэрцы — страх і рашучая адвага. Я нават падумаў: ці не выйсці самому і сказаць: «Я з імі!» Здзівіць і сваіх салдат, і Залонскага, і казакоў, і жандараў.

Адзін з тых, каго арыштавалі, закрычаў:

— Завошта, ваша благароддзе? Што я зрабіў? Я ж не гітатар! Я нікога не падгаворваў. А ў атаку адзін не пабяжыш! Як людзі, так і я.

Жандарскі падпалкоўнік загадаў адвесці баязліўца ўбок, наручнікі яму не надзелі. Тады я зразумеў, якім чынам могуць вырываць паказанні ў арыштаваных, і мне не хацелася больш апынуцца сярод іх.

Афіцэр назваў прозвішча малодшага унтэр-афіцэра Галадушкі — ніхто не адгукнуўся. Івана Свірыдавіча не было ў страі.

Узняўся вэрхал. Спакойны падпалкоўнік ажно падскочыў і загрымеў на ўсё наваколле. Лаяўся страшэнна.

— Уцёк?.. Куды? Калі? Во хто галоўны! Дзе вашы вочы былі, лапухі акопныя? Злавіць! З-пад зямлі дастаць! Агледзець усе траншэі, бліндажы! Прачасаць кусты! Пазваніць у штаб, каб правяралі на дарогах! У вёсках! Бачыце, ідыёты, як робяць сацыялісты-завадатары? Вас, шэрае быдла, падвёў пад абух, а сам, напэўна, з немцамі шнапс п'е.

У маім сэрцы ў тую хвіліну таксама варухнулася нешта нядобрае. Я першы здагадаўся, што «забастоўка» — непрыкметная работа Івана Свірыдавіча і яго сяброў, што ў батальёне, ён, бадай, галоўны. І што ж выходзіць? Заварыў кашу, а сам у кусты? Няхай расплачваюцца іншыя?

Жандары кінуліся назад у акопы. Ротмістр Ягашын паслаў казакоў прачасаць сасняк, у якім стаялі батальённыя тылы. Падпалкоўнік больш нікога не арыштоўваў. Чакаў. Хадзіў перад строем. Спытаў:

— Ён галоўны падбухторшчык?

Строй маўчаў. Афіцэр павярнуўся да арыштаванага, які прасіў літасці.

— Ён цябе падбухторваў? Пісар Галадушка?

— Не, ваша благароддзе. Ён не з нашай роты.

— А хто?

— Не помню. Усе гаварылі.

— Не помніш? Чым табе адбіла памяць? У мяне ты ўсё ўспомніш! — І да строю: — А вы будзеце каяцца, што паверылі кайзераўскаму шпіёну. Ды позна будзе.

Івана Свірыдавіча прывялі з акопаў пад дуламі рэвальвераў і карабінаў. ВялІ жандары і казакі. Як вялікага злачынцу. Афіцэр убачыў — адразу ўзбадзёрыўся, павесялеў, падкруціў вусы.

— Вось ён, галубок. Не ўдалося пераляцець да нем-

цаў.

Пайшоў насустрач, як бы жадаючы радасна павітаць. Сустрэліся якраз каля левага флангу строю, проці мяне. Падпалкоўнік грымнуў:

— Дзе быў, морда?

Іван Свірыдавіч адказаў спакойна, з усмешкай:

— У каго з нас яна большая, пан жандар? Тоўсты афіцэраў карак наліўся крывёю. Голас са-

рваўся да віску:

— Маўчаць!

Іван Свірыдавіч зноў усміхнуўся.

— Вам жа будзе больш турбот, к ал і я зусім змоўкну.

— Ах, вунь ты якая цаца! — адразу змяніў голас падпалкоўнік. — Дзе хаваўся?

— Так што, ваша благароддзе, вёў агітацыю сярод казакоў,— далажыў жандар.

— Агітаваў казакоў? — здзівіўся падпалкоўнік. Здзіўленне яго прагучала з такой шчырасцю, што строй варухнуўся, салдаты выцягнулі шыі, каб убачыць Івана Свірыдавіча. Ротмістр Ягашын уздыбіў перад ім каня, замахнуўся бізуном, але... не ўдарыў.

— Ты паспеў пагаварыць з казакамі? — дапытваўся падпалкоўнік, як бы не верачы яшчэ.

— Трэба ж было ім расказаць праўду.

— Якую праўду? — закрычаў Ягашын.

— Якой вы ніколі не скажаце, ротмістр.

— Я для цябе — ваша благародзіе, хам!

— Якое ў вас благародзіе! — пагардліва махнуў рукой Іван Свірыдавіч і, абмінуўшы афіцэраў, павольна пайшоў уздоўж строю да арыштаваных сяброў сваіх.

Назаўсёды асталіся ў памяці маёй словы Івана Свірыдавіча. І як ён сказаў іх — смела, з гонарам. І як пайшоў. Як павялі іх, адзінаццаць, пад канвоем, а ўвесь батальён глядзеў услед і ўздыхнуў, што ў адны грудзі, калі постаці схаваліся за ўзгоркам. Я ўздыхнуў з болем і жалем. Да болю прымешвалася кропелька крыўды, што, стоячы так блізка, Іван Свірыдавіч нават не глянуў на мяне.

Мы яшчэ доўга стаялі — пакуль узводныя не перапісалі ўсіх людзей і не далі спісы ротмістру Ягашыну. Пасля батальён гналі ўсю ноч. Па палявых гразкіх дарогах, пад дажджом. Ягашын гнаў. Ён лётаў то ў галаву, то ў хвост калоны, бізуном падганяў адстаючых, як жывёлу. Я таксама пакаштаваў яго бізуна. Ці то ён біў без разбору, ці ўгледзеў у цемры маю маленькую постаць і адпомсціў за буркі.

Коней далі толькі Залонскаму і начальніку штаба. Ротныя і ўзводныя афіцэры ішлі разам з салдатамі.

На світанні Ягашын недалічыў чатырох чалавек. Можа ўпалі ад знямогі ў разору ці, вельмі магло быць,— уцяклі, дэзерціравалі. У дадатак выявілася, што мы збіліся з дарогі і прыйшлі не туды. Ашалелы ад злосці ротмістр хацеў гнаць далей, але знясіленыя салдаты абурана загулі і патрабавалі адпачынку і снедання; вячэры не было, і людзі ішлі галодныя. Ягашын мусіў паслаць раз'езд, каб знайшлі абоз і палявыя кухні, якія ішлі за намі, але адсталі.

На прывале я прыслужваў капітану. Залонскі быў змрочны, ні разу не глянуў на мяне; ручнік, мыла, міску з супам, лыжку браў так, быццам падаваў іх не чалавек, а дух бесцялесны.

Сукнавалаў размазваў слёзы, каўтаючы сліну: ён чакаў міскі. Рэчы батальённага начальства прывёз каптэнармус разам з кухнямі; рэчы ротных афіцэраў ехалі ў абозе. Дакука пажартаваў:

— Нашым мяшкам — асобая пашана.

Ён чытаў вершы ў часе снедання ў полі. Вершы тут

і ў той час гучалі як здзек, кпіны. Сукнавалаў скрыгатаў зубамі. Салдаты з абурэннеім пыталіся ў камандзіраў:

— Хто мы — арыштанты ці салдаты? Куды нас гоняць?

Прыгналі батальён у Гарадзею. Там ужо былі іншыя батальёны, службы і штаб палка. Гэта ўзбадзёрыла і афіцэраў і салдат — што сабралі ўсіх разам і што хоць лепшыя хаты занялі казакі і ўсюды шнырыла ваенна-палявая жандармерыя, полк размясціўся як на адпачынку, толькі што без зброі.

Але калі Залонскі даведаўся, што іншыя батальёны, якія гэтак жа не падняліся ў атаку і гэтак жа былі абяззброены і зняты з перадавой, ішлі сюды без казацкага канвою, то абураўся страшэнна. Крычаў, кідаў рэчы, бегаў да штаба палка. Раніцой быў вялы, бязвольны, прыглушаны няшчасцем. А то зрабіўся надзвычай дзейсны. Афіцэр абвясціў, што ротмістр Ягашын перавышаў свае паўнамоцтвы і прынізіў, абразіў іх усіх, гонячы як арыштантаў. Падпаручнік Дакука зусім сур'ёзна папрасіў дазволу выклікаць Ягашына на дуэль. Сукнавалаў завыў: «Што вы робіце, панове? Мала вам адной бяды?»

Мне давялося ўбачыць, як у той жа дзень яны сустрэліся ў завулку — Ягашын і Залонскі. Стаялі тварам у твар, трымаючыся за кабуры, пунцовыя, з налітымі крывёю вачамі. Ротмістр першы папярэдзіў:

— Спакойна, капітан. Не мой эскадрон не пайшоў у атаку.

— Раю вам, ротмістр, саступіць, калі лёс яшчэ раз звядзе нас на вузкай дарожцы.

Разышліся.

Між тым, працягваліся арышты. Арыштавалі нават некаторых афіцэраў. Полк, па сутнасці, расфарміроўвалі. Штодня з раніцы да вечара засядала спецыяльная камісія, на допыт выклікалі кожнага салдата.

Ад таго, якую характарыстыку даваў свайму салдату ротны афіцэр, які прысутнічаў на камісіі, дзе рабіў салдат да арміі, як ваяваў, залежаў яго лёс. Адных адсылалі ў штрафныя роты, другіх — у іншыя часці, мала каго пакідалі ў сваім палку.

Падпаручнік Дакука вярнуўся з такой камісіі, праз якую прапусцілі яго роту, вельмі ўсхваляваны і змрочны. Мяне ў тыя дні больш, чым да каго іншага, цягнула да яго. Можа таму, што ён выказваўся смялей за ўсіх іншых і ахвотна тлумачыў тое, чаго я яшчэ не ведаў ці што не мог зразумець. Залонскі, наадварот, ставіўся да мяне насцярожана, — здавалася, што ён хоча збавіцца ад такога дзеншчыка, але не ведаў, як гэта зрабіць, куды мяне дзець, бо па гадах я ўсё яшчэ не падыходзіў пад прызыў і мяне нельга было адаслаць у страявую часць.

Праз тыдзень у Нясвіжы судзілі арыштаваных. На суд выклікалі батальённага і ротных камандзіраў. Мяне Залонскі не ўзяў; не тое, што раней: нідзе не абыходзіўся без дзеншчыка.

Позна ўвечары чамусьці першы вярнуўся Дакука. І прыйшоў да нас — у хату, дзе жыў камбат. Разам з гаспадыняй я гатаваў вячэру, чакаючы паноў афіцэраў. Выгляд падпаручнік меў страшны, і немагчыма было зразумець — п'яны ён ці хворы. Стаў перад акном і доўга-доўга пільна ўзіраўся ў цемру. Я нясмела спытаў:

— Як там, ваша благароддзе?..

Дакука павярнуўся. Вочы яго пры святле цьмянай лямпы чамусьці зрабіліся белыя, як зацягнутыя бяльмом.

— Іх расстраляюць, Жмянькоў,— здалося — проста адказаў ён.

Я задыхнуўся і таму не адразу спытаў:

— І Галадушку?

— Каго?.. А-а... Не помню, Жмянькоў. Многіх расстраляюць. Ці можа павесяць. Вышэйшая мера...

Ён скалануўся, як ад моцнага холаду. Я не ведаў, што яшчэ спытаць ці сказаць; уяўляў, як будуць вешаць людзей (чамусьці расстрэл не здаваўся такім страшным), і сэрца мае ледзянела ад жудасці. Невядома, колькі мы так стаялі моўчкі. Потым Дакука правёў далонямі па твары, нібы сцёр павуцінне, якое наліпае, калі ідзеш па лесе, і сказаў:

— Але як гэта подла, Жмянькоў! І якія падлюгі тыя, хто прысвоіў сабе права вырашаць лес другіх людзей — жыць ім ці памерці. І твой Залонскі. І Сукнавалаў... І камандзір палка... І генерал... Усе. Каб захаваць свае чыны, свае званні, яны гатовы павесіць, пагнаць на ўбой паў-Расіі. Подла і нізка! Гадка! Як можна жыць з такімі людзьмі, Жмянькоў? Навошта жыць?

Афіцэр сказаў амаль тыя ж словы, якія я чуў раней ад Івана Свірыдавіча, а ў апошні час найбольш — ад Паўла Кузняцова. Можа за словы такія іх асудзілі на смерць?

Дзіўна і нават чамусьці страшна зрабілася, што і Дакука загаварыў так. Больш таго — адукаваны афіцэр пытаўся ў амаль непісьменнага сялянскага хлопца, як жыць далей з подлымі людзьмі, навошта жыць. Што я мог адказаць? Разгублена маўчаў, думаючы пра Івана Свірыдавіча, пра іншых асуджаных з нашага батальёна.

Мяне паклікала гаспадыня. На адну хвіліну я адвярнуўся — і ляснуў стрэл. Аб падлогу стукнуўся наган. Падпаручнік схапіўся рукой за падаконнік, потым за стол. Я паспеў падскочыць і падтрымаць яго.

— Ваша благароддзе! Ваша благароддзе!

Па шчацэ яго цякла кроў, гарачая, закапала на мае рукі. Дакука паспрабаваў усміхнуцца. Але ўсмешка застыла, як на фотаздымку: адзін нерухомы момант, аскал зубоў і — ужо чорныя вочы. Цела зрабілася цяжкае і прыціснула мяне, маласільнага, да стала. Побач загаласіла гаспадыня.

Многа смерцяў бачыў я да таго і пасля, хаваў вельмі блізкіх людзей, але ніводная смерць не ўразіла мяне так, як самагубства маладога афіцэра. Больш за пяцьдзесят гадоў мінула, а ў вачах стаіць яго перадсмяротная ўсмешка-аскал. І вочы, у жывога — чамусьці белыя, у паміраючага — чорныя, як глыбокія ямы.

Генерал памаўчаў. Задумліва разгроб кійком астылы попел, выгарнуў колькі вугольчыкаў, і яны, вызваленыя з-пад попелу, адразу загарэліся, як залацінкі. Увечары вуглі нібы спяшаюцца хутчэй згарэць. А быў ужо вечар. Асенні дзень нядоўгі. Мы не прыкмецілі, як на верхавінах самых высокіх елак патух апошні водбліск сонца. Сюды, на сасновы ўзгорак, з яловай нізіны пацягнула духмянай сырасцю. Больш адчувальна, чым удзень, запахлі баравікі з генеральскага

кошыка. Прывялі, ці што? Міхась зірнуў на гадзіннік і, будучы чалавекам далікатным, растлумачыў;

— Цяжка мне, старому, весці машыну са святлом. Слепяць сустрэчныя.

Тады генерал «закругліў»:

— Вось, бадай што, і ўся гісторыя акопнага жыцця тутэйшага хлопца Піліпа Жменькі.

— І гэта ўсё? — трохі нават і расчаравана спытаў я. Натуральна, што мая прафесійная цікаўнасць моўчкі бунтавала: паўдня дзед расказваў, а да галоўнага — да сустрэчы з Леніным — так і не дайшоў.

Піліп Рыгоравіч, мабыць, адчуў маё расчараванне і засмяяўся.

— Як можа быць усё, калі я вунь яшчэ колькі пражыў! На чатырох войнах ваяваў. Але калі ў такім тэмне круціць ленту майго жыцця, то мы не толькі заначуем тут, але і зазімуем. Паехалі!

Калі, трасучыся па карэннях, выбіраліся з лесу на шашу, я сказаў:

— Такі вадзіцель, як Міхал Міхалавіч, будзе везці нас гадзіны дзве.

— Дамчу за паўтары,— адгукнуўся Міхась.

— Але і гэтага, Піліп Рыгоравіч, даволі, каб паставіць хоць маленькую кропачку. Уявіце, каб я падсунуў чытачам няскончанае апавяданне. Што б яны падумалі пра аўтара?

Генерал засмяяўся.

— О, звяжыся з вашым братам — замучыце.

— Дарэчы, каб вы не чакалі нічога незвычайнага, скажу адразу, што ў тыя бурныя дні і месяцы, калі стары свет ляцеў пад адхон і ўсходзіла зара новай эры, я апынуўся як бы ў ціхім завулку, ва ўсялякім разе — не на магістральным шляху рэвалюцыі. Не ведаю, ці то як пакаранне за ўсё, што адбылося ў батальёне, ці можа наадварот, за тыя заслугі, пра якія за хвіліну да смерці казаў Дакука, капітана Залонскага не кінулі з новым батальёнам на перадавук>, а паслалі ў тыл, у Смаленск, у школу, што паспешліва пякла для абяскроўленага фронту бязвусых прапаршчыкаў, якія гэтак жа хутка гінулі, як хутка рабіліся афіцэрамі.

Мяне капітан не пакінуў — зручная ўласнасць. Але я помніў словы нябожчыка Дакукі і не меў больш да свайго дабрадзея тых пачуццяў, якія меў раней. Аднак пасля гібелі людзей, ля якіх грэлася сэрца ў палку, адчуў я сябе адзінокім і нікому непатрэбным. Таму нават усцешыўся, што Залонскі не забыўся на мяне. Звычайна ў тыл ехалі весела; ён ехаў сумны, маўклівы. Не так, як на пабыўку дадому. У дарозе прыгразіў мне і адначасна нібыта прылашчыў. Сказаў, што,

ведаючы пра маё сяброўства з Галадушкам, не можа паверыць, што я нічога не чуў, не бачыў, не здагадваўся; і каб я паслухаўся яго, камандзіравай, парады і расказваў яму пра салдацкія размовы і змовы, то напэўна б такой бяды не здарылася. Ен усё ўладзіў бы, нікога не пакрыўдзіўшы. Хіба ён даваў у крыўду салдата?

Залонскі ўмеў гаварыць пераканаўча, прачула, шчыра. Я стаяў перад ім у тамбуры вагона, апусціўшы вочы, і вусны мае дрыжалі. Да слёз было шкада Івана Свірыдавіча, Кузняцова, Дакукі. І сябе стала шкада. І нават яго, камандзіра. Каб ён не з такім ціхім болем гаварыў, а са злосцю, каб лаяўся, крычаў, то ў адказ, напэўна, і ў мяне ўспыхнула б злосць, пратэст. А ён — як добры настаяцель маладому манаху:

— Вось так, брат Піліп. Калі людзі пачынаюць траціць хрысціянскую веру адзін у аднаго, то дабра ад гэтага не бывае, адна злосць і смерць. Нельга ісці супроць закону, супроць бога і цара. Сацыялісты хочуць разбурыць тое, што створана воляй божай. Сацыялісты хочуць паражэння Расіі ў вайне. У свае авантуры яны ўцягваюць нявінных людзей. Я ўвесь час баяўся за цябе. Каб хто сказаў пра тваю дружбу з імі, то пасля такой гісторыі не паглядзелі б на тваё непаўналецце і на крыж Георгіеўскі. Засудзілі б. І на мяне цень упаў бы. Хоць я і так без віны вінаваты. І пакараны. Я не скарджуся, але мне баліць, што ў той час, калі я праяўляў хрысціянскую дабрату, Галадушка і яго сябры капалі магілу. Сабе. Мне. І табе. Падумай, Жмянькоў, пра гэта. Калі хочаш стаць чалавекам. Я шчыра хачу памагчы табе знайсці месца ў жыцці.

Не раз абяцаў капітан, калі кончыцца вайна, памагчы мне вучыцца. Можа нават уладзіць у афіцэрскую школу. А не — то на ветэрынара ці фельчара.

Параду я прыняў — падумаць. Думаў многа і пакутліва. І — дзіўна — чым больш удумваўся ў афіцэрскія словы, тым менш верыў ім, чым часцей успамінаў словы людзей, якія за сваю праўду смерці не пабаяліся, лепш, глыбей разумеў сэнс тых слоў. А словы Залонскага, якія некалі здаваліся прыгожымі, блеклі і сціраліся.

У мяне хапала часу на роздум. У горадзе я апынуўся ў адзіноце. Асабліва ў першыя дні. Адчуваў сябе што ў лесе.

Афіцэрская школа — не баявы батальён. І хоць там вучыліся хлопцы ўсяго гады на два старэйшыя за мяне, пасябраваць з кім-небудзь з курсантаў было немагчыма. Ніхто з тых, хто бачыў сябе ў сне генералам, не мог спусціцца да сяброўства з дзеншчыкам. Праўда, каб я жыў сярод іх, як на перадавой сярод салдат, то можа і

знайшоўся б такі шчыры і непасрэдны юнак. Але ў школу я рэдка заглядаў, і толькі ўдзень, у час заняткаў.

Жыў Залонскі на прыватнай кватэры ў нейкіх старых збяднелых паноў, якія мелі немалы — пакояў на дванаццаць,— але струхлелы і запушчаны дом. Было абразліва хадзіць на рынак са старой васпаватай і сварлівай кухаркай. Спачатку здалося, што менавіта праз тое, што я цягаў кашы і кайстры за гэтай бабай, форма мая і нават крыжык не рабілі на людзей ніякага ўражання — з мяне часта кпілі. Але пасля пераканаўся, што і без кухаркі я карыстаўся такой жа «павагай». Мабыць, абрыдла людзям ваеншчына. Мяне таксама перастала вабіць і форма, і слава, і будучыня, якую абяцаў капітан. Спрабаваў я пасябраваць з салдатамі са шпіталю, з рабочымі, але хлусіць не ўмеў, і новыя знаёмыя мае, даведаўшыся, хто я, далікатна ці бесцырымонна парывалі адносіны. А калі і страчаліся, то так — нібы для забаўкі з «малым салдатам», і на сур'ёзныя размовы не ішлі.

Тады я амаль узненавідзеў вайсковую форму, якой яшчэ нядаўна ганарыўся, і пачаў часта думаць пра дэзерцірства. Больш не стрымлівала салдацкая салідарнасць, бо не было побач людзей, якія штодня ішлі на смерць. Як ніколі, заныла сэрца па дамоўцы, па маці, малых, дзядзьку Ціхану. Нават у першыя дні пасля пераходу лініі фронту так не ныла. Штоночы сніў іх. І тое паўгалоднае жыццё з цяжкай сялянскай працай на полі, у гумне здавалася раем. Але каб я мог вярнуцца ў тое жыццё! Да зямлі, да сахі, да каня. Хацеў было папрасіць капітана адаслаць мяне ў маёнтак, дзе ёсць добрыя ўкраінскія хлопцы і дзе ўвогуле людзі больш шчырыя, чым тут, у горадзе. Не адважыўся — каб не выдаць свае думкі, бо Залонскі чалавек праніклівы, здагадлівы.

Намер мой уцячы зрабіўся такі моцны, што я начаў збіраць капейкі і набываць цывільнае адзенне. Але куды пайсці? Стаяла халодная і галодная зіма. Горад палохаў сваёй адчужанасцю, непрыветнасцю, варожасцю. На рынку страчаў я беспрытульных, сірот, і, здавалася, ніводзін чалавек іх не шкадуе, не спагадае гэтым няшчасным. Зрэдку салдаты давалі каму-небудзь з іх капейку. Некаторыя беспрытульныя кралі. Такога жыцця я баяўся. Таму вырашыў пачакаць вясны і тады ўцячы ў вёску, наняцца ў батракі да заможнага гаспадара ці да салдаткі; у вёсцы рабочых рук не хапала — вайна забрала людзей, пра гэта я чуў і ў акопах, і тут, у горадзе,— на рынку скардзіліся сяляне.

Але перш, чым надышла вясна ў прыродзе, вясну ў жыцці зрабілі людзі. У лютаўскі дзень, не марозны, але і не адліжны, рабочы люд Смаленска выйшаў на вуліцы з чырвонымі сцягамі, з транспарантамі.

Я пачуў, што скінулі цара, і, захоплены хваляй агульнай радасці і ўзрушанасці, цэлы дзень хадзіў па горадзе з дэманстрантамі, бачыў, як арыштавалі паліцмайстра, як адчынілі жалезную браму турмы, і на волю са слязьмі і крыкамі выйшлі асуджаныя. Упершыню горад не здаўся мне чужым, варожым. Горад стаў добры, прытульны, мяне адразу^ як свайго, прынялі ў калону. Толькі рабочы пашкадаваў, што я «салдат без вінтоўкі». Я таксама пашкадаваў, што не захапіў трафейны рэвальвер. Каб меў рэвальвер, то напэўна апынуўся б сярод тых, хто вёў паліцмайстра і другіх паліцэйскіх чыноў да турмы.

Вярнуўся я на кватэру позна ўвечары, зморany і галодны. Залонскі сустрэў сурова-насцярожана:

— Дзе ты быў, Жмянькоў?

— Дык цара ж скінулі! — адказаў я, упэўнены, што ў такі дзень такой падзеяй можна вытлумачыць усё.

— Ты радуешся?! — відаць, Залонскага страшэнна ўразіла, што так лёгка, за адзін дзень, з маёй галавы выветрылася ўсё, што ён, разумны, адукаваны афіцэр, убіваў у яе больш за год. Два ці тры разы перапытаў ён гэтае «Ты радуешся?» — і ажно з твару змяніўся, ажно вусны задрыжалі, здалося — вось-вось заплача.

— Дык увесь жа народ радуецца! — адказаў я, пачынаючы з жалем разумець, што капітан не з народам, што ён спалоханы і разгублены. У гасцінай былі гаспадары дома. Пані стаяла перад абразамі і малілася. Стары пан, глухаваты, таму заўсёды крыклівы, хадзіў вакол стала, каля якога сядзеў кватарант, і лаяўся:

— Дурань ён, Мікалашка ваш! Такога ёлупа, што быў пад пятой у немкі ды ў басяка Распуціна, даўно трэба было гнаць у шыю з прастолу. Які гэта цар? Я вам даўно казаў...

Магчыма, Залонскі не хацеў, каб гаспадар паўтарыў пры мне, што ён «даўно казаў», бо, скрывіўшыся, амаль злосна папрасіў:

— Памаўчыце, калі ласка!

Ці можа яму абрыдла размова з глухім старым, як.і, нікога не слухаючы, бясконца крычаў. Залонскі звярнуўся да мяне сур'ёзна і разважліва:

— Народ радуецца? Не, Жмянькоў, гэта не народ. Маса, якая выйшла з-пад улады, узбунтавалася, — не народ. Гэта цёмная, сляпая сіла. І радасць яе кароткая. Хто яе вядзе? Хто ёй кіруе? Непісьменныя, безадказныя людзі. Я люблю народ, Жмяыькоў. Але не люблю стыхіі. Ты помніш, што выйшла, калі батальён, полк адмовіўся слухацца камандзіраў? Так будзе і тут. Рэвалюцыі не так робяцца... у культурных краінах. У Францыі, напрыклад...

— У Францыі каралю адсеклі галаву,— сказаў гаспадар, каб не згадзіцца з кватарантам, і зноў закрычаў: — Калі Мікалашку адсякуць галаву — я не пашкадую. Распусціў чэрнь — няхай пажне, што пасеяў.

— О, божа літасцівы, даруй яму, неразумнаму, — застагнала гаспадыня.

Залонскі не абазваўся ні на словы гаспадара, ні на малітву спалоханай жанчыны і, як ніколі раней, холадна, нават сурова загадаў мне пачысціць парадны мундзір. Звычайна ён тлумачыў, навошта трэба зрабіць тую ці іншую незвычайную, не штодзённую работу. А ў той вечар, пасля такіх ашаламляльных падзей, напэўна, проста хацеў выпрабаваць, ці не ўзбунтуюся і я, наслухаўшыся прамоў. Я пачысціў мундзір. Але спатрэбіўся ён дзён праз колькі: капітана тэрмінова выклікалі ў Стаўку, у Магілёў. Вярнуўся ён адтуль падпалкоўнікам і камандзірам запаснога палка. Ці то Залонскага знарок трымалі ў рэзерве, ці ўспомнілі пасля прысваення званняў: указ падпісваў яшчэ «імператар усея Русі».

Усе дні, як прагналі цара, хадзіў капітан сумны і спалоханы; я гэта добра бачыў, і нават, як, відаць, кожны салдат, кожны селянін, злараднічаў: «Што, баішся, панок?»

Вярнуўся з Магілёва Залонскі ў найлепшым настроі.

Везумоўна, не адны пагоны з прасветам узнялі так яго настрой — гэта я адразу сцяміў.

Перш за ўсё Залонскі абвясціў мне:

— Запомні, Жмянькоў. Усялякае тытулаванне адменена. Ніякіх «вашых благароддзяў»! Толькі «пан падпалкоўнік». У дэмакратычнай рэспубліцы ўсе роўныя. Афіцэр і салдат. Толькі вайсковая дысцыпліна астаецца непахіснай, бо без дысцыпліны няма арміі,— А пасля, напэўна, для таго, каб апраўдаць усё, што забіваў у маю галаву раней, доўга тлумачыў: — Адвечна, як бог стварыў чалавека і людзі расплодзіліся, найлепшай, самай дасканалай формай кіравання імі была манархія: фараоны, імператары, цары, князі, каралі. Але грамадства развівалася, краіны багацелі, усё больш і больш рабілася адукаваных людзей, і ўсё больш адчувалася патрэба ў калектыўным розуме для вырашэння дзяржаўных спраў. Англічане абмежавалі ўладу манарха парламентам. У Амерыцы ўтварылася вялікая рэспубліка, дзе кожныя чатыры гады народ выбірае прэзідэнта. Французы пасля многіх рэвалюцый таксама прыйшлі да рэспубліканскага ладу, і Францыя зрабілася самай дэмакратычнай краінай, дзе ўсе роўныя ў сваіх правах — багатыя і бедныя. Цяпер на такі шлях стала Расія. І гэта — прагрэс,— сцвярджаў падпалкоўнік Залонскі. Ніводнага такога ўрока

сусветнай гісторыі ён не даваў мне раней — славіў гісторыю рускіх цароў. У гутарцы з іншымі афіцэрамі амерыканцаў і англічан лаяў, не любіў іх, казаў, што, акрамя сквапнасці да грошай, нічога яны ў душы не маюць; французаў хваліў: маўляў, усяму свету даюць узор культуры.

Яшчэ адна асаблівасць тае размовы запомнілася мне. Раней Залонскі пра такія рэчы гаварыў са мной спрошчана, як пісалася ў салдацкіх кніжачках і газетах, зусім не так, як гаварылі паміж сабой афіцэры. А пра непазбежнасць і неабходнасць для РасІі зрабіцца рэспублікай гаварыў па-афіцэрску, сапраўды як роўны з роўным, і, хоць ужываў многа вучоных слоў, я ўсё зразумеў. Гэта мне асабліва падабалася — што падпалкоўнік так гаворыць са мной, простым салдатам, ды яшчэ непаўналетнім. Ён заваражыў мяне ілюзіяй роўнасці. І я зноў перамяніўся. Пасля акопнага бунту і суду над салдатамі ў мяне ўсю зіму расла ў душы варожасць да афіцэраў і да Залонскага таксама. У першыя дні рэвалюцыі хацелася біць і ламаць усё навокал, нават струхлелы дом збяднелых паноў. Не ведаю, якая сіла стрымала мяне, каб не нашкодзіць Залонскаму, не напсаваць яго рэчы, не насаліць як-небудзь інакш. А пасля тае даверлівай размовы зноў захацелася служыць шчыра, аддана, але ўжо не так, як лакей служыць пану, а як чалавек — чалавеку, сябра — сябру, бо ж рэвалюцыя зрабіла нас роўнымі.

З радасцю рыхтаваўся я ў дарогу. Усю ноч, без сну, без адпачынку, збіраў рэчы, чысціў, мыў бялізну, напратку, абутак, каб камандзір прыехаў у полк у найлепшым выглядзе.

Запасны полк стаяў у Таржку — невялічкім гарадку Цвярской губерні. На станцыі новага камандзіра сустрэлі афіцэры штаба — начальнік, ад'ютант, чалавекі чатыры ўсяго, не больш. Узрадаваліся, убачыўшы маладога элегантнага падпалкоўніка, бо былі яны разгубленыя, спалоханыя: у такі час, калі — здавалася ім — перавярнуўся свет, полк астаўся без камандзіра; стары палкоўнік, інвалід вайны, памёр ад сардэчнага прыступу, як толькі пачуў пра звяржэнне царабацюхны, і Нікому з афіцэраў не хацелася браць на сябе адказнасць за дзёянні трох тысяч чалавек — няхай хто іншы паспрабуе зладзіць з гэтай стыхіяй, якая ўсё больш выходзіць з-пад афіцэрскай улады.

Адразу пасля прывітання астматычны штабс-капітан спытаў:

— Пан падпалкоўнік, растлумачце нам, правінцыялам, што адбываецца. Куды ідзе Расія? Што будзе з арміяй?

— Адбылася рэвалюцыя, панове,— весела адказаў Залонскі,— Расія стала дэмакратычнай рэспублікай. Няўжо нам так цяжка

прыняць тое, за што лепшыя прадстаўнікі рускага афіцэрства ішлі на смерць сто гадоў назад?

Афіцэры пераглянуліся. У штабс-капітана пасінеў твар, ён задыхаўся.

— Вы былі ў часцях у гэтыя дні, пан падпалкоўнік? Ведаеце, што там робіцца? Для сустрэчы камандзіра належала пастроіць полк. Але камандуем не мы, камандуе нейкі салдацкі камітэт. А ён на гэты час назначыў мітынг. І мы не можам сустрэць свайго камандзіра па вайсковых правілах. Вы называеце гэта дэмакратыяй?

Стары штабіст, напэўна, хацеў крануць самалюбства, гонар маладога падпалкоўніка, але Залонскі ашаламіў яго, ды і ўсіх іншых, адказам;

—У палку мітынг? Паедзем на мітынг, Панове.

Тады другі афіцэр спытаў, да якой партыі належыць пан падпалкоўнік.

— Я беспартыйны рэвалюцыянер, панове,— засмяяўся Залонскі.

У партыях я тады не вельмі разбіраўся і не ведаў, што ў Лютаўскай рэвалюцыі ўсе называл! сябе рэвалюцыянерамі. Але ад Залонскага я пачуў гэта ўпершыню. Мой камандзір сам называе сябе рэвалюцыянерам! Ура!

У той дзень многа разоў хацелася мне крычаць «ура», бо дзень быў незвычайны, поўны нечаканасцяў.

Салдацкі мітынг зрабіў не меншае ўражанне, чым рэвалюцыя ў Смаленску.

На пляцы перад казармамі ўзвышалася чырвоная трыбуна, а вакол яе калыхалася мора салдацкіх шапак. Салдаты стаялі вольна, не ў страі, гулам адказвалі на словы прамоўцаў. Свяціла добрае сонца. Пад нагамі булькалі раўчукі — з падворкаў казарменных, з канюшняў сцякалі ў блізкую рэчку рэшткі цяжкай галоднай зімы. Ішла вясна — вясна рэвалюцыі, поўніла людскія сэрцы самымі найлепшымі спадзяваннямі. Натуральна, што настрой у салдат больш чым вясёлы — быў смех, выкрыкі, жарты.

Я пакінуў рэчы на салдата-фурмана — чорт з імі, цэлыя будуць! — і паімчаў за камандзірам, які нават не зайшоў у кватэру, што падрыхтавалі яму. На здзіўленне штабным афіцэрам, нырнуў у салдацкі натоўп, як у вір, не шануючы свайго камандзірскага аўтарытэту. Але я быў больш спрытны і да трыбуны прабіўся першы.

Два дні назад вясёлы настрой Залонскага пасля паездкі ў Стаўку перадаўся мне, шчырая размова са мной, як з роўным, вярнула павагу да яго, адданасць. Усю дарогу я ехаў з радасным адчуваннем, што вырваўся, нібы з турмы, з пракіслага дома збяднелых дурных

нанкоў, еду ў вялікі свет, дзе ўсё бурліць і кіпіць. А туг яшчэ адразу такі мітынг! Я ўдыхнуў дзёгаць салдацкіх ботаў, пот іх шынялёў, пах вады, сонца, і з новай сілай абудзілася ва мне салдацкая салідарнасць — такая ж, што была на перадавой, у акопах. Незнаёмыя людзі, якія стаялі побач і нават незласліва шыкалі на мяне — не перашкаджай, не лезь наперад! — зрабіліся што браты родныя, я на смерць гатовы быў за іх. Праўда, усё інакш, чым было на фронце, але — лепш: свабода! Кожны мае права сказаць што хоча!

Спачатку, пакуль я прабіраўся праз натоўп, выступаў салдат, але яму чаМусьці адказвалі смехам і крыкамі... Гэта быў прамоўца, якога ведалі і не прымалі сур'ёзна. Потым гаварыў цывільны, невыразна і незразумела. Яго слухалі моўчкі, напружана. Высокага, худога, з цыганскім абліччам, але з інтэлігентнай бародкай унтэра, які ўвесь час стаяў на трыбуне, даваў слова іншым, сустрэлі воплескамі і прывітальнымі выгукамі, калі ён сам пачаў гаварыць. Голас у яго быў моцны, прыгожы. Гаварыў ён з такой палымянасцю, што любое, самае халоднае сэрца мог запаліць. А такое гарачае, як маё, адразу ўспыхнула. Пра рэвалюцыю гаварыў унтэр, пра волю, пра светлую будучыню народу. Разабрацца ў сэнсе, у адценнях прамоў я не ўмеў, безумоўна, ды, напэўна, дзевяць дзесятых, калі не больш, салдат гэтага не ўмелі. Галоўнае тады, каб словы былі рэвалюцыйныя! А якія за словамі справы, якая праграма сацыяльных змен — над гэтым пачалі задумвацца крыху пазней.

Слухаючы прамоўцу, я ўспомніў Івана Свірыдавіча, падумаў, што каб ён дажыў да свабоды, то сказаў бы такія ж словы і гэтак жа горача.

Унтэру крычалі «ўра», калі ён выгукнуў «Няхай жыве рэвалюцыя!». Я крычаў можа гучней за ўсіх. На гэтым, відаць, мітынг меў скончыцца. Але тут з салдацкага натоўпу выйшаў Залонскі і хутка падняўся на трыбуну. Унтэр рашуча загарадзіў падпалкоўніку дарогу. Я чуў іх размову:

— Што вам трэба, пан падпалкоўнік?

— Я камандзір палка і хачу гаварыць са сваім палком.

Унтэр казырнуў і адступіў на вузкай трыбуне ўбок, абвясціў:

— Слова мае камандзір палка падпалкоўнік Залонскі.

Здзівіўся я, што унтэр ведае прозвішча камандзіра, які толькі што прыехаў і якога ніхто, акрамя некалькіх афіцэраў, не бачыў яшчэ.

Тыя, хто стаяў далей, каму, магчыма, ужо надакучылі прамовы, з-за цікаўнасці — каб лепш разгледзець і пачуць свайго новага камандзіра — пасунуліся наперад, калыхнулі лес чалавечых цел,

прыціснулі бліжэйшых да трыбуны. Залонскі пачакаў, пакуль супакояцца. Сказаў спачатку ціха, як бы спрабуючы голас ці правяраючы, як адзавуцца слухачы:

— Салдаты!

У адказ шыканне адзін на аднаго: «Сціхніце!»

Тады Залонскі гукнуў на поўны голас:

— Таварышы салдаты!

Полк адказаў прыхільным і здзіўленым гудзеннем. Было яшчэ нязвыкла, каб афіцэр, падпалкоўнік, так звяртаўся да салдат, але слова «таварыш» у тыя дні адразу прабівала сцяну адвечнай варожасці. Праз такую прабоіну легка было дабірацца да салдацкіх сэрцаў, якія, акрамя ўсяго іншага, прагнулі чалавечых адносін, спагады, дабраты.

Залонскі таксама гаварыў пра рэвалюцыю. Не так горача, як унтэр, не махаў так, як той, рукамі. Але мне ўявілася: унтэр нібы жвір раскідваў — многа каменьчыкаў, але дробных, а Усевалад Аляксандравіч — у тыя дні я часцей і часцей звяртаўся да яго ў думках, называючы імя і па бацьку — гаварыў так, быццам кідаў цяжкае і круглае каменнс. Гаварыў ён пра сілу рускага народу. Няма другога такога народу, з такой сілай і з такім імкненнем да свабоды. Нікому не даў ён запаланіць сябе — ні немцам-рыцарам, ні манголам, ні шведам. Народ разбіў трон рускага цара. Цяпер астаўся адзін вораг — кайзер нямецкі. Злейшы вораг. Не разаб'ём яго — ён задушыць рэвалюцыю. А без цара з яго нямецкім акружэннем разбіць ворага легка. З рэвалюцыйным урадам, з рэвалюцыйнай энергіяй салдат, з падтрымкай саюзных армій нанесці поўнае паражэнне немцам, маўляў, можна адным ударам, няхай толькі надыдзе вясна, падсохнуць дарогі...

— Значыцца, зноў у акопы, ваша благароддзе? Зноў вошай карміць? — крыкнуў побач з трыбунай стары салдат, — відаць, з тых, хто трапляў у запасны полк са шпіталю.

Залонскі на міг быццам спатыкнуўся пры хуткай хадзе. Але не ўпаў, не збочыў — кінуў вока на перашкоду і рушыў далей. Салдату ён не адказаў, салдата пачулі нямногія, а яго слухаў увесь полк. Не, і салдату ён адказаў: пачаў гаварыць пра роўнасць, якую ўсім дала рэвалюцыя, пра тое, што ён, іх камандзір, не «ваша благароддзе», а такі ж грамадзянін, як усе салдаты. Але не можа быць арміі без дысцыпліны. Без дысцыпліны нельга перамагчы ворага. Таму ў неслужбовы час заходзьце, маўляў, чай піць з камандзірам, а ў страі, на службе — поўнае і безумоўнае падначаленне.

Камандзір з паперкі прачытаў загад Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Пасля, праз колькі год, вывучаючы гісторыю рэвалюцыі, я даведаўся, што прачытаў ён не ўвесь гістарычны Загад нумар адзін, а толькі адзін ці два пункты яго — пра роўнасць, пра адмену тытулаў.

Залонскаму не крычалі «ўра», але пляскалі доўга, узрушана, з вясёлымі тварамі. Такое выступленне камандзіра палка здалося салдатам найвялікшай заваёвай рэвалюцыі. І камандзір быў задаволены. Як ніколі раней, памагаў мне разбіраць рэчы, перастаўляць мэблю, насвістваючы вясёлыя мелодыі.

Кватэра была тут жа, пры казармах, у афіцэрскім доме. І хоць была яна часовая — пакуль выедзе сям'я былога камандзіра,— мне здалася шыкоўнай: тры вялікія пакоі з простай мэбляй, ад якой пахла нечым родным, салдацкім, не так, як ад гнілых і пыльных канап смаленскіх панкоў, дзе пахла цвіллю і клапамі.

Першы прыйшоў «на чай» той самы цыганаваты унтэр, якому крычалі «ўра»,— Вадзім Свірскі. Ён падзякаваў камандзіру за прамову і таксама спытаў, да якой партыі той належыць. На гэты раз Залонскі не засмяяўся — задумаўся і адказаў, што па сваіх поглядах ён прымыкае да канстытуцыйных дэмакратаў.

Свірскі пачаў горача даказваць, што падпалкоўнік памыляецца, што па тых поглядах, якія ён выказаў у прамове, па характары свайму месца яго не ў радах буржуазна-памешчыцкай партыі, а ў самай, маўляў, рэвалюцыйнай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, якой належыць будучыня.

Залонскі з усмешкай адказаў:

— Я сын памешчыка, пан старшыня.

Свірскі быў старшыня палкавога камітэта. На прызнанне камандзіра ён замахаў рукамі.

— У нас, эсэраў, сваё разуменне класавай сутнасці чалавека. Я таксама не пралетарый. Мой бацька не бедны чалавек, ён мае два бровары. Але я з семнаццаці год пайшоў у рэвалюцыю, двойчы сядзеў у турме...

Тая акалічнасць, што Свірскі сядзеў у турме, адразу зрабіла яго ў маіх вачах вялікім рэвалюцыянерам. Мяне пацягнула да гэтага чалавека, як некалі да Івана Свірыдавіча,

Дарэчы, Залонскі сапраўды пачаставаў яго чаем. А ўвечары з афіцэрамі піў каньяк, які прывёз з Магілёва,— цэлую скрынку: замочваў сваё назначэнне.

Дні праз два Залонскага выбралі ў палкавы камітэт. Нават у той сітуацыі, калі большасць камітэтаў была пад эсэра-меншавіцкім

уплывам, гэта рэдкі выпадак, каб афіцэр такога рангу і звання выбіраўся ў салдацкі камітэт.

Для мяне пачалося вясёлае жыццё. У палку і горадзе штодня мітынгавалі. Залонскі даваў мне поўную волю, і я спачатку, пакуль не абрыдла, не прапускаў ніводнага мітынгу, выслухоўваў усіх прамоўцаў. Але — зразумеў я гэта значна пазней — палкавы камітэт быў у руках энергічных эсэраў, а ў гарадскім савеце таксама, відаць, у той час было не многа бальшавікоў, і не было сярод іх такога палымянага гаваруна, як Свірскі. Ён умеў заваражыць сваімі рэвалюцыйнымі словамі. Скажу шчыра, з мяне ён таксама хутка зрабіў эсэра. Не смейцеся, калі ласка. Вы не ведаеце таго часу. Людзі з вопытам і з адукацыяй намнога большай, чым мае два класы, не адразу разбіраліся што да чаго. А як мог я ў свае няпоўныя шаснаццаць гадоў разабрацца? З аднаго боку — гарачыя прыгожыя прамовы Свірскага, які, здавалася, чытау мае думкі, адгадваў сумненні і разганяў іх, як вецер хмары, адказваў на ўсе пытанні. З другога боку — трохі скептычны да ўсіх прамоў, але спакойны, разважлівы, настойлівы і дзелавы Залонскі, які нібыта на справе ажыццяўляў свабоду — ва ўсякім разе, я адчуў сябе сапраўды свабодным чалавекам.

Безумоўна, я чуў прамоўцаў-бальшавікоў, якія патрабавалі міру, зямлі, выкрывалі буржуазны ўрад Львова-Мілюкова, эсэра-меншавіцкіх згоднікаў. Але ў большасці гэта былі агітатары, якія прыязджалі з Цверы, Масквы, Петраграда. У палку такія людзі не затрымліваліся — хутка траплялі ў маршавыя роты і адсылаліся на фронт. Ні з кім з такіх людзей мне не ўдавалася пасябраваць асабіста, А Свірскагая слухаў штодня — на мітынгах і калі ён прыходзіў да камандзіра. Праўда, так проста, як некалі Іван Свірыдавіч, ён са мной не гаварыў, але — лічыў я — гэта праз тое, што ён быў вельмі заняты чалавек — ездзіў, выступаў, пісаў. Дарэчы, газеты я пачаў тады чытаць даволі акуратна. Залонскі заахвочваў гэта. Але ж бальшавіцкія газеты ён не купляў. І ўвогуле, відаць, нехта стараўся, каб у полк яны траплялі не часта і не многа. Разоў колькі бачыў я ў салдат «Правду», «Рабочий путь». Але з тымі, хто набываў гэтыя газеты, не было ў мяне блізкіх адносін, таму чытаў я іх выпадкова, урыўкамі. Трэба ўлічваць і тое, што бальшавікі, якія траплялі ў полк, відаць, не вельмі давяралі Георгіеўскаму кавалеру, які чысціў камандзіру боты і круціўся каля эсэра — старшыні палкавога камітэта. Не вялікі я набытак — шпана! — каб нехта з бальшавікоў мог сур'ёзна падумаць, што варта вырваць недарослага дзеншчыка з-пад эсэраўскага ўплыву і перацягнуць на свой бок. Хоць што датычыць вайны, то хутка мяне зноў апанавалі

сумненні: ці тыя, што трэба, новыя патрыятычныя заклікі кідалі афіцэры і многія агітатары? Асабліва пасля майскага выступлення ў палку маскоўскіх рабочых, якія выкрывалі мілюкоўскую ноту саюзнікам. «Прэч вайну! Няхай жыве мір паміж народам!! — такі лозунг нашай партыі, такі лозунг таварыша Леніна!» — закончыў адзін з прамоўцаў. Я падумаў тады: супроць вайны быў Іван Свірыдавіч, Лізуноў, Кузняцоў. На смерць пайшлі за гэта. Супроць вайны выступаў пры царызме і выступае цяпер, пры Часовым урадзе, Ленін, пра якога Іван Свірыдавіч гаварыў з вялікай пашанай, як пра свайго найлепшага настаўніка. Ваяваць не хочуць салдаты, сяляне, рабочыя. Значыцца, выходзіла, што вайна па-ранейшаму патрэбна буржуям, панам, генералам.

Выказаў свае сумненні Свірскаму: навошта цяпер, калі ўсе людзі роўныя, салдат гоняць на смерць? Ён растлумачыў, што эсэры таксама супроць вайны, але нельга, маўляў, прасіць міру ў невыгодны нам час. Кайзер адчуе сваю сілу і пачне дыктаваць умовы, якія, безумоўна, будуць на шкоду рэвалюцыі, бо любы самадзержац — вораг рэвалюцыі і народу; трэба выбраць выгодны момант, тады можна заключыць сапраўды трывалы мір. Гэта, скажу вам, пераконвала такога «добрасумленнага абаронцу», як я.

Не помню ўжо, у якой газеце, але мне пашчасціла прачытаць даволі падрабязны расказ пра вяртанне Леніна з-за мяжы, пра сустрэчу яго на Фінляндскім вакзале. Вельмі падабалася, як сустракалі Леніна. У вялікодны вечар тысячы людзей прыйшлі да вакзала, ваенны аркестр іграў «Марсельезу», стаяў ганаровы каравул матросаў і салдат. Ні пра каго не пісалі на плакатах: «Няхай жыве правадыр рэвалюцыі!» Пра Леніна рабочыя напісалі. Чытаў я гэта і вельмі шкадаваў, што Іван Свірыдавіч не дажыў да такога часу: вось бы парадаваўся!

Пасля я пачаў шукаць у газетах пра Леніна. Хацеў, каб ён зрабіўся і маім настаўнікам, навучыў так усё разумець, як разумеў Іван Свірыдавіч. Але я казаў ужо, якія газеты прыходзілі ў полк. Хутка хлынуў лівень паклёпаў на Леніна, на бальшавікоў. Калі прыняць пад увагу маю наіўную сялянскую ды дзіцячую яшчэ веру ў друкаванае слова, хітрасць буржуазных пісакаў — друкаваліся, нібыта, сапраўдныя дакументы аб перагаворах Леніна з нямецкім урадам, паказанні сведкаў аб пламбіраваным вагоне, аб мільёнах грошай, якія бальшавікі атрымалі ад Вільгельма,— то можаце ўявіць, як тлуміла гэта юнацкую галаву, якая «палітычная каша» варылася ў галаве гэтай.

Магчыма, душэўны разлад быў бы больш моцны і балючы, калі б не адна акалічнасць, якая пераключыла маю ўвагу з мітынгаў і газет

на іншае. Недзе ў маі прыехала да мужа пані Антаніна. Але прыехала не адна — з пакаёўкай, дзяўчынкай маіх год, чарнавокай Катрусяй. Калі я ездзіў на Украіну, дзяўчыны гэтай у маёнтку не было, яе, салдацкую сірату, пані ўзяла з вёскі. Маўклівая, ціхая, з сумнымі вачамі, але вельмі спрытная ў працы, старанная Катруся зачаравала мяне на другі ж дзень. І зацьміла, як кажуць, свет божы. Але пра наша каханне цікавей расказвае Кацярына Васілеўна. Прашу — заходзьце. Гаспадыня будзе рада, ёй сумна ўвосень — канікулы скончыліся, унукі раз'ехаліся. Я часам кажу ёй: «Можа я тады вялікім палітыкам зрабіўся б, каб не вочы твае».

Праўду кажу, не перабольшваючы: такое бурнае лета, столькі падзей, а я з усяго, што адбылося ў тыя месяцы, запомніў, як упершыню адважыўся дзяўчыну абняць і як пакляўся яе кахаць усё жыццё. Пасля ўжо, калі вучыўся, паступова і не заўсёды выразна, як на плёнцы ў дрэннага фотааматара, праяўляліся ўспаміны, звязаныя з той ці іншай падзеяй лета семнаццатага года.

Цікавасць мая да палітыкі, такая, як была вясной, пасля Лютаўскай рэвалюцыі, абудзілася толькі недзе ў жніўні. Пачалося гэта не з мітынгаў, на якія амаль перастаў я хадзіць, бо лічыў, што прыемней вольную гадзіну з Катрусяй прабыць, чым слухаць прамовы. Пачалося са з'яўлення нечаканага госця. Аднойчы ўвечары нехта пастукаў. Я адчыніў дзверы і... страшэнна здзівіўся: ротмістр Ягашын. Ён даў мне балючую пстрычку па лбе. Сказаў:

— Ты тут, паляк?

— Я не паляк, я беларус.

— Ты без вус, беларус, а мы самі, а мы самі, а таму, што мы з вусамі,— весела праспяваў ён нейкую бяссэнсіцу. — Пан падпалкоўнік дома?

І, не пытаючыся, ці можна зайсці, рушыў у пакоі. Я паспрабаваў падслухаць пад дзвярамі, хоць ніколі гэтага не рабіў раней. Але дзверы былі дубовыя, шчыльныя — не фанерка, як цяпер. Спачатку яны гаварылі гучна і злосна, потым — ціха, нічога не разабраць, пад канец — зноў закрычалі. Я пачуў не словы камандзіра, а словы яго жонкі, якая, між іншым, даўно ўжо ўмешвалася ў палкавыя справы. Пані Антаніна крыкнула:

— Полк астанецца верны рэвалюцыі! Так і перадайце вашаму Карнілаву!

— Пан падпалкоўнік, хто тут камандуе? Баба?

— Вы хам, ротмістр!

— Я не ў захапленні ад Керанскага. Але я не пайду назад. Я — дэмакрат, і пайду разам з народам,— гудзеў праз дзверы голас Залонскага.

— З якім народам? За кім ідзе твой народ? За бальшавікамі. За Леніным. Народ — гэта быдла! У каго даўжэйшая пуга...

— Не смейце абражаць народ!

— Пардон, мадам! Але ты — сляпец, Залонскі. Ты — дурань! Гнілы ліберал!

— Прэч! Пайшоў прэч! — бесцырымонна выгнала госця звычайна далікатная, гасцінная пані.

Выбягаючы з пакоя, Ягашын пагражаў:

— Вы пашкадуеце яшчэ! Вы пашкадуеце! Вам пакажуць рэвалюцыю!..— і брудна вылаяўся.

Залонскіх вельмі ўсхвалявала яго наведванне. Да позняй ночы супакоіцца не маглі. Пані нават нас з Катрусяй пакрыўдзіла — зрабіла вымову, што мы без іх дазволу пускаем у кватэру розных прайдзісветаў.

А дзён праз колькі полк тэрмінова перакінулі ў Петраград — па загаду Керанскага, які спалохаўся змовы Карнілава.

Няцяжка ўявіць, што значыла для такога хлопца, як я, пасля маленысага ціхага гарадка трапіць у сталіцу, ды яшчэ ў такі час, калі там усё кіпела і шумела, калі рабочыя, рэвалюцыйныя матросы, салдаты ўздымаліся на абарону Петраграда ад карнілаўшчыны. Тут ужо нават Катруся не магла б утрымаць мяне пры сабе. Ды, між ініііым, і не было яе. Яны з пані пакуль што асталіся ў Таржку. А для мяне ўсё было новае, незвычайнае. Горад, людзі... Нават мітынгі ў палку зрабіліся інакшыя.

Полк размясцілі ў казармах на Васілеўскім востраве, недалёка ад завода «Дзюмо». Выклікалі полк — і быццам забыліся на яго. Ніякіх каманд не паступала. І ніхто — nі штаб, ні салдацкі камітэт — не ведалі, калі, дзе, які полк можа выступіць супроць казакоў, якіх Карнілаў і Красноў вялі на Петраград.

Ад майго пільнага вока нічога нельга было схаваць, не схавалася і тое, што Залонскі, афіцэры, Свірскі і некаторыя іншыя члены камітэта туляліся разгубленыя, узрушаныя і зусім не выказвалі радасці ад таго, што полк апынуўся ў сталіцы і павінен ісці ў бой за рэвалюцыю. Адзін я падскокваў ад радасці, як малады жарабок, і пасняваў усюды заглянуць, усё падслухаць.

Яшчэ на вакзале полк сустрэлі тры прадстаўнікі ЦВК Саветаў — двое цывільныя, адзін ваенны — прапаршчык. Відаць, ні Свірскі, ні Залонскі не разабраліся адразу, ад якой партыі тыя людзі. Іх

задаволіла, што прадстаўнікі мелі мандаты Савета. Там, на вакзале, правялі мітынг. Шалымянасць іх прамоў, яснасць, пераконанасць, неяк адразу зацьмілі туманную красамоўнасць эсэра Свірскага. Большасць салдат падтрымалі прадстаўнікоў. А я, яшчэ не ведаючы дакладна, хто тыя людзі, падумаў, што яны — як Іван Свірыдавіч, смерці не баяцца, нічога не баяцца, што яны, напэўна, з партыі Леніна. Гэта такі праўда былі бальшавікі з ваеннай арганізацыі. Адзін з іх — малады чалавек, падобны на студэнта, з бародкай, з нярускім прозвішчам, таму я не запомніў яго, з'явіўся ў полк на трэці дзень, з ім — чалавек пятнаццаць узброеных рабочых і матросаў. Сабралі палкавы камітэт. Я схітраваў — ніхто мне не загадваў — і сам стаў за вартавога каля акон будынка, дзе праходзіла пасяджэнне.

Прадстаўнікі патрабавалі ад камандавання і камітэта выдзеліць кулямётную каманду, якая павінна падтрымаць атрады Чырвонай Гвардыі, іпто занялі абарону на подступах да Петраграда. Залонскі адказаў, што не мае загаду вышэйшага камандавання.

— Чыйго загаду вы, пан падпалкоўнік, чакаеце? Карнілава? Крымава? — гарачыўся цывільны.— Ёсць загад народа!

— Таварышы, таварышы! — стараўся прымірыць Свірскі,— Падпалкоўнік Залонскі верны рэвалюцыі афіцэр. Але нельга ж так — з наскоку. Мы не маем нават патронаў. Нашы склады асталіся ў Таржку.

— Патронамі забяспечым мы, ваенная арганізацыя рабочага класа. Контррэвалюцыя не чакае. Трэба даражыць кожнай хвілінай!

— Дайце нам параіцца'з ЦВК Саветаў,— папрасіў Свірскі.— З урадам.

— Вы можаце раіцца з кім хочаце і колькі хочаце. Але калі праз гадзіну кулямётчыкі не выступяць, мы склічам палкавы мітынг і абвесцім аб вашай пазіцыі ў барацьбе з контррэвалюцыяй. Паглядзім, што скажуць салдаты. Ці такі камітэт патрэбны ў гэты час рэвалюцыйнаму палку?

— Вы нас не палохайце і не стаўце ультыматум,— крычаў Свірскі.— Полк павернецца да вас спіной.

— Склікайце мітынг — і там паглядзім, да каго якім месцам павернуцца салдаты.

Але, напэўна, камандзір палка лепш чым камітэт ведаў настрой салдат, бо раптам ветліва папрасіў не траціць час на спрэчкі, на мітынгі, а па-вайсковаму абмеркаваць дэталі: колькі кулямётаў, колькі салдат патрабуецца; што можа выставіць полк; калі і куды выязджаць, на якім транспарце.

Кулямётчыкаў вывозілі на пазіцыі на аўтамабілях. З'яўленне праз якія дзве гадзіны грузавікоў па тэлефонным выкліку маладога латыша вельмі ўзняло яго аўтарытэт. Відаць, ні разумны Залонскі, ні хітры і ўвішны Свірскі не маглі зразумець, адкуль такая сіла і ўлада ў рабочага камандзіра. Яны ведалі адно: сам Керанскі не здолеў бы прыслаць аўтамабілі. Бо колькі іх у той час было... А тут пазваніў нейкі просты, нікому не вядомы бальшавік — і падалі самы хуткі транспарт. Хто яго прыслаў? Адкуль?

Магчыма, што гісторыя з аўтамабілямі ўзбадзёрыла Залонскага, узняла яго баявы дух. Ён пажадаў сам паехаць за горад — размясціць кулямёты на пазіцыі. Хіба я мог прапусціць такую паездку?

Ехалі з чырвонымі сцягамі. З транспарантамі: «З'яднанымі шарэнгамі сустрэнем ворага народу, здрадніка рэвалюцыі, забойцу Свабоды — Карнілава!»

Калі ехалі па цэнтры сталіцы, паны і пані глядзелі на нас злоснымі вачамі. А на ўскраіне, у заводскім раёне, рабочыя махалі шапкамі, крычалі добрыя пажаданні. Босыя і мурзатыя, такія, якім некалі быў я, хлапчукі беглі за грузавікамі.

Цяпер Ленінград разбудаваўся, зліўся з прыгарадамі, з дачнымі мясцінамі, і, здаецца, гораду няма канца і краю. А тады: апошнія драўляныя дамы за Нарвскай заставай — і адразу поле. Не, не поле — балота, пустэльнае, дзікае.

У канцы жніўня там, ля Фінскага заліву, восень адчуваецца больш прыкметна, чым у нас тут, у Беларусь Але той дзень, помню, быў па-летняму цёплы, сонечны, ціхі. І хоць невысокія бярозкі ззялі на сонцы золатам, не хацелася верыць, што надыходзіць восень. Можа ад настрою залежала? Салдаты ехалі весела. На клінкернай, а пасля на тарцовай шашы моцна трэсла, падкідала. Большасць упершыню ехала на аўтамабілях, таму ўсё здавалася незвычайным; калі падкідала, узбуджана смяяліся. Я таксама спачатку смяяўся, але хутка сціх. Уразіла пустэча — ніводнага чалавека. Уяўлялася, што навокал будзе людна, як у прыфрантавой паласе — тылы, абозы, кухні. Не, нікога няма. Гэта цяпер, пры сучасным транспарце, нідзе не схаваешся ад людзей — ні ў полі, ні на лузе, ні ў лесе. А тады рэдка хто выязджаў за горад. Раней царская світа, князі, графы і ўсе багацеі па той дарозе ездзілі — на свае дачы, у загародныя вілы. А ў рэвалюцыю прытаіліся, не шыкавалі перад галоднымі рабочымі.

Мяне нават епалохала такая бязлюднасць прыгараду. Як жа будзе абараняцца Петраград ад войск Карнілава? Наіўны хлопчык, я ўяўляў любую вайну толькі ў выглядзе лініі фронту з акопамі і

траншэямі. Не ведаў яшчэ, што рэвалюцыйная вайна — наступленне і абарона — патрабуе асаблівай тактыкі.

На чыгуначным пераездзе станцыі Тайцы грузавікі затрымаў узброены рабочы. Латыш спытаў, дзе камандзір атрада. Вартавы паказаў на ўзгорак, там віднелася адзінокая жоўтая будыніна. Грузавікі завярнулі з шашы на пыльную палявую дарогу. На ўзгорку каля высокага дашчанага плоту з зямлі ўзняліся рабочыя і прыветліва махалі вінтоўкамі, шапкамі.

Падпалкоўнік Залонскі вылез з кабіны другога грузавіка, на першым ехаў латыш. Я саскочыў з кузава і... далібог жа, аслупянеў. Ад дома ішоў да нас... Іван Свірыдавіч. Але, той самы Іван Свірыдавіч Галадушка, віцебскі рабочы, салдат, пасля — ротны пісар, асуджаны трыбуналам амаль год назад да смяротнай кары. У першы міг я не паверыў вачам сваім: ці не прывід гэта ад нязвыклай язды? Але глянуў на Залонскага і ўбачыў, як той пабялеў. Значыцца, сапраўды да нас ідзе Іван Свірыдавіч, жывы, здаровы, у скуранцы, на папрузе — маўзер у драўлянай кабуры. Ледзь прыкметна ўсміхаецца. Радасць мяне апанавала такая, быццам я сустрэў бацьку роднага. Хацелася закрычаць. Але першы кінуўся да Івана Свірыдавіча латыш.

— Таварыш Галадушка! Прымай кулямётную каманду, якую табе абяцалі. З такімі арламі ты можаш пакласці тут усіх карнілаўцаў.

Яны ціснулі адзін аднаму рукі. Салдаты здымалі з грузавікоў «максімы», весела гаманілі з рабочымі, а мы з Залонскім стаялі як на парадзе. Чакалі. Латыш, нарэшце, успомніў пра Залонскага. Пазнаёміў:

— Камандзір палка... Свірскі. Не, Свірскі — гэта той, з камітэта, што спалохаўся Карнілава. Падпалкоўнік — чалавек больш рашучы. Прабачце, забыўся ваша прозвішча... Грамадзянін падпалкоўнік сам пажадаў размясціць кулямёты.

Іван Свірыдавіч з той жа ўсмешкай паднёс руку да зашмальцаванай кепкі:

— Камандзір атрада Чырвонай Гвардыі Галадушка.

Залонскі таксама казырнуў, але нічога не сказаў — пэўна, заняло дух, ніяк ад нечаканасці апамятацца не мог.

Тады Іван Свірыдавіч растлумачыў латышу:

— Мы з падпалкоўнікам... тады капітанам... разам ваявалі.

— О, старыя знаёмыя! Зусім добра! — і, абыякавы да таго, як сустрэнуцца старыя знаёмыя, кінуўся назад, каб паспяшыць з выгрузкай. Здалёк ужо крыкнуў: — Падпалкоўнік! Я пакідаю вам адзін аўтамабіль. Але прашу не затрымліваць! Нам трэба яшчэ вывезці на пазіцыі некалькі атрадаў!

Іван Свірыдавіч сказаў:

— Мяне радуе, грамадзянін Залонскі, што вы тут, з намі, а не там, — ён махнуў рукой на поўдзень, уздоўж чыгункі, адкуль чакалі карнілаўцаў.

Нарэшце Залонскі здолеў загаварыць.

— Вы дрэнна думаеце пра мяне, Галадушка. Я ніколі не ішоў супроць народу...

— На судзе вы моцна спалохаліся.

Вельмі непрыемны для падпалкоўніка быў гэты напамінак — па твары ўбачыў я, бо даўно ўжо навучыўся пазнаваць настрой яго па твары, вачах, нават па руках — як пальцы перабіралі партупею ці прыгладжвалі валасы. Ажно пасінеў яго твар ад напамінку таго і рука нервова начала папраўляць рамень партупеі.

— Я адказваў за батальён. Мяне маглі судзіць...

— Аднак не судзілі. Судзілі нас. Але не будзем старое ўспамінаць. З таго часу шмат вады сплыло. Дзякую, што прыйшлі на дапамогу. Ваша ўменне і вопыт будуць дарэчы.

Узрадаваны гэтымі словамі і, безумоўна, магчымасцю хутчэй скончыць размову, размясціць кулямёты і развітацца з Галадушкам, Залонскі тут жа рушыў да салдат.

Тады Іван Свірыдавіч падышоў да мяне, абняў, як сына, вочы яго свяціліся шчырай радасцю.

— Здароў, Піліпок. Я рады, што ты жывы, здаровы! Падрос. Малайчына. Баяўся я, што яны і цябе пад трыбунал падвядуць. Начамі не спаў — думаў і перажываў, што нічым памагчы не магу. Хаця б папярэдзіць цябе... Ды не было як...

— А як жа вы... Вас жа расстралялі...

Іван Свірыдавіч сумна ўсміхнуўся.

— Злітаваўся цар-бацюхна... з некаторых салдат: замяніў расстрэл пажыццёвай катаргай. Хацеў загнаць нас у магілы больш пакутлівай смерцю. Ды народ ратаваў. Цару далі па шапцы, жандараў у турму. Цяпер душыцелю свабоды і кату Карнілаву галаву здымем. А там і да Керанскага чарга дойдзе. Рэвалюцыя, Піліп, не скончылася. Уладу павінны ўзяць рабочыя, салдаты, сяляне, Так вучыць Ленін...

Ён нагадаў пра Леніна — і я спытаў:

— Вы страчалі Леніна?

— Не, брат Піліп. Пакуль я дабіраўся з катаргі, буржуі і эсэры хацелі арыштаваць правадыра рэвалюцыі. І Ленін быў вымушаны выехаць з Піцера. Куды — ведае толькі той, каму трэба ведаць. Чуў такія словы — канспірацыя, падполле? Аднак раскажы ты. Што за полк? Адкуль вы прыбылі ў Піцер? З фронту?

— Часу на размову не было. Мы хутка ішлі па полі, па пожні зжатага ячменю, па бульбе з яшчэ зялёным каліўем, па лугавіне. Пазіцыі атрада паабапал чыгункі і шашы цягнуліся кіламетры на чатыры. Залонскі ішоў наперадзе, прыкідваў, дзе паставіць кулямёты. Але Іван Свірыдавіч, слухаючы мой расказ, сачыў за камандзірам палка і часам ветліва падказваў:

— Грамадзянін падпалкоўнік! Я думаю, што лепшая пазіцыя была б вунь пад тымі дубамі. Адгэтуль бярэзнік загароджвае шашу. Казакі могуць ісці па шашы. Чыгуначныя саставы мы спынім без кулямётаў. У нас ёсць іншая сіла.

Залонскі моўчкі згаджаўся. Толькі адзін раз рашуча запярэчыў — калі Іван Свірыдавіч прапанаваў размясціць кулямётны разлік на гарышчы пустой дачы. Нават узлаваўся чамусьці:

— Гэта абсурд! Ёсць правілы вайсковай тактыкі!

Іван Свірыдавіч здзівіўся, чаму падпалкоўніку так не спадабалася пазіцыя на дачы, але спрачацца не стаў.

Калі я расказваў пра старшыню палкавога камітэта, расказваў яшчэ з захапленнем — такі прамоўца, што да слёз даводзіць, калі гаворыць! — Іван Свірыдавіч зацікаўлена спытаў:

— Хто ён?

— Свірскі? Як хто? Старшыня...

— Ад якой партыі, не ведаеш?

— Эсэр.

Іван Свірыдавіч засмяяўся.

— Усё зразумела. Але скажу табе, браце Піліп, можа полк ваш і рэвалюцыйны па настроі салдат, але ў рэвалюцыйнасці вашага палкавога камітэта я моцна сумняваюся.

Каб хто іншы, старонні гэта сказаў, напэўна, я кінуўся б у бой за свой камітэт, за Свірскага. А з Іванам Свірыдавічам не толькі не стаў спрачацца, а чамусьці пачаў расказваць, як латыш вырываў кулямётную каманду, хоць добра разумеў, што гэта пацвердзіць Галадушкаву думку, Але, магчыма, мне захацелася неяк узняць у яго вачах камандзіра: ён жа першы згадзіўся накіраваць кулямётчыкаў! Я быў у той час юным лібералам; наслухаўшыся прамоў, начытаўшыся газет пра роўнасць усіх людзей, хацеў усім ім, людзям, рабіць добрае. Няхай Залонскі спалохаўся на судзе — перад трыбуналам любы мог спалохацца! — але ж чалавек ён добры. Відаць, Іван Свірыдавіч усё так і зразумеў, бо адказаў:

— Пасля таго, Піліп, што ты расказаў, Свірскі твой ясны, як божы дзень. А вось ён,— кіўнуў на Залонскага,— быў загадкавы і пакуль што астаецца загадкай. Для мяне ў прыватнасці.

Камандзір палка спяшаўся вярнуцца ў горад. А мне так хацелася пагутарыць з Іванам Свірыдавічам! Даўно я не гутарыў ні з кім так сур'ёзна, па-даросламу, і ў той жа час шчыра, вельмі даверліва, як некалі з дзядзькам Ціханам. Сардэчна гутарыў з Катрусяй, але ж пра палітыку з ёй не пагаворыш, яна ў палітыцы тады цямней ночы была. Гэта цяпер мая Кацярына Васілеўна — самы дасведчаны міжнароднік, ад газет і тэлевізара не адарвеш.

Папрасіў камандзіра дазволіць астацца з кулямётчыкамі. Адмовіў. Нават, здалося мне, са злосцю. Злосць яго балюча ўразіла/У душы маёй узняўся пратэст. Захацелася ўзбунтавацца, як некалі ў Смаленску. Я вольны чалавек. Чаго мне баяцца? Ды яшчэ тут, пры Іване Свірыдавічы, пры рабочых! Не паеду — і ўсё! Няхай сам чысціць боты. Лакеяў больш няма!

Але, мусіць, Іван Свірыдавіч і тут адгадаў мае пачуцці, мой намер, ці па твары, у вачах прачытаў, бо лагодна сказаў:

— Смеласць тваю, Піліп, мы ведаем. Але нам ты мала паможаш. А камандзіру больш патрэбны. Шчаслíва вам,— і весела падміргнуў мне.— Не бойся, цяпер я знайду цябе. Параднюся з вашымі кулямётчыкамі — і буду частым госцем у палку.

Ехаў я назад з крыўдай на Залонскага. Але ўвогуле на душы было хораша. Быццам прасвятленне нейкае найшло. За апошнія месяцы ў галаву маю набілі многа ўсялякага смецця. Нядоўгая размова з Іванам Свірыдавічам як бы пачысціла той сметнік і да ладу шмат што прывяла. Як гаспадарлівы каптэнармус — раскладзе ўсё ў капцёрцы па парадку, і адразу відаць, што лішняе, а чаго не хапае. Так і я. Качаючыся і падскокваючы ў кузаве, адзін, як качан, раскладваў я ўсё па парадку і пачынаў бачыць, адчуваць, чаго мне не хапае, а чаго і занадта многа ў галаве. Добра помню, што цвёрда вырашыў: «Калі і пасля асуджэння на смерць Іван Свірыдавіч так верыць Леніну, ідзе за ім, то і я пайду за Леніным і ніякай хлусні пра бальшавікоў больш не паверу».

А той жа Свірскі ў сваіх прамовах ліў на бальшавікоў бруд. Але я разумеў, што, каб здзейсніць гэты свой намер, трэба змяніць жыццё. А як? Уцячы з палка, ад Залонскага? Падацца на завод? То навошта Іван Свірыдавіч сказаў, што я патрэбны камандзіру? Можа мае нейкі свой разлік? Буду чакаць сустрэчы з ім. Я верыў у такую сустрэчу, вельмі хуткую, і ад гэтага адчуў сябе спакойна, упэўнена, павесялеў.

А Залонскі ў той дзень быў задумлівы, бадай сумны, якім я не бачыў яго даўно ўжо, хіба ў Смаленску апаноўвала яго такая хандра. У мяне спытаў, калі я падаваў яму вячэру:

— Жмянькоў, што цябе цягне да гэтага чалавека?

— Да якога, Усевалад Аляксандравіч?

— Да бальшавіка гэтага... Галадушкі.

Я сумеўся: што адказаць?

— Ён добры. І разумны. Ён як бацька.

— А я не здолеў замяніць табе бацьку?

— Вы добры, пан падпалкоўнік.

Вельмі дзіўна — пранікліvым позіркам, ніколі, бадай, так не глядзеў — прасвідраваў ён мяне наскрозь, расчаравана працягнуў:

— М-да, Жмянькоў,— і, апусціўшы вочы ў талерку, дадаў: — Відаць, іх Ленін мае рацыю.

Я не зразумеў, у чым Ленін мае рацыю. Але тое, што ён сказаў «іх Ленін», яшчэ больш размежавала нас, і я

не адважваўся распытваць, што падпалкоўнік мае на ўвазе,— пабаяўся, што ён скажа што-небудзь брыдкае і сапсуе мой добры настрой. У наступныя дні я прыкмеціў яшчэ адну новую рысу ў паводзінах Залонскага: раптоўна змяніліся яго адносіны да Свірскага. Нічога не асталося ад ранейшай павагі. Нават размаўляць пачаў са старшынёй камітэта несур'ёзна, насмешліва, як з малым; са мной, і то так ніколі не гаварыў. На пасяджэнне камітэта адмовіўся пайсці. Калі член камітэта, які нрыходзіў запрашаць, выйшаў з пакоя, зняважліва кінуў услед:

— Балбатуны бясплодныя. Павучыліся б у бальшавікоў, як трэба дзейнічаць.

Пачуў я гэтыя словы — і зусім збіўся з панталыку. За каго ж цяпер Залонскі? Чаму страціў веру ў эсэраў, да якіх так доўга хіліўся? Сам жа Керанскі эсэр.

Тым часам напружанасць спала. Карнілаўцы не вытрымалі рэвалюцыйнай згуртаванасці рабочых і салдат. Кулямётчыкі вярнуліся ў казарму. Жыццё ў палку прыходзіла да ладу, безумоўна, у знешніх праявах, бо іншага, што рабілася тады, я не мог бачыць.

Цяпер мы ведаем, як развіваліся падзеі. Часта з вышыні гэтага ведання, асэнсаванасці людзі расказваюць пра свой удзел у гістарычных падзеях. Можа і я трохі збіваюся на такі шлях. Але гэта даравальна, бо мне, хоць яшчэ і не вельмі свядомаму, пашчаслівіла апынуцца блізка ад эпіцэнтра таго выбуху, які скалануў увесь свет.

Я чакаў Івана Свірыдавіча. Ад кулямётчыкаў ведаў, што бою не было, і ўсе жывыя і здаровыя зняліся з пазіцыі. Пра рабочага камандзіра Галадушку кулямётчыкі, з якімі я гаварыў, адзываліся хораша, некаторыя — з захапленнем. І таксама казалі, што ён абавязкова наведаецца ў полк, бо абяцаў ім. Але праходзілі дні, а Іван Свірыдавіч не ішоў. І я перажываў. У такім узросце не вельмі яшчэ

задумваешся над прычынамі, думаеш спрошчана: маўляў, паабяцаў — выконвай. Праўда, неўзабаве гэтыя перажыванні адступілі, я прыгадваў Івана Свірыдавіча, але не чакаў яго з такой нецярплівасцю, узрушанасцю. З'явіліся новыя клопаты. Пераехалі ў Петраград пані Залонская і Катруся. Іiасяліліся ў цёткі пані Антаніны, у прыгожым асабняку амаль у цэнтры Піцера — побач з Міхайлаўскім манежам. Мяне там не пасялілі. У доме хапала прыслугі. Я астаўся ў казарме. Магчыма, Залонскі хацеў паступова збавіцца ад дзеншчыка, бо пасля сустрэчы з Іванам Свірыдавічам адносіны камандзіра да мяне прыкметна змяніліся. Не, ён не злаваўся — выхаваны афіцэр! Ды і час не той, не пры царызме. Ён проста неяк аддаліўся і мент звяртаў увагі на мяне. Дзеншчыком я даўно не лічыўся; яшчэ ўлетку, у Таржку, Залонскі прызначыў мяне памочнікам штабнога каптэнармуса. Але гэта проста так, для формы. У сапраўднасці я заставаўся дзеншчыком, бо самому мне падабалася быць бліжэй да Катрусі, ды і яму, камандзіру, без маіх паслуг жылося б цяжэй,— ён любіў парада к, чысціню, камфорт. Але калі прыехала пані, Залонскі радзей пачаў карыстацца маімі паслугамі — толькі на службе, у палку. Аднак не забараняў мне наведвацца на кватэру. Я зрабіўся вольным казаком — гуляў, дзе хацеў. Паездка туды на трамваі, зварот назад, у казарму, часта пехатой, пад асеннім дажджом (ні разу, якая ні была б пагода, не запрасілі мяне пераначаваць),— забіралі нямала часу і адрывалі ад салдат, ад жыцця ў палку. Таму шмат чаго, што рабілася ў тыя асеннія дні ў палку, я прамаргаў, гледзячы на Катрусіны бровы і слухаючы кпіны лакеяў у людской дома пані Галай.

А ў палку вялася вялікая работа. Іван Свірыдавіч не з'яўляўся, але выйшла так, што ён жыў сярод салдат. Дарэчы, не адзін я прамаргаў змены, якія адбываліся ў настроі салдат. Залонскі таксама. Ён не кожны дзень з'яўляўся ў палку — невядома, дзе адсутнічаў, як і некаторыя іншыя афіцэры, апраўдваючы гэта тым, што, маўляў, усё адно ўсімі справамі кіруе палкавы камітэт. Але ўлада Свірскага была падкошана нябачнай прысутнасцю Івана Свірыдавіча. Даволі было кулямётчыкам чатыры дні пабыць пад яго камандаваннем — і настрой іх змяніўся. Пасля тлумачыў мне Іван Свірыдавіч, што полк наш быў моцным арэхам эсэраўска-меншавіцкім: у такія запасныя часці, асабліва на унтэр-афіцэрскія пасады, у пісары, на склады, капцёркі набівалася нямала розных дробных буржуйчыкаў, якія баяліся фронту і хацелі перасядзець вайну ў тыле.

Аднойчы, калі я позна ўвечары вярнуўся ад Катрусі, казарменная плошча гудзела тысячамі галасоў. Не зважаючы на дождж, ішоў мітынг, вельмі бурны. Ішоў, па сутнасці, у цемры, бо некалькі цьмя-

ных газавых ліхтароў перад уваходам у казарму не асвятлялі нават трыбуну, з якой выступалі прамоўцы. Твараў не відаць было, але па гомане адчувалася, што салдаты моцна ўзрушаныя.

У мяне быў ключ ад запасных дзвярэй, праз якія я адразу трапляў у каморку, дзе жыў з каптэнармусам,— каб не ісці праз усю казарму, не грукаць ботамі ў даўжэзным калідоры. І тут я адразу сцяміў, што праз казарму я хутчэй траплю да трыбуны і хутчэй, чым распытваючы салдат, якія апынуліся з краю, даведаюся, чаму полк узняўся ў такі позні час і мітынгуе пад дажджом.

У пустым калідоры казармы я сутыкнуўся са Свірскім і здзівіўся, што старшыня палкавога камітэта не на мітынгу. Выгляд у яго быў разгублены і спалоханы, шынель не зашпілены, шапка набакір. А ён жа часта гаварыў пра дысцыпліну. Кінуўся да мяне, як бы ратуючыся.

— Жмянькоў! Добра ведаеш дарогу да кватэры камандзіра?

Дзіва што! За паўтара месяца вывучыў кожную вуліцу, кожны дом, нават выбоіны на тратуарах!

— Паедзеш з ад'ютантам, пакажаш дарогу. Прывязіце пана падпалкоўніка. У палку бунт.

— Які бунт?

— Маршавая рота адмовілася ехаць на фронт.

Выпадак у той час нярэдкі, пра такія бунты пісалі газеты, расказвалі бальшавіцкія прамоўцы. Але ўсё-такі здарэнне незвычайнае. Я ведаў, што такое вайсковая дысцыпліна, ведаў, што перад штабам акругі, перад урадам за полк адказвае камандзір. Таму згадзіўся суправаджаць ад'ютанта.

Паехалі на парцы добрых коней у брычцы на мяккіх рысорах. На глухіх вуліцах са сляпымі дамамі — рэдка дзе свяцілася акно ці працэджвалася святло ў шчыліны аканіц — гулка стукалі капыты коней па бруку, барабаніў дождж па скураной будцы брычкі. У цэнтры — на набярэжнай, на Неўскім, на Ліцейным — яшчэ шумела жыццё. Гулялі пад парасонамі афіцэры і паненкі. Свяціліся вокны рэстаранаў, гучала музыка. Пра гэтыя рэстараны многа гаварылі ў палку. У Піцеры галадалі рабочыя, салдаты атрымлівалі паўфунта хлеба, а ў рэстаранах гэтых, казалі, хіба толькі птушынага малака не падавалі. За вечар буржуй ці багаты афіцэр прагульваў там больш, чым рабочы зарабляў за месяц.

Ад'ютант панура ўздыхаў, гледзячы на гэтыя спакусы. Калі я спытаў, ці наведваецца пан прапаршчык у такія рэстараны, ён злосна вылаяўся і загадаў мне памаўчаць. Мяне здзівіў такі яго настрой, звычайна на службе прапаршчык гэты быў мяккі і гаваркі чалавек.

У Залонскага былі госці, і ён выйшаў да нас у пярэдні пакой. Калі адчыніліся дзверы ў гасцiную, мяне моцна ўразіў голас аднаго з гасцей — здалося, гаварыў ротмістр Ягашын. Залонскі выслухаў даклад ад'ютанта аб тым, што робіцца ў палку, на дзіва спакойна. На просьбу старшыні камітэта неадкладна прыехаць у полк адказаў зняважліва:

— Перадайце, прапаршчык, гэтаму ідыёту, які хваліўся веданнем салдацкай душы і сваім уплывам на салдат, няхай сам сёрбае кашу, якую заварыў. Гэта яго ідэя — з ротай.

— Старшыня камітэта лічыць, што трэба папрасіць казакоў...

Залонскі зарагатаў нядобра, зларадна.

— Лагічны шлях такога рэвалюцыянера, як Свірскі,— сказаў ён,— Але мяне асабіста не спакушаюць лаўры Карнілава. Сашка Керанскі — лідэр партыі, да якой належыць Свірскі, няхай яны дамаўляюцца паміж сабой. Прашу прабачыць, панове, у мяне госці.

Безумоўна, для насмешкі Залонскі і мяне залічыў да паноў. Але не гэта кранула мяне. Здавалася, за два гады я добра ўведаў свайго камандзіра і разумеў нават самыя нечаканыя яго ўчынкі. З таго вечара я перастаў разумець яго. Хто ён? За што стаіць? Мабыць, і ад'ютант нічога не разумеў, бо па дарозе назад спачатку маўчаў у глыбокай задуме, пасля мацюкнуўся і даверліва сказаў:

— Храновыя нашы справы, Жмянькоў.

Хацелася спытаць: «Чые справы?» — але я спытаў:

— Чаму?

— Каб я ведаў чаму, то ведаў бы, у які бок падацца. А цяпер ведаю адно: неабходна знайсці начную карчму і напіцца.

Прыйшлося мне ехаць у полк аднаму. На Васілеўскім баку, адразу за Мікалаеўскім мостам, мяне запыніў патруль — два матросы, два рабочыя. Зазірнулі ў брычку, спыталі, куды я ездзіў. Не мог я тлумачыць, чаму езджу пасярод ночы. Сказаў паўпраўду: завозіў на кватэру камандзіра палка. Адзін з матросаў пацікавіўся, як мой камандзір настроены. Я адказаў, што ён — за рэвалюцыю. Рабочы засмяяўся.

— За якую?

На гэта я не меў што адказаць, хоць адразу здагадаўся, што перада мной — бальшавікі. Але менавіта праз гэта я не мог сказаць, бо сапраўды не ведаў, за якую рэвалюцыю Залонскі. Матрос паклікаў рабочага:

— Пайшлі, Васіль. Хлопца гэтага будзем прасвятляць пасля. Бывай, бравы салдат. Але запомні, брат, — рэвалюцыі бываюць розныя.

На свой узрост і пісьменнасць я мог лічыцца, бадай, адукаваным палітыкам — разбіраўся ў партыях, у іх лозунгах. Але вось гэтага не мог уцяміць.,. Па Неўскім ездзілі камендацкія патрулі. Урадавыя. А тут — іншы патруль. Хто ж трымае ўладу, калі справа дайшла да патрулявання вуліц і юнкерамі і рабочымі?

У палку мне сказалі, што Свірскі ўжо не старшыня камітэта, перавыбралі. Старшынёй абралі кулямётчыка Фадзея Ліпатава, ціхага і непрыкметнага салдата, які дагэтуль ніколі не выступаў на мітынгах і якога я нават не ведаў, так хіба помніў з твару.

На Другі дзень я сустрэў у казарме таго латыша, які патрабаваў кулямётную каманду на абарону Піцера ад Карнілава. Гэта ён праводзіў мітынг у мінулы вечар, узняў на ногі полк. Я не запомніў яго дзіўнага прозвішча, але сустрэчы з ім узрадаваўся, хоць ён, напэўна, не помніў мяне і ставіўся не надта ўважліва і зычліва, можа нават лічыў афіцэрскім шпіёнчыкам. Але калі я спытаў у яго, дзе Іван Свірыдавіч Галадушка, вочы ў латыша падабрэлі, але хітра прыжмурыліся.

— А ён хто табе — бацька, дзядзька, сват, брат?

— Дзядзька,— сур'ёзна адказаў я.

Латыш паверыў.

— Праўда, гаворка ў вас адна. Па-руску вы гаворыце не лепш за мяне. Дзядзька твой выконвае заданне партыі.

— Ён абяцаў нрыйсці ў полк, знайсці мяне.

— Абяцаў — прыйдзе. Абяцаў — знойдзе.

І здарылася дзіва: праз дзень ці два Іван Свірыдавіч з'явіўся.

Па ўсім, што рабілася ў горадзе, у палку, адчуваў я, што наперадзе — новыя рэвалюцыйныя падзеі, ведаў, што рыхтуюць іх бальшавікі: яны сталі партыяй, за якой пайшлі салдаты, рабочыя. Але якія гэта падзеі — уяўляў туманна, бо не мог бачыць усяго таго, што рабіла партыя ў сталіцы — арганізацыі Чырвонай Гвардыі, узбраення рабочых, кантролю над арсеналамі, блакіравання ваенных вучылішчаў і часцей, якія захоўвалі вернасць Керанскаму. Урад, штаб акругі калі і не ведалі цалкам ленінскага плану ўзброенага паўстання, то, безумоўна, здагадваліся, на што скіравана работа ў Смольным. І яны рабілі захады, каб задушыць рэвалюцыю. Нягледзячы на перавыбары камітэта, полк, наш, відаць, яшчэ не быў выкраслены з ліку часцей, якія маглі б падтрымаць урад. Пэўна, таму — па загаду штаба акругі — Залонскі начаваў у тыя дні пры палку. І ўсе афіцэры былі ў баявой гатоўнасці — пры сваіх батальёнах, ротах, узводах. У маленькім пакойчыку спалі начальнік штаба і ад'ютант. Залонскі спаў у сваім кабінеце.

Умываліся, галіліся афіцэры ў агульным пакоі канцылярыі, дзе ўдзень сядзелі пісары.

На досвітку — Залонскі рана ўставаў — я прынёс ваду, таз, ручнік. Адным словам, як заўжды, рыхтаваў усё неабходнае для ранішняга туалету пана падпалкоўніка.

У гэтві момант і ўвайшоў Іван Свірыдавіч, такі, якога я бачыў там, на пазіцыі, за горадам — у скуранцы, з маўзерам. Я нават зіхнуў ад нечаканасці.

— Чаму спалохаўся, Піліпок? Не чакаў?

— Чакаў... дзядзька Іван.

— Чакаў — гэта добра, не забываеш, значыцца, старых сяброў. Малайчына! Бачыш, выканаў я сваё абяцанне — знайшоў цябе. Камандзір тут?

Як бы ў адказ на яго запытанне адчыніліся дзверы і ўвайшоў Залонскі ў наглянцаваных ботах, але ў хатняй куртцы, расшпіленай; бліснуў залаты крыжык на агаленых грудзях у прарэзе беласнежнай сарочкі.

Здзівіўся ён больш, чым я, калі ўгледзеў свайго былога салдата.

— Галадушка? — і пачаў хутка зашпільваць гузікі курткі — як перад генералам.

Іван Свірыдавіч не па-салдацку — не стаў ва фронт — казырнуў і не па-салдацку павітаўся:

— Добрай раніцы, пан падпалкоўнік.

Залонскі зашпіліў гузікі — спытаў:

— Што вам трэба, Галадушка?

— Вээрка назначыў мяне камісарам у полк. Вось мой мандат,— дастаў з кішэні гімнасцёркі паперку.

— Што такое вээрка?

— Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Савета дэпутатаў рабочых і салдат.

Відаць, закранула афіцэрскі гонар, што ён стаіць перад салдатам, і Залонскі сеў за адзін з заплямленых пісарскіх сталоў. Галадушка таксама сеў, за другі стол, напроці. Адзін я стаяў у куце, каля табурэта з тазам і чайнікам, стаіўшы дыханне, зіркаючы то на аднаго, то на другога.

— Як камандзір палка, я падпарадкоўваюся законнаму ўраду... Загадваць мне можа толькі камандуючы акругай,— сказаў Залонскі халодным, афіцыйным голасам.

Іван Свірыдавіч, наадварот, весела ўсміхнуўся, махнуў рукой:

— Э-э, падпалкоўнік, дзіўлюся з вашай адсталасці. Вы ўсё яшчэ верыце, што можаце павесці полк у бой — за што? — без згоды камітэта, салдат?

Залонскі не адказаў — апусціў галаву і разглядаў сваю прыгожую руку, бліскучыя пазногці.

— Усевалад Аляксандравіч! — упершыню Іван Свірыдавіч звярнуўся так, і Залонскі ажно ўздрыгнуў і хутка ўзняў галаву, выпрастаўся,— Вы ж разумны чалавек. І, мне здавалася, на фронце ведалі салдацкую душу. На якое ліха вам рабіць стаўку на дохлага сабаку? Ідзіце з народам — не пашкадуеце. Рэвалюцыі патрэбны адукаваныя вайскоўцы.

Прыгожы, знаёмы мне да кожнай рыскі твар падпалкоўніка скрывіла нядобрая ўсмешка.

— Дзякую за параду. Але народ — разуменне шырокае. Цяпер усе гавораць ад імя народу. Клянуцца яго імем. А я хачу ведаць больш канкрэтна: куды ісці? за кім ісці?

— Мы пакажам, куды ісці.

— Хто — мы?

— Бальшавікі. Ленін.

Зноў такая ж усмешка скрывіла твар Залонскага, але на адзін міг; як бы жадаючы схаваць яе, ён зноў апусціў вочы і, пастукаўшы пальцамі па стале, сказаў, не ўзнімаючы вачэй:

— Вы не падумалі, пан бальшавік, што я маю права арыштаваць вас? На арышт вашага Леніна выдадзен ордэр яшчэ ў ліпені.

Іваы Свірыдавіч спахмурнеў і адказаў сурова:

— Калі і вы ўзялі на сябе жандарскія функцыі, паспрабуйце арыштаваць. Мне нават цікава паглядзець, як вы гэта будзеце рабіць без камітэта, без салдат.

Іван Свірыдавіч глянуў на мяне. Тады і Залонскі паглядзеў на мяне, успомніў пра маю прысутнасць і нібы збянтэжыўся ад такога сведкі, сказаў:

— Ты, Жмянькоў, можаш ісці.

Іван Свірыдавіч запярэчыў:

— Няхай паслухае. Хлопцу трэба разабрацца, што да чаго. Ён вольны чалавек і мае сваю галаву.

Залонскі зноў пільна паглядзеў на мяне: моўчкі загадваў выйсці, ведаючы, што я разумею кожны яго рух, кожны позірк.

Я не выйшаў. Я не выйшаў бы, каб ён нават загадаў па-вайсковаму. У той міг я сапраўды адчуў сябе вольным ад яго ўлады. Мабыць, ён таксама сцяміў гэта, бо стоена ўздыхнуў і адвёў позірк на

акно, за якім днела, але пачынаўся надакучлівы асенні дождж, з таполяў злятала апошняе пачарнелае лісце.

Усталявалася няёмкая цішыня. Іван Свірыдавіч цярпліва чакаў з прыхаванай усмешкай.

Залонскі выбіў пальцамі па стале нейкі жалобны матыў — нешта з таго, што іграе вайсковы аркестр на пахаванні.

Іван Свірыдавіч спытаў усё з той жа ўсмешкай:

— Каго вы думаеце паклікаць, каб арыштаваць мяне?

Залонскі страпянуўся і неяк адразу змяніўся — з элегантнага самаўпэўненага афіцэра ў простага чалавека, разгубленага, усхваляванага, засмучанага. І голас у яго змяніўся — стаў мяккі, шчыры, калі ён сказаў:

— На камплімент я вам адказваю кампліментам, Галадушка. Вы таксама мудры чалавек, нямала пажылі... Дык адкажыце мне... Можа Расія нармальна жыць, ваяваць, перамагчы пры такім становішчы? — ён паказаў пальцам на сябе, пасля — на Івана Свірыдавіча.

— Не, не можа! — адразу адказаў Галадушка.— Бо Расія не хоча ваяваць. Расія рабочых, салдат хоча міру, зямлі, хлеба. А што ёй далі Керанскі, кадэты, генералы ды розныя згоднікі?

— Мір трэба заваяваць. Гэта адзінае выйсце з вайны. У любым іншым выпадку мы прадамо Расію немцам, здрадзім саюзнікам. А няма большай ганьбы, чым здрада сябрам.

— Пан падпалкоўнік! Расію хацелі і хочуць прадаць — гэта праўда. Толькі гераізм рэвалюцыйных матросаў у бітве ля Маайдзундскіх астравоў ратаваў Петраград, які кадэты і генералы хацелі здаць немцам, каб задушыць рэвалюцыю.

— Гэта выдумкі.

— Не прыкідвайцеся, падпалкоўнік. Вы добра ведаеце, што гэта праўда. І я хацеў бы спытаць у вас: чаму ў час аперацыі пад Маандзундам бяздзейнічаў англійскі флот? Дзе ж славутая вернасць саюзніцкім абавязкам? А вы кажаце пра здраду. А нажывацца на крыві народу — гэта не здрада? Не, пан Залонскі, я, салдат, не хачу паміраць ні за інтарэсы рускага, ні за інтарэсы англій-' скага капіталу. Я магу памерці толькі за сваю радзіму, за свой народ, за рэвалюцыю!

Іван Свірыдавіч сказаў гэта рашуча, горача і ўзняўся імкліва з месца, узрушаны, пачырванелы, паправіў папругу з маўзерам.

Залонскі таксама падняўся, але вяла, як бы нехаця, твар яго набыў змарнелы, стомлены выгляд, быццам ён не спаў усю ноч. Сказаў, здалося мне, трохі насмешліва:

— Я паважаю вашу мужнасць і адданасць ідэі. Што яшчэ пан камісар патрабуе ад мяне?

— Нямнога. Вы не дасце ніводнай каманды ніводнаму падраздзяленню палка без згоды камітэта і маёй.

— Я паўтараю: толькі загады камандуючага акругай...

— Пан падпалкоўнік, я не маю намеру агітаваць вас. Але мушу папярэдзіць ад імя Савета, яго Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта: любое выступленне супроць рабочых, рэвалюцыйных салдат і матросаў можа дрэнна скончыцца для вас.

— Мяне не палохалі нямецкія атакі, яфрэйтар Галадушка.

— Я не палохаю. Народ добры. І не жадае крыві. Але ў класавай бітве літасці быць не можа.

— Гэта формула вашага Леніна?

— Гэта формула рэвалюцыі.

— Што ж, выдатная формула,— зноў крыва ўсміхнуўся Залонскі, смыкнуўшы плячамі — у пакоі было халаднавата — і захінаючы атласным каўнерыкам курткі шыю.

Галадушка ў гэты момант казырнуў на развітанне, але нешта спыніла яго, ён пільна паглядзеў на афіцэра і па-простаму, бадай пасяброўску, сказаў:

— Усевалад Аляксандравіч, вы на раздарожжы, вы сапраўды не ведаеце, куды ісці, з кім... Я вам дам параду. Захварэйце на колькі дзён. Восень, холад. Насмарк, горла. Пасядзіце каля каміна. Падумайце. У вас, здаецца, сям'я ў Піцеры? Абяцаю, што ў палку будзе поўны рэвалюцыйны парадак.

— Я астануся на сваім пасту! — не толькі холадна, але, бадай, злосна адказаў Залонскі. — І ў вашых парадах не маю патрэбы.

Іван Свірыдавіч казырнуў зноў.

— Калі ласка. Прашу прабачыць, што патурбаваў. Але майце на ўвазе: камандаваць палком мы будзем разам.

Яшчэ ў жніўні, калі мы зноў сустрэліся, я паверыў: з'явіцца ў палку Іван Свірыдавіч — і зменіцца маё жыццё. Не буду я больш дзеншчыком, лакеем. Абрыдла. Іван Свірыдавіч дасць мне больш пачэсную працу. Таму здалося, што гарачая вада, якую я прынёс у тую раніцу з кухні,— апошняя мая паслуга Залонскаму.

Я выскачыў следам за Іванам Свірыдавічам, дагнаў яго ў калідоры, пайшоў побач з цвёрдай упэўненасцю, што з гэтага пачнецца маё новае жыццё.

Іван Свірыдавіч спытаў:

— Што, брат Піліп? Як думаеш: да каго павернецца гэты пан народнік?

— Да паноў.

Камісар засмяяўся.

— Здаецца, маеш, хлопча, нядрэннае класавае чуццё. Як астатнія афіцэры?

— Лаюць Керанскага і бальшавікоў,— я ўспомніў, хто Іван Свірыдавіч, і прыкусіў язык.

— Хочуць ваяваць? На фронт ірвуцца?

— Не, на фронт ніхто не рвецца. Нават прапаршчык!.

— Вось бачыш, Піліп! А пра перамогу крычаць. Няхай льецца кроў рабочых і сялян? Так? Мала яшчэ праліта крыві? Сукіны сыны яны ўсе разам са сваім

Керанскім. Дэмагогі. Што ж, прапаршчыкаў паетараемся нейтралізаваць. Вядзі да старшыні камітэта.

Неўзабаве сабраўся палкавы камітэт. Я ўпершышо прысутнічаў на яго пасяджэнні. Дагэтуль ніхто мяне не запрашаў.

Першы гаварыў Іван Свірыдавіч. Ён сказаў, што Часовы ўрад — урад капіталістаў і памешчыкаў, не толькі не выканаў патрабаванне паўстаўшага народу — скончыць вайну, устанавіць рабочы кантроль над вытворчасцю, даць зямлю сялянам,— але ўсё больш і больш пераходзіць у наступленне на заваёвы народу, заключаў тайныя пагадненні з саюзнікамі і — больш таго — намерваецца здаць Петраград немцам, рыхтуе разгром Саветаў, фабрычна-заводскіх і салдацкіх камітэтаў. Ён сказаў, што Саветы павінны ўзяць уладу, што толькі Савецкі ўрад — урад рабочых, сялян, салдат — можа выканаць волю народу. Заклікаў камітэт, калі спатрэбіцца, узняць полк на абарону Саветаў ад контррэвалюцыйнай змовы Керанскага.

Але выступіў член камітэта, унтэр-афіцэр з першага батальёна, і сказаў: яму вядома, што не ўрад, а бальшавікі рыхтуюць мяцеж і што калі яны яго ўзнімуць, то рота, якую ён прадстаўляе, выступіць за ўрад. Маўляў, яны (хто яны — я так і не зразумеў) не жадаюць, каб рускія стралялі ў рускіх. «Хопіць таго, што нас забіваюць немцы! — крычаў унтэр.— Любое выступленне цяпер супроць урада прывядзе да кровапраліцця, да паражэння на фронце, да анархіі ў краіне». Вось тут і загарэлася такая бойка, што шмоцце ляцела. У падтрымку унтэра тут жа выступіў Свірскі — ён аставаўся членам камітэта. Гаварыў эсэр доўга, горача, стукаў кулаком у грудзі, крычаў пра банапартызм бальшавікоў.

— Нам будзе ганьба, калі мы дазволім, каб палкавым камітэтам камандаваў бальшавіцкі камісар. Во! Во хто топча дэмакратыю, нашу салдацкую свабоду! Бальшавікі хочуць дыктаваць усім партыям.

Іван Свірыдавіч не адказаў. Сядзеў, слухаў і пасміхаўся. Свірскаму адказаў новы старшыня камітэта Фадзей Ліпатаў. Добра я запомніў яго. Ён праваяваў усю вайну, быў тройчы паранены, лічыўся лепшым кулямётчыкам, але салдацкага, як казалі тады, бравага выгляду не набыў. Звычайны селянін — згорблены ад працы, барадаты, заўсёды неахайна падпяразаны. Маўклівы. Але калі ўжо пачынаў гаварыць, то далікатных слоў не падбіраў. Свірскаму ён сказаў:

— Ты спачатку, гад, скажы, чаму хацеў палавіну камітэта на фронт паслаць? Хто складаў спіс маршавай роты?

— Майго подпісу не было. Не! — завішчаў Свірскі.

— Не было. Але без цябе, паразіта, не абышлося.

— Гэта абраза! Гэта чорт ведае што такое! Я не дазволю.

— А хто ў цябе пытае дазволу? — гудзеў Ліпатаў.

— Таварышы, да чаго мы дажылі? За што мы пралівалі кроў? Каб нас, рэвалюцыянераў, называлі паразітамі? Божа мой! — Свірскі схапіўся за галаву — здавалася, што ён вось-вось заплача. Яго сябры ўзнялі вэрхал — пратэставалі.

— А чаму вы баіцеся так фронту? На фронце — нашы таварышы! — крычаў нехта з іх.

— Мы таму і называемся запасным палком, каб змяняць, папаўняць франтавыя часці!

— Я баюся фронту? — спытаў Ліпатаў і засмяяўся.— Сучыя вы дзеці. Ох, і хітруганы ж, гады! Але і мы не дурні. Не думайце!

Скончылася тым, што абураныя прыхільнікі Свірскага пакінулі пасяджэнне.

Тады Іван Свірыдавіч сказаў:

— Што ж — так, бадай, лепш. Але мітынгаваць доўга няма чаго. Трэба брацца за працу. Задача першая: вырваць баявыя роты з-пад уплыву эсэраў.

Іван Свірыдавіч хадзіў па казарме, гутарыў з салдатамі. Я часам выконваў яго даручэнні, у вольны час стараўся быць побач. Салдаты глядзелі на мяне здзіўлена. Відаць, думалі па-рознаму — хто не разумеў, хто ўхваляў, а хто можа і так падумаў: во, маўляў, пралаза. Быў дзеншчыкам у камандзіра, а цяпер круціцца каля камісара Саветаў. Адзін салдат — Іван Свірыдавіч пасля расказваў — нават папярэдзіў яго: ці не шпіён я афіцэрскі? Іван Свірыдавіч між іншым, спытаў, ці абыдзецца падпалкоўнік без мяне.

— Няхай абыходзіцца. Я не раб яму.

— Правільна! Усялякае лакейства народ адменіць назаўсёды. Але пакуль што, брат Пілiп, нам было б карысна ведаць, чым займаецца

камандзір, дзе бывае, з кім сустракаецца. Паслужы яму яшчэ трохі. Нядоўга ўжо.

Другі раз адсылаў ён мяне назад — у дзеншчыкі. Калі першы раз, на пазіцыі, я прыняў гэта натуральна, то гэты раз з'явілася крыўда і страх — падумалася, што не верыць мне Іван Свірыдавіч, збавіцца хоча. Але і ён зразумеў, што я падумаў, бо ўзяў за плечы, сказаў даверліва:

— Гэта баявое заданне, Піліп. Шпіёніць мы не будзем, але вока спускаць з афіцэраў нельга.

Залонскі ўзрадаваўся, што я вярнуўся і, па-ранейшаму пакорлівы і ціхі, прыслужваў у часе абеду. І даручэнні яго выконваў, другі раз за адзін дзень здзіўляючы салдат. Маючы такое даручэнне, я, вядома ж, стараўся варушыць мазгамі і больш пільна, чым звычайна, прыглядаўся не толькі да Залонскага, але і да іншых афіцэраў і да таго, што рабілася ў штабе. І не дарэмна. Зазірнуў, між іншым, цераз плячо знаёмага пісара ў яго паперы і ўбачыў, што ён перапісвае загад аб пасылцы другой роты першага батальёна — той самай, пра якую гаварыў унтэр-афіцэр — на абарону моста. Ведаючы настрой гэтай роты, я адразу сцяміў, што да чаго, і куляй паляцеў шукаць Івана Свірыдавіча.

Ён сур'ёзна пахваліў мяне за такую вестку і тут жа сказаў Ліпатаву паслаць узвод на ахову складу боезапасаў з загадам: без подпісу старшыні камітэта і камісара В РК ніводнага патрона не выдаваць. Удвух з Ліпатавым яны тут жа пайшлі да Залонскага. Пра што яны гутарылі — я, на жаль, не чуў. Рота выступіла, але не ў поўным складзе, не больш палавіны, і з пустымі патранташамі, без адзінага кулямёта.

А ўначы — новая падзея.

Пасцяліў я падпалкоўніку ў кабінеце на канапе, пажадаў яму добрай ночы і пайшоў у сваю каморку, каб хутчэй нырнуць у пасцель, бо натаміўся за дзень, і назаўтра — ведаў — рана ўставаць. Па суседству з намі жылі добраахвотнікі-тэлефаністы, з гімназістаў; двое з іх непрызыўнога ўзросту былі, як і я, гадоў па шаснаццаць-семнаццаць мелі. З дзеншчыкам яны асаблівага сяброўства не заводзілі, але і не цураліся: не той час, усе лічылі сябе дэмакратамі, акрамя таго, ад дзеншчыка можна даведацца пра пікантныя падрабязнасці жыцця афіцэраў, а гімназісты ў сне бачылі сябе афіцэрамі; да таго ж, напэўна, існуе закон еднасці равеснікаў — людзі цягнуцца да тых, хто роўны ім па гадах. Але палітычных сімпатый маіх тэлефаністы не ведалі; навучаны з маленства, я панам ніколі не

казаў праўду нават у самых шчырых гутарках. Таму адзін з іх зацягнуў мяне да сябе ў каморку і па сакрэту паведаміў:

— А я прыняў шыфровачку. Загад Керанскага. Арыштаваць у гэтую ноч камісараў Саветаў і бальшавіцкія камітэты. Так што бальшавікам сёння будзе варфаламееўская ноч. Даўно пара! — выказваў сваю радасць тэлефаніст.

Што такое «варфаламееўская ноч», я не ведаў, але ўсё іншае зразумеў: хочуць арыштаваць Івана Свірыдавіча! Сэрца мае застукала трывогу. Хутчэй папярэдзіць! Не помню ўжо, якую прычыну выдумаўшы, я кінуўся з каморкі тэлефаністаў у казарму. Салдаты спалі. Я не ведаў, дзе начуе Іван Свірыдавіч, але ведаў — дзе Ліпатаў. Яго месца на нарах пуставала. Многа месцаў пуставала. А тыя з кулямётчыкаў, што асталіся ў казарме, не спалі, як бы да чагосьці прыслухоўваліся, чагосьці чакалі. Але ніхто з іх не адказаў на маё запытанне, дзе Ліпатаў, дзе іншыя члены камітэта. Я лётаў па ўсёхт казарме. Іншыя роты бестурботна спалі. Не спалі ў другой роце тыя, што не пайшлі на ахову моста. Яны таксама насцярожана чакалі нечага. Не знайшоўшы нікога, каму можна было перадаць пачутую ад тэлефаніста тайну, я кінуўся ў штаб. І яшчэ больш спалохаўся, калі ўбачыў, што амаль усе афіцэры сабраліся ў кабінеце камандзіра палка, апранутыя, з рэвальверамі, з шаблямі. Дзе знайсці Івана Свірыдавіча? Як памагчы яму?

Бездапаможны, разгублены, кідаўся я з кутка ў куток, каб знайсці хоць аднаго чалавека, якому можна даверыцца і спытаць парады. Не ведаю, як я зноў апынуўся ў штабе. Да афіцэраў мяне не клікалі, і я, безумоўна, не адважваўся ўваходзіць, рабіў выгляд перад ад'ютантамі, што знаходжуся тут па загаду падпалкоўніка. І раптам дзверы ў пісарскую шырока адчыніліся і ўвайшоў... Іван Свірыдавіч, з ім — тры салдаты.

Я кінуўся да яго.

— Іван Свірыдавіч!..

Ён адхіліў мяне.

— Пачакай, Піліп.

І гэтак жа шырока адчыніў дзверы ў кабінет.

Для паноў афіцэраў гэта было, відаць, такой неспадзяванкай, што некаторыя з іх падхапіліся, быццам не рабочы ўвайшоў, а генерал. Іван Свірыдавіч, не пераступаючы парог, сказаў:

— Панове афіцэры! Загад, які сабраў вас у такі позні час, добра вядомы і нам, камітэту. Міліцыя ці казакі, якія едуць ужо, будуць абяззброены і арыштаваны. Магчыма, дзеля гэтага давядзецца ўжыць

зброю. Папярэджваю, панове. Адзін стрэл адсюль, ад вас,— і кулямёты, якія пастаўлены ў двары, адкрыюць агонь па гэтых вокнах...

Асобныя афіцэры абурана закрычалі, пратэстуючы:

— Гэта бунт!

— Што робіцца ў палку?

— Хто тут камандуе?

— Арыштаваць яго!

— Панове! У палку будзе рэвалюцыйны парадак, калі вы не справацыруеце салдат на выступленне. Арыштаваць мяне не так проста. Ідзіце, панове, спаць. Паўтараю: усё будзе ціха.

Залонскі супакоіў афіцэраў, якія абураліся.

— Дзякую вам, пан падпалкоўнік. Спадзяюся на вашу мудрасць,— Іван Свірыдавіч казырнуў і пайшоў назад.

Я вылецеў следам за ім, прашаптаў у калідоры:

— Я шукаў вас, дзядзька Іван. Яны маюць загад, каб арыштаваць вас. Тэлефаніст сказаў.

— Ведаю, Піліп. Дзякую. Прасачы за афіцэрамі. Я ў двары, каля галоўнай брамы. Калі што — ляці туды.

Я, хоць і атрымаў загад, усё-такі выйшаў разам з Галадушкам у двор. Во дзе мне трэба было шукаць камісара і камітэтчыкаў! Паабапал галоўных варот ляжалі ў засадзе салдаты. За калонамі казарменнай царквы стаялі кулямёты. На вартавой вежы таксама стаяў кулямёт, прыкрываючы паўночныя, запасныя, уваходы ў двор. Каля канюшні на абозных фурманках, у сене, ляжалі салдаты. Усё гэта я ўбачыў, бо Іван Свірыдавіч паслаў мяне з запіскай да Ліпатава, які ахоўваў з узводам боесклад.

Ноч стаяла халодная, хмарная, але без дажджу. Гэта была ноч на дваццаць чацвёртае кастрычніка.

Раніцой я даведаўся, што атрад казакоў, які прыехаў, каб арыштаваць камісара і камітэт, абяззброілі без адзінага стрэлу. Полк спаў — і нічога не ведаў. Не спалі бальшавікі. Яны былі на варце спакою, не даючы разгуляцца контррэвалюцыі, і стрымліваючы залішне гарачых сваіх ад заўчасных выступленняў. Ажыццяўляўся ленінскі план узброенага паўстання — ні на дзень раней, ні на гадзіну пазней.

Не ведаю, неяк не прыйшлося спытаць пасля, ці ведаў у тую трывожную ноч Іван Свірыдавіч дзень і гадзіну выступлення. Але раніцой ён праводзіў мітынг так, нібы не было ніякай падрыхтоўкі да нечага асаблівага. Звычайны мітынг, якія тады збіраліся ледзь не штодня. Іван Свірыдавіч расказаў пра начную спробу Керанскага арыштаваць рэвалюцыйныя салдацкія і фабрычна-заводскія камітэты, аб правале чарговай авантуры кадэцка-эсэраўскай.

Але ўсё-такі мне, можа таму, што я ўсюды шмыгаў, па ўсіх казармах, удалося прыкмеціць, што кулямётчыкі паводзяць сябе як перад наступленнем. Не, кулямёты яны не правяралі і стужкі не набівалі. Але я ўбачыў: чалавекі тры з раніцы, без лазні, надзелі чыстую бялізну. Менавіта кулямётчыкі. Больш ніхто. Значыцца, лічылі, што будуць весці бой. Але дзе? З кім?

Залонскі, пэўна, не спаў усю ноч і, здаецца, добра выпіў, хоць звычайна, калі афіцэры збіраліся на начную п'янку і ігру ў карты, паднімалі мяне — прыслужваць. У тую ноч ніхто не патурбаваў. Залонскі, з бледным тварам, чырвонымі вачамі, сядзеў за сталом і пісаў, калі я далажыў, што гарачая вада для галення гатова. Галіцца ён не стаў. Снедання не патрабаваў. Апрануўшы шынель, абышоў двор, службы, казармы. І ўсюды знаходзіў непарадак і раздражнёна, злосна лаяў за гэты непарадак салдат, унтэр-афіцэраў і нават афіцэраў. Нават пры цары ён ніколі так не лаяў салдат. Камандзір як бы хацеў аднавіць сваю ўладу над палком. Мяне ён таксама распёк за нейкую драбязу. І я падумаў: «Во гад, буржуй пракляты, дулю ж я буду прыслужваць табе». Але, зрабіўшы такую інспекцыю, Залонскі, мабыць, пераканаўся, што ўзяць полк пад сваю ўладу немагчыма. На Ліпатава, які з'явіўся тады, калі камандзір аброс цэлай світай афіцэраў, Залонскі таксама накрычаў за бруд у адным з памяшканняў.

— Вы, панове камітэтчыкі, толькі і ведаеце, што мітынгуеце, а салдат хутка пачне касіць сыпняк. Ці рэвалюцыянера такая рэч, як вош, мала цікавіць? Крычым аб высокіх матэрыях, а прыбраць у сарціры не ўмеем. Палітыкі! Уладу хочуць узяць. Расіяй кіраваць.. А анучы па паўгода нямытыя. Хамы!

Ён здзекаваўся, абражаў салдат, чаго раней не рабіў. Ён як бы знарок хацеў наклікаць на сябе гнеў салдацкі. І шмат хто шыпеў услед яму, пагражаў: пачакай, маўляў, дабяромся і да цябе. А Ліпатаў — во мудры селянін! — падтакваў, бо наконт чысціні камандзір меў рацыю: распусціўся полк пры анархісце Свірскім.

Магчыма, гэты спакой старшыні палкавога камітэта даканаў Залонскага. У нейкі момант ён як бы знясілеў і, яшчэ больш бледны, змарнелы, вярнуўся ў канцылярыю. Доўга сядзеў адзін. Пасля паклікаў мяне, сказаў, каб я перадаў фурману — няхай запрагае. Загадаў мне рашуча і настойліва:

— Паедзеш са мной! — нібы разгадаў мае жаданне збавіцца нарэшце ад яго, вырвацца на волю.

Але я ўспомніў наказ Івана Свірыдавіча быць пры камандзіры, сачыць. Куды ён паедзе? З кім хоча сустрэцца?

Пакуль Залонскі збіраўся, я такі выбраў хвіліну, пашукаў Івана Свірыдавіча, каб яшчэ раз спытаць у яго: што рабіць? Не знайшоў. Сустрэў Ліпатава. Спытаў у яго. ён падазрона агледзеў мяне і адказаў:

— Не лезь, хлопец, у чужую кашу. Еш сваю, пакуль даюць.

Не зразумелі мы адзін аднаго.

Была яшчэ адна прычына, якая прымусіла ехаць: спадзяванне, што Залонскі паедзе дадому, а я колькі дзён ужо не бачыў Катрусі, засумаваў.

Залонскі сапраўды паехаў дадому. Дзіўна, што апоўдні дваццаць чацвёртага, праязджаючы па горадзе, я не ўбачыў ніякіх прыкмет пачатку ўзброенага паўстання, нават думка ў няме не з'явілася, што за ноч і наступны дзень могуць адбыцца такія падзеі.

Трохі хіба адчувалася трывога. Больш было на вуліцах міліцыі, розных веставых, і з'явіліся казацкія раз'езды. Коні высякалі падковамі на бруку іскры. Дагэтуль казакоў на вуліцах я не бачыў.

На Мікалаеўскім мосце нам прыйшлося пастаяць: наперадзе ішоў атрад матросаў; мабыць, ахова моста мела загад такія атрады не прапускаць, бо была лаянка,

крыкі. Матросы сарвалі з плеч карабіны. Здавалася, вось-вось адкрыюць агонь. Прахожыя цывільныя пужліва кінуліся хто куды — далей ад бяды. Наш фурман — стары салдат, таксама хацеў назад павярнуць, але Залонскі спыніў яго. Ён уважліва назіраў за тым, што робіцца на мосце. Мне здалося, што падпалкоўніку хочацца, каб там пачаўся бой, палілася кроў. Але загучала каманда. Матросы ўскінулі карабіны на плечы і, збіўшы нагу, гулка пракрочылі па мосце. Мы рушылі за імі. Каля парапету стаялі юнкеры, узводы два. На пляцоўках лесвіц, што спускаліся да ракі, з-за мяшкоў з пяском насцярожана выглядалі дулы кулямётаў.

За мостам матроскі атрад раздзяліўся на два, і абодва яны спусціліся на набярэжную.

Праязджаючы міма юнкераў, Залонскі зняважліва сказаў:

— Смаркачы.

Я жахнуўся: няўжо яму хацелася, каб гэтыя хлопчыкі, амаль мае равеснікі, пачалі страляць у матросаў? Ды тыя ж змялі б іх з моста ў адзін міг, як вецер сухое лісце. Не разумеў я свайго камандзіра. За апошні час ён вельмі змяніўся. Быў добры, чулы, вясёлы, а зрабіўся змрочны, нелюдзімы і, бадай, злосны. На каго? Раней часта гаварыў са мной пра палітыку, тлумачыў, што да чаго. Апошнія месяцы два, пасля карнілаўскага мяцяжу, ён бадай нічога не ўбіваў у маю галаву. Магчыма, сам не ведаў, за што агітаваць мяне — за якую партыю, за якую палітыку.

На Неўскім, як заўсёды, было людна. Народ цёк па тратуарах ракой. Чыталі адозвы, якімі былі густа абклеены рэкламныя тумбы і сцены. Стаялі салдаты, студэнты. Махалі рукамі — спрачаліся.

У доме нас сустрэлі так, быццам не бачылі год ці два і быццам мы вярнуліся не з піцерскай казармы, што за Нявой, а з фронту. І пані Антаніна, і яе старая цётка Эмілія Валяр'янаўна. Нават лакей і пакаёўскі таксама радаваліся. Але, бадай, самая радасная была Катруся. Ажно свяцілася ўся. Дагэтуль праз сваю сарамлівасць яна рэдка калі размаўляла са мной пры людзях. А тут рантам знікла яе сарамлівасць, нібы не хлопец чужы прыехаў, а брат родны. Яна паіла мяне чаем на кухні і бясконца гаварыла па-свойму, па-простаму, ніколькі не стараючыся, як іншыя, пераймаць гарадскіх, і ў яе вуснах мова ўкраінская здавалася найчароўнейшай у свеце. Яе ўсе слухалі з цікавасцю, нават паны. Гэтая ўвага людзей часта бянтэжыла Катрусю. Яе любілі. Да мяне таксама ў доме тым ставіліся добра. Асабліва кухарка. У яе сын загінуў на фронце. З гора яна ўпотай выпівала. Вып'е, частуе мяне панскімі прысмакамі, а сама сядзе наўпроці, глядзіць, як я ем, і слязьмі заліваецца. Для мяне такі пачастунак — не радасць, а пакута. Чамусьці кожны раз самому хацелася заплакаць наўзрыд. Катруся бачыла гэта, разумела і старалася, калі я еў, размовамі і рознымі даручэннямі і просьбамі заняць кухарку.

Нам гэтак узрадаваліся ў доме таму, што хадзіла чутка, нібыта ўсе войскі гарнізона выводзяцца з горада. Верылі тады самым неверагодным плёткам. Такая чутка, безумоўна, спалохала жанчын, ды і ўсіх абывацеляў: без войска невядома што будзе тварыцца — разня, пагромы. На войска мелі надзею як на ахову парадку, улады, законаў. Мала хто ведаў, што войскі сапраўды хацелі вывесці, але не Савет, а Керанскі.

Буржуазную публіку спалохала адозва Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, у якой народ папярэджваўся, што контррэвалюцыя падняла сваю злачынную галаву і ў горадзе магчымы правакацыі і пагромы. Калі пра ўсё гэта загаварылі ў гасцінай, Залонскі крыва ўсміхнуўся і сказаў паням нешта па-французску, ад чаго тыя яшчэ больш спалохаліся. Старая прастагнала:

— О, божа! Ратуй нас, грэшных.

Для мяне той дзень быў памятны. Катруся была такая добрая, такая ласкавая, што нават дазволіла ў калідорчыку абняць сябе і пацалаваць у шчочку. Першае каханне! Першы пацалунак! Хто з вас помніць яшчэ гэтыя незвычайныя найшчаслівейшыя падзеі ў жыцці, таму няцяжка ўявіць, што адчуваў шаснаццацігадовы салдат, на якое неба ён узнёсся. Сапраўды, на пэўны час я забыўся пра ўсё на свеце,

акрамя каханай. У мяне гарэла галава, пылалі вусны і шчокі. Як п'яны ад самага цудадзейнага віна, блукаў я па кватэры, дзе толькі можна было, з адной думкай, з адным жаданнем: яшчэ разочак на адну кароценькую хвіліначку спаткацца з Катрусяй адзін на адзін. Не абняць яе яшчэ раз мне хацелася. Гэта здавалася грубым і непрыгожым, так рабілі вясковыя хлопцы. Мне хацелася стаць перад ёй на калені і сказаць такія словы, якія, здавалася мне, ніводзін яшчэ просты хлопец не казаў дзяўчыне — найпрыгажэйшыя словы, як у кніжках; сказаць, што я пакахаў яе на ўсё жыццё, да апошняга дыхання майго. Але калі мне пашчасьціла зноў сустрэць яе, на калені я не стаў — пасаромеўся, а сказаў нешта недарэчнае.

Катруся папрасіла ласкава, хораша:

— Піліпачку, не трэба, галубочыку мій! Більш гарно будэ так просто. Во так,— і сама чмокнула мне ў шчаку.

І зноў я ўзляцеў некуды — гець! — у неба, вышэй за асеннія хмары — туды, дзе свяціла сонца і квітнеў райскі сад.

Спусцілі мяне на грэшную зямлю блізкія стрэлы. Страляніна ўсчалася ўвечары, гадзін у дзевяць. Каля тэлефоннай станцыі спачатку, пасля яшчэ бліжэй — каля школы прапаршчыкаў, якая была зусім побач, за які квартал.

У доме спалохаліся. Старая пані загадала зачыніць аканіцы.

Паклікалі з кухні мяне. Залонскі паспешліва апрануўся. Але тут жа ў прыхожай пані Антаніна, яе старая цётка і яшчэ нейкі сваяк, які прыехаў з правінцыі, угаворвалі падпалкоўніка нікуды не хадзіць.

— Панове! Вы чуеце, што робіцца? Гэта бальшавіцкі мяцеж. Як жа я, камандзір палка, магу сядзець у такі час дома?

— Сева, любы, — маліла жонка.— Але ж ты сам казаў, што бальйавікі разлажылі полк, што ён выступіць за іх. Мне страшна, Сева. Гэтая чэрнь узбунтуецца і будзе страляць у афіцэраў.

— Тоня! Я франтавік! Я тры гады сядзеў у акопах.

— О, божа,— стагнала маладая пані,— Тады я баялася менш, чым цяпер.

Сваяк, хітра ўсміхаючыся, спытаў:

— Усевалад Аляксандравіч! Вы хочаце падняць полк? У абарону каго? Паяца Керанскага? Па-мойму, урад яго даўно перастаў быць уладай. Пра гэта пішуць газеты. Няхай яго даб'юць бальшавікі. Спадзяюся, вы не думаеце, што яны могуць узяць і ўтрымаць уладу.

Залонскі адказаў нешта па-французску — іўсепаны перайшлі на чужую мову, каб прыслуга не разумела.

Праз хвіліну Залонскі нехаця распрануў шынель і, раздражнёны, засмучаны, вярнуўся ў пакоі — на радасць жонкі.

А я лепш, чым паны, разумеў, што адбываецца. Не, гэта не мяцеж. Гэта новая рэвалюцыя, пра якую казаў Іван Свірыдавіч, казалі прамоўцы на мітынгах,— рэвалюцыя, у якой уладу павінны ўзяць рабочыя і салдаты.

Я ўявіў, што робяць зараз Іван Свірыдавіч, Ліпатаў, кулямётчыкі, і, натуральна, захацеў быць разам з імі, у палку, на піцерскіх вуліцах, дзе — чуваць было па стрэлах — разгараўся бой, бо з другога боку — ля Марсавага поля, загаманілі кулямёты. «Можа кулямёты нашага палка?» — думаў я.

Але на кухні адбылося амаль тое ж, што ў панскай прыхожай, толькі больш проста і шчыра. Даведаўшыся пра мой намер зараз жа кінуцца на вуліцу, Катруся, тая самая Катруся, якая яшчэ колькі дзён назад слова саромелася сказаць, толькі чырванела пры мне, цяпер пры кухарцы, пры пакаёўцы старой пані ўчапілася ў мяне і прасіла:

— Піліпку, галубчыку! Не ходы. Прошу тэбе, рідный мій.

Да яе далучылася цётка Мар'я. Яна прасіла так, як, напэўна, прасіла б мяне маці, каб была там.

— Не хадзі, Філіпчык. Паслухайся, сынок, нас, дурных баб. Невядома, хто страляе, у каго страляюць. А кулі — дурныя, яны не разбіраюцца, дзе вораг, дзе свой, дзе мужчына, дзе дзіця. А ты ж дзіця яшчэ горкае.

Не маглі не скарыць мяне, ап'янелага ад першага кахання, ад першага пацалунку, такія просьбы, такія словы Катрусіны і кухарчыны. Паслухаўся я іх, нікуды не пайшоў у той вечар. І вось усё жыццё каюся. Адзінае, за што папракаю сваю Кацярыну Васілеўну. Быць у такі дзень у самым цэнтры Петраграда, дзе навокал штурмавалі стары свет, і сядзець каля жаночых спадніц, у цёплай кухні, есці панскія булкі, піць салодкую каву — дагэтуль не магу дараваць ні сабе, ні суджанай сваёй. А каб астаўся ў палку, то, безумоўна, пайшоў бы з Іванам Свірыдавічам. А ён камандаваў зводным атрадам, у якім былі і салдаты нашага палка; і атрад яго ў той жа вечар заняў маеты цераз Малую Няву, а на другі дзень сам Іван Свірыдавіч з кулямётчыкамі браў удзел у штурме Зімняга.

Раніца дваццаць пятага супакоіла жанчын. Было зусім ціха — ні блізкіх, ні далёкіх стрэлаў. Кухарка яшчэ на світанку схадзіла ў разведку і не выявіла ні безуладдзя, ні беззаконня. Толькі каля школы прапаршчыкаў замест курсантаў стаялі матросы. А з другога боку ўзброеныя рабочыя, спакойныя і ветлівыя, нікога не прапускалі да тэлефоннай станцыі. Магчыма, з якім буржуем рабочыя гаварылі б інакш, а кухарка, жанчына гаваркая, добрая, па-простаму пагутарыла з чырвонагвардзейцам і вярнулася зусім заспакоеная. Дагэтуль

яна разам з панамі лаяла бальшавікоў, а тут зрабіла нечаканае адкрыццё: «Калі гэта бальшавікі і ўсе яны такія, то няма нам чаго іх баяцца — свае людзі, браты нашы і сыны».

Я прысароміў жанчын:

— Ну вось, а вы баяліся! Ды я ведаю такога бальшавіка, лепш за якога можа няма чалавека ў свеце,— і расказаў ім пра Івана Свірыдавіча.

Катрусі і цётцы Мар'і сапраўды як бы няёмка зрабілася, і япы, зразумеўшы, што трымаць мяне за зачыненымі дзвярамі і аканіцамі не выпадае, ды і нельга ўтрымаць, не пярэчылі, каб я ішоў у полк,— удзень і жанчыны смялеюць. І другое яны зразумелі: што мне, салдату, лепш у той дзень ісці аднаму, не чакаючы падпалкоўніка. Паны яшчэ спалі, калі я, радасна ўзрушаны ад прадчування незвычайнага, выскачыў з дому.

Уначы ішоў дождж, але раніцой перастаў. Недзе над Балтыкай вецер парваў хмары, яны ляцелі над Шчерам чарадой крылатых авечак, даганяючы адна адну. У прасветах паміж хмарамі зрэдку выбліскваў чысцюткі блакіт неба. Але тратуары былі яшчэ мокрыя. На бакавых вуліцах, дзе заўсёды не вельмі мнагалюдна ў такі ранні час, усё было як звычайна: дворнікі, пазяхаючы і жагнаючыся, адчынялі брамы і аканіцы, упускаючы ў пакоі новы дзень. Крамы, праўда, адчыніліся не ўсе, але каля хлебнай па-ранейшаму выцягнулася доўгая чарга жанчын і дзяцей. Звярнула маю ўвагу хіба тое, што раней, калі я праходзіў тут раніцой, чарга шумела. А гэтая стаяла ціха, як бы прыслухоўваючыся да нечага — як слухаюць першы вясновы гром.

Я таксама прыслухаўся і пачуў далёкія рэдкія с.трэлы. Здалося, стралялі там, за Нявой, на Петраградскім ці Васілеўскім баку, дзе казармы нашага палка, таму я заспяшаўся туды.

На Неўскім увогуле не відно ніякіх змен. Ішлі трамваі, аблепленыя людзьмі. Ехалі рамізнікі. Адчыняліся крамы. Цякла стракатая рэчка людзей, пераважна па-буржуйску апранутых: чыноўнікі, як заўсёды, спяшаліся на службу ў свае міністэрствы, банкі, канторы, управы.

Маё пільнае вока прыкмеціла хіба ў гэтым натоўпе адну асаблівасць: менш у ім, чым раней, афіцэраў, юнкераў і ўвогуле вайскоўцаў. Нават жанчын у форме траплялася менш, чым у любую іншую раніцу, калі я праязджаў тут з Залонскім. Скажу шчыра, што выгляд Неўскага раніцой 25 кастрычніка мяне расчараваў: ніякіх прыкмет рэвалюцыі, зусім не так, як было ў Смаленску ў лютым.

Але на Ісакіеўскай плошчы натоўп як бы неспадзявана натыкаўся на сцяну. Адных гэта палохала, і яны адступалі назад, разгубленыя.

Другія ныралі ў бакавыя вулачкі, як бы жадаючы хутчэй абысці гэтую сцяну. Але многія аставаліся на праспекце, і ўтварыўся шчыльны затор, як на мітынгу, калі ўсе ціснуцца бліжэй да трыбуны, каб пачуць прамоўцу. Сапраўды там ішоў мітынг: з балкона другога паверха выступаў нейкі кудлаты чалавек, мабыць студэнт. Але не ён зацікавіў мяне. Чаму людзі спыняюцца тут? Што ці хто іх трымае? Я прабіўся праз натоўп і ўбачыў, што выхады з плошчы ў бок Адміралцейства і Зімняга перагароджаны браневікамі і ланцугом салдат.

Прамоўца з балкона крычаў аб змове бальшавікоў. Але яго словы мяне не цікавілі, я наслухаўся іх, самых розных, больш чым трэба,— і на мітынгах, і ў штабе ад афіцэраў, ад сувязістаў, і ў доме цёткі пані Антаніны. І ўжо не верыў словам, як верыў пасля Лютаўскай рэвалюцыі.

На браневіку калыхалася ад ветру чырвонае палотнішча. «Вся власть Совѣтамъ» — было напісана белай фарбай; напісана няўмела, літары размыліся, мабыць, ад дажджу. Але браневікі з такім лозунгам усцешылі і супакоілі мяне: значыцца, стаяць рабочыя і салдаты, яны трымаюць уладу і парадак. Недарэмна так разгудзеліся буржуі. Як патрывожаны вулей.

Я ўявіў, як бы гэты натоўп кінуўся ва ўсе бакі, каб браневікі і пехацінцы далі залп паверх галоў. Ад такой думкі зрабілася весела. Але ніхто не страляў. Гэта было дзіўна і незразумела. Няўжо за ноч скончылася? Я паспрабаваў распытваць у салдат, якія церліся ў натоўпе, і ў тых цывільных, хто прасцей апрануты, што адбываецца ў горадзе. Адзін салдат адказаў, што бальшавікі арыштавалі Керанскага. Але тут жа цывільны, з выгляду — рабочы, запярэчыў, што, маўляў, гэта хлусня — пакуль што вядома, што Керанскі з войскамі абкружыў Смольны інстытут, а рабочыя і матросы абкружылі Зімні палац. Так вось і стаяць. Вядуць перагаворы. Але яму запярэчыў чыноўнік у форме чыгуначніка:

— Панове! Хіба вы не чулі прамоўцаў? Бальшавікі арыштавалі міністраў законнага ўрада. Гэта узурпацыя.. Яны задушаць рэвалюцыю.

Мяне, ды і шмат каго навокал, здзівіла, што чыгуначніку адказаў чалавек багата апрануты — у капелюшы, у добрым паліто, з галёшамі на хромавых ботах. Ён сказаў:

— Рэвалюцыю даўно задушылі. Яшчэ ў ліпені. Кадэты і згоднікі з буржуазіяй, Мілюкоў і Керанскі. Сённяшняе выступленне — гэта новая рэвалюцыя. Рэвалюцыя рабочых і сялян, якая дасць народу мір і хлеб.

На яго пачалі наступаць з кулакамі студэнты і нейкія паненкі.

— Бальшавіцкі агент, шпіён!

— Вы хочаце прадаць Расію немцам! Адкрыць фронт Вільгельму!

Чалавек не стаў задзірацца — спакойна, з усмешкай, адчуваючы сваю сілу, выбраўся з натоўпу і пайшоў да ваеннай гасцініцы. Матросы, якія ахоўвалі гасцініцу, прапусцілі яго не правяраючы пропуск — мабыць, інтэлігент той быў іх чалавек, можа камісар, як Іван Свірыдавіч у нашым палку.

Яго пастава, спакой і гэткі ж спакой матросаў і салдат, якія ахоўвалі плошчу, пераканалі мяне, што ўсё галоўнае ўжо адбылося ўначы. Безумоўна, было цікава паблукаць тут, на Неўскім, паслухаць, як гудзяць буржуі. Спакусліва было вярнуцца ў панскі дом і паведаміць, што бальшавікі захапілі ўладу. Цікава, што адказаў бы на гэта Залонскі, яго жонка, яе цётка, іх госць з Варонежа? Але я вырашыў, што, бадай, больш за ўсё даведаюся ў палку. Калі нават полк выступіў змагацца за рэвалюцыю, я знайду яго і там сустрэнуся з Іванам Свірыдавічам. Я не сумняваўся, што камандуе палком не хто іншы, як ён.

Мікалаеўскі мост ахоўвалі чырвонагвардзейцы. Першыя патрулі мяне прапусцілі. Каго мог зацікавіць у тым разварушаным чалавечым муравейніку адзінокі салдат-непаўналетак! Цераз мост праходзіла нямала люду. Хто без зброі — тых нават не спынялі. Але патруль на Васілеўскім баку затрымаў мяне. А я меў адзіны дакументцік — кніжачку Георгіеўскага кавалера. Рабочы з рэвальверам пакруціў яе ў руках, спытаў, у якім я палку, і ўжо вярнуў мне кніжачку, гатовы адпусціць. Але малады рабочы з вінтоўкай, які стаяў збоку, каля парапету, пацягнуў носам паветра і ўпэўнена сказаў:

— Васіль Пятровіч! Юнкер гэта пераапрануты! Шпіён! Панюхайце, як ад яго булкамі пахне.

Во меў чалавек нос! Гадзіны можа дзве ці нават тры назад выпіў я кубачак кавы, з'еў свежую булачку, якую спякла цётка Мар'я, пасядзеў на кухні, дзе пякліся гэтыя панскія булачкі,— і рабочы пачуў пах.

Калі я, спалоханы, што мяне палічылі за юнкера, пачаў шчыра расказваць, што я не юнкер, а дзяншчык камандзіра палка, начаваў у яго на кватэры і сапраўды на сняданак з'еў злашчасную булачку, гэта насцярожыла і настроіла супроць мяне не толькі аднаго маладога чырвонагвардзейца, але ўсіх, хто пачуў маю блытаную споведзь.

— Во гады! Нашы дзеці кавалка хлеба не маюць, а яны булкі жаруць!

— Кажы праўду: куды і навошта паслаў цябе твой афіцэр?

— Нікуды не' пасылаў. Я сам іду ў полк.

— За каго іх полк? — спытаў малады чырвонагвардзеец у старэйшага.

— Чорт яго ведае. Першы раз чую пра такі полк,— адказаў той.

— Камітэт у нас бальшавіцкі. І камісар ёсць... Галадушка,— пачаў тлумачыць я. Але нават прозвішча Івана Свірыдавіча павярнулася супроць мяне.

— Гэта вы, афіцар'ё праклятае, мянушку такую камісару далі? — абурыўся малады, якому я чамусьці яўна не спадабаўся.

— Ды не. Гэта прозвішча такое. Мы з ім у акопах разам вошай кармілі,— адказаў я па-салдацку.

— І ты карміў вошай? — усумніліся чырвонагвар.дзейцы.

Я такі не карміў іх, а таму сумеўся. Мабыць, пачырванеў. Бо ўжо старэйшы, памяркоўны, сказаў:

— Дрэнна цябе, хлопец, паны афіцэры маніць навучылі. Завядзі, Ілля, яго ў раённы штаб. Там разбяруцца.

Пакуль са мной гутарылі, па мосце нрайшлі дзесяткі людзей, цывільных, салдат, матросаў, праехалі самакатчыкі, і нікога з іх нават не спынілі. А мяне павялі пад ружжом. Вось якія парадоксы лесу бываюць. Ірваўся я ў полк, да Івана Свірыдавіча, каб рабіць рэвалюцыю, а апынуўся пад арыштам, як афіцэр контррэвалюцыйны ці буржуй. Во што значыць не ў час з'есці свежую булачку, якая так доўга пахне!

Крыўда душыла мяне. Раўці хацелася, як цяляці, якога зачынілі ў хляве.

Штаб быў на Васілеўскім баку каля завода Сіменс. Арыштаваных зачынілі на другім паверсе ў вялікім пакоі, дзе стаялі парты, як у школе, але ўсё іншае нагадвала бібліятэку: у шафах за шклом многа кніг, кнігі ляжалі на падаконніках, на канапе. Ад такой «турмы» зрабілася яшчэ больш крыўдна. Ні кратаў, ні варты. Тры акны выходзілі на вузкую вуліцу, а там — шум, гамана, трэск самакатаў, каманды. Бясконца падыходзілі і адыходзілі рабочыя атрады.

На першым паверсе стаяў гул ад галасоў, ад тупату ног. А тут, на другім, — зрэдку прабягалі па калідоры. Але, бадай, асабліва крыўдна зрабілася ад таго, што арыштаваных было ўсяго шасцёра. Чацвёра, акрамя мяне і нейкай простай цёткі, такія, што я сам арыштаваў бы іх — паны з выгляду: флоцкі афіцэр, які нервова, як тыгр у клетцы, хадзіў па пакоі, доўгі як жардзіна, чалавек з смешнай бародкай і ў акулярах з адным шкельцам (я гэтага тыпа адразу ахрысціў казлом), ціхі маўклівы пан з добрай усмешкай і яшчэ міліцэйскі афіцэр, тоўсты і потны.

Я адразу вырашыў адгарадзіцца ад паноў і не адказваў на іх пытанні: хто я? завошта мяне арыштавалі? што робіцца ў горадзе? Але калі «казёл» пачаў лаяць бальшавікоў, я не вытрымаў і закрычаў, што ён пракляты буржуй, эксплуататар і што за такія словы яго трэба расстраляць. Усе адразу адчапіліся ад мяне і пачалі абыходзіць, як заразнага. А мне ад гэтага зрабілася лягчэй. Праўда, ціхі пан непрыкметна наблізіўся, калі я глядзеў у акно на атрад чырвонагвардзейцаў, і прашаптаў:

— У вас разумная тактыка, малады чалавек.

Я не зразумеў — пра што ён.

А «казёл», пакрычаўшы яшчэ пра банапартызм бальшавікоў, пагаварыў з афіцэрам па-французску, прачытаўшы нейкія вершы на іншай мове, можа праз гадзіну,— вунь калі да яго дайшло! — выказаў сваю крыўду на мае словы:

— А эксплуатацыяй, пан бальшавік, я сорак гадоў займаўся толькі адной — убіваў у пустыя галовы такіх ёлупаў, як ты, старажытнагрэчаскую і французскую мовы.

Дзіўна, але прызнанне «казла», што ён настаўнік, яшчэ больш павялічыла маю варожасць да яго.

Недзе сярод дня на першым паверсе, у двары і на вуліцы доўга і гучна крычалі «ўра».

— Чаго яны радуюцца? — спытаў «казёл», адарваўшыся ад кнігі, якую чытаў.

— Так радуюцца, калі перамагаюць,— растлумачыў з кіслай усмешкай ціхі пан.

— Каго ж яны перамаглі? — зноў разышоўся «казёл».— Рэвалюцыю? Вялікую. Рускую. Такую ж Вялікую, як Вялікая французская.

На нас, безумоўна, забыліся. Каму ў дзень штурму Зімняга ў чырвонагвардзейскім штабе было да нейкіх шасці арыштаваных! Калі ўжо сцямнела, не вытрымала баба: маўчала, плакала цішком, дзетак галодных успамінала, а тут нечакана раз'юшылася, як львіца, пачала біць кулаком ў дзверы і крычаць, што нават пры Міколку Крывавым арыштаваных кармілі, а нас хочуць замарыць голадам.

Крык яе пачуў нехта за дзвярамі, бо мінут праз колькі ў пакой з'явілася трое: пажылы чалавек у шынялі без пагон, кульгавы, з кіем — інвалід; па-гарадскому — у чорнай спадніцы, белай кофтачцы — адзетая дзяўчына; да адзення яе і да паставы зусім не пасаваў рэвальвер пры боку; і малады чырвонагвардзеец з вінтоўкай.

Кульгавы па-простаму павітаўся з намі, прысеў за парту, спытаў, хто тут парушаў парадак.

— Я! — азвалася жанчына.— Завошта мяне пад арыштам трымаюць? Ды яшчэ есці і піць не даюць, голадам морацць.

— Чаму не накармілі людзей? — спытаў чалавек у шынялі ў дзяўчыны.

— Не да іх было, таварыш Воднеў!

— Што значыць не да іх? Ты, таварыш Вера, анархізм свой выкінь. Ты камендант штаба, і ў цябе павінен быць рэвалюцыйны парадак. Завошта сядзіць грамадзянка?

— Самагонку ў атрад прынесла. На завод. Мяркуем: падаслана з правакацыйнай мэтай.

— А божачка! Хто мяне пасылаў! Дзеці мае галодныя паслалі. І колькі тае самагонкі было! Слёзы адны.

— Бізуноў табе, баба, варта ўсыпаць за такі прадукт. Ды шчасце тваё, што мы супроць цялесных пакаранняў. Але зловім з самагонкай яшчэ раз — пасадзім у турму. Зарубі на носе.

Узрадаваная гандлярка, кланяючыся і хвалячы салдата, выкацілася з пакоя, адчыніўшы азадкам дзверы.

— Ты завошта тут? — паказаў камісар (так я ў думках назваў былога салдата) на лейтэнанта. Той успыхнуў, як лучынка.

— Вы мне не тыкайце!

Камісар цяжка ўздыхнуў — ці то ад свае прамашкі, ці то ад недарэчнай афіцэрскай фанабэрыі.

— Яго першага затрымалі. Уначы. Уцякаў і адстрэльваўся. Раніў патрульнага.

— Што, ваша благароддзе? Нячыстае сумленне, што так спалохаліся рабочага патруля? — сурова спытаў камісар. І афіцэр разгубіўся ад такога пытання, пачаў лісліва апраўдвацца, што, маўляў, ён падумаў — рабаўнікі.

— Таварыш Вера, запішы паказанні патрульных, раненага — абавязкова. І з усімі гэтымі паперамі — у Красты. Суд разбярэцца.

І тут у паўзмроку — цьмяна свяціла высока пад столлю ўсяго адна маленькая электралямпачка — камісар разгледзеў мяне. Паклікаў:

— Салдат, падыдзі бліжэй.

Я падышоў.

— Табе колькі год?

— Шаснаццаць.

— З якога палка?

Упэўнены, што інвалід не хто іншы, як камісар Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, як Іван Свірыдавіч, я шчыра адказаў, хто я і адкуль ішоў.

— Затрымалі завошта?

— Не ведаю. На мосце. Аднаму вартавому здалося, што ад мяне пахне булкамі. Кухарка, праўда, дала булачку, і я з'еў яе...

«Казёл» уедліва і гучна — неяк не па-чалавечы, а сапраўды па-казлінаму — гмыкнуў.

Вера засмяялася. А камісар нахмурыўся.

— Хто там праяўляе такую дурную пільнасць? Паеду на мост прапалашчу мазгі. Смешачкі ім, калі рабочы клас бярэ ўладу. Вера! Пазвані ў Смольны: на чыім баку гэты запасны?

Дзяўчына выйшла.

Камісар звярнуў.ся да «казла».

— Вы хто такі?

Той наблізіўся, выставіў уперад адну нагу, як акцёр у тэатры, узняў бараду, стукнуў сябе ў грудзі і тонкім голасам віскнуў:

— Я рускі інтэлегент!

— Завошта затрымалі?

— Лаяў вашага Леніна.

— Што ж гэта вы? Лічыце сябе інтэлігентам і лаецеся, як кучар. Вы чыталі якія-небудзь працы таварыша Леніна?

— Не чытаў! І не хачу чытаць!

— Які ж вы інтэлігент? Вы проста некультурны чалавек, горш за тую бабу, што самагонкай гандлюе.

— Я — не-куль-тур-рны? — ашаломлена працягнуў «казёл».

— Ідзіце. І не мянташце языком. Як паганая баба,— сказаў яму камісар і тут жа заняўся другім арыштаваным — выгукнуў, здавалася, узрадавана: — О, з вамі, пан прыстаў, мы старыя знаёмыя. Не помніце?

— Помню, гаспадзін Воднеў,— упалым хрыпатым голасам, выціраючы пот, адказаў тоўсты міліцыянер.

— Вось і выдатна. У вас даўжок пврад рабочым класам. Прыйдзецца плаціць. У турму! Рэвалюцыйны суд разбярэцца!

«Казёл» ашаломлена лыпаў вачамі, трусіў барадой. Спытаў:

— Вы мяне адпускаеце? Але майце на ўвазе: я супроць бальшавікоў.

— Вам хочацца папакутаваць за ідэю? За якую? У вас жа няма ніякай ідэі! Якая ў вас можа быць ідэя!

— Не. Я так не пайду. Я павінен давесці...

— Не блытайцеся пад нагамі. Не перашкаджайце людзям займацца сур'ёзнымі справамі. Выведзі яго, Хведар, к чортавай матары! — без злосці, не павышаючы голасу, загадаў камісар.

— Не! Я так не пайду,— замахаў рукамі інтэлігент.— Я абавязаны растлумачыць. Вы глыбока памыляецеся. І гаспадзін Ленін памыляецца.

Але вярнулася Вера і з парога паведаміла:

— Полк часткова на нашым баку, другая частка — у казарме, трымае нейтралітэт.

Воднеў тут жа, не звяртаючы ўвагі на «казла», загадаў Веры даць мне дзесятак адозваў Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта і каб я куляй ляцеў у полк.

— Можа быць, што нейтралы вашы дагэтуль не ведаюць, што адбылося ў Петраградзе. Няхай пачытаюць і паварушаць мазгамі. Ясна задача?

— Так точна, таварыш камісар! — ляснуў я абцасамі. Воднеў ажно здзівіўся, хоць быў ён з выгляду такі спакойны і ўпэўнены, што, здавалася, нічым ні здзівіць, ні ўзлаваць яго нельга. Я трохі пашкадаваў, што не пачую далбй размовы «казла» з камісарам. Цікава, што яшчэ будзе гарадзіць пан інтэлігент?

Дарэчы, упершыню там, развітаўшыся з камісарам і спускаючыся следам за Верай уніз, на першы паверх, я падумаў, што мяне таксама маюць права назваць некультурным чалавекам, бо я таксама не чытаў кніг, якія напісаў Ленін. Вырашыў: пры першай жа сустрэчы папрасіць у Івана Свірыдавіча ленінскія кнігі і пачытаць. Я ўжо ўяўляў, што гэта зусім не такія кніжкі, якімі кармілі мяне Залонскі і палкавая бібліятэка.

У вялікім пакоі, куды прывяла мяне Вера, стаяў гул ад чалавечых галасоў і плавалі хмары махорачнага дыму. Пакой што клуб — набіты ўзброенымі рабочымі і матросамі.

Прабіраючыся праз натоўп за Верай, я прагна лавіў урыўкі размоў. Асобныя галасы ўрэзаліся ў памяць на ўсё жыццё. Я іх успамінаў, калі пасля вывучаў гісторыю рэвалюцыі.

— Пушкі Петрапаўлаўкі нацэлены на Зімні. Я толькі адтуль... Калі яны не здадуцца...

— Хлопца трэба выпусціць! Вялікая бяда — патрусіў трохі буржуяў. Яны нас вякамі рабавалі.

— Мы не анархісты!

— Таварышы! Таварышы! Вы ведаеце? Эсэры пакінулі з'езд...— голас нібы спалоханы.

— Закажы паніхіду!

— Адзінства рэвалюцыйных партый...

— З кім адзінства? З Керанскім? З лакеямі буржуазіі?

— Бабачка яна — во!.. Але непрыступная, як Кранштат. Ні з мора ні з сушы не возьмеш.

— Братва! — грамавы голас ад дзвярэй, на які ўсе павярнулі галовы,— Толькі што сам з моста чытаў марзянку з «Аўроры». Калі часовыя не прымуць ультыматум, пушкі яе гатовы разнесці Зімні, як гнілую шлюпку. Адны трэскі паляцяць.

— Таварышы! Грамадзяне! — старэчы голас аднекуль з кутка.— А ці нельга без пушак? Калі ласка, без пушак? У Зімнім — скарбы! Вялікія скарбы!

— Вы чулі, хто тут аціраецца сярод нас? Дзеду царскіх скарбаў шкада! Яны людзей не шкадавалі.

— Заткніся, сялява! Гэты дзед рабіў рэвалюцыю, калі ты пад стол пешкі хадзіў. А пасля дзесяць гадоў звінеў кайданамі.

— Таварышы! Скарбы — не царскія. Скарбы — народныя!

— Павел Пятровіч! — крыкнула Вера ў кут, адкуль чуўся голас старога,— На гэты конт ёсць загад Ваеннарэвалюцыйнага камітэта. Усё каштоўнае захоўваць і ўлічваць!

— Эх, каб чайку выпіць! — уздыхнуў нехта збоку.

— Таварышы! — зноў закрычала Вера. — Чаёк ёсць! У двары, у флігелі. Нашы жанчыны грэюць там... І выдаюць хлеб. Хто з баявых атрадаў не атрымліваў — атрымайце!

— Жывём, братва! Пайшлі!

Адчувалася, што Веру тут ведаюць, паважаюць. Акружылі, адціснулі. Здалося, яна забылася на мяне. Але хвілін праз колькі пачуўся яе голас:

— Дзе мой салдацік? Таварыш! Хадзі сюды!

Я прабіўся да сталоў, на якіх ляжалі вінтоўкі, кулямётныя ленты, кніжачкі, газеты, адозвы, стаяў чайнік, конаўкі. Дзяўчына дала мне пачак невялікіх памерам адозваў.

— Нясі салдатам! — і тут жа ласкава, з добрай усмешкай спытала: — Прагаладаўся пасля булак?

— Прагаладаўся,— шчыра прызнаўся я.

— Схадзі ў двор, у флігель. Табе дадуць хлеба. Наш хлеб — не панскія булкі. Але жыць можна.

Увайшоўшы ў той пакой, я не толькі слухаў, але і глядзёў, і, магчыма, першае, што ўбачыў — гэта такія ж лісткі, як дала мне Вера. Некаторыя рабочыя, матросы, відаць, тыя, што прыйшлі нядаўна, чыталі іх, другія слухалі, мабыць непісьменныя.

Я таксама перад тым, як схаваць тонкі пачак за пазуху, прачытаў адозву. Помніце гэты першы дакумент рэвалюцыі, дарэчы,

самы кароткі? Яго напісаў Ленін. Я запомніў яго на ўсё жыццё, як школьны верш.

«Да грамадзян Расіі! Часовы ўрад звергнуты. Дзяржаўная ўлада перайшла ў рукі органа Петраградскага Савета Рабочых і Са7ідацкіх дэпутатаў — Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, які стаіць на чале Петраградскага пралетарыяту і гарнізона.

Справа, за якую змагаўся народ: неадкладная прапанова дэмакратычнага міру, адмена памешчыцкай уласнасці на зямлю, рабочы кантроль над вытворчасцю, стварэнне Савецкага ўрада,— гэта справа забяспечана.

Няхай жыве рэвалюцыя рабочых, салдат і сялян!

Ваенна-рэвалюцыйны камітэт пры Петраградскім Савеце Рабочых і Салдацкіх дэпутатаў.

25 кастрычніка 1917 г. 10 гадзін раніцы».

Можа таму я запомніў гэта, так, што стары рабочы паляпаў мяне па плячы і сказаў:

— Чытай, чытай, сынок. Запамінай. Такога яшчэ не было ніколі ў свеце, каб рабочыя ўладу ўзялі.

І яшчэ таму запомніў, што ў той вечар разоў можа сто прачытаў гэты тэкст салдатам.

У палку сапраўды друкаванага звароту Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта яшчэ не мелі. У штабе гаспадарылі члены палкавога камітэта, не ўсе, нават Ліпатава не было — пайшоў з атрадам, які павёў Іван Свірыдавіч.

Члены камітэта ведалі, што адбылося ў горадзе. Але ў палку ўзнікла складаная сітуацыя. Першая рота другога батальёна (трэба ж, каб у адной роце сабралася столькі контры і дурняў!) хацела раніцой вырвацца з казармы і пайсці на абарону Часовага ўрада, якога ўжо не існавала. Роту блакіравалі. Не пусцілі. Мяцежнікі зачыніліся ў сваім сектары казармы. Ім прапанавалі здаць зброю — адмовіліея.

Цэлы дзень члены камітэта ламалі галовы — што рабіць з гэтай ротай?

Камітэтчыкі, ды і ўсе запаснікі — самыя ж рашучыя рэвалюцыйныя салдаты пайшлі з Іванам Свірыдавічам! — былі так мірна настроены, што ніхто і думкі не выказаў, каб прымяніць зброю да сваіх жа аднапалчан.

Вось чаму, калі я з'явіўсяз адозвамі, камітэт узрадаваўся, як кажуць, удвая: і таму, што нарэшце прыйшоў друкаваны дакумент, які пацвярджаў перамогу рэвалюцыі рабочых і салдат, і таму, што зварот — усе яны былІ ў гэтым упэўнены — без кровапраліцця прывядзе да розуму мяцежную роту.

— Занясі ім лістоўкі, Жмянькоў, ты,— сказалі мне камітэтчыкі.— А то нам яны, дурні, не вераць.

Дзверы ў той сектар казармы былі зачынены. Калі я пастукаў, спыталі — хто.

— Дзяншчык камандзіра палка.

За дзвярамі доўга раіліся, ці можа слухалі — хто прыйшоў, колькі чалавек.

Адчыніў сам камандзір роты прапаршчык Цернавы. Гэтага афіцэра я дрэнна ведаў, бо ён ніколі не ўдзельнічаў у п'янках, карцёжнай гульні і нават па службе рэдка з'яўляўся ў штабе — увесь час быў са сваёй ротай; салдаты любілі яго, верылі яму. Відаць, гэта быў адзін з таленавітых народных самародкаў, інтэлігент, але ап'янелы ад патрыятычнага чаду; ён верыў буржуазнай прапагандзе, што бальшавікі хочуць адкрыць фронт і прадаць Расію немцам. Я аддаў прапаршчыку лістоўку са зваротам Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. Ён прачытаў і збялеў. Спытаў:

— Дзе камандзір палка?

— Дома. Чай п'е.

— Ён ведае пра гэта?

— Дзіва што! Па ўсім горадзе расклеена. Няма чалавека, хто не прачытаў бы!

Нічога я ў горадзе не бачыў. Але тое, што ўбачыў і пачуў у раённым штабе пасля свайго вызвалення з-пад арышту, дало мне гэтае перакананне — зварот ведаюць усе.

Прапаршчык хвіліну стаяў у дзіўнай разгубленасці; выгляд у яго быў не дужа баявы, абмяк чалавек. Вярнуў мне лістоўку асцярожна, нібы гранату з запалам.

Салдаты, адчуўшы, напэўна, што адбылося нешта незвычайнае, што можа праясніць іх становішча, падыходзілі з дальніх куткоў казармы, абкружылі нас, прыглушана гаманілі.

Прапаршчык, нарэшце, дапяў, што ад яго патрабуюць слова. Ён сказаў:

— Салдаты! Законнага ўрада няма. Улада ў руках бальшавікоў. За імі — большасць гарнізона, як і большасць нашага палка. Я не ведаю, чым гэта кончыцца. Але цяпер нам няма за каго выступаць. Я здымаю з сябе камандаванне і... званне афіцэра рускай арміі.

Ён зняў партупею з рэвальверам і кінуў у куток за дзверы, як непатрэбную рэч. Сарваў з шыняля пагоны. Гэта зрабіла моцнае ўражанне. Стары унтэр нават усхлігшуў, калі прапаршчык падзякаваў за службу, за давер і развітаўся.

— Можа назаўсёды. Не памінайце ліхам.

Аднак рота праводзіла свайго адстаўнога камандзіра панурым маўчаннем. Крычалі, спрачаліся, лаялі адзін аднаго пасля, калі я прачытаў ім зварот Ваеннарэвалюцыйнага камітэта «Да грамадзян Расіі».

Так я завяршыў той векапомны дзень — 25 кастрычніка 1917 года. У ролі бальшавіцкага агітатара. Хоць позна ўвечары мне пашанцавала.

Але барацьба ў палку не спынілася. На трэці дзень, дваццаць сёмага, калі прыйшлі газеты і лістоўкі з дэкрэтамі аб міры і аб зямлі, салдаты ў казармах загудзелі, як разварушаны вулей, абмяркоўваючы дакументы рэвалюцыі.

У палку з'явіўся Свірскі, колькі дзён яго не было відаць; з ім — іншыя яго прыхільнікі, нашы палкавыя і чужыя. Між іншым, я адразу прыкмеціў, што ў большасці людзей Свірскага — рукі панскія, без мазалёў, з чыстымі пазногцямі, хоць апрануты ўсе ў салдацкія шынялі.

Ліпатаў з'яўленне Свірскага сустрэў варожа, нават хацеў арыштаваць, падазраючы, што ў дні паўстання эсэр выступаў за Керанскага, страляў разам з юнкерамі ў чырвонагвардзейцаў і салдат. Намерыўся сам склікаць мітынг і вывесці Свірскага з палкавога камітэта. Але пасля, паслухаўшы яго, Ліпатаў супакоіўся. Чалавек добры, даверлівы, але малапісьменны, Ліпатаў не здолеў адразу разабрацца ў вельмі складаным спляценні падзей.

Свірскі не лаяў бальшавікоў, не называў іх узурпатарамі, нямецкімі шпіёнамі, як раней, да паўстання. Ён казаў, што ў выніку выступлення петраградскага пралетарыяту і часткі гарнізона склалася новая сітуацыя, што, маўляў, сацыялістычныя партыі вядуць са Смольным перагаворы аб утварэнні новага кааліцыйнага ўрада. Весткі пра такія перагаворы, як хроніка падзей, былі і ў бальшавіцкіх газетах. У такіх умовах, казаў Свірскі, маўляў, самае галоўнае — не дапусціць, каб правакатары штурхнулі салдат на кровапраліцце, на братазабойчую вайну. Безумоўна, нікому з салдат не хацелася страляць у сваіх. Ліпатаву можа больш, чым каму, не( хацелася гэтага. Ды яшчэ ў такі час, калі блізка мір і гэтак жа блізка адвечная мара сялянская — зямля.

Вось чаму Ліпатаў, ды і іншыя члены камітэта, магчыма, не адразу дайшлі, чаму Свірскі так настойліва заклікае салдат не брацца за зброю. «Бо дзе б вы ні сталі,— казаў ён,— вы будзеце страляць у сваіх братоў». Маўляў, якія б сутычкі ні адбыліся паміж партыямі, гарнізон, і ў прыватнасці наш полк, запасны, павінен захоўваць нейтралітэт.

Усё гэта гаварылася ў тыя дні, калі войскі Керанскага стаялі над Царскім Сялом, гатовыя нанесці ўдар па рэвалюцыйным Петраградзе, а ў самім горадзе «Камітэт уратавання радзімы і рэвалюцыі» падрыхтоўваў выступленне контррэвалюцыйных сіл.

Напэўна, не без уплыву Свірскага салдаты пачалі прыходзіць у штаб, дзе размяшчаўся камітэт, здавалі вінтоўкі, іншыя казённыя рэчы і пакідалі полк — разыходзіліся па вакзалах, каб ехаць дадому. Баяліся, што зямлю без іх падзеляць.

Зноў-такі нібы ўсё правільна... Улада ў руках рабочых і сялян, з'езд Саветаў абвясціў мір і даў зямлю.

Чаго ж яшчэ чакаць? Навошта захоўваць запасны полк, які рыхтаваў папаўненне для фронту? Фронту не будзе. Будзе мір.

Але калі на другі дзень сказалі, што асобныя трупы салдат пачалі пакідаць полк са зброяй, Ліпатаў насцярожыўся. Сабраў камітэт. На ноч каля дзвярэй і варот паставілі каравулы.

Іван Свірыдавіч прыйшоў уначы, калі я спаў. Але раніцой мне расказалі, што, выслухаўшы таварышаў аб падзеях у палку, камісар Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта назваў прапаганду Свірскага і яго сяброў найвялікшай подласцю і правакацыяй і загадаў тут жа, не чакаючы раніцы, арыштаваць «эсэраўскую банду».

Становішча маё ў палку зрабілася няпэўнае... Хто я? Пры кім павінен несці службу? Ніхто гэтага не казаў. Ды і каму казаць? Каго я мог цікавіць? Дзеншчыкам больш не лічыў сябе — вольны чалавек. Прынцыпова не ішоў да Залонскага, хоць карцела пабачыцца з Катрусяй. Ды, прызнацца, трохі і баяўся ісці цераз горад — каб зноў не палічылі за юнкера. Вельмі хацелася стаць веставым пры камітэце, але Ліпатаў не давяраў мне, не прыбліжаў да сябе, нават аднойчы крыўдна нагадаў пра маё ўслужэнне камандзіру.

Таму можна зразумець маю радасць, калі я, прачнуўшыся раніцой, даведаўся, што ў палку — Іван Свірыдавіч. Во хто ўладзіць мяне да месца!

Знайшоў камісара ў палкавым арсенале. Ён і Ліпатаў падлічвалі зброю — вінтоўкі, патроны, гранаты.

Іван Свірыдавіч выглядаў змарнелым, як пасля хваробы. Схуднеў з твару, аброс барадой. Вочы чырвоныя — ад бяссонніцы. На мяне спачатку ўвагі не звяртаў. Сэрца маё сцялася, захаланула; няўжо нагаварылі на мяне? Ці можа Галадушку рэвалюцыя паставіла на высокі пост, і яму цяпер не да мяне, малога? ,

Зніклі ранейшая смеласць і прастата ў адносінах з Іванам Свірыдавічам. Ведаючы, што і Ліпатаў не надта прыхільны да мяне, я не пасмеў хадзіць за імі следам. Так яшчэ аставалася нейкая надзея:

чалавек стомлены, заняты сур'ёзнай справай. А калі прагоніць ад сябе — тады ўсё, хоць на вуліцу падавайся. А галоўнае — адчуваў, як мне будзе балюча страціць такога чалавека — адзінага блізкага, як бацька ці дзядзька родны.

Вядома, я стараўся не трапляць ім на вочы — Івану Свірыдавічу і Ліпатаву, але ўвесь час сачыў, дзе яны, што робяць. Яны хадзілі па ротах, гутарылі з салдатамі. Пасля ў кабінеце камандзіра палка было пасяджэнне камітэта. Нядоўгае.

Калі члены камітэта разышліся і па маіх падліках выходзіла, што Іван Свірыдавіч астаўся адзін, я ўрэшце адважыўся зайсці, каб пагутарыць з ім.

Сапраўды, ён быў адзін і... спаў. Седзячы за сталом. Паклаўшы галаву на рукі. Я стаіў дыханне. Доўга глядзеў на яго галаву, на пасівелыя ўскудлачаныя валасы. У грудзях маіх разлівалася цеплыня любасці і пяшчоты да гэтага чалавека.

Мабыць, у сне Іван Свірыдавіч адчуў, што на яго глядзяць, і ўстрывожана ўзняў галаву. Убачыў мяне — пацёр твар рукамі, каб прагнаць сон. Сказаў:

— А-а, ты, Пініп...— шчыра прызнаўся: — Змарыўся я, брат, за гэтыя дні,— і тут жа ласкава спытаў: — А ты як тут?

Яму аднаму я мог сказаць пра ўсе свае перажыванні.

— Блага, дзядзька Іван.

Ён здзівіўся:

— Ты што гэта? Рэвалюцыю зрабілі, уладу ўзялі, а ты — блага. Гэта што такое?!

— А што мне рабіць, дзядзька Іван? Салдаты дадому разыдуцца, а я — куды?

— Ах, вось ты пра што? Ды мы табе тут, у Піцеры, справу знойдзем. Чым бы ты хацеў заняцца?

— Я вучыцца хачу.

Іван Свірыдавіч радасна выгукнуў:

— Піліпка, любы! То ж гэта здорава, што ты вучыцца хочаш. На тое ж мы і ўладу бралі, каб такія, як ты, мелі права вучыцца! Не будзем адкладваць гэтую справу. Едзем у Смольны — там дамовімся, куды цябе прыстроіць.

У Смольны мы паехалі на грузавіку, везлі патроны. Петраград у той дзень здаўся мне больш суровым і ваенным, чым у дзень паўстання. Менш было адчынена крам, устаноў, шмат якія дамы стаялі што сляпыя — з зачыненымі аканіцамі, менш цывільных блукала па вуліцах. На Дварцовай набярэжнай дык зусім пуста было.

Праўда, дзень быў халодны, ветраны. Нява білася ў берагі, пенілася. У паветры пырхалі першыя сняжынкі — патыхала зімой.

Часцей, чым у дзень рэвалюцыі, сустракаліся браневікі, самакатчыкі, узброеныя атрады чырвонагвардзейцаў і матросаў.

Мы ведаем з кніг, з кіно, што Смольны ў тыя дні гудзеў людзьмі. Дзіўна, але мне вялізны будынак гэты здаўся пустым. На плошчы перад Смольным стаялі браневікі, строіўся атрад чырвонагвардзейцаў. Пакуль Іван Свірыдавіч дамаўляўся з вартавым наконт мяне, перад рабочымі выступіў прамоўца, вецер данёс яго словы пра контррэвалюцыйную змову кадэтаў, эсэраў, меншавікоў.

На першым паверсе, у вестыбюлі, таксама тоўпіліся людзі. Але доўгі — канца яму не відаць было ў слабым асвятленні — калідор на другім паверсе быў бязлюдны, ажно крокі гулка адбіваліся ад паўкруглай столі. Праўда, падлога, хоць і надмеценая, сведчыла, што нядаўна па ёй прайшло мноства людзей, салдацкія боты — не чаравікі курсістак — пакідаюць сляды надоўга.

У вялікім класным пакоі, куды мы зайшлі, як бы калідорчык быў адгароджаны каля дзвярэй. Там, за непафарбаванай драўлянай загародкай — бар'ерам, людзі, па-рознаму апранутыя — у салдацкай форме, матроскай, рабочай і нават у афіцэрскай і панскай, у добрых, хоць пакамечаных, касцюмах,— разглядалі карты, планы, пісалі, званілі па тэлефоне; у куце на стале стаяла вялізная скрынка палявога камутатара, правады ад яго выходзілі ў акно і ў бакавыя дзверы. Пад сталамі і ў кутах — стосы брашур, лістовак, кніг, на кнігах — вінтоўкі і кулямётныя стужкі. Людзі гэтыя мелі такі ж стомлены выгляд, як і Іван Свірыдавіч.

Тут, у цесным праходзе каля дзвярэй, стоўпілася чалавек колькі цывільных, у большасці па-буржуйску апранутых. Яна ціха і пачціва чакалі сваёй чаргі для размовы з чалавекам, што сядзеў па той бок бар'ера. Голас гэтага чалавека з акцэнтам, як у таго латыша, што разоў колькі прыходзіў у полк, я і пачуў адразу, як толькі пераступіў парог пакоя следам за Іванам Свірыдавічам. Голас роўны, спакойны, але адчувалася — стомлены:

— Грамадзянін, я вам растлумачыў: аўтамабіль у

вас канфіскавалі на патрэбы рэвалюцыі. Наконт таго, каб яго вярнулі, звернецеся пасля.

А з кута, ад тэлефона,— голас больш гучны, рашучы, патрабавальны:

— Кірылаў! Кірылаў! Што ў цябе за мітынг там? Нічога не чуваць. Дзе стаў «Алег»? Правер і пазвані нам. Наладзь з ім сувязь. На мост пашлі дадатковую ахову. Надзейная? Не! Не надзейная! Загад

камітэта — узмацніць варту! Колькі выйшла капаць акопы? Дзве тысячы? Малайцы!

Іван Свірыдавіч зайшоў за загародку. Моўчкі, без слоў, павітаўся за руку з латышом, што вёў размову з наведнікамі, і з чалавекам у афіцэрскай форме, які, уважліва разглядваючы карту, засяроджана занатоўваў нешта ў сшытак.

Я астаўся сярод наведнікаў, у вузкім праходзе паміж дзвярамі і загародкай. Але праціснуўся наперад, учапіўся рукамі за стойку бар'ера, быццам баяўся, што мяне могуць адціснуць, адарваць і перашкодзіць убачыць і пачуць нешта такое, ад чаго залежыць мой лёс. А было ў мяне не толькі прадчуванне, што тут, у гэтым пакоі, пачынаецца мае новае жыццё. Была ўпэўненасць. Не дарэмна Іван Свірыдавіч прывёў мяне сюды.

Узрадавала мяне, калі я ўбачыў, што чалавек у афіцэрскім фрэнчы задаволены з'яўленнем Івана Свірыдавіча. Ён адразу спытаў:

— Як ваш полк, таварыш Галадушка? — і я зразумеў, што гэта — пра наш полк.—Пойдзе супроць юнкер аў?

— Добрая палавіна палка можа выступіць зараз жа!

Яны схіліліся над сталом, над картай і гаварылі напаўголасу — не чуваць было. Тады мая ўвага пераключылася на іншую размову, што вялася амаль побач са мной.

Буржуй, які дамагаўся, каб яму аддалі аўтамабіль, прыглушана, не павышаючы голасу, але са злосцю, ажно задыхаючыся, шыпеў, што ён італьянскі падданы, мае італьянскі пашпарт, і калі людзі, што сядзяць тут, не выканаюць яго патрабаванне, яны будуць мець справу з паслом яго вялікасці караля Італіі. Буржуй соваў латышу пашпарт і яшчэ нейкія паперы. Але латыш не хацеў разбірацца ў іх, ківаў галавой і з усмешкай даводзіў:

— Грамадзянін, я вам ясна растлумачыў: пакуль ваш аўтамабіль патрэбны рэвалюцыі, вы яго не атрымаеце.

За спіной у мяне нехта гучна загаварыў на чужой мове. Я азірнуўся. Гаварыў чалавек у вопратцы рабочага, з худым тварам, не паголены, з той жа стомленасцю ў вачах. Раптам ён узлавана сказаў паруску:

— Вы, футра! Да вас звяртаюся. Які ж вы да д'ябла італьянец, калі ніводнага слова не разумееце па-італьянску? Не тлуміце галавы! У цябе, Петэрс, моцныя нервы. Я з такімі тыпамі...

Буржуй адразу змоўк, схаваў у кішэню футра паперы, сцяўся і палахліва адступіў за спіны іншых.

Я падумаў, што за падман яго тут жа арыштуюць. Але Петэрс толькі засмяяўся і адразу заняўся другім наведнікам. А рабочы, што

гаварыў па-італьянску, прайшоў за загародку, павітаўся за руку з Іванам Свірыдавічам. Спытаў, ці абедаў той, калі не, то ў буфеце ёсць гарачы чай.

Буржуй моўчкі нырнуў у дзверы.

Зноў нішто не перашкаджала мне на поўныя вочы глядзець на людзей, якія — я ведаў гэта і раней, чытаў у газетах — з'яўляюцца штабам рэвалюцыі, а ролю штаба ў вайне я, вайсковец, дзяншчык, ведаў добра. Матрос, што не выпускаў з рук тэлефонных трубак, паведаміў:

— Паўлаўцы згаджаюцца скласці зброю. Патрабуюць гарантыі.

— Перадавай Васільеву: весці перагаворы,— сказаў Крыленка (гэта быў ён, пасля я даведаўся прозвішчы амаль усіх, каго ў той дзень убачыў у Смольным).— Няхай гарантуе, што ўсіх адпусцім.

— Гэтым гадам даравалі пасля ўзяцця Зімняга. Яны зноў выступілі супроць пралетарыяту,— адарваўся ад размовы з наведнікамі Петэрс.

— Не ўскладняй абставіны,— спакойна заўважыў Крыленка, і зноў да матроса: — Перадай Васільеву, што на дапамогу яму прыйдзе Галадушка. Таварыш Галадушка, кулямётчыкі твае там, у Васільева. Вазьмі надзейную роту, калі верыш — батальён сваіх пехацінцаў, і абяззброй юнкераў Паўлаўскага вучылішча. Звяжыся з Падвойскім, ён у штабе акругі. Перадай, колькі ў цябе будзе штыкоў.

Як я ўзрадаваўся такому загаду! Цяпер не адстану ад Івана Свірыдавіча і буду не ў тыле, як да таго, не на кухні ў Залонскага, а на пярэднім краі рэвалюцыі! Ды і сам Іван Свірыдавіч паглядзеў на мяне, пачухаў пад шапкай патыліцу і вачамі, позіркам сказаў: прыйдзецца, Піліп, пакуль што адкласці размову аб тваёй вучобе.

Здаецца, Іван Свірыдавіч намерваўся ўжо выходзіць. Але ў гэты момант з бакавых дзвярэй у пакой імкліва ўвайшоў чалавек у чорным касцюме, у белай сарочцы, з гальштукам у крапінку.

Чалавек здаўся мне знаёмым, хоць я добра помніў, што нідзе раней не страчаўся з ім. Шырокі лоб, лысіна, як бы трохі прыжмураныя вочы — усё гэта нібы ў сне бачыў. Здзівіўся я з такога свайго адчування: што мне лезе ў галаву?! Дзе я мог бачыць яго?

Чалавек, як і некаторыя іншыя ў гэтым пакоі, не галіўся колькі дзён. Але выгляд Івана Свірыдавіча, матроса сведчыў, што ў іх проста не хапала часу, каб заняцца сваім туалетам; пра чалавека, які ўвайшоў, адразу чамусьці падумалася іншае: ён знарок адпускае бараду.

Чалавек павітаўся да ўсіх:

— Здравствуйте, товарищи! — вымавіў гэта выразна, гучна, а слова «товарищи» неяк асабліва хораша, прыгожа; голас яго меў прыемную картавасць.

Матрос падхапіўся з крэсла, стукнуў абцасамі, Крыленка па-армейску выцягнуўся. Петэрс, перапыніўшы размову з наведнікам, таксама пачціва падняўся. Іван Свірыдавіч сарваў з галавы свой зашмальцаваны скураны картуз.

Такая павага людзей, якія, як я заключыў, кіравалі рэвалюцыяй, да гэтага сціпла адзетага цывільнага, дала, відаць, маім думкам пэўны кірунак; хлопец я быў кемлівы. У адзін міг уяўленне маё дарысавала да аблічча чалавека невялікую акуратную бародку — і я ахнуў: Ленін!

Здымкі Леніна ўбачыў я ўпершыню яшчэ вясной, бачыў улетку, калі Леніна шукалі шпікі Часовага ўрада, і буржуазныя газеты знарок друкавалі яго партрэты.

Здагадка ашаламіла мяне. Верыў і баяўся верыць: а раптам памыліўся? Учапіўся абедзвюма рукамі ў бар'ер, каб — крый божа! — ніхто не адціснуў мяне, не прабіліся больш высокія і шырокія постаці наперад — футры і шапкі. Але, відаць, ніхто з просьбітаў, занятых сваімі справамі, не здагадаўся, як я, што за Чалавек увайшоў у пакой. Ленін наблізіўся да стала, на якім ляжала карта.

Іван Свірыдавіч, матрос, яшчэ два ці тры работнікі ісамітэта падышлі да гэтага ж стала і сталі так, што засланілі Леніна ад мяне і ад усіх, хто стаяў з гэтага боку бар'ера.

Крыленка пачаў тлумачыць нешта напаўголасу, слоў нельга было разабраць. Размова іх такая і што настал! камісары так, як бы ахоўваючы правадыра ад любой нечаканасці, і твары іх — як яны пасвятлелі! як зніклі з іх цені стомленасці! — усё пераконвала мяне, што здагадка мая правільная — гэта Ленін. І я захлынуўся ад цікаўнасці, ад хлапечай прагнасці разгледзець бліжэй правадыра рэвалюцыі, ад шчасця, што мне так пашанцавала.

Ленін адступіў ад стала, і я зноў бачыў яго ўсяго, за якія шэсць-сем крокаў ад сябе.

Ленін сказаў на поўны голас:

— Няма сакрэту, што юнкеры захапілі тэлефонную станцыпо. Няма сакрэту і ў тым, што мы павінны выбіць іх адтуль у бліжэйшыя гадзіны! Юнкерскі мяцеж — ні больш, ні менш, як агонія буржуазіі і яе лакея авантурыста Керанскага. Заўсёдная памылка эсэраў — няве-р'е ў сілу пралетарыяту. Яны адчуюць гэтую сілу! Дрэнна, што мы не навучыліся яшчэ ахоўваць сваіх камісараў. Юнкерам абвясціце ультыматум: расстраляюць Антонава — літасці няхай не чакаюць. І

знайдзіце сродак перадаць гэтай контррэвалюцыйнай бандзе... выступленне юнкераў — справа іх рук... бандзе, якая называе сябе «камітэтам уратавання»...— Ленін зняважліва хмыкнуў: — Уратавальнікі! Ад каго і каго яны ратуюць?.— заклаўшы рукі за спіну, пад расшпіленым пінжаком, Ленін зрабіў колькі крокаў да бар'ера і сказаў ужо не столькі да камісараў, колькі да наведнікаў, напэўна, здагадваючыся, што могуць быць сярод іх прыхільнікі контррэвалюцыі: — Перадайце, што за смерць народнага камісара мы расстраляем усю іх вярхушку! — і тут жа павярнуўся, сказаў да членаў Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта: — Абвясціце шырока насельніцтву, чырвонагвардзейцам, салдатам, што так званы «камітэт уратавання радзімы і рэвалюцыі» абвяшчаецца Савецкім урадам па-за законам.

— Загад аб гэтым ужо друкуецца,— сказаў Крыленка.

— Выдатна. Ці праверany факты, што контррэвалюцыйнымі часцямі камандуюць афіцэры місій саюзнікаў Расіі ў вайне?

— Ёсць паказанні чырвонагвардзейцаў, што ўладзімірцамі камандуе англійскі афіцэр.

— Папярэдзьце пасольствы і місіі, што ніякая дыпламатычная недатыкальнасць не ратуе гэтых афіцэраў ад рэвалюЦыйнага суда. Пастарайцеся арыштаваць хаця б аднаго з такіх афіцэраў на месцы бою. На паклёпы мы адкажам выкрыццём контррэвалюцыйнай змовы сусветнай буржуазіі.

Зазумерыў палявы тэлефон. Матрос з прыкметнай неахвотай, што адрываюць яго ад Леніна, пайшоў слухаць. Паслухаў — і раптам твар яго заззяў, матрос грымнуў на ўвесь пакой:

— Ёсць! Ёсць! Перадайце палку рэвалюцыйны прывет ад таварыша Леніна!

Крыленка кінуўся да матроса, падаючы яму вельмі выразныя знакі.

Ленін, узяўшыся рукамі за штрыфлі пінжака, паглядзеў на іх, усё разумеючы, і прыжмураныя вочы яго радасна ўсміхнуліся.

Матрос адарваў трубку ад вуха.

— Таварышы! Радасная навіна! Перадае камандзір Пулкаўскага атрада! Царскасельскі стралковы полк, які трымаўся нейтралітэту, выступіў супроць Керанскага. Казакі адступаюць! — але тут жа матрос схамянуўся і вінавата сказаў: — Прабачце, што прывет... без дазволу...

Ленін пацёр далоні і зноў сказаў слова, якое любіў: «Отлично!». Ён вымаўляў гэтае слова так жа прыгожа, як слова «товарищ».

— На каго можа разлічваць авантурыст Керанскі? Падняўся пралетарыят Піцера...

— Пасля ўчарашняга закліісу партыі прыходзілася стрымліваць рабочых, каб не спыніліся заводы, — сказаў Іван Свірыдавіч.— Усе рвуцца на фронт.

— Эсэры адчуюць сілу пралетарыяту. Сялянства пачынае разумець сутнасць гэтых «сацыялістаў».

— Цяпер яны крычаць, што мы ўкралі ў іх аграрную праграму, — сказаў Петэрс.

Ленін усміхнуўся.

— Хто топіцца — за саломінку хопіцца. Так і эсэры. Можам падзякаваць ім за праграму. Гэтага даволі. Але яны займаліся балбатнёй і абяцаннямі. Бальшавікі ажыццявілі мару сялянства ў першы ж дзень рабоча-сялянскай рэвалюцыі.

Я не зводзіў вачэй з Леніна, лавіў кожнае яго слова і... усё разумеў, як, бадай-што, ніводную іншую размову адукаваных людзей пра палітыку. Ад гэтага з'явілася дзівоснае адчуванне, нібыта і сам я ўдзельнічаю ў гэтай размове, і Ленін слухае мае думкі, ухваляё іх, і ўсе ўхваляюць, і мне радасна, хораша, што развагі мае таксама маюць нейкае значэнне.

Я так захапіўся гэтым адчуваннем і ўяўленнем, што не прыкмеціў, калі, адкуль там, за загародкай, апынуліся яшчэ два чалавекі. Абодва цывільныя. Адзін мажны, высокі з добра дагледжанай барадой, у акулярах. Другі таксама ў акулярах і таксама з бародкай, але маленькі, худы, нязграбны, у даўгім паліто з паліняльым каўняром.

Мне здалося, што яны з навейнікаў-буржуяў, і я нават затрывожыўся, што яны так нечакана і так блізка падышлі да Леніна.

Мажны працягнуў Леніну нейкія паперы.

«Прашэнне»,— падумаў я.

Ленін тут жа пачаў чытаць паперы. Прачытаў адну, на секунду заклапочана задумаўся.

— М-да. Гэта сур'ёзна,— і пераклаў паперу падніз. Прачытаў другую, дзіўна хмыкнуў, паківаў галавой, сказаў да ўсіх:

— Паслухайце, калі ласка, тэлеграму з Магілёва, ад Цэнтральнага армейскага камітэта. Нарэшце яны згодны на прадастаўленне ў новым урадзе бальшавікам месцаў, безумоўна, меншасці. Цікава, праўда? І паказальна. Для нас важна, што гэты эсэраўска-меншавіцкі камітэт, генеральскі камітэт, не салдацкі... лакеі Духоніна... загаварылі іншай мовай. Хочуць яны ці не хочуць, але яны выказваюць настрой фронту.

Адгукнуўся худы чалавек у доўгім паліто:

— Дарэчы, на канферэнцыі партый эсэры таксама згадзіліся дапусціць нас ва ўрад. Пры ўмове, што мы распусцім Чырвоную Гвардыю.

— Згадзіліся? — хутка, як бы ўзрадавана спытаў Ленін і раптам весела засмяяўся. — Скажыце, калі лас-

ка, якая велікадушнасць! Нарэшце яны згадзіліся! Можа нам пакланіцца ім за гэта?

Засмяяліся ўсе камісары.

— Аднак, якое дрымучае палітычнае невуцтва! Што ж, няхай пагавораць. Чым бы дзіця ні цешылася — абы маўчала.

Чалавек у даўгім паліто кісла скрывіўся.

— Гэта было б смешна, калі б не было так сумна.

— Як заўсёды, вы песіміст. А мы, бальшавікі, рэвалюцыйныя аптымісты.

— Я таксама бальшавік,— сказаў чалавек у даўгім паліто.— Але не забывайце, што, акрамя Керанскага і юнкераў, нам пагражае іншы фронт — забастоўка чыноўнікаў дзяржаўных устаноў. Мы не можам нават узяць у банку грошы, каб выдаць заробак рабочым. Нельга кіраваць без апарата, жыць без грошай! Людзі галадаюць...

— Вось чаго вы спалохаліся! — усміхнуўся Ленін і сказаў не песімісту — усім прысутным: — Мы адчынім падвалы банка дынамітам!

На твары чалавека ў даўгім паліто адбілася жудасць. Ён падняў рукі, як бы жадаючы спыніць Леніна ад такога дзёрзкага намеру.

— Як можна, Уладзімір Ільіч! Што скажуць?

— Рабочыя, салдаты ўзялі ўладу ў свае рукі. Сёння-заўтра яны разаб'юць контррэвалюцыйныя часці карнілаўца Керанскага. Што пасля? Што вы раіце? Чакаць, пакуль банкіры, буржуазія злітуюцца і аддадуць ключы ад народных грошай? Ці чакаць, пакуль яны задушаць рэвалюцыю сабатажам! Не, баценька, мы чакаць не будзем! Не! Вы можаце чакаць. А мы, узяўшы ўладу палітычную, будзем браць эканамічныя рычагі ў свае рукі. Гэта — закон рэвалюцыі! Пралетарскай рэвалюцыі.

Чалавек у даўгім паліто хацеў нешта запярэчыць, але, напэўна, Уладзіміру Ільічу зусім не хацелася спрачацца з ім тут, у штабе, у прысутнасці розных людзей.

Безумоўна, Ленін даўно ўбачыў мяне — я так стаяў і так слухаў, што не заўважыць такога бравага ваяку было нельга! — але размова пра справы рэвалюцыі не дазваляла Леніну пераключыць увагу на што іншае. А тут Уладзімір Ільіч, адвярнуўшыся ад таго, у даўгім паліто, ступіў да бар'ера і спытаў, звяртаючыся да мяне:

— Вы салдат, таварыш?

Я быў ашаломлены нечаканасцю і анямеў, здолеў толькі кіўнуць галавой: так.

— Колькі вам год?

На такое пытанне я часта адказваў, нават генералам са Стаўкі, якія часам з'яўляліся на фронт. Язык мой раскаваўся.

— Шаснаццаць! — па-салдацку гучна адказаў я.

— І вы ўжо салдат? — здзівіўся Ленін.

— Так точна!

— Уладзімір Ільіч! Больш за два гады ўжо, як хлопец гэты апрануў шынель,— растлумачыў Іван Свіры давіч.

Ленін паглядзеў на яго, пасля — зноў на мяне, і вочы яго яшчэ больш пацяплелі.

— Як ваша прозвішча, таварыш?

— Радавы Жмянькоў,— зноў па-вайсковаму адказаў я.

— З якой вы губерні, таварыш Жмянькоў?

— З Мінскай.

— Беларус.

— Так точна, беларус! — амаль крыкнуў я, узрадаваны, што Ленін ведае пра мой народ. З якой я губерні — пра гэта часта пыталіся цікаўныя салдаты, афіцэры, але ніхто з іх, атрымаўшы адказ, не заключалі вось так проста, як Ленін: «Беларус»,— з яўным веданнем, што ж гэта за народ такі.

Ленін ступіў на крок бліжэй, рукі з-за спіны перакінуў на грудзі, узяўся за штрыфлі пінжака. Спытаў так, нібы мы асталіся з ім адзін на адзін:

— Вы — сірата?

Пытанне было незвычайнае, і я на нейкі момант разгубіўся. Зноў выручыў Іван Свірыдавіч:

— Піліп увосень пятнаццатага года перайшоў лінію фронту, прынёс звесткі пра нямецкія батарэі. Мае Георгіеўскі крыж. Мы з ім цэлы год разам у акопах ляжалі пад Маладзечнам і Баранавічамі.

— Таварыш Галадушка — камісар Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, — прадставіў Івана Свірыдавіча Крыленка.

— Галадушка? — на міг на ленінскім ілбе з'явіўся прамень маршчынак,— Я пра вас чуў яшчэ ў Швейцарыі. Гэта вас ваенна-палявы суд асудзіў да смяротнай кары за антываенную прапаганду сярод салдат?

— Мяне, Уладзімір Ільіч. Не аднаго,— стоена ўздыхнуў Іван Свірыдавіч,— Не з многіх цар злітаваўся — замяніў пажыццёвай катаргай.

— М-да, загінулі выдатныя людзі,— на ленінскае чало як бы ўпаў цень. Уладзімір Ільіч нейкую хвіліну памаўчаў, як маўчаць у жалобе, на пахаванні. Але тут жа страпянуўся, акінуў позіркам сваіх памочнікаў па штабе рэвалюцыі, не забыўся і на мяне, і бадзёра сказаў: — Але парадуемся, таварышы, што бальшавіцкая гвардыя жывая, І яна ўзняла рабочых і салдат на рэвалюцыю.

І тут жа зноў павярнуўся да мяне.

— Вось вы які герой, таварыш Жмянькоў. Вам падабалася вайна? Подзвіг, гераізм...

Пра тое, што Ленін яшчэ недзе ў далёкай Швейцарыі ведаў пра Івана Свірыдавіча, напэўна, ведаў бы і пра мяне, калі б мяне асудзілі, стаў ён адразу вельмі блізкім, родным чалавекам, як бацька, як дзядзька Ціхан, як Іван Свірыдавіч, і я адказаў на дзіва смела, можа нават залішне мнагаслоўна — не па-салдацку. Добра помню, што нават імя і імя па бацьку сказаў, як іншыя:

— Каму яна можа падабацца, Уладзімір Ільіч! Хіба буржуям. А народу ад яе адно гора. Я, калі ішоў да нашых, то бацьку хацеў знайсці, у мяне бацька на фронце, два гады шукаю...

— Вельмі правільна, таварыш Жмянькоў: народу ад вайны адно гора. З вайной імперыялістычнай мы пакончым. Заўтра ж прапануем немцам перагаворы аб перамір'і. Наша мэта — мір усім народам. Савецкі ўрад забяспечыць мір любымі сродкамі! Але, відаць, нам не адразу ўдасца вызваліць зямлю, занятую немцамі,— Уладзімір Ільіч зразумеў маё становішча і не пажадаў таіць горкай праўды — што нялёгка будзе мне вярнуцца дадому. Напэўна, ён меў намер неяк асцярожна і тактоўна падвесці размову аб маёй будучыні. Магчыма, хацеў нешта прапанаваць ці параіць. Але Леніну і мне зноў памог Іван Свірыдавіч. Ён сказаў:

— Уладзімір Ільіч, Жмянькоў просіць паслаць яго на вучобу.

Ленін — па твары яго было відаць — вельмі ўзрадаваўся, пачуўшы гэта, быццам размова ішла пра сына яго.

— Таварыш, дык гэта. ж выдатна! — сказаў ён.— Вось вам голас маладога селяніна! Таварыш Жмянькоў, якую прафесію вы хацелі б набыць? На каго жадаеце вучыцца?

Я сумеўся, бо, праўду кажучы, не паспеў добра падумаць. Едучы сюды ў грузавіку, не здолеў параіцца. з Іванам Свірыдавічам, бо ён сядзеў у кабіне, а я — у кузаве, на скрынках. Цяпер я глядзеў на яго, спадзеючыся, што ён падкажа. Але Галадушка толькі ўсміхнуўся мне, як бы падбадзёрваючы. Тады прыгадаліся мне словы дзядзькі Ціхана, што самае лепшае вывучыцца на доктара, але мужыку гэта не па кішэні; дзядзька марыў памагчы мне стаць фельчарам ці ветэрына-

рам. Яшчэ ўспомнілася абяцанне Залонскага вывучыць мяне на афіцэра. І я адказаў Уладзіміру Ільічу няўпэўнена, сарамліва, баючыся, што гэта недасягальна для мяне, і з жадання майго могуць пасмяяцца:

— Каб на доктара... ці... на афіцэра...

Але ніхто не засмяяўся. Толькі Ленін на момант нахмурыў лоб, але тут жа хораша ўсміхнуўся і сур'ёзна сказаў:

— Мы рыхтуем дэкрэт аб адмене ў арміі ўсіх чыноў і званняў. Аднак, пакуль існуюць эксплуататарскія класы і пакуль нас будуць акружаць буржуазныя дзяржавы, пралетарыят Расіі будзе мець сваю рэвалюцыйную армію, і ёю будуць камандаваць афіцэры з рабочых і сялян. Таварышы, абавязкова пашліце франтавіка Жмянькова ў школу чырвоных камандзіраў.

— Уладзімір Ільіч, у нас няма яшчэ такіх школ,— сказаў Крыленка.

Ленін павярнуўся да яго, сказаў з вясёлым дакорам:

— Таварыш народны камісар! Як гэта няма? А вучэбныя каманды Чырвонай Гвардыі — хіба гэта не аснова такіх школ? Між іншым, Жмянькоў даў нам з вамі выдатную ідэю. Прадумайце пытанне арганізацыі камандзірскіх вучылішчаў ці курсаў — сутнасць не ў назве, не ў форме — і дайце, неадкладна дайце! — прапановы на Саўнарком. Мы не можам адкладваць ні на адзін дзень падрыхтоўку каманднага саставу для арміі сацыялістычнай рэвалюцыі!

На развітанне Уладзімір Ільіч паціснуў мне руку, весела пажадаў:

— Усяго вам найлепшага, таварыш будучы рабочасялянскі генерал.

Далібог, так і сказаў. Пажартаваў. Але жарт быў шчыры і добразычлівы. А можа і не жарт? Умеў Уладзімір Ільіч заглядваць далёка наперад, бачыць і будучае краіны, свету, і лёс кожнага чалавека, з якім страчаўся. Калі мне прысвоілі генеральскае званне, Кацярына Васілеўна мая сказала: «Як у ваду глядзеў Уладзімір Ільіч».

Калі Ленін выйшаў, запрасіўшы да сябе Крыленку і высокага чалавека з барадой (пасля я даведаўся — гэта быў Бонч-Бруевіч), той, у даўгім паліто, дакорліва паківаў галавой, сказаў як бы разважаючы ўголас:

— Захапляецца. Адрываецца ад зямлі. Як усе геніі.

Але ніхто на яго словы не звярнуў увагі, ніхто не адазваўся, адзін хіба я запомніў іх.

Работнікі Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, радасна ўзрушаныя наведаннем Ільіча, зноў узяліся за сваю справу.

Іван Свірыдавіч спытаў у мяне:

— Ды ты ведаеш, хто з табой гаварыў?

— Дзіва што! Ленін! Я адразу пазнаў.

Петэрс, пачуўшы нашу размову, засмяяўся.

— Ды ты сапраўды генерал. Не дарма табе Георгія далі. Аднак куды нам цябе ўладзіць пакуль што. Вось што, Галадушка. Будзе ён веставым ВРК. Заданне на сённяшні дзень: быць сувязным паміж тваім атрадам і Смольным. Згода, «генерал»?

Так вырашыўся мой лёс.

У час трохтыднёвай работы маёй у Смольным часцей за ўсё я атрымліваў даручэнні ад Петэрса. Ён часта звяртаўся да мяне вось так, жартаўліва — «генерал». І хоць у той час Леніным быў падпісаны дэкрэт аб адмене ўсялякіх званняў, я не крыўдаваў і адгукаўся на такі зварот.

Той дзень памятны для мяне ва ўсіх адносінах. Я браў удзел у першым рэвалюцыйным баі. Раззброіўшы паўлаўцаў, атрад Галадушкі штурмаваў Уладзімірскае вучылішча, якое было штабам контррэвалюцыі, і юнкеры там упарта адмаўляліся скласці зброю. Хоць Іван Свірыдавіч не дазваляў мне вытыкацца з рэвальверам, які я, веставы, атрымаў ад яго, але без дазволу камандзіра знаёмы кулямётчык з нашага палка даў мне хвілін колькі пастраляць з «максіма»; яшчэ на фронце

я, на усялякі выпадак, навучыўся нядрэнна валодаць і вінтоўкай і кулямётам.

Увечары, калі юнкераў павялі ў Петрапаўлаўку, я, перапоўнены ўражаннямі, не вытрываў і адскочыў да Залонскіх — з серады ж не быў, не бачыў Катрусі, не ведаў, як яна там. Ды і Залонскі цікавіў: што ён думае цяпер, што будзе рабіць? Я тройчы за дзень прабягаў амаль міма іх дома, заносячы ў Смольны данясенні. Чацвёрты раз не хапіла сілы прайсці міма. Катруся і цётка Мар'я ажно заплакалі ад радасці, убачыўшы мяне жывога, здаровага, вясёлага. Я не паспяваў адказваць на іх пытанні, яны сыпалі іх, што кулямётныя чэргі. На шумныя галасы нашы прыйшоў на кухню Усевалад Аляксандравіч, адзеты ў цывільны касцюм. У такім убранні я ніколі не бачыў падпалкоўніка; гэта было нязвыкла, і наогул я не ведаў, як цяпер звяртацца да яго.

Ён спытаў:

— Як жывём, Жмянькоў?

Спытаў сур'ёзна, не проста так — ад звыклай ветлівасці, а, безумоўна, жадаючы даведацца, што робіцца ў палку. Але я жыў у той дзень адным — сустрэчай з Леніным. Пра гэта я адразу пачаў расказваць жанчынам. Гэтым я адказаў і на яго пытанне:

— Я з Леніным гаварыў!

— Ты? Дзе?

— Сёння! У Смольным!

— Што ж табе сказаў гаспадзін Ленін?

— Не гаспадзін, а таварыш,— смела паправіў я свайго былога камандзіра.

— Але, але, для цябе таварыш,— здавалася, пакорліва згадзіўся Залонскі.

— Ленін загадаў паслаць мяне на вучобу.

— Куды?

— На чырвонага камандзіра вучыцца.

Залонскі кісла ўсміхнуўся.

— Што ж, жадаю та бе стаць бальшавіцкім генералам, — і выйшаў з кухні.

Яшчэ адно пажаданне. Але было яно зусім іншае — нядобрае, насмешлівае. Блага я адчуў сябе і пашкадаваў, што расказаў яму пра сваю радасць; зразумеў, што не кожнаму трэба пра радасць, як і пра бяду, расказваць. Балюча ўразіла чэрствасць і зласлівасць чалавека, якому я два гады служыў і лічыў добрым, разумным.

Катруся і цётка Мар'я таксама як бы спалохаліся падпалкоўніка і размовы нашай. Кухарка пачала ўпотай сунуць у кішэні майго шыняля нейкія піражкі. Але я ўспомніў булачку, якую з'еў у першы дзень рэвалюцыі, і гэтае пажаданне Залонскага і рашуча паклаў піражкі назад на стол. Цётка Мар'я заплакала ад крыўды. Катруся таксама слязу пусціла. Сапсаваў нам сустрэчу пан падпалкоўнік.

Катруся дагнала мяне можа за два ці тры кварталы. Як толькі дагнала! І як адважылася! Час быў позні, і навокал яшчэ дзе-нідзе стралялі.

Схапіла за руку.

— Піліпку, рідны мій. Шчо ты нагаварыў, што ты наробыў, шчо він загадаў не пушчаць цябе більш у дом?

— Хто?

—Севалад Ляксандравіч.

Мяне ашаламіла гэта.

— Нічога я не гаварыў. Ты ж чула, што я сказаў.

— Піліпку, ідзі павініся. Перапрасі. А то не побачыцца нам більш,— яна заплакала.

Шкада мне стала яе. Каб бачыцца са сваёй Катрусяй, я гатовы быў на ўсё. Але ад думкі, што я, веставы Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, павінен пайсці пакланіцца пану, мяне ажно закалаціла ўсяго, і я закрычаў на ўсю зацямнёную халодную піцерскую вуліцу:

— Гад ён! Гад! Каб я пайшоў яго перапрашаць! Завошта? Ды мы ўсю яго панскую хеўру вытурым з дома гэтага. І з маёнтка! Хопіць ім піць нашу кроў!

Катруся яшчэ больш спалохалася.

— Піліпку, шчо цэ ты кажэш? Нэ будэ нам шчасця. Вой, нэ будэ!

— Не бойся, Катруська. Не стане ён на нашай дарозе! Даволі ім панаваць! Цяпер мы вольныя людзі! І я знайду цябе! Дзе хочаш знайду!

І знайшоў. Праз чатыры гады. У дваццаць першым. Вярнуўшыся з польскага фронту.

Леніна я тройчы слухаў пасля той сустрэчы: два разы там жа, у Петраградзе, трэці раз — у Маскве, у дваццатым годзе. Пагаварыць больш не давялося. Але што мяне асабліва ўразіла, што Уладзімір Ільіч не забыўся пра мяне. Тыдні праз два Ільіч спытаў у Антонава-Аўсеенкі, ці паслалі мяне на курсы чырвоных камандзіраў. Антонаў, які ў той дзень сядзеў на тэлефоннай станцыі арыштаваны юнкерамі, не ведаў пра размову Леніна са мной і быў вельмі здзіўлены, пакуль яму таварышы не расказалі пра ўсё падрабязна.

І яшчэ адно з цягам часу ўсё больш уражвала мяне. Тады я, безумоўна, не ўсё ведаў, не ўсё разумеў. А калі пасля вывучаў гісторыю Кастрычніцкай рэвалюцыі, то даведаўся, што той дзень, нядзеля 11 лістапада, быў самы цяжкі, самы крытычны. Ленін, безумоўна, лепш, чым хто іншы, ведаў пра гэта. І як паводзіў сябе! Які спакой! Якая ўпэўненасць! Інтэлігент у даўгім паліто сказаў пра яго: «Адрываецца ад зямлі». Не, ніхто так цвёрда не стаяў на зямлі! І нішто не магло адарваць яго ад зямлі — ад народу!

Генерал змоўк.

Тады толькі я ўбачыў, што Міхасёў «Масквіч» стаіць на Ленінскай вуліцы ў вузкім праездзе паміж дамамі і агароджай сквера. Мякка свяцілі ліхтары. Па тратуары, па скверы гуляла моладзь — апошнія цёплыя вечары. Прайшла шумная група студэнтаў з транзістарам, гучала модная песня:

Только знают люди, что любовь не мода, Что любовь приходит к ним не по заказу, Что любовь уходит, может быть, не сразу.

— А з Залонскім больш не страчаліся? — спытаў Міхась.

— З Залонскім? — страпянуўся Піліп Рыгоравіч,— Меў адну сустрэчу. Праз два гады, у дзевятнаццатым. Мы гналі Дзянікіна. Камісар брыгады Галадушка паклікаў мяне ў штаб і паказаў дакумент, захоплены ў белых. Начальнік контрразведкі дзянікінскай дывізіі Ягашын пісаў камандзіру дывізіі палкоўніку Залонскаму, што ў Купянску, які яны мусяць пакінуць пад націскам чырвоных, у турме сядзяць сорак

два чалавекі, якія падазраюцца — толькі падазраюцца! — у спачуванні Саветам. Ягашын пытаўся, што рабіць з арыштаванымі. Цераз усю паперу цякло крывёю — пісалася чырвоным алоўкам — страшнае слова: «Расстраляць!» І подпіс: «Все Залонскнй». Знаёмы подпіс. Мы, чырвонаармейцы, ужо ведалі пра расстрэл гэтых людзей, і ў мяне пацямнела ў вачах ад гневу. Рука сама пацягнулася да шаблі.

Я быў камандзірам эскадрона. Папрасіў камісара дазволіць выйсці ў тыл белых, пашукаць у прыдонскім стэпе штаб дывізіі. Не дазволіў Іван Свірыдавіч. Сказаў, што не можа рызыкаваць лепшым эскадронам з-за галавы аднаго дзянікінскага палкоўніка.

Доўга пасля перад маімі вачамі, у сядле і на прывалах, калыхалася гэтае страшнае чырвонае слова, напісанае рукой чалавека, якога я пэўны час любіў і лічыў другам салдат і бедных людзей.

Больш пра Залонскага я нічога не чуў. Ды і што можна было пачуць пра таго, хто пайшоў супроць народу!

# БРАНЯПОЕЗД «ТАВАРЫШ ЛЕНІН»

## *ПРАЛОГ*

Упершыню я пачуў пра гэтыя падзеі гадоў праз дзесяць пасля таго, як яны адбыліся. Мне тады было, можа, якіх сем ці восем гадоў. Пачуў ад маці. Маці ж мая — жанчына зусім непісьменная (пасля ўжо, калі пачаў хадзіць у школу, я навучыў яе трохі чытаць і распісвацца). Уяўленне пра ўсё, што адбывалася нават у яе роднай вёсцы, мела, бадай, такое ж прымітыўнае, як мы, дзеці, бо ніхто яе не вучыў разуменню падзей, што адбываліся навокал, у іх сувязі з тым вялікім, што завецца гісторыяй. Але яе ўласная душэўная рана — боль ад страты брата — была яшчэ свежая, і праз тое, відаць, маці расказвала так, што нас з братам Паўлам гэта моцна хвалявала. Запомнілася на ўсё жыццё, што ў адну з доўгіх зім часцей за ўсё мы прасілі:

«Матка, раскажы, як германцы наступалі».

Пэўна, нарадзілася ўжо ў сэрцах дзіцячая далікатнасць, і мы не прасілі: «Раскажы, як забілі дзядзьку»,— хоць асабіста я, стаіўшы дыханне, чакаў менавіта гэты эпізод — як забілі камандзіра атрада Андрэя Калініна, матчынага брата.

Маю тую даўнюю просьбу да маці нагадала мне малодшая дачка Алеся, якая нядаўна пачала штодня надакучаць мне:

— Тата, раскажы, як ты быў маленькі.

Лепш за ўсё казкі слухала яна простыя, нявыдуманыя, праўда, для яе шмат у чым незвычайныя,— эпізоды бацькавага маленства. Але калі я вычарпаў усё, што адбывалася ў сапраўднасці, і пачаў выдумляць забаўныя гісторыі, дачка смяялася больш, весялей, аднак прасіць расказаць, як я быў маленькі, пачала радзей. А можа проста падрасла?

У дачкі маёй ёсць усё: кнігі, радыё, тэлевізар і вялікі горад навокал з мноствам людзей.

Маё маленства праходзіла ў лесе. Ад леснічоўкі да бліжэйшай вёскі кіламетры тры, і ў кароткія зімовыя дні, калі завеі замяталі дарогі, мы часам па тыдню не бачылі людзей. Навакольныя сяляне ў той час неахвотна па сваёй волі наведваліся да лесніка. Але менавіта зімой і асабліва ў завейныя ночы, калі хутка замятала снегам сляды і пні, не мог сядзець дома, не мог спаць ці расказваць дзецям казкі ляснік. Лес тады кралі бязбожна. Жылі яшчэ аднаасобна, кожны меў каня і кожны заставаўся верны старому запавету: «Хто ў лесе не злодзей, той у двары не гаспадар».

Бацька мой быў шчыры вартавы лесу і бясстрашны чалавек. Як толькі наступала зімовая ноч, сумётная, завірушная, ён ускідваў на плячо ружжо, станавіўся на шырокія паляўнічыя лыжы і — у абход, часам да світання, а часам на суткі і на двое, бо раніцай па слядах ішоў у вёскі, знаходзіў спіленыя дрэвы, складаў акты.

Мы заставаліся ў леснічоўцы з маці. Лес падступаў над самыя вокны, змешаны — бярозы, сосны, дубы, і ў ветраную ноч ён не проста шумеў — стагнаў, гудзеў, свістаў і трашчаў. Было жудасна, нават нам, звыклым да такога ляснога адзіноцтва. Маці баялася, напэўна, больш, чым мы, малыя, бо здараліся выпадкі, калі парубшчыкі помсцілі леснікам. Да таго ж бацьку ўжо аднойчы падстрэлілі. І ён падстрэліў парубшчыка. Было з-за чаго баяцца.

Маці дзіўна адпалохвала ўяўных ворагаў: брала запаснае ружжо (у хаце іх заўсёды было два), выходзіла на ганак і выстрэльвала ў паветра. Пасля гэтага доўга гаўкаў абуджаны Мурза. Зрэдку, калі хадзіў недалёка, на стрэл адгукаўся бацька — трубіў у рог ці страляў. Тады маці вярталася зусім заспакоеная, забіралася да нас за печ... Так, не на печ, а за печ, бо леснічоўкі ў лясах, якія да рэвалюцыі належалі князю Паскевічу, збудаваны былі на адзін узор: печ клалася не ў куце, як у сялянскіх хатах, а адступіўшы ад глухіх сцен, і за ёй утвараліся ўтульныя закуткі і схавішчы; забярэшся туды, адгародзішся ад хаты якой-небудзь посцілкай, каб не глядзець на чорныя страшныя вокны, і адчуваеш сябе, як у крэпасці,— цёпла, газнічка курыць, на сцяне ад яе кудлатая смешная кудзелька ценю.

Прыходзіла адзіная вячэрняя дзіцячая радасць —матчыны расказы. Маці наша не была Арынай Радзівонаўнай. Казак, песень ведала яна нямнога і расказвала іх, відаць, не вельмі ўмела — не запомніліся мне яе казкі. А вось пра звычайныя жыццёвыя падзеі, асабліва пра тое, што сама бачыла, маці ўмела расказваць так, што мы слухалі, як самую дзівосную казку, і надоўга запаміналі. Але самае моцнае ўражанне на маё дзіцячае ўяўленне рабіў расказ гіра нямецкае наступленне і пра смерць дзядзькі Андрэя.

Калі пераказваць коратка, з захаваннем матчынага разумення тых падзей, то выглядала гэта так...

Калі ў Карме даведаліся, што ў Піцеры, у Маскве, у Гомелі рабочыя прагналі буржуяў і паноў, то людзі, кармянцы, хадзілі па сялу з чырвонымі сцягамі і спявалі песні. Андрэй, матчын брат, завадатарам быў. У Ігаўцы дзялілі маёнтак і панскую зямлю. Андрэй і туды хадзіў. І ў Добруш і ў Насовічы.

А пасля рыхтаваліся да першых выбараў, дзе ўсе павінны былі аддаць свае галасы —хто за які спіс хоча. Старых баб і дзяўчат такіх,

як мая маці, выбары гэтыя палохалі. Але дзядзька Андрэй і другія хлопцы хадзілі па хатах і тлумачылі, за які спіс трэба галасаваць. Маці помніла, што яна і ўся іх сям'я галасавала за нумар дзевяты.

У каляды ўсхваляваліся людзі — немцы наступаюць. Спачатку называлі гарады, занятыя імі, пра якія маці да таго не чула і пасля не помніла іх назваў, для баб і жанок, як яна, гарады тыя былі на краю света. А старыя людзі, салдаты былыя, казалі, што гэта недалёка. Таму пачалі збірацца ў атрад, каб абараніцца ад немцаў. Камандзірам выбралі Андрэя Калінійа. Ё,н паехаў у Гомель і прывёз тры вазы вінтовак. Усім маладзейшым мужчынам вінтоўкі выдалі. Атрады гэтакія ж стварыліся ў Крупцы, Пераросце, у Агароднi, у Кузмiнiчах. Разы два атрады сыходзіліся разам, вялі вучэнне. Па Карме ішло цэлае войска ў кажухах, у світках, валенках і лапцях. Людзі верылі, што такое войска спыніць праклятых германцаў, якім сваей зямлі мала — чужой захацелі.

Калі ў першы тыдзень вялікага посту прынеслі вестку, што Гомель занялі, Андрэй дадому вачэй не паказваў ні ўдзень, ні ўначы: ездзіў некуды, хадзіў, войска сваё вучыў у полі, акопы пад Ігаўкай капалі — дзяўблі мёрзлую зямлю.

Хутка немцы і Добруш узялі. Па крупецкім атрадзе, які стаў ім на дарозе, каб далей не пускаць, з гар. мат білі. Паміж Крупцам і Парарастам вял һеі бой ішоў,

на пагорку немцаў паклалі, як снапоў на таку. Вельмі ўзлаваўся цар германскі за сваіх забітых, загадаў па сёлах з гарматаў страляць. Людзі ў халодных падвалах сядзелі, ратаваліся ад снарадаў і куль.

Два дні біліся кармянцы ў чыстым полі пад Ігаўкай, у гразі, бо вясна ўжо наступіла. Ды што ты зробіш, калі ў немцаў гарматы і кулямёты, а ў нашых — адны вінтоўкі, і да тых патронаў не хапала; маці чула гэта ад бацькі майго, які таксама быў у атрадзе; у тую зіму яны толькі пажаніліся.

Мусілі адступіць нашы. Цераз рэчку, па Ягадным, добра, што балота не растала яшчэ, на Злынку падаліся ўсе атраднікі.

Андрэй на хвілiначку дадому заскочыў — узяць у дальнюю дарогу хлеб ды сухія анучы.

Выйшаў з хаты на вуліцу, каб дагнаць свой атрад. І тут, пасярод вуліцы, перад вокнамі роднай хаты, куля насцігла.

— Германцаў не было яшчэ тады на нашай вуліцы,— расказвала маці, выціраючы слёзы. — Людзі кажуць: свой стрэліў, каторы ўраднікам пры цары служыў. Злыя былі на Андрэя, што ён адразу за Саветы стаў, што атрадам камандаваў, што ў Добруш хадзіў — таварыша Леніна памагаў вызваляць. Мы ў падвале сядзелі, не

бачылі, як забілі Андрэя. А пасля германцы два дні не падпускалі нікога да яго, калі даведаліся, што ён камандзірам быў. На страх людзям, каб ніхто супраць іх не выступаў, з кулямётаў стралялі. Бацька наш — ваш дзед Сцепанец — прасіў, маліў, грошы плаціў, каб дазволілі пахаваць Андрэя. А потым яшчэ папа прасілі, каб згадзіўся адпяваць...

У зімовыя вечары, седзячы за печчу ў леснічоўцы, слухаў я гэты няхітры расказ, і дзіцячае сэрца мае кранаў матчын боль і смутак, і, як нішто іншае, распальвала фантазію незвычайнасць лесу, бясстрашша блізкіх мне людзей, не якіх-небудзь невядомых чужынцаў — сваіх, кармянцаў, што не пабаяліся з вінтоўкамі пайсці на нямецкія гарматы.

Пасля, калі авалодаў іншай формай пазнання свету — кнігай, вывучыў біяграфію Леніна і гісторыю рэвалюцыі, я, добра помнячы матчын расказ, здзіўляўся, жадаючы зразумець, адкуль, з чаго, з якой падзеі магла ўзнікнуць неверагодная легенда, што Андрэй Калінін хадзіў у Добруш памагаць чырвонагвардзейцам вызваліць Ільіча ад немцаў.

Бацька мой гэтага не ведаў, адмахваўся: «Мала што прыйдзе бабе ў галаву». Леснікаваў ён далека ад роднай вёскі. У Карму я наведваўся рэдка і неяк не выпадала распытаць у каго-небудзь з тых, хто ўдзельнічаў у гэтых падзеях. Ды ўрэшце я згадзіўся з думкай маіх сяброў-студэнтаў, што легенда гэтая — мясцовы сялянскі водгук-адгалосак на кадэцка-эсэраўскую брахню і паклёп, што нібыта немцы везлі правадыра рэвалюцыі ў пламбіраваным вагоне.

На гэтым, праўду кажучы, я супакоіўся і пазней не часта ўспамінаў матчын расказ — усяму свой час. Сам паўдзельнічаў у падзеях яшчэ больш драматычных і вялікіх — у вайне з фашызмам. Як пісьменніку хапала сюжэтаў больш блізкай гісторыі і сучаснасці.

Ды раптам гады два назад, чытаючы дакументы тых далёкіх часоў, калі ішло змаганне за перамогу Савецкай улады, натрапіў я на зводку штаба Маскоўскай ваеннай акругі. Член франтавой калегіі Аралаў і член аператыўнага аддзела М'устафін 8 сакавіка 1918 года ў 20 гадзін данеслі ў штаб Маскоўскай ваеннай акругі:

«На Заходнім фронце, нягледзячы на заключэнне міру, баявыя дзеянні на ўчастку Гомель — Навазыбкаў не спыняюцца. 6 сакавіка пасля абстрэлу немцамі нашага атрада ў раёне станцыі Добруш з гармат і кулямётаў, якія стаялі на платформах поезда пад камандай рускага афіцэра ў пагонах падпалкоўніка, нашы войскі, моцна ўзлаваныя гэтым, перайшлі ў наступленне і кароткім ударам занялі

станцыю Добруш. 7 сакавіка бой працягваўся. Мы прасунуліся ўперад і адбілі страчаны тры дні назад браніраваны поезд «Таварыш Ленін».

Дык вось адкуль вынікла леі'енда, якую расказвала маці!

Іду па слядах падзей, якім больш паўвека.

**1**

Камісар атрада Елісей Арэф'еў выйшаў з цемнаватай кватэркі начальніка раз'езда і... заплюшчыўшыся, захлынуўся ад святла і паветра. Раніца была дзівосная, казачная. Такая можа быць толькі ў сакавіку, напрадвесні. І толькі вось тут, сярод лесу, на маленькім раз'-ездзе, дзе навокал амаль першабытная прырода. Сапраўды, лес амаль не крануты рукой чалавека, з двух бакоў падступае да самага насыпу,— лісцвены лес, нізінны: дубы, асіны, грабы, вольхі. Пад дрэвамі ляжыць яшчэ снег. Снег ужо крануты вясной і людзьмі, што асталяваліся тут. Але ад начнога мароза ён і падшэрх і дзіўна звініць пад нагамі ў байцоў. Над галавой, на старых ліпах, што ўзвышаюцца над станцыйным будынкам,— птушынае вяселле. Колькі іх там! Спяваюць на ўсе галасы! Ён, камісар, масквіч, гараджанін, нават не ведае, як яны называюцца, гэтыя спявачкі ранняй вясны... Вераб'ёў ён ведае. Але вераб'ёў там, здаецца, няма. Яны вось тут, пад нагамі,— асмялелі і пырхаюць, скачуць на насыпу, каля цяплушак, на дахах вагонаў, каля кухні, што мірна дыміла на тым баку пуці на прыстанцыйнай паляне паміж штабялёў бярвення і шурак бярозавых дроў. Чаго-чаго, а паліва хапае тут!

Блакіт неба ажно рэзаў вочы. Сонца сляпіла. Яно толькі ўзнялося над лесам і стаяла акурат над чыгуначнай прасекай, якая тунелем, звужаючыся ўдалечы, рассякала лес рэйкамі, што, бліскаючы зайчыкамі, ляцелі на ўсход.

Арэф'еў, чалавек гадоў пад сорак, з юнацкай рамантычнай узнёсласцю падумаў, што сонца ўзышло ў Маскве. Ад думкі такой стала хораша.

Прыслухаўся. Панавала цішыня. Не, ён не чуў больш, як весела, з пералівамі спявае піла — піляць дровы каля кухні, звініць снег і шаргоча пясок па насыпу пад нагамі, шчабечуць птушкі. Ён слухаў іншую цішыню, жаданую, доўгачаканую,— цішыню міру. Ён, як мільёны іншых салдат, марыў пра яе, такую цішыню, змагаўся за яе. І вось нарэшце здзейснілася гэтая ўсенародная мара. Пазаўчора атрымана тэлеграма Крыленкі, што ў Брэсце падпісаны мірны дагавор. Вярхоўны Галоўнакамандуючы загадаў спыніць усялякія ваенныя дзеянні і заставацца на сваіх пазіцыях.

Загад яны выканалі.

Іх Маскоўскі чырвонагвардзейскі атрад, штаб яго, тылы, размясціліся на гэтым лясным раз'ездзе Закапыцце, адкуль можна звязацца па тэлеграфе з цэнтрам. Баявыя роты — там, на ўзлессі, пад Добрушам, з якога яны мусілі тры дні назад адступіць пад націскам кайзераўскіх войск.

Цішыня жаданая, але нярадасная. У Елісея Ягоравіча сціснулася сэрца. Во куды, гады, дапялі — да Масквы рукой падаць! У снежні, калі Троцкі сарваў перагаворы, іх атрад маскоўскіх пралетарыяў паслалі ў Калінкавічы, каб памагчы знясіленай арміі стрымаць нямецкі наступ. Але старая армія па сутнасці развальвалася, а новую рэвалюцыйную армію не паспелі япічэ стварыць. Чатыры месяцы ўсяго жыве Савецкая рэспубліка! Праўда, народ на Палессі — у гарадах, у сёлах — узнімаецца на немца. Але зноў-такі, каб арганізаваць, узяць пад кантроль партыі, узброіць, навучыць гэтыя стыхійныя атрады — патрэбен быў час, а яго не хапала.

Акрамя загаду Крыленкі, сёння ўначы прыйшла шыфроўка камандзірам, камісарам, рэўкомам, саўдэпам прыфрантавых паветаў: усімі сіламі захоўваць умовы міру, не адказваць на нямецкія правакацыі і асабліва пільна сачыць за тымі, хто хоча сарваць мір да склікання Надзвычайнага Усерасійскага з'езда Саветаў, які павшей зацвердзіць Брэсцкі дагавор.

Арэф'еў ведаў з друку, ад таварышаў, што прыязджалі з Масквы, якое змаганне прыйшлося весці Леніну за гэты мір, як нялёгка было Ільічу даводзіць нават некаторым бальшавікам, што калі не заключым мір цяпер, хоць бы такі, цяжкі, рабаўніцкі, будзе яшчэ цяжэй — народу, партыі, краіне.

Елісей Ягоравіч быў упэўнены, што начная шыфроўка паслана па ўказанні Леніна. Таму адчуваў асаблівую адказнасць не толькі за свой атрад, але і за тое, што робіцца ў наваколлі, ва ўсходняй паласе Гомельскага павета, дзе спыніўся фронт у дзень заключэння міру.

За свой атрад ён спакойны. Большасць — рабочыя, загартаваныя ў рэвалюцыйных баях, і салдаты, якія добраахвотна ўліліся ў атрад з дэмабілізаваных часцей, амаль чвэрць людзей — члены партыі, бадай, ні ў адной часці такога партыйнага ядра няма. Ды і які яны атрад! Пасля таго як паўмесяца назад Ленін падпісаў дэкрэт аб стварэнні Чырвонай Арміі, самі байцы пачалі называць сваю часць — Першы Маскоўскі пралетарскі полк. Пра гэтае агульнае жаданне яны з камандзірам паведамілі ў рэўваенсавет акругі. Магчыма, што для таго каб афіцыйна аформіць нарадзсэнне новага палка рабоча-сялянскай арміі, учора выклікалі ў штаб камандзіра. Немалая гэта гаспадарка — полк. Адна назва як павышае адказнасць! Раней

палкамі камандавалі палкоўнікі, акадэміі канчалі, і афіцэраў можа добрая паўсотня, калі не больш, у палку было. А ён, Арэф'еў, з дзевяцьсот сёмага па дванаццаты ў Сібіры ў рудніках адукоўваўся. У пачатку вайны, праўда, апынуўся бліжэй да ваеннай навукі — слесарам-аружэйнікам у артмайстэрнях Паўночнага фронту, праз умелыя рукі свае да унтэра даслужыўся. Але нічога. Як кажуць — не багі гаршкі лепяць. Не дрэнныя, выходзіць, стратэгі і тактыкі рабочыя і салдаты, калі здолелі даць па шапцы ўсім залатапагоннікам з іх акадэміямі і штабамі. Вунь таварыш Крыленка ўсяго толькі былы прапаршчык, а камандуе франтамі не горш за аляксеевых і духоніных. Але найбольшую ўпэўненасць давала думка, што ёсць у партыі, у народа, у яго новай арміі Вярхоўны Галоўнакамандуючы ў самым высокім значэнні гэтых слоў — Ленін. Змагаючыся так настойліва за мір з немцамі, Ленін, безумоўна, глядзіць далёка ўперад.

Вось чаму ён, бальшавік Арэф'еў, павінен зрабіць усё, каб тут, на іх участку, ніхто не парушыў загад аб спыненні агня, што магло б даць немцам падставу наступаць далей — на Москву. Стрымаць іх цяпер наўрад ці хопіць сіл.

Камісара трывожылі суседзі — гомельскія атрады. Ён ведаў: гомельцы рвуцца ў бой. Учора гаварыў з іх камандзірамі. Разумеў: ім, тутэйшым, асабліва балюча, што немцы захапілі іх зямлю, гарады, сёлы, здзекаваюцца з матак, жонак, дзяцей. Некаторыя сельскія атрады ўзніклі стыхійна ўсяго некалькі дзён назад. Натуральна, што ў такіх жыве партызанскі дух, анархічныя замашкі.

Найбольшыя з мясцовых атрадаў —Другі Гомельскі і рабочых Лібава-Роменскай чыгункі — асталяваліся па суседству — ва ўрочышчы Плоскае, у канторы лясніцтва. Гэта вярсты за тры ад раз'езда.

Арэф'еў ішоў туды. Трэба пазнаёміць партыйцаў з тэлеграмай рэўваенсавета.

Думаў пра мір, пра многія справы ў маладой рэспубліцы, пра свой будучы полк. Але паміж думкамі пра вялікае зноў і зноў — у каторы раз за раніцу — захапляўся навакольнай прыгажосцю. Лесам — перш за ўсё. Які лес! Ён як бы ўзнімае чалавека, яго думкі, настрой, веру ў жыццё, нават у бяссмерце, не папоўскае, а чалавечае — у бяссмерце душы народнай. Дубы-асілкі, ім можа гадоў па трыста, не менш. А бярозы! Якое хараство ў іх напрадвесні! Як нявесты. Увасабленне чысціні і радасці.

Адышоўшы ад раз'езда, углыбіўшыся ў пушчу, Елісей Ягоравіч акунуўся ў незвычайную цішыню — нібы на дно марское апусціўся, як у сне ці ў казцы, ажно спалохаўся на міг. Неверагодны свет. Незнаёмае нязвыклае адчуванне. Чаму так замерлі дрэвы? Хоць бы

адна галінка варухнулася. Быццам прыслухоўваюцца да нечага вельмі таемнага, што могуць пачуць адны яны, дрэвы. Сонца ўзнялося, прасвечвае голы лес і на аселым, наздраватым зашэрхлым снезе сплятаюцца дзівосныя карункі святла і ценю. Праталін у лесе яшчэ нямнога, не як у полі, дзе снег застаўся толькі на касагорах ды ў равах. Уначы добра падмаражвала, і ў лесе санная дарога яшчэ трымае. На палянках дарогу разрэзалі раўчукі, перамёрзлыя за ноч. Удзень яны забулькаюць, і прайсці ў дзіравых ботах будзе не так проста.

Не, у лесе не мёртвая цішыня. Лес поўны ўжо жыцця — птушынага. Як і каля раз'езда, птушкі пырхаюць у галлі, спяваюць на ўсе галасы — клічуць, шукаюць адна адну, жвава скачуць па дарозе, збіраюць насенне ад нацярушанага за зіму сена. Тут многа вазілі сена, клочча яго вісела на галінах дрэў.

Прайшоўшы яшчэ трохі, Арэф'еў пачуў шум недалёкага скаплення людзей. Дзіўна, то пэўны час нічога нё было чуваць, то гукі адразу парвалі лясную цішыню, быццам ён, Арэф'еў, пераступіў нейкую мяжу ці сцяну і з казачнай бязмоўнасці, амаль ненатуральнай, уступаў у свет людзей, жыцця. Гукі іншыя, чым на раз'ездзе — больш вясковыя: заржаў конь, брахаў сабака, нечым ляпалі, быццам кавалі, але больш глуха, чым б'е молат па кавадлу, крычала кабета — лаялася, плакала дзіця.

Сапраўды, на ляснiцкай сядзібе — прасторнай паляне, якая раптоўна, з-за дубоў, адкрылася позірку, вакол старой няўклюднай будыніны канторы, новага прыгожага дома ляснічага і леснічоўкі, што сіратліва стаяла воддаль — нібы цыганскі табар разбілі... На чорнай раллі гарода стаяць сані і, наадварот, у сасняку, дзе ляжаў яшчэ снег, стаптаны і забруджаны — вазы. Коні, каровы, нават валы, хоць у гэтых раенах на іх рэдка дзе ездзяць — значыцца, прыехалі здалёк, відаць, з Украіны. Кастры. Пах варыва. Узброеныя мужчыны і пасялянску апранутыя жанчыны, дзе-нідзе дзеці.

Арэф'еў са здзіўленнем адзначыў, што за суткі людзей, коней, фурманак тут, напэўна, падвоілася.

А да іх на раз'езд прыйшоў невялікі атрад, дзевяць чалавек, з-пад Рэчыцы. Але хлопцы маладыя, дужыя, узброеныя, гатовыя жыццё аддаць за Савецкую ўладу. Ён, Арэф'еў, залічыў іх у полк. Зноў злавіў сябе на думцы, што каторы раз ужо называе свой атрад палком. Падумаў, што ўчора і сёння яго ніхто тут не спыніў. Трэба сказаць тутэйшым камандзірам, што нельга праяўляць такую бесклапотнасць, калі побач фронт.

У канторы, якую гамяльчане занялі пад штаб, было пуста, адзін дзяжурны каля палявых тэлефонаў — сувязі з пярэднім краем і з раз'ездам Закапыцце.

Камандзіры снедалі ў лесніка.

Арэф'еў пайшоў туды.

Снедалі камунай. Відаць, у тую ж раніцу наспех, з негабляваных шалёвак збілі доўгі — на ўсю леснічоўку, ад акна да печы — стол на козлах. За сталом на ўслонах і на дошцы, пад якую паставілі цурбакі, сядзела чалавек дванаццаць. Добрую палову гэтых людзей Арэф'еў убачыў упершыню.

Новыя людзі.

Насустрач яму ветліва падняўся камандзір чыгуначнага атрада Арол.

— Заходзь, заходзь, Ягоравіч. Якраз пад бульбу. Глядзі, колькі ў нас гасцей. Увесь гомельскі саўдэп.

— Не ўвесь, Міхайлыч,— усміхнуўся адзін з незнаемых, светлавалосы, як хлапчук, але плячысты дзябёлы мужчына, акуратна паголены, у той час, калі амаль усе іншыя абраслі барадамі. Ён першы працягнуў руку, назваў сябе.

— Бахцін.

Арэф'еў прыгадаў, што яны сустракаліся, калі вялі бой на Дняпры.

Бахцін зноў засмяяўся:

— Тады я быў з барадой.

— Куліненка,— панура назваў сябе другі чалавек, з выгляду — стомлены ці хворы.

Іншыя віталіся па-сялянску, не называючы сябе.

Арол таксама не назваў іх прозвішчаў. Аднаго толькі прадставіў. Чалавек гэты ўвайшоў у хату следам за Арэф'евым, несучы ў абедзвюх руках па вялікай глінянай місцы, у якія наклаў па цэлай капе квашанай капусты, ажно расол цёк цераз край на рукі, капаў на падлогу. Па-гаспадарску паставіў міскі на стол. Арэф'еў падумаў, што гэта — гаспадар, ляснік. Але Арол сказаў:

— Гэта, Ягоравіч, ваш бліжэйшы сусед. Левы фланг прыкрывае. Камандзір Кармянскага атрада Калінін.

Мужчына гадоў трыццаці пяці, Калінін пачырванеў, як юнак. У яго быў прывабны здаровы сялянскі твар, які нібы асвятляўся знутры, а таму і палымнеў так. І вочы гарэлі дабратой, спагадай, розумам.

Ён запрасіў першы:

— Сядайце з намі снедаць, таварыш.

— Дзякую, я снедаў.

— Хіба вы елі такую капусту? Як пахне! — Калінін смачна пацягнуў носам. — Зелле! І бульбы Марына не паскупілася.

— Што гэта ты, Андрэй, кажаш! — адгукнулася з папрокам леснічыха,— Вы галовы свае за нас не шкадуеце, а я бульбы пашкадую. Ешце на здароўе. Чагочаго, а бульбы хапае.

Яна стаяла перад печчу, абапёршыся на вілы, асветленая полымем, расчырванелая, са збітай на патыліцу хусткай.

— Пtriamажы мне, дзеверка, чыгун выцягнуць,— папрасіла гаспадыня,— А то яго вілы не бяруць, гэты чан.

Калінін увішна кінуўся да печы, узяў у гаспадыні тоўсты ручнік, нырнуў у зяпу печы, з якой дыхала жарам, і выхапіў адтуль чыгун вядры на два. Адцадзіў у ражку кіпень. Шуганула ўгору пара. Апетытна запахла варанай бульбай; зверху яна падгарэла, і выгляд гэтых прыгарак ажно сліну ў Арэф'ева пагнаў. Сняданак у атрадзе быў не дужа багаты — колькі лыжак пшоннай кашы з кропляй алея — абы пахла.

Павітаўшыся з усімі, Арэф'еў сеў за стол побач з камандзірам яшчэ аднаго мясцовага атрада — Дзямідам Грышалёвым. З гэтым чалавекам ён пазнаёміўся колькі дзён назад — яго атрад удзельнічаў у баях за Добруш. Грышалёў яму падабаўся. Разважлівы, спакойны, паармейску дакладны, знешне акуратны, падцягнуты, ён паказаў сябе адукаваным вайскоўцам, а галоўнае — перакананым бальшавіком. Камісар Маскоўскага атрада напісаў пра яго Берзіну: во гатовы камандзір для Чырвонай Арміі!

Аднак месца выбраў Арэф'еў не вельмі ўдала: якраз тварам у твар з Авяр'янам Лагуном, камісарам браняпоезда, захопленага тры дні назад немцамі. Лагун — зусім малады хлопец, гадоў дваццаць усяго, па ўзросту — сын Елісея Ягоравіча. Але рост хлопца — сажань! Сіні мундзір чыгуначніка рабіў яго самым паважным, унушальным сярод гэтых схуднелых, па-сялянску апранутых людзей. І твар яго быў трохі незвычайны: прыгожы, з правільнымі рысамі, але пабіты воспай, рабацінне гэтае надавала яму суровы выгляд і рабіла больш сталым. Хто не ведаў, даваў Лагуну гадоў на дзесяць больш.

Арэф'еў сустракаўся з Лагуном ужо тройчы, і кожны раз два камісары разыходзіліся амаль што ворагамі.

Лагун страшэнна перажываў страту браняпоезда, смерць таварышаў і вініў у гэтым Маскоўскі атрад: адступілі раней часу, не падтрымалі... Кінуў нават у запале папрок у баязлівасці: «Скуру сваю ратавалі». Несправядлівы папрок, а таму вельмі крыўдны — для яго, Арэф'ева, і для ўсіх масквічоў. Не хоча хлопец зразумець, як ні даводзілі яму, што каб яны кінуліся тады на нямецкія гарматы і

кулямёты, то паклалі б палавіну людзей. А каму гэта на карысць, траціць такіх людзей — гвардыю?

Лагун і цяпер нервова прасунуў па стале, па негабляваных дошках свае «кулачкі» па пуду вагой, загнаў стрэмку і, выцягваючы яе пазногцем, глянуў на госця спадылба, непрыветліва спытаў:

— Што, камісар, прыйшоў агітаваць за мір?

— А хіба вы супраць міру? — гэтак жа сурова спытаў Арэф'еў.— За мір змагаецца Ленін, партыя.

Такое пытанне трохі збянтэжыла Лагуна.

«Гарачы, але няспелы»,— падумаў пра яго Елісей Ягоравіч, адчуваючы сімпатыю да хлопца за яго збянтэжанасць.

За сталом сціхлі, насцярожыліся: надзвычай сур'ёзная размова пачыналася. Толькі Калінін, мабыць, не пачуў, пра што загаварылі,— заняты быў іншым клопатам.

— А мы яе вось сюды, — зняў ён з крука рэшата.

— Нядобра, Андрэй! Хто гэта бульбу ў рэшаце падае? Сорам! — спалохалася гаспадыня.

— Нічога! — падтрымаў Арол.— Мы госці непераборлівыя.

Калінін паставіў пасярод стала рэшата і вывернуў у яго з чыгуна бульбу.

На міг пахучая пара, як туман, закрыла тых, хто сядзеў насупраць, і Арэф'еў не заўважыў, як знікла збянтэжанасць з Лагуновага твару.

— Другі чыгун, Марына, стаў варыць у мундзірах. Абіраць няма калі.

— Нядобра з шалупкамі.

— Эге, ды вы тут распанелі. Багатыя,— азваўся адзін з тых, хто не назваў Арэф'еву сваё прозвішча.— На Палессі ў мундзірах вараць. Менш адыходу. Ды, бадай, смачней. Я дык люблю ў мундзірах.

— Прашу, таварышы,— запрасіў Калінін, паказваючы на бульбу і капусту.— Чым багаты... Яно не пашкодзіла б і па чарцы, але чаго няма, таго няма.

— Рэвалюцыя знішчыць гэтае зелле! — сказаў Лагун зноў-такі даволі сурова.

Арэф'еў убачыў, што хто-ніхто з камандзіраў, рэўкомаўцаў, людзей сталых, бывалых, усміхнуўся з такога катэгарычнага прысуду «зеллю». Яму таксама хацелася ўсміхнуцца, але ён падумаў пра іншае: ніхто не адказаў на яго пытанне. Няўжо гэтыя людзі супраць міру? Не можа быць. Яны ж добра ведаюць, што такое вайна. Яго думку як бы адгадаў Бахцін. Узяўшы бульбіну, перакінуў яе з далоні на далоню, падзьмуў і паклаў на стол. Сказаў:

— Не, таварыш, мы — за мір. Думаю, за гэтым сталом няма ніводнага чалавека, хто не хацеў бы міру. Колькі ў сёлах сірот, удоў! Мы ўчора начавалі ў вёсцы за Веткай. Сказалі людзям, што дагавор аб міры з немцамі падпісаны — сяляне плакалі. Ад радасці. Але, відаць, і ад гора. Хіба можа быць радасны мір для тых, у чые хаты нахабна ўваліўся чужы салдат? Вунь да Арла прыйшлі хлопцы з-пад Буды-Кашалёвай, расказваюць, як служкі нямецкага імперыялізму акружылі адну вёску і з гармат білі па жанчынах і дзецях...

Арэф'еў чуў пра нямецкія зверствы. Але нават імі нельга апраўдаць выступленне супраць міру. Яго абавязак — давесці гэта людзям...

— Мір патрэбны для перадышкі. Каб рэспубліка сабрала сілы...

— Усё гэта мы разумеем, таварыш,— цяжка ўздыхнуў хворы Куліненка; ён прастуджана кашляў, трымаў у далонях бульбіну і ўдыхаў гарачую пару.

— Трэба, каб арміі прымірыліся. Перадышка патрэбна, як хлеб і вада. Але народ, які скінуў з шыі свайго цара, які адчуў, што такое воля, не прымірыцца з кайзераўскімі акупангамі. Народ стыхійна ўзнімаецца на барацьбу...— упэўнена, як па пісанаму, гаварыў энергічны Бахцін; ён адзіны за сталом не адкусіў ні ад астылай бульбіны, ні ад скібкі хлеба, пакладзенага Калініным каля кожнага з гасцей, не зачэрпнуў драўлянай лыжкай капусты. Астатнія апетытна елі.

Бахціна перапыніў Грышалёў — падтрымаў:

— Немцы хочуць аддаць Гомельшчыну ўкраінскай радзе. Над гэтай маркай яны, канечне, палезуць у незанятыя яшчэ воласці, у іх жа дагавор з радай. Што ў такім разе нам рабіць?

Пытанне было нечаканае, і Арэф'еў не ведаў, як на яго адказаць. А па вачах усіх, хто сядзеў насупраць, ён бачыў, што ад яго чакаюць адказу. У Лагуна праз яго рабацінне вылазіла стоеная нядобрая ўхмылка. Складвалася недарэчнае становішча: выходзіла, што ён, камісар атрада, адзін супраць усіх, быццам перад ім не таварышы па партыі, а непрыяцелі. Нават разважлівы, вытрыманы Грышалёў і той вось як прыціснуў да сцяны!

— Думаю, што ў мірным дагаворы ўсё распісана.

— Дагавор немцы навязалі драпежны, імперыялістычны. Сам таварыш Ленін гаворыць пра гэта ў тэлеграме...

— Але ёсць і такая тэлеграма,— Арэф'еў меў на ўвазе прачытаць гамяльчанам начную шыфроўку з захаваннем ваеннай тайны, але тут дастаў паперу з кішэні фрэнча і перадаў Бахціну. Усе, хто сядзеў з другога боку стала, з цікавасцю пацягнуліся да паперы, акрамя

аднаго барадатага дзядзькі — камандзіра Веткаўскага атрада; селянін гэты не ўмеў чытаць.

— Думаю, гэта таксама паслана па ўказанні Леніна. Ніякіх правакацый на лініі спынення агню!

Грышалёў, між тым, сам адказаў на сваё пытанне:

— Мы абвяшчаем сябе неадрыўнай часткай Расійскай Савецкай рэспублікі, і калі немцы палезуць у нашы воласці, будзем біцца за кожнае сяло. У маім атрадзе больш за сто штыкоў, у Калініна — каля сотні. Так, Андрэй? Такія ж атрады ў Насовічах, у Пераросце, у Васільеўцы. Мы выставім цэлую армію!

Перадаючы тэлеграму на другі бок стала, Бахцін сказаў Арэф'еву:

— Дарэмна трывожышся, камісар. Мы не збіраемся біць немцаў у лоб. Будзем біць у спіну. Бачыш, мы позна снедаем. Як паны. Чаму, думаеш? Трохі не да дня сядзелі, раіліся, спрачаліся. І вось вырашылі паслаць ад Гомельскага Савета такое пісьмо. Праўда, не прыйшлі яшчэ да згоды — каму. Пісалі камандуючаму фронтам. Але прапануюць паслаць таварышу Леніну. Тады прыйдзецца напісаць інакш. Яно не зусім яшчэ гатова. Але паслухай,— Бахцін з унутранай кішэні сваёй зашмальцаванай ватоўкі дастаў пацёрты вучнёўскі сшытак, разгарнуў яго, прачытаў: «Ва ўсіх канцах нашага павета, нават у самых глухіх, ідзе арганізацыя нартызанскіх атрадаў без кіраўнікоў, без сродкаў, без зброі. Ахопленыя нястрымнай прагай пометы ненавіснаму ворагу рэвалюцыі і свабоды, збіраюцца яны ў асобныя атрады, часта нават не звязаныя паміж сабой, і калі іх прадаставіць самім сабе, яны асуджаны на пагібель. Улічваючы ўсё гэта, мы, выканаўчы камітэт Гомельскага Савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў, цвёрда рашылі стаць на чале стыхійнага народнага руху, надаць яму планамернасць, стройнасць, і тады поспех на нашым баку. Ваш загад аб спыненні баявых дзеянняў з немцамі ў межах Расійскай Федэрацыі Рэспублікі не можа аднесціся да нас, мы — партызаны, і таму Ваш загад нас не датычыць. Каб мы выканалі загад і не пайшлі за працоўнымі масамі, тады мы больш не рэвалюцыянеры.

Пройдзе некалькі дзён, пачнецца поўнае разводдзе, дарогі стануць непраходныя для немцаў — мы ж усюды пройдзем. Вас іменем рэвалюцыі просім не перашкаджаць, але калі немцы...

паспрабуюць прарвацца на Закапыцце, дайце тады ім там з вашымі войскамі дастойны адпор»[1]

Пісьмо было занадта катэгарычнае і спачатку насцярожыла Арэф'ева. Але апошнія словы супакоілі. Ен разумеў, што гамяльчане сапраўды не збіраюцца партызаніць тут, на лініі міру. А хіба можна запярэчыць супраць таго, каб там, у тыле, пад немцамі гарэла захопленая імі зямля? Няхай адчуе кайзер.

— Што скажаш, масквіч? — пераможна спытаў Лагун, усё яшчэ настроены амаль варожа і, па ўсім відаць, гатовы кінуцца ў бой, калі ён, Арэф'еў, адкажа не тое.

— Магу падпісацца пад такім дакументам.

Лагун ударыў па стале кулаком, — ажно падскочылі амаль ужо апусцелыя міскі з-пад капусты.

— Нарэшце чую голас партыйца! А то мне здавалася, камісар, ты пагоны прымерваеш на свой фрэнч.

Крыўдна было салдату Арэф'еву, які чатыры месяцы назад зрываў пагоны ў афіцэраў, чуць такое, але задзірацца ён не стаў: лепей не чапаць такога маладога і гарачага! Не хапала яшчэ пасварыцца тут. Не да сваркі. Затрывожыла іншая думка: «Чаму кіраўнікі падполля выйшлі сюды, за лінію фронту? Навошта склікалі камандзіраў мясцовых атрадаў? Ці не хочуць яны зняць гэтыя атрады з фронту і павесці ў тыл?»

Хворы Куліненка, расчырванелы ад гарачай бульбы, весела бліснуў вачыма — зусім не пануры чалавек, выходзіць.

— Добра, камісар, што ты разумееш нас. Над пісьмом, канечне, мы яшчэ падумаем. Калі Берзіну ці Мяснікову — можна і так. Калі ж таварышу Леніну — так нельга: «просім не перашкаджаць...» Ленін заклікаў да партызанскай барацьбы. Яшчэ калі былі ў Гомелі, нам з Віцебска перадалі копію тэлеграмы за подпісам Леніна: «Разбірайце пуці — дзве вярсты на дзесяць. Узрывайце масты!» Помніш, Міхаіл? Во што раіць Ленін!

— Адным словам, да цябе, таварыш Арэф'еў, адна просьба: перадаць наша пісьмо. Тэлеграф у тваіх руках,— сказаў Бахцін, дапісваючы нешта ў пісьме кароценькім алоўкам, аловак ён паслініў, і на губе яго засталася фіялетавая плямка.

---

[1] З заявы выканкома Гомельскага Савета галоўнакамандуючаму Заходнім фронтам па барацьбе з контррэвалюцыяй Р. І. Берзіну: Берзін накіраваў заяву ў Савет Народных Камісараў з наступнай прыпіскай: «Даводжу да ведама ўсіх, што тут размова ідзе аб тылавых партызанскіх атрадах, якія мне не падначалены, і за іх дзеянні адказваць не магу».

— Пісьмо перадамо. Але нам... усім нам трэба зразумець, што галоўная сіла, якая цераз паўгода — год пагоніць немцаў,— Чырвоная Армія, што ствараецца па дэкрэту Саўнаркома. Часці старой арміі дэмабілізуюцца, штабы распускаюцца, дырэктыву вы ведаеце. Ядро новай рэвалюцыйнай арміі — нашы атрады, чырвонагвардзейскія. І чым хутчэй і больш іх стане кадравымі часцямі...

Арэф'еў убачыў, што гамяльчане пераглянуліся паміж сабой. Значыцца, чуццё яго не падвяло: была ў іх размова пра атрады, напэўна, спрачаліся нават.

— Атрады, Ягоравіч, застануцца,— першы адгукнуўся Арол,— Вы называеце сябе палком. Маіх хлопцаў прынімайце як батальён. Якраз жа набярэцца добры батальён.

Камандзіра чыгуначнікаў падтрымаў Грышалёў.

— Калі немцы палезуць на нашы сёлы — будзем біцца. Але калі не выстаім — сіла ў яго, у немца, артылерыя, конніца — прывядзем атрады сюды, на злучэнне з вамі, у Чырвоную Армію. Так, Андрэй? — звярнуўся ён да Калініна, які не прысядаў — памагаў гаспадыні, зліваў кіпень з другога чыгуна бульбы, зваранай ужо ў мундзірах.

Ніхто не запярэчыў Арлу і Грышалёву. Куліненка, які дагэтуль еў нехаця, старанна вышкрабаў лыжкай рэшткі сопкай бульбы. Лагун выкалупваў з дошкі бурштынавы сучок.

Елісей Ягоравіч адчуў спакой і, бадай, радасць: камандзіры самі вырашылі правільна, па-партыйнаму. Усё добра. Высвятляць, чыя задума — павесці атрады ў тыл,— не варта. Навошта распаляць спрэчку, якая, відаць, закончылася яшчэ ўначы згодай: на захопленай немцамі зямлі ствараць новыя атрады — партызанскія. "Мабыць, і ўсе трымаліся такой думкі, бо хутка размова перайшла на іншыя тэмы. Загаварылі пра вясну — якая яна ідзе? Пра лес і лясніцтва.

З-за печы даўно выглядалі два цікаўныя мурзатыя тварыкі. Елісей Ягоравіч весела падміргнуў ім, і дзеці пачалі з ім гульню вачамі.

Лесьнічыха прапанавала прастуджанаму Куліненку «чаю з зеллем». Пасля бульбы і капусты чаю захацелі ўсе. Чай ускіпяцілі ў тым жа чыгуне на настоі чабора, бруснічнага лісця, яшчэ нейкіх траў. Усе сказалі ў адзін голас, што «чай — царскі» і па чарзе — не хапіла конавак і кубкаў — пілі яго са смакам.

Ніхто нікуды не спяшаўся. Мір. Вясна. Усім было хораша. Пачалі расказваць вясёлыя прыгоды.

На двары гаманілі людзі, іржалі коні, іх недалёка падкоўвалі. І гэта былі таксама мірныя гукі — як напрадвесні ў сяле.

Усе насцярожыліся, калі пачуўся тупат капытоў аб яшчэ мёрзлую зямлю і фыркнуў стомлены конь. Гэта нагадала вайну. На кані, што

спыніўся каля ганка, сядзела двое: хлапчук гадоў дванаццаці і кавалерыст з башлыком на шынялі і ў казацкай шапцы. Зводны батальён рэвалюцыйных салдат — у ім была паўсотня кавалерыстаў — займаў абарону паміж атрадамі Арла і Маскоўскім — на самым блізкім подступе да Добруша.

Нешта там здарылася. Вось чаму і Арэф'еў, і Арол, і Лагун нецярпліва ўзняліся з-за стала.

Першы пераступіў парог хлапчына. Ён быў мокры па вушы. Лапці, анучы, палатняныя штонікі, шэрая сукня і нават шапка-аблавушка — усё набрыняла вадой. Хлапчына дрыжэў, рукі і твар яго пасінелі ад холаду, але вочы зіркалі смела і весела. Ён як бы шукаў позіркам таго, хто яму патрэбны, ці хацеў адгадаць, хто тут, сярод гэтых людзей, галоўнейшы.

Кавалерыст далажыў ад дзвярэй, звяртаючыся да Арла:

— Таварыш камандзір! Перабежчык адтуль, ад немца. Нам нічога не кажа. Патрабуе начальніка браняпоезда Басіна.

Камандзіры пераглянуліся паміж сабой: Басіна пахавалі чатыры дні назад пасля цяжкага бою, у якім страцілі браняпоезд.

Лагун ступіў да хлапца, глуха сказаў:

— Басіна няма, забілі яго немцы. За Басіна — я.

Хлопец знізу — ад вялізных ботаў да бялявага ўскудлачанага чуба — агледзеў камісара. Выгляд Лагуна і, напэўна, яго мундзір чыгуначніка, зрабілі ўражанне. Міаўчанне іншых пацвердзіла, што гэты высокі чалавек не маніць.

Тады хлапчына сарваў з галавы аблавушку, не шкадуючы, разарваў сапрэлую падкладку, вырваў з-пад яе клок прамасленага пакулля, працягнуў Лагуну. Той не адразу нават сцяміў, што гэта, і нават сумеўся: навошта яму гэтае пакулле?

— Пісьмо там, — падказаў хлапчук.

Пакуль Лагун асцярожна раздзіраў пакулле, лесьнічыха першая — калі тыя мужчыны здагадаюцца! — праявіла клопат пра хлапца:

— Дзіцятка маё, на табе ж сухой ніткі няма. Як на моры плыў.

— Рэчку пераходзіў. А на бераг немцы выйшлі. Я прылёг, а лёд асеў, верхаводка найшла. Як шугануў! Думаў — усё, пад лёд пайду. Чуць выбраўся.

— Як жа цябе завуць?

— Валодзька... Бурцаў.

— А божачка! Андрэй! Фамілія ж наша, кармянская.

— Са Жгуні мы... Будашнікам у Ларышчаве бацька мой.

— Лезь на печ, Валодзька. Я табе пераадзецца дам. Чаю гарачага нап'ешся. Бач, як калоцішся. Дзеці! Кыш на вуліцу!

Лагун між тым дастаў з пакулля тонкую трубку з прамасленай паперы, у ёй, у трубцы,— пісьмо на паўаркуша вучнёўскага, у клетачку.

Лагун чытаў спачатку моўчкі. Усе ўбачылі, як пачырванела яго патыліца, папера затрапятала ў руках. Ён павярнуўся да камандзіраў.

— Таварышы!.. дарагія... Не, вы паслухайце, што піша наш машыніст Плавінскі! Дык гэта ж бальшавік! А я здраднікам яго лічыў... У Гомель чалавека паслаў пагіярэдзіць, каб не верылі Плавінскаму, калі ён з'явіцца.

— Я казаў: не спяшайся рабіць вывады,— адгукнуўся Арол.

— А ён... во дзе ён! Паслухайце!.. «Ісак Барысавіч... (Гэта нябожчык Басін...) Поезд наш стаіць у Ларышчаве. Немцы знялі гармату і кулямёты. Больш нічога не чапаюць. Паверылі, што вы ўзялі мяне гвалтоўна, я ж беспартыйны — «пан машыніст», і па-нямецку трохі лапатаць умею. Для іх — я рамантую пашкоджаны кулям! паравоз. Ён ужо гатовы. Немцы ладзяць масток, які разбілі снарадам. Думаю, пуць на Добруш сёння будзе адкрыты. Ахова іх тут невялікая, салдаты бадзяюцца па вёсках — шукаюць ежу. Калі ўдарыць нечакана ранічкай па Ларышчаву і па Добрушу — каб стрэлкі перавесці — праскочым. Сэрца маё старое чуе. Ды і відней мне адгэтуль, як яно складваецца. Паспяшайцеся. А то пагоняць поезд у Гомель — тады ўсё, не вырвеш».

У Лагуна палаў твар, гарэлі вочы, калі ён адарваў іх ад пісьма і паглядзеў у твары камандзіраў. Позірк яго прасіў, маліў: падтрымайце тое, што просіць стары машыніст, не пярэчце. Чаму яны маўчаць усе? Хіба можна маўчаць, калі трэба вырашаць неадкладна?

Першы падтрымаў той жа радасны вястун — хлапчук, высунуўшы з-за коміна ўскудлачаную галаву і голыя худыя плечы.

— Дзядзька Ладзіслаў сказаў, што лепш зайсці ад Іпуці і ўдарыць праз сяло. У Ларышчаве немцы ў школе. Афіцэр сталуецца ў папа. А дзядзька Ладзіслаў сталуецца ў нас. Ён хворы, страшэнна кашляе. Усю ноч бухае, як у бочку. І задыхаецца. Матка мая травамі яго поіць.

— Мой атрад можа ўдарыць ад Жгуні і патрымаць пад кантролем участак чыгункі Добруш — Ларышчава, — па-вайсковаму каротка і дакладна сказаў Грышалёў.

— І я прывяду свой атрад,— падтрымаў яго Калінін.— Пад тваю агульную каманду, Дзямідавіч.

Трывога ўдарыла ў сэрца Арэф'еву. Выходзіць, пісьмо нейкага машыніста ў адзін міг, як ветрам, здзьмула ўсё, пра што ён тут гаварыў цэлую раніцу. Здзьмула ўсю дамоўле)насць. Гамяльчане

загаварылі пра бой, як пра вырашаную справу. Нельга, каб гэта здарылася! Ні ў якім разе! Дорага такі бой мог абысціся рэспубліцы!

— Таварышы! Вы што, забыліся? Падпісаны мір. Ёсць загад...

— Мы — партызаны,— усміхнуўся Бахцін; ён ды яшчэ чалавекі два сядзелі за сталом.

— Не! Тут вы не партызаны! Тут лінія, дзе спыніліся войскі дзвюх дзяржаў, што падпісалі мір! І во... во,— ён зноў выхапіў з кішэні пазаўчарашні загад і начную тэлеграму,— дырэктыва партыі: ніякіх правакацый! Дорага нам каштаваў мір, каб мы так легка...

Лагун усёй сваёй агромністай постаццю насунуўся на нізкага Арэф'ева, гатовы, здавалася, змяць яго, збіць з ног.

— Ты гатовы на лапкі стаць перад кайзерам! А мы не станем! Не! Праз цябе, праз такіх, як ты, мы страцілі браняпоезд, які носіць імя правадыра рэвалюцыі. У гэты поезд рабочыя нашых майстэрань усю душу ўклалі, увесь свой рэвалюцыйны агонь. Гэта ўсё адно, што баявы сцяг страціць. Няма сцягу — няма часці.

Беспартыйны чалавек падказвае, як адбіць браняпоезд, а партыец, камісар,. заклікае стаць перад немцамі на калені. Ды нас расстраляць трэба! І цябе першага, калі мы не адаб'ём браняпоезд!

Арэф'еў убачыў спалоханыя вочы гаспадыні, няўцямныя — у хлопца, які, надзеўшы лесніковы доўгія порткі і доўгую кашулю, саскочыў з печы і стаяў босы, не разумеючы, чаму дзядзька ў салдацкім шынялі не хоча адбіваць браняпоезд.

— Дзядзечка! Там жа дзядзька Ладыслаў чакае,— шмаргануў носам хітры Валодзька.

Камісар масквічоў падумаў, што не да твару ім, людзям адной партыі, так па-бабску сварыцца, крычаць на ўсю хату.Ён адступіў, узяў з падаконніка фуражку, надзеў, паправіў папругу на шынялі і сказаў ціха, спакойна, але выразна і цвёрда:

— Маскоўскаму пралетарскаму палку...

— Чулі? Ужо — палку? Я ж казаў: ён прымярае пагоны!

Арэф'еў не звярнуў увагі на зняважлівыя Лагуновы словы.

— ...палку Чырвонай Арміі даручана трымаць абарону на гэтым участку... аб'яднаць мясцовыя атрады. Як камісар палка, я выконваю загад партыі! Я забараняю ўсялякія дзеянні, якія могуць справакаваць наступленне немцаў. Хто парушыць,— буду патрабаваць рэвалюцыйнага суда і расстрэлу.

— Ды пайшоў ты, ведаеш куды! — крыкнуў Лагун, але не вылаяўся: раптам павярнуўся і кінуўся з хаты, грукнуў дзвярыма так, што зазвінелі шыбы.

Арэф'еў сказаў Арлу:

— На тваю адказнасць, Міхайлавіч. Твой атрад трымае абарону.

— Не бойся, Ягоравіч. Будзе парадак.

— А вы, таварышы, пастарайцеся астудзіць гэтую гарачую галаву, — кіўнуў ён на дзверы.

Бахцін адвёў вочы.

Куліненка ўздыхнуў і закашляўся.

Арэф'еў па-вайсковаму казырнуў на развітанне. Але каля печы спыніўся, працягнуў руку гаспадыні.

— Дзякую за хлеб-соль.

Леснічыха збянтэжылася да слёз.

— А божачка, няма за што. На здароўе вам.

Гарматны стрэл падхапіў Арэф'ева, быццам снарад разарваўся ў яго над галавой. Ён выскачыў з цяплушкі, дзе гутарыў з камісарамі рот. Першая думка — пра гамяльчан: усё-такі пачалі? Гэтая іх звыш-рэвалюцыйнасць можа стаць здрадай рэвалюцыі. Дробнабуржуазная сялянсткая стыхія! Але тут жа ўспомніў, што ніводзін мясцовы атрад не мае артылерыі. Батарэя гаўбіц ёсць толькі ў іх, у масквічоў. Не магла ж яна без загаду адкрыць агонь.

Між тым, гарматныя стрэлы сталі часцейшыя і, здавался, наблі-жаліся. Арэф'еў кінуўся ў станцыйны будынак, дзе стаялі апараты тэлефоннай сувязі. Начальнік штаба Міхайлаў, былы паручнік, крычаў у трубку:

— Што там у вас здарылася?

— Ніхто нічога пакуль што не ведае. Страляюць за лесам, направа ад нас, дзе пазіцыі Лукіна.

Але ж у зводным батальёне няма гармат. Хто ж можа -страляць?

Хвілін праз колькі пазванілі з Плоскага. Гаварыў Арол:

— На ветку папяровай фабрыкі выйшаў нямецкі поезд і абс-трэльвае дарогу на Часа-Рудню. Трэба думаць: рыхтуюць наступленне. Абходны манеўр. Усе выязджаем на перадавую.

Камісары рот стаялі каля ручной дрызіны, двое, самыя дужыя, трымаліся за рычагі.

Арэф'еў разам з іншымі памог разагнаць дрызіну. Ускочылі на платформу. Хлопцы качалі што ёсць сілы.

Сонца свяціла ў вочы. Чырванню гарэлі рэльсы. Арэф'еў успомніў, што раніцай ён любаваўся сонцам, якое стаяла на такой жа вышыні і гэтак жа — якраз над чыгуначнай прасекай, але з другога боку — з усходу. Было яно па-вясноваму ласкавае, мірнае. А гэтае, вячэрняе,— крывава-чырвонае, трывожнае.

За якія чвэрць гадзіны даехалі да завала — вялікага штабеля бярвенняў, што перагароджваў чыгуначнае палатно.

Па ўзлеску праходзіла лінія фронту. Кіламетры за чатыры відналіся будынкі станцыі Добруш. Бой ішоў не на станцыі — у мястэчку, дзе над голымі вербамі ўзвышаліся бяздымныя закураныя коміны фабрыкі.

Гарматы замоўклі, але кулямётная і ружэйная страляніна ўчашчалася.

Камандзір роты, якая займала абарону каля чыгункі, ведаў ужо ўсе падрабязнасці — прынеслі веставыя, бо тут, у чыгуначнай будцы, быў камандны пункт усяго атрада, стаяў адзіны тэлефонны апарат.

Поезд з браніраванымі пляцоўкамі прыйшоў з Ларышчава на фабрычную ветку і абстраляў з гармат нашы пазіцыі. Гамяльчане і салдаты зводнага батальёна, узлаваныя такой правакацыяй, адразу ж пайшлі у контрнаступленне. Поезд адышоў. Бой ідзе з тымі немцамі, што чатыры дні назад уступілі ў Добруш.

Камандзіры і камісары не прасілі — патрабавалі, каб атрад тут жа выступаў. Людзі рваліся падтрымаць суседзяў — выканаць свой салдацкі абавязак. Хіба можна сядзець склаўшы рукі, калі побач гінуць таварышы?

Арэф'еў маўчаў, галава яго раскалвалася ад думак. Йяўжо немцы выкарысталі захоплены поезд, на браніраваных шчытах якога напісана імя Леніна? Якая подлая здзеклівая правакацыя! Але навошта яна ім, гэтая правакацыя? Няўжо мір зноў сарваны? Зноў вайна? Армія распушчана. Новая яшчэ не створана. Сілы няма. Адным энтузіязмам такіх, як Лагун, Бахцін, немцаў не стрымаеш. А да Масквы ўсяго шэсцьсот вёрст. Ад Петраграда немцы яшчэ бліжэй. Ён, Арэф'еў, чытаў загад Крыленкі: баі ішлі пад Псковам і Нарвай.

Камісар пазваніў у Закапыцце, спытаў у Міхайлава, ці няма якіх указанняў са штаба. Нічога не было. Прадыктаваў тэлеграму аб нямецкай правакацыі, загадаў паслаць яе ў Петраград, у Смаленск, у Маскву.

Сонца села. Змяркалася. Зноў на ноч браўся мароз.

Страляніна ў Добрушы сціхла.

Камандзір зводнага батальёна прыслаў данясенне: мястэчка ўзялі, але немцы заселі на станцыі. Прасіў выбіць іх адтуль, бо станцыя — вось яна, перад імі, масквічамі! Чаму ж яны маўчаць?

Але маўчыць тэлеграф у Закапыцці. Таму маўчыць і ён, Арэф'еў.

Адказ прыйшоў позна ўначы — са Смаленска, са штаба Заходняга фронту. Тэлеграфная стужка прынесла:

«Выконвайце загад галоўнакамандуючага аб спыненні ваенных дзеянняў. На правакацыі не адказвайце.

Па магчымасці ўступіце з праціўнікам у перагаворы. Да вас выехаў член ваеннай калегіі».

Адказ радасны ў адным: значыцца, мір не сарваны, дагавор жыве. Але што ж тады гэта такое? Што яму, Арэф'еву, рабіць, калі раніцай немцы палезуць зноў? Як уступаць у перагаворы з такімі правакатарамі?

Не заснуў камісар у тую ноч ні на хвіліну. І не дарэмна думаў, не дарэмна баяўся. Як толькі сонца зноў паднялося над рэйкамі, назіральнікі, што сядзелі на ўзлессі на соснах, паведамілі, што да станцыі набліжаецца поезд. Праз паўгадзіны загрымелі гарматы. Прывёзшы падмацаванне, немцы пайшлі ў наступленне на Добруш.

Што рабіць? Што рабіць? Чый загад, чыю волю ён, камісар, бальшавік, павінен выконваць? Арэф'еў адчуваў, што цярпенне яго камандзіраў, байцоў накалілася да чырвані, і можа здарыцца, што нават гэтыя дысцыплінаваныя маскоўскія пралетарыі — не сялянская стыхія! — могуць не дачакацца загада. Вунь, камісар роты латыш Паульсон глядзіць на яго амаль з нянавісцю.

На мокрым кані прыляцеў сам Арол. Кіраўнік сялянскага паўстання ў шостым годзе, загартаваны, як і ён, Арэф'еў, катаргай. Разважлівы, здавалася, заўсёды спакойны, камандзір гамяльчан дыхаў гэтак жа цяжка, як яго загнаны конь, і гэткі ж мокры і заляпаны граззю быў, заікаўся, каўтаў словы, хоць стараўся гаварыць ветліва, без абурэння:

— Лагун яшчэ ўначы павёў атрад да Ларышчава. Спыніць яго было нельга пасля таго, што ўчынілі немцы. Грышалёў таксама павядзе сваіх. З двух бакоў атакуюць яны раз'езд. Калі наш браняпоезд яшчэ там, захопяць яго. Але ж дарогу ім перагарадзіў гэты пракляты нямецкі поезд. Не пагонім яго назад — атрады апынуцца ў мышалоўцы. Баявыя хлопцы! Касцяк! А-а, Ягоравіч? Не мы ж першыя пачалі...

Арэф'еў хвіліну стаяў, як акамянелы. Ён паспрабаваў уявіць, хоць рабіў гэта ўжо не аднойчы ўначы: як паступіў бы тут Ленін? І раптам хораша ўсміхнуўся Арлу. Павярнуўся да Міхайлава, які прыехаў з Закапыцця яшчэ на досвітку:

— Начштаба! Запішы загад... для гісторыі і... для трыбунала. У адказ на нямецкую правакацыю загадваем... Першае. Батарэі адкрыць агонь па браняпоезду праціўніка. Другое. Усім ротам перайсці ў наступленне на станцыю Добруш, заняць яе. Трэцяе. Заняць раз'езд Ларышчава. Адбіць браняпоезд... калі ён там. Гэта не запісвай. Подпісы: камісар, начштаба.

Узяў з рук у Міхайлава чыгуначную квітанцыйную кніжку, на якой той пісаў,— па царскім гербе і вадзяных знаках, распісаўся пад загадам. Пасля павярнуўся да камандзіра роты:

— Анечкін, разбярыце завал.

— А завал навошта разбіраць? — здзівіўся той.

— Разабраць завал!

**3**

Машыніст Уладзіслаў Плавінскі сядзеў на гарышчы будкі абходчыка і праз акенца сачыў, што рабілася на раз'ездзе, дзе стаялі абрабаваныя немцамі браніраваныя платформы, застылыя, мёртвыя, і яго паравоз, жывы, цёплы... Яшчэ цёплы. Але калі за дзень нічога не адбудзецца і ўвечары яго не пусцяць на паравоз, то да раніцы гэта ўжо будзе не машына, а яшчэ адзін стальны нябожчык: замерзне вада, парве трубы. Мароз уначы градусаў пятнаццаць.

На раз'ездзе было ціха. Неслі варту тыя ж, знаёмыя ўжо, нямецкія салдаты. Не, не адны тыя. Салдат стала больш. І афіцэр другі. Ніхто з іх нікуды не адлучаецца, як раней. Усе гэтак жа насцярожана, як ён, Плавінскі, услухоўваліся ў гарматныя стрэлы ў Добрушы. Адгэтуль з гарышча, калі перайсці на другі бок і паглядзець у шчыліну падстрэшша, відно, дзе манеўруе нямецкі поезд і дзе рвуцца снарады. Чые снарады? Чым скончыцца бой? Хто пераможа?

Пазаўчора немцы лапаталі: «Мір, мір!» Дзе ж ён да д'ябла, той мір? Учора, як толькі адрамантавалі масток, з Гомеля прайшоў нямецкі браніраваны поезд і адразу ж у Добрушы загрымелі гарматы.

Ён, Плавінскі, не верыў у мір. Ён тры дні жыў спадзяваннем. Верыў: не могуць хлопцы пакінуць такі браняпоезд. Як рабілі яго ў майстэрнях! Дзень і ноч! Якое імя далі!

Са сваім старым сэрцам, з астмай, ён нават не падумаў, каб бегчы за маладымі па полі, па снезе і раллі, калі нямецкі снарад разбіў масток і поезд не мог прарвацца на Добруш.

Ён, машыніст, застаўся на паравозе, як капітан на караблі, які тоне. Ашукаў немцаў. Зрабіў на іх уражанне. Стары, тоўсты чалавек, спакойна пыхкаючы люлькай з незвычайным пахучым тытунём (Плавінскі падсыпаў у тытунь шалфей і астматол) прывітаў пераможцаў на іх роднай мове. Паверылі немцы, што бальшавікі гвалтоўна мабілізавалі яго, бо не знайшлі іншага машыніста, хто мог бы павесці іх поезд.

Гаспадарлівасць яго таксама падабалася дбайным і ашчадным немцам. Машыніст папрасіў дазволу адрамантаваць свой пашкоджаны паравоз. Пашкоджанні былі невялікія. Наадварот, рамантуючы,

Плавінскі сам некаторыя «хітрыя» вінцікі павыкручваў — на выпадак, калі немцам раптам прыйдзе ў галаву праверыць паравоз.

Галоўнае — не даць астыць катлу, каб можна было ў любы час, пашураваўшы ў топцы якую гадзіну, давесці ціск да таго ўзроўню, каб пацягнуць пяць платформ, закаваных у браню, набраць хуткасць.

Тры ночы правёў ён на паравозе, грэўся каля топкі. Удзень з сынам будачніка Валодзькам пілавалі прамасленыя шпалы, цягалі цурбакі ў паравозную будку. Шкадаваў вугаль, яго мала засталося. Была ў гэтым яшчэ дана хітрасць: паказаць нямецкім салдатам, што печы ў станцыйным будынку і ў цяплушках лепш паліць дрывамі, якіх тут хапае, а не вугалем, за якім яны спрабавалі лазіць у тэндэр.

Два дні Уладзіслаў Францавіч чакаў хлопцаў ці хоць бы вестачкі ад Басіна, ад Лагуна. Паводзіў сябе як дзіця, як той Валодзька, якога не адарваць ад машыны. Але хто мог прыслаць такую вестачку? Хто ведае, што ён тут, а не забіты немцамі? Ці не сядзіць даўно ў Гомелі, у сваім добрым на пяць пакояў доме па Сталярнай, пад крылом у пані Ядвігі, якая даўно клікала на яго галаву кару боскую за тое, што ён звязаўся з бязбожнікамі бальшавікамі. «Знайгаоў прыяцеляў — галадранцаў!» — крычала жанчына.

На трэці дзень ён паслаў да сваіх Валодзьку, з пісьмом да Басіна. Ад немцаў даведаўся, што фронт стаіць каля Добруша.

Сапраўды, ён, лысы дзед, паводзіць сябе, як хлапчук. Якое права меў ён без дазволу бацькоў пасылаць Валодзьку? Можа здарыцца, што на смерць паслаў дзіця. Чаму забраўся сюды, на гарышча, дзе пад бляшаным дахам сабачы холад, скразнякі? А ён і так прастуджаны, грудзі раздзірае кашаль. Адным словам, пан Уладзіслаў баіцца. У часе прыступу з яго грузнага цела выходзяць апошнія сілы, і яно робіцца, як мяшок з мякінай — мяккае, рыхлае, толькі з грудзей вырываецца паветра, як лішняя пара праз кантрольны клапан. Ні на што ён пасля прыступу не здатны — на нагах ледзьве стаіць, руку падняць не можа. А калі спатрэбіцца шураваць у топцы? Дзе там прыйдзецца! Ад таго, напэўна, і адчуў сябе так блага і на гарышча залез, як стары кот, што знікла надзея. Раніцай знікла, калі ўчарашні поезд зноў прайшоў на Добруш, везучы на платформах дзве добрыя роты салдат, і калі там, на ўсходзе, адкуль свяціла сонца, зноў забухалі гарматы.

Не, надзея знікла нават не тады. Пазней. Калі знаёмыя салдаты, з якімі ён, дабрак, амаль пасябраваў, прыйшлі і выгналі яго з паравоза. Адзін нават выцяў прыкладам у плячо. Лаяліся. Чаму? Што ім здалося падазроным? Але не арыштавалі. Піхнулі ў бок будкі. «Ідзі ідзі, стары».

Чаму ён забраўся сюды, на гарышча? Мог бы сядзець унізе, у памяшканні, грэць каля печы прастуджаныя грудзі. Ад страху? Дык не, не вельмі спалохаўся. Каб збаяўся, то не прынёс бы з будачнікавага хлеўчука, дзе схаваў яе ў першую ноч, вінтоўку. Зноў-такі, навошта яму тут вінтоўка? Па кім ён будзе страляць? Далібог жа, як хлапчук. Горш за Валодзьку. Яшчэ дзве вінтоўкі, пакінутыя на платформах, ён схаваў у тэндары, пад вуглём. Можа, з-за іх ён і залез на гарышча? Знойдуць немцы тыя вінтоўкі — возьмуць за штаны: навошта хаваў? Не, схаваўся ён сюды, бадай, не ад немцаў — ад гаспадыні. Добрая будачніца, якая карміла яго бульбай і нават салам, з учарашняга дня, калі невядома куды знік сын, глядзіць не надта ласкава — здагадваецца, што не без яго ўдзелу сышоў некуды Валодзька. Ад паравоза хлопца адарваць нельга было. «Чаму ж ты маўчыш, стары? — так, напэўна, думае маці,— Куды паслаў малога? Навокал жа вайна. Загіне дзіця».

Не, глядзець у вочы гаспадыні яму не сорамна. Скажа ён ёй, куды пайшоў Валодзька.

На гарышча ён палез, каб бачыць добра раз'езд, свой паравоз, бо з акна будкі не ўсё відаць. І, магчыма, каб здалёк убачыць сваіх, калі яны будуць наступаць.

Уладзіслаў Францавіч цяжка ўздыхнуў, набіў у люльку тытуню з шалфеем, высек крэсівам агеньчык. Уцягнуў пахучы дым. Лягчэй зрабілася дыхаць. Трасца на яе, на астму, гэтую, вось жа прычапілася, назола!

Падумаў: што яго, старога, хворага чалавека, якому даўно час на пенсію, пацягнула за бальшавікамі? Дзіўна, ад думкі такой зрабілася амаль весела. Сам пайшоў, сам папрасіўся, ніхто не ўгаворваў. Эх, як крычала пані Ядвіга! Лямантавала на ўвесь дом! Як, апусціўшы вочы, праходзілі міма некаторыя яго калегі — такія ж старыя машыністы. А яму хацелася паказаць ім услед кукіш. Такую дулю ён сунуў чатыры месяцы назад гомельскаму «Вікжэлю» Ліпкіну. Пасля таго як бальшавікі ўзялі ўладу ў Петраградзе, вікжэльцы крычалі і пагражалі агульнай забастоўкай. Ён, Плавінскі, не разабраўшыся яшчэ тады, што да чаго, быў за такую забастоўку: няхай усе, хто рвецца да ўлады, адчуюць сілу чыгуначнікаў. Што яны зробяць без машыністаў, дэпоўцаў, дыспетчараў, пуцейцаў?! Але калі той жа Ліпкін на другі дзень паклікаў яго, Плавінскага, і загадаў весці састаў да Віцебска... А перад гэтым у дэпо выступіў старшыня савета бальшавік Аеплеўскі і сказаў чыгуначнікам, што гэта за састаў такі — контррэвалюцыйны полк на дапамогу Керанскаму, які вядзе войскі на рабочы Петраград.

Тады ён, пан Плавінскі, на якога спадзяваўся «Вікжэль», сунуў Ліпкіну прамасленую дулю — пад самы нос.

Уладзіслаў Францавіч успомніў, якія вочы зрабіліся ў вікжэльца, і ціха засмяяўся, ажно ў грудзях неяк пацяплела і кашаль адступіў.

А ў Добрушы добрая калатнеча ўшчалася. Гукаюць не асобныя стрэлы, а гарматы равуць, як валы на бойНі. Што гэта? Кулямёты ўжо чуваць? Машыніст кінуўся на другі бок падстрэшша, зглянуў у шчыліну. Выпускаючы ў яснае неба клубы дыму, на ўсёй пары да Ларышчава ішоў поезд. Яўна — немцы адступаюць, уцякаюць. Таму і кулямётная страляніна чуваць.

У Плавінскага радасна ёкнула сэрца. Загрукала, як у юнака. Адразу, у момант, адступіла ўдушша. Зрабілася легка. Цела налівалася сілай і бадзёрасцю.

«Што, атрымалі па зубах, геры? Не лезьце на чужую зямлю, пся крэў. Думалі, вас тут з хлебам-соллю стрэнуць?»

Ён запыхкаў люлькай на ўсю моц, не зводзячы вачэй з поезда, што імкліва набліжаўся.

Праз колькі хвілін паравоз, абшыты бранявымі плітамі,— ён штурхаў платформы задняй цягай — спыніўся на пераездзе перад самай будкай. Здавалася, высунь з падстрэшша руку — тэндар дастанеш. Салдат на платформах было нямнога, не столькі, колькі раніцай праехала на Добруш.

Яшчэ здзіўлены машыніст убачыў, што паміж немцам! — рускія. І камандуе рускі падпалкоўнік. Ён бег паўз платформы з пісталетам у руцэ, крычаў, брыдка лаяўся, некаму пагражаў. Страшэнная злосць апанавала старога машыніста.

«Сучы ты сын! — лаяў ён падпалкоўніка.— Гад ты паўзучы! Мабыць жа дваранін, халера на цябе. Падла ты ванючая, а не афіцэр! Тры гады гнаў салдат за веру, цара і айчыну на злейшага супастата. Пра патрыятызм крычаў. Дзе ж ён дзеўся, твой патрыятызм? Каму ты прадаўся? Узяць бы цябе, сабаку, на мушку».

Адчуваў: во на каго рука не ўздрыгнула б, хоць за свае шэсць дзесяткаў гадоў ён кураня не забіў, не толькі чалавека. Шкада, што нельга стрэліць — сям'я тут, дзеці.

Між тым, унізе, у хаце пачуліся галасы, крык гаспадыні. Няўжо гэтыя рабуюць? Не, не так крычаць дзеці — нібыта радасна вішчаць. Валодзька! Яго голас. У старога слёзы сыпанулі з вачэй ад радасці: жывы Валодзька! А што маці яго лупіць — гэта нічога. Маці балюча не паб'е.

Уладзіслаў Францавіч высунуўся ў лаз, чакаючы, што, ратуючыся ад матчынай дзягі, Валодзька выскачыць у сенцы. Так яно і здарылася, Ляпнулі дзверы. Крыкнула будачніца:

— Пайдзі толькі на паравоз — шкуру спушчу. Табе і тоўстаму кныру таму, завадатару лысаму! Знайшлі забаўку, старое і малое!

Гэта пра яго, Плавінскага.

Ён весела ўсміхнуўся і ціха паклікаў:

— Валодзька!

У адзін міг хлопец ускочыў на гарышча.

— Дзядзька Ладзіслаў!

— Цішэй ты!

Валодзька абхапіў яго тоўстую гюстаць, зашаптаў знізу ў падбародак:

— Яны ўжо тут. За гумнамі ляжаць у Ларышчаве.

— Хто?

— Атрад. Камісар Лагун... высокі такі, рабы... ён вас ведае. З атрадам ён. Кулямёт у іх «максім»,— хваліўся хлопчык набытымі ведамі.

Плавінскаму перахапіла дыханне. Ён моцна прыціснуў галаву хлопчыка да сваіх грудзей, да зашмальцаванага кажуха: маўчы, маўляў, Валодзька, усё зразумела без слоў.

Памаўчаўшы, усхвалявана спытаў:

— Жывём, цёзка?

— Жывём, дзядзька.

— Папала табе ад маці?

— Што там папала! Памахала ручніком. А мне ў атрадзе, глядзіце, якую паддзёўку далі, на ваціне. Хоць пугай сцёбай — да жывога не дастанеш.

У гэты час з гумнішча ўдарыў кулямёт. Яны кінуліся да акенца. Эх, як замітусіліся салдаты каля поезда. Некаторыя ляглі на насып. Валодзька не адразу зразумеў, што гэта забітыя. Іншыя лезлі пад колы і адтуль, з другога боку, узбіраліся на платформы, пад прыкрыцце брані. З поезда таксама залапатаў кулямёт, забухалі вінтоўкі. На пярэдняй платформе, што стаяла каля самай будкі, павярнула сваё доўгае дула гармата, гакнула так, што Плавінскаму і Валодзьку здалося: дах знесла над імі. Унізе зазвінела шкло, мабыць, вылецелі ўсе шыбы. Ці то, можа, у вушах звінела?

Уладзіслаў Францавіч не зашаптаў, а закрычаў Валодзьку на вуха:

— Ляці ўніз. Скажы маці, каб лезла з вамі ў пограб.

Але, відаць, немцы не бачылі, у каго страляюць. А яны стаялі на насыпу і па іх з гумнаў вялі прыцэльны агонь. Таму яшчэ праз колькі

хвілін машыніст даў гудок, паравоз штурхнуў платформы, і поезд пасунуўся цераз раз'езд у бок Навабеліцы. Відаць, камандзір браняпоезда зразумеў, што займае вельмі нязручную пазіцыю і спалохаўся, што чырвонагвардзейцы могуць адрэзаць шлях да адступлення. За поездам, даганяючы яго, бегла нямецкая ахова. Салдаты чапляліся, хто за што здолеў, і ад куль падалі на насып.

Плавінскі ўбачыў: ад гумнаў да раз'езда беглі людзі. Здалёк пазнаў Лагуна. Глянуў у другі бок: на чыстым полі, дзе праталіны перамяжоўваліся на касагорах з палосамі іскрыстага снегу, як з зямлі, выраслі постаці людзей. Яны таксама беглі да раз'езда.

Уладзіслаў Францавіч скінуў шапку, пераджагнуў сваю лысіну: дзякую пану богу, дарога на Добруш адкрыта! З юнацкім спрытам па хісткай лесвіцы саскочыў уніз. Прыгінаючыся пабег да паравоза. Ззаду, з прыгрэбка, закрычала кабета:

— Валодзя! Ну, сарві-галава! Заб'юць гада — не вяртайся дадому! Шкуру спушчу!

Валодзька перагнаў машыніста і першы ўскочыў у паравозную будку.

Плавінскі скінуў кажух, Валодзька сваю сукню. Узяліся за працу: кідалі ў топку, дзе яшчэ ў попеле тлелі кавалкі антрацыту, дробныя цуркі. Потым спускалі з тэндара вугаль. А побач, недзе там, у канцы поезда, за станцыйным будынкам, ішоў бой. Але стары і малы не звярталі ўвагі на страляніну. Ім трэба было хутчэй нагнаць пару. Як мага хутчэй. Бо бой — што гульня ў карты, невядома, каму пашанцуе праз паўгадзіны.

У топцы ўжо шугала полымя, калі да іх заглянуў камісар браняпоезда Лагун.

Крыкнуў знізу:

— Уладзіслаў Францавіч!

— Я! — выглянуў машыніст.

— Жывы?

— Жывы!

— Шуруйце! — і пабег туды, дзе ажно захліпаўся кулямёт.

— Качагара! Качагара прышлі!

Але ці то Лагун не пачуў праз стрэлы, ці забыўся ў запале, ці баец, якога паслаў, не захацеў у такі момант мяняць вінтоўку на шуфлю, ці, можа, яго куля дагнала. Ніхто не з'явіўся на паравоз.

У Валодзькі па твары, вымурзаным у вугальным пыле, раўчукамі цёк пот: не па сіле яшчэ хлапчуку качагарская праца.

Уладзіслаў Францавіч задыхаўся — халерная астма не адступіла, сціснула ў самы непадыходзячы момант.

А тут яшчэ новая пагроза. Крокаў за сто наперадзе, збоку ад насыпу, ірвануў снарад. Нямецкія камандзіры, нарэшце, відаць, сцямілі, чаму чырвоныя так імкліва атакавалі раз'езд, і гармата іх яўна цэліла па паравозу і па чыгуначным насыпу, наперадзе браняпоезда, каб разбурыць рэйкі, патрушчыць шпалы.

У топцы гудзела полымя, але стрэлка манометра, як на бяду, не кранулася з месца: астыў кацёл.

Снарад ірвануў побач з паравозам, злева. Асколкі забарабанілі па бранявых плітах. Узрыўной хваляй, выбіўшы шкло будкі, Плавінскага кінула на хлопчыка. Абодва яны, аглушаныя, паваліліся на кучу вугалю. Хвіліну ляжалі нерухома, мабыць, кожны прыслухоўваўся да сябе — ці цэлы?

— Жывы, Валодзька?

— Жывы... Ох, і бабахнула!

Уладзіслаў Францавіч паспрабаваў падняцца і раптам пачуў, што пад сарочкай па плячы, па боку пацякло гарачае, ліпучае. Кроў. Ранены.

Спалохала не сама рана. Спалохала, што ён не здолее шураваць у топцы. Хоць бы зберагчы сілы на тое, каб павесці паравоз. Бо ніхто іншы яго не павядзе. Дарэмна загінуць людзі.

— Валодзя,— прахрыпеў стары, выплёўваючы вугаль.— Ляці да Лагуна! Качагара! Няхай дае качагара! Ты бачыш, яна, халера, ні з месца,— кінуў ён на манометр.

Хлапчына нехаця адчыніў дзверы і тут жа падаўся назад, крыкнуў:

— Дзядзька! Паравоз!

— Што — паравоз?

— Ідзе паравоз!

— Адкуль?

— З Добруша.

Плавінскі глянуў уперад: за якую вярсту, не далей, да іх імчаў заднім ходам паравоз. Далека над чыгункай вісела каса белага дыму. Стары хацеў зноў перажагнацца, але не хапіла сілы падняць руку. Перад вачыма паплылі зялёныя кругі. Павольна, прытуліўшыся да задняй сценкі будкі, ён пачаў асядаць на падлогу. Але яшчэ пачуў, як падышоў другі паравоз, як ляснулі буферы, звыкла крыкнуў счэпшчык. І другі голас, камандзірскі:

— Лагун тут? Перадаць Лагуну: раненых і каманду на поезд! Атрадам — разабраць пуць і адступаць. Не чакаць, пакуль да немцаў падыдзе падмацаванне. Не ўвязвацца ў вялікі бой!

Паравоз тузанула, і Плавінскі стукнуўся патыліцай аб сценку. Гэта як бы прасвятліла ў галаве. Той, другі машыніст, даў знаёмы гудок: «Кранаюся! Тармазы». Але тармазы ад вагонаў — у яго, Плавінскага. Як жа ён забыўся, стары машыніст? Рассеўся, як дома на канапе.

Паспрабаваў падняцца. Але жалезная падлога не адпускала, трымала, як магнітная.

— Валодзька!

Хлопец вісеў на ўсходцах, аддаўшы сваю ўвагу і сэрца таму, другому, паравозу, забыўшыся нават на снарады, якія цяпер ірваліся чамусьці з недалётам — каля станцыйнага будынка.

— Памажы мне, Валодзька.

Памочнік, нарэшце, павярнуўся, не ўцяміўшы, якой дапамогі просіць у яго машыніст.

— Памажы мне падняцца.

Тады толькі малы затрывожыўся.

— Што з вамі, дзядзька Уладзіслаў? — і падхапіў цяжкае, абмяклае цела пад рукі.

— Нічога, Валодзька. Астма. Бачыш, як сціснула.

Пра рану не сказаў.

З дапамогай хлопца ўзняўся на ногі, дабраўся да свайго сядзення, сціснуў пасінелымі рукамі рэверс і рэгулятар пары. Цяпер ніякая сіла не адарве ад іх яго пальцаў. Націснуў сігнал — прагукаў пярэдняму машыністу: «Я на месцы! Тармазы ў парадку! Можаш рухаць!»

Той адказаў гудком: «Зразумеў!»

Поезд скрануўся. Колы прагрукалі на стрэлцы. Прайшлі будку, пераезд. У лагчыне, на невялікім закругленні, спыніліся.

Страляніна аддалілася.

Плавінскі зразумеў: выйшлі з-пад абстрэлу, чакаюць атрады.

Стрэлка манометра, нарэшце, скранулася, папаўзла ўгору.

Але ад нерухомасці Уладзіславу Францавічу зноў зрабілася блага. Цяпер ужо ў вачах плылі не зялёныя — жоўтыя кругі, праз іх ляцелі гарачыя іскры. Жонка яго пані Ядвіга адмахвалася ад іх і крычала: «Стары баламут! Дом захацеў спаліць!? О матка боска!»

— О матка боска! Дай мне сілы,— прашаптаў машыніст. — Я не часта прасіў цябе. Будзь добрая. Памажы. Можа, апошні раз прашу.

— Што, дзядзька? — пачуў Валодзька яго шэпт.

— Там... біклага... Скокні набяры вады ў канаве.

Халодную, мутную снежную ваду піў доўга, прагна, нагбом з драўлянай біклагі, і два струмені цяклі па барадзе, за каўнер бруднай таўстоўкі, па атласнай душагрэйцы.

Ззаду на платформах затупалі, загаманілі людзі. Нехта прабег міма паравоза, цяжка дыхаючы, шоргаючы ботамі па жвіры насыпу.

Пярэдні паравоз даў вясёлы гучны гудок, які, напэўна, далёка пачулі і свае і ворагі: «Даю поўны ўперад!»

Уладзіслаў Францавіч адказаў яму гэтак жа весела: «Набраў ціск! Можам ісці на двайной цязе!»

Таварыш адказаў яшчэ весялей: «Цудоўна!»

Добруш праляцелі з хуткасцю ветра. Чырвонагвардзейцы Маскоўскага атрада, якія трымалі станцыю, ледзь паспелі адсалютаваць вызваленаму браняпоезду. Лагуноўцы з платформаў адказалі ім салютам ужо за станцыяй, пад лесам.

Спыніліся ў Закапыцці. Тут нямнога засталося людзей — усіх кінулі на перадавую. Але тыя тылавікі, што засталіся, таксама сустрэлі браняпоезд салютам.

З паравоза саскочыў Арэф'еў. З браніраванага вагона — Лагун. Пайшлі насустрач адзін аднаму. Радасна ўсміхаліся.

— Дай, камісар, я пацалую цябе. Дарагі ты чалавек! Залаты бальшавік. Далібог, не думаў, што ты такі. Праўду кажуць людзі...

Лагун сваімі вялізнымі ручышчамі абшчапіў Арэф'ева. Таму зрабілася трохі нават няёмка, што на вачах у байцоў атрада яго, камісара, абдымаюць і цалуюць, як бабу.

Ды раптам над галовамі ў іх спалоханы дзіцячы крык:

— Дзядзечкі! Дзядзька машыніст памірае.

Лагун выпусціў Арэф'ева, кінуўся ў паравозную будку. На руках, як дзіця, вынес адтуль Плавінскага.

Стары быў у непрытомнасці: апошнія сілы пакінулі яго, як толькі ён нацягнуў ручку тармазоў. Добра, што Валодзька падтрымаў яго і ён не зваліўся.

Лагун нёс яго ў праходзе паміж двума саставамі — цяплушкамі і браніраванымі платформамі, у роспачы, з болем клікаў:

— Дзядзька Уладзіслаў! Таварыш Плавінскі. Што з вамі?

Машыніст расплюшчыў вочы, пазнаў камісара браняпоезда, усміхнуўся, пахваліў таямнічым шэптам:

— Малайцы. Дзякую.

— Вы — герой, таварыш Плавінскі. Вам дзякуй. Ад імя рэвалюцыі. Але што я вамі?

— Астма.

— Якая астма?! Вы ж паранены! Глядзіце — кроў.

Арэф'еў убачыў, што целагрэйка машыніста і штаны заліты крывёй.

— Санітараў сюды!

Прыбеглі санітары. Старога паклалі на насілкі.

— Прабачце, Уладзіслаў Францавіч,— каяўся расчулены, усхваляваны Лагун, — Я дрэнна пра вас падумаў. Палічыў, што вы да немцаў падаліся.

Машыніст зноў усміхнуўся.

— Нічога, Авяр'ян, нічога. Гэта ў цябе ад маладосці. Пастарэеш — навучышся разбірацца ў людзях. Я вось разабраўся і ўбачыў, дзе людзі, а дзе... вікжэль...

Не ўсе пачулі і амаль ніхто не зразумеў апошняе слова старога. Арэф'еву здалося, што ён сказаў: «дзе людзі, а дзе жужаль».

Раненага панеслі ў санітарны.

Лагун заняўся браняпоездам. Праз якую гадзіну невядома дзе, у каго на гэтым глухім раз'ездзе раздабыўшы чырвоную фарбу, ён асабіста сам, скінуўшы свой чыгуначны шынель, пачаў аднаўляць на бранявой пліце назву браняпоезда. Яму памагаў Валодзька. Побач стаялі чырвонагвардзейцы, любаваліся іх працай. Давалі парады. Лагун узбуджана лаяў немцаў:

— Во гады! Скаблілі, як зубамі грызлі браню. Так ім страшна бачыць імя таварыша Леніна. Кайзеры праклятыя! Буржуі недабітыя! Не, не выгрызці вам гэтае імя ніколі і нідзе! Хутка яно ў вас у Германіі на кожнай сцяне, на кожным вагоне загарыцца. На радасць пралетарыяту. На страх капіталістам!

Камісар старанна выводзіў пэндзлем кожную літару. Прайшло паўгадзіны, і на брані запалымнелі два словы:

«ТОВАРИЩЪ ЛЕНИНЪ»

Лагун адышоў ад байцоў, палюбаваўся на гэтыя добрыя словы, на свой браняпоезд, на момант застыў, як у ганаровай варце. І ўсе, хто стаяў тут, змоўклі. Адзін Валодзька раптам кінуўся да платформы і пальцаМі выцер невялічкі падцёк фарбы пад літарай «р» — каб прыгажэй было.

Падышоў Арэф'еў, таксама пастаяў, паглядзеў на надпіс. Спытаў у Лагуна:

— Фарба засталася?

— Ёсць яшчэ! Напішу на паравозе.

— Чакай. Фарба патрэбна на другое.

— На што?

— Памёр машыніст.

— Пла?..— хацеў спытаць Лагун і не скончыў слова, твар яго перасмыкнуўся, чалавек-асілак зусім па-дзіцячаму ўсхліпнуў, па шчоках, пабітых некалі ў маленстве воспай, пацяклі слёзы. Ён не саромеўся іх і доўга не выціраў. Стаяў з апушчанымі рукамі, вымазваючы

пэндзлем штаны, праз слёзы глядзеў на захад, куды імкліва беглі рэйкі, дзе зноў усталявалася цішыня — мір.

Валодзька спачатку няўцямна пазіраў то на Лагуна, то на Арэф'ева, потым заплакаў наўзрыд:

— Дзядзечка даражэнькі...

Тады Лагун спахапіўся і, як бы злуючы на сябе, сарваў з галавы шапку. І ўсе знялі шапкі.

У Навазыбкаве салдаты рэвалюцыйнага палка сустракалі браняпоезд са сцягамі. Чыгуначны аркестр іграў «Інтэрнацыянал».

## ЭШАЛОН ПРАЙШОЎ

Летняя раніца. Толькі ўзышло сонца. На дрэвах, на траве іскрыцца раса. Доўгая роўная ліпавая алея ў цяні. Хараство раніцы славяць птушкі, яны розныя, спяваюць на розныя галасы, але не перашкаджаюць адна адной, спеў зліваецца ў адзін дзівосны хор. Толькі па шамаценню лісця можа здацца, што спевакі змагаюцца там, у кронах дрэў, за лепшае, зручнейшае месца на галінках.

Дзесьці далёка рыкае карова. Але рыканне робіць цішыню яшчэ больш мірнай.

Дарожка алеі з нямецкай акуратнасцю пасыпана пяском. Пясок пасля ночы вільготны, цёмны.

Ілюзія міру, спакою, дабрабыту.

Але... што гэта? Птушыны спеў заглушае, перапыняе шорханне ботаў па пяску. Злавеснае, цяжкое шорханне. Адразу чутно: ідуць салдаты. І вось ужо ў алеі пад ліпамі відаць іх ногі. Спачатку босыя худыя ногі аднаго чалавека, за імі — цяжкія падкаваныя боты, іх многа.

Восем нямецкіх салдат, у рагатых кайзераўскіх касках, вядуць чалавека ў падраных, многа разоў латаных, гімнасцёрцы і штанах — форме радавога рускай арміі. На рукаве нашыўка: «Рускі ваеннапалонны».

Бліскучыя кінжальныя штыкі нацэлены ў спіну салдата.

Збоку ідзе афіцэр.

Пясчаны кар'ер. Рускі салдат стаіць на краі кар'ера тварам да сонца. Яно ўзышло там, дзе радзіма — Расія. Салдат думае пра радзіму. Вочы яго затуманены смуткам і болем.

Афіцэр узнімае руку ў чорнай пальчатцы.

Ваеннапалонны крычыць салдатам, сонцу, полю:

— Далоў кайзера! Далоў імперыялістаў! Няхай жыве Ленін! Няхай жыве савецкая...

Залп абрывае голас чалавека.

Вусатая тоўстая морда нямецкага вахмістра. Ён разяўляе зяпу, быццам хоча праглынуць увесь свет.

— Устаць! Смірна!

Палонныя многія стаялі. З тых, хто сядзеў на голым, як бубен, пляцы, паволі ўзнімаюцца нямногія. Гэта не людзі — цені, косці ды скура.

Да палонных набліжаецца камісія Міжнароднага Чырвонага Крыжа. Трое цывільных. Старэйшы сярод іх — высокі швед у акулярах. Нямецкія ваенныя чыноўнікі.

Рускія: старшыня лагернага камітэта унтэр-афіцэр Якаў Пятрунін, палкоўнік Яхантаў, прапаршчык Лукашэвіч. Лукашэвіч вельмі сур'ёзны, паважны, насцярожаны, увесь час трымаецца пры палкоўніку. Як бы ахоўвае яго, у першую чаргу — ад унтэра. Пятрунін хоць гэткі ж худы, як усе іншыя, але па-вайсковаму падцягнуты, спружыністы, бо малады, толькі твар зарос густой чорнай барадой. Яхантаў, стары, сівы, кульгавы, абапіраецца на кій, пацее, астматычна задыхаецца, выцірае маршчыністую шыю брудноватай насоўкай.

Дзень сонечны, спякотны.

Уздоўж калючага дроту, якім абнесены лагер, цвіце жоўтая акацыя. Дарожкі гэтак жа, як у алеі, акуратна пасыпаны пяском.

Нямецкі маёр хмурыцца, нездаволены, што палонныя не выконваюць каманды. Кажа Яхантаву:

— Салдаты ўсюды павінны аставацца салдатамі.

Пятрунін у адказ па гэтыя словы тлумачыць членам камісіі:

— Людзі знясілены. Ім цяжка зрабіць лішні рух. Хіба гэта не відно?

Швед — маёру:

— Не трэба пастраення.

Каля дашчанай пабудовы, аб прызначэнні якой не цяжка здагадацца, доўгая чарга.

Пятрунін звяртае ўвагу на гэтых людзей:

— У іх галодны панос.

Яхантаў перакладае яго словы на французскую мову і дадае ад сябе:

— Нічога падобнага няма ў лагерах, дзе англічане і французы.

Малады член місіі грэбліва моршчыцца.

Маёр ветліва, але патрабавальна папярэджвае:

— Панове, у рускім лагеры прашу гаварыць толькі на нямецкай і рускай мовах.

Місія ідзе паміж баракамі. Немаведама адкуль выскоквае палонны, які даўно страціў салдацкі выгляд і больш падобны на жабрака — адны лахманы,— працягнуў чорныя, як зямля, худыя рукі.

Члены місіі спалохана адхіснуліся. Але палонны толькі жаласліва, неяк па-дзіцячы просіць:

— Дайце кавалачак хлеба.

Яхантаў зноў тлумачыць па-французску:

— Ён просіць хлеба. Людзі ад голаду трацяць розум,— і патрабуе:
— Наведайце шпітальны барак. Паглядзіце, што там робіцца. Якая смяротнасць!

Каля аднаго з баракаў — высокае дрэва. Яно голае, на ім няма лісця. Але яно не сухое і не абгарэлае. Яно жывое і, аднак, без лісця. Выгляд яго жудасны. Як шкілет у натоўпе жывых людзей. Дрэва прыцягвае ўвагу кожнага новага чалавека.

Члены місіі глядзяць на яго не толькі са здзіўленнем, а, бадай, са страхам.

Пятрунін тлумачыць:

— Гэта, панове, клён. Лісце яго з'елі палонныя.

У маладога члена місіі, швейцарца, вочы па яблыку.

— Яны ядуць лісце??! — чалавек, які ніколі не ведаў голаду, ашаломлены такім адкрыццём.

Начальнік лагера забываецца на сваё папярэджанне і таксама адказвае па-французску:

— Гэтыя варвары могуць усё з'есці. Нас з вамі. Адзін аднаго.

Збляднелы твар старога палкоўніка пунсавее. Ён стукае кіем аб зямлю.

— Гэта ганьба, пан маёр! — гаворыць ён па-французску, але тут жа пераходзіць на рускую мову: — Я пратэстую. Я пратэстую супроць такой заявы начальніка лагера. Я пратэстую супроць такога абыходжання з маімі суайчыннікамі. Гэта недапушчальна ў любы час. Гэта тым больш недапушчальна цяпер, калі паміж Германіяй і Расіяй заключаны мірны дагавор...

Маёр нахіляецца да Яхантава і ўедліва пытае:

— Вы не бальшавік, пан палкоўнік?

Члены місіі не жадаюць лішніх інцыдэнтаў. Яны не цікавяцца перакладам таго, што сказаў рускі палкоўнік. Яны спяшаюцца хутчэй закончыць свой нялёгкі і непрыемны абавязак — агляд лагера.

Яхантаў адстае, ён задыхаецца.

Пятрунін бярэ яго пад руку, ласкава сціскае.

— Не хвалюйцеся, Мікалай Пятровіч.

Нямецкія афіцэры ашаломлены гэтым: палкоўнік дазваляе, каб унтэр вось так з ім — па-панібрацку.

Маёр грэбліва крывіць вусны.

Яшчэ больш ашаломлены Лукашэвіч. Ён абураны. Пагрозліва сіпіць:

— Унтэр, не забывайцеся. Вы не ў бальшавіцкім Петраградзе.

— Петраград — сталіца Расіі. Хіба вы, прапаршчык, не хочаце вярнуцца туды?

Лукашэвіч збянтэжаны, не ведае, што адказаць, бо — божа мой! — як яму хочацца вярнуцца туды.

Пятрунін глядзіць на яго, як на дзівака, з насмешкай і шкадаваннем.

Пры ўваходзе ў барак Пятруніна затрымлівае салдат. Яны ўсхвалявана шэпчуцца.

Агледзеўшы баракі, місія вяртаецца назад. Цяпер у прадстаўнікоў Чырвонага Крыжа весялейшыя твары: праца скончана. Начальнік лагера таксама задаволены: увогуле ўсё прайшло добра. Ніякіх непрыемнасцей. А тое, што палонныя знясілены голадам,— не сакрэт. Галадаюць не толькі палонныя, галадаюць і немцы. Чатыры гады вайны, англа-амерыканскай блакады. Чырвоны Крыж ведае пра гэта. Няхай памагае. Раней памагалі лепш. Тады кавалкі ад гэтай дапамогі траплялі і на яго, маёраў, стол, а таксама ў талеркі яго афіцэраў, у кацялкі аховы.

Але што гэта? Маёр трохі не спатыкнуўся, быццам пад ногі яму нацягнулі вяроўку.

За апошнім баракам місія натыкаецца на сцяну ваеннапалонных. Цяпер яны стаяць усе — здаровыя, хворыя, знясіленыя. Загарадзілі дарогу. Дарэмна стараецца ахова. Сцяну не прабіць. Але самае страшнае, што яна рухаецца, насоўваецца на яго, начальніка лагера, на місію, гатовая раздушыць. Яна, гэтая чалавечая сцяна, абурана гудзіць:

— Мы пратэстуем!

Члены місіі спалоханы, разгублены не менш, чым маёр. Гэта ж не хто-небудзь, а рускія, бунтаўшчыкі. У сябе дома такія вось салдаты скінулі цара, а пасля неўзабаве гэтак жа пагналі часовы ўрад сацыяліста Керанскага. Яны на ўсё здатныя. Тым больш што гэта лагер з тых, каго немцы не адважваюцца пасылаць на працу на заводы, у руднікі — баяцца бальшавіцкай прапаганды. Члены місіі і маёр з надзеяй глядзяць на Яхантава і Пятруніна: уратаваць іх могуць толькі гэтыя двое!

— Мы пратэстуем!

— Звяры! Вам мала таго, што вы морыце нас голадам?

З натоўпу выходзіць той салдат, які ў дзвярах барака шаптаўся з Пятрунiным, узнімае руку. Палонныя змаўкаюць.

— Даведзены голадам да роспачы, два дні назад з лагера ўцёк салдат Цімафей Хадановіч. Яго злавілі і сёння на досвітку расстралялі. У кар'еры за маёнткам Капельн... Мы абураны такой расправай над нашым таварышам. Мы пратэстуем перад місіяй Чырвонага Крыжа. Просім місію давесці гэты факт да ўрада Савецкай Расіі.

— Пра-тэ-сту-ем!

Яхантаў ад абурэння зусім задыхаецца, узнімае свой кій, нацэльвае яго на начальніка лагера.

— Гэта праўда?

Маёр бледны, камечыць пальчатку, кусае фанабэрысты вусік. У іншы час, пры іншых акалічнасцях ён знайшоў бы, як сцішыць гэтае быдла. Гэта ім не Петраград! Але цяпер, перад місіяй, ён мусіць гаварыць на мове дыпламатыі.

Маёр выходзіць наперад, гаворыць да палонных:

— Салдаты, вас падбіваюць на беспарадкі, якія могуць зрабіць яшчэ больш цяжкім ваша становішча. Праўда, што названы салдат уцёк з лагера. Не без дапамогі некаторых з вас. Але яго не злавілі і, само сабой разумеецца, не расстралялі. Маем звесткі ад пагранічных улад, што ён перайшоў дацкую мяжу, як і некаторыя іншыя ўцекачы, і інтэрніраваны дацкімі ўладамі. Я заяўляю гэта з усёй адказнасцю афіцэра арміі яго імператарскай вялікасці. Не паддавайцеся на правакацыі, салдаты!

Пятрунін шэпча Яхантаву:

— Хлусіць, падлюга,—і кажа да місіі: — Факт расстрэлу пацвердзяць палонныя французы лагера Капельн,— і тут жа ступае наперад і адным знакам рукі загадвае палонным прапусціць місію. Салдаты паслухмяна расступаюцца ў абодва бакі, утвараюць калідор.

Усе, акрамя хіба Яхантава, здзіўлены гэтай уладай простага унтэра над галоднымі, здавалася, анархічна настроенымі людзьмі. Напэўна, ніхто з афіцэраў, рускіх і нямецкіх, у казармах і на фронце, ніколі не меў такога аўтарытэту.

Прапаршчык Лукашэвіч упершыню глядзіць на Пятруніна з захапленнем і павагай.

Місія, немцы і трое рускіх ідуць па вузкім калідоры паміж палонных, якія дыхаюць, як полымем, галоднай нянавісцю, але астуджваюць гэтае полымя звычайнай чалавечай цікаўнасцю. Яны — што галодныя дзеці.

Начальнік лагера і іншыя немцы адчуваюць сябе не вельмі ўтульна ў такім гарачым праходзе, яны не ўзнімаюць галоў, не глядзяць на людзей.

Яхантаў і Лукашэвіч са спачуваннем і шкадаваннем узіраюцца ў змарнелыя твары сваіх былых салдат.

Але нехта кідае:

— Іх благароддзі не вельмі схуднелі на нямецкіх харчах.

Лукашэвіч уціскае галаву ў плечы, глядзіць пад ногі.

Пятрунін па-свойму, па-сяброўску весела падміргвае салдатам. Не, гэта не простае падміргванне, гэта — маўклівая размова, бясслоўныя загады.

Яны праходзяць — услед ім голас:

— Патрабуем ад місіі расследаваць факт расстрэлу!

— Патрабуем! — грыміць грамада.

— Я далучаюся да гэтага патрабавання,— гаворыць Яхантаў кіраўніку місіі.

Швед адказвае:

— Пан палкоўнік, Міжнародны Чырвоны Крыж не можа ўмешвацца ў законы дзяржавы, на тэрыторыі якой ён выконвае сваю місію дапамогі ваеннапалонным.

Яны выходзяць з калідора. Цяпер перад імі — нямецкая лагерная ахова. З вартавой вежы пускае «зайчыкаў» начышчаная руля кулямёта.

Маёр і члены місіі адразу набываюць зусім іншы выгляд — выгляд гаспадароў становішча.

— Не, вы абавязаны памагчы гэтым няшчасным не толькі хлебам! — настойліва кажа Яхантаў.

— Місія далажыць савету праўлення аб становішчы ў лагеры,— паважна і холадна гаворыць швед.— Але я павінен вас папярэдзіць, пан палкоўнік. Расія не ўносіць у наш фонд. Нам вядома, што новы рускі ўрад канфіскаваў маёмасць Рускага таварыства. Гэта дае нам падставы думаць, што ўрад пана Леніна не жадае прызнаваць міжнароднай арганізацыі Чырвонага Крыжа.

— Панове! Вас, як і мяне, не павінна цікавіць палітыка! Я дамагаюся аднаго — дапамогі гэтым няшчасным! — амаль крычыць палкоўнік.— Будзьце ж гуманістамі, панове!

Яны астаюцца ўтрох — Пятрунін, Яхантаў, Лукашэвіч.

Стары палкоўнік зусім знясілены хваляваннем, абходам лагера, сонцам, якое паліць няшчадна. Выкручвае мокрую ад поту хусцінку.

Пятрунін, азірнуўшыся, ціха просіць:

— Мікалай Пятровіч, вы, афіцэры, маеце большую свабоду. Памажыце нам звязацца з рускім прадстаўніком і з урадам. Нашы спробы, бачыце, чым канчаюцца. Хадановіч загінуў, выконваючы заданне камітэта.

— З якім урадам? — з выклікам і абурэннем пытаецца Лукашэвіч.

— З савецкім урадам, пан прапаршчык,— спакойна адказвае Пятрунін.

— Ваш урад растаптаў міжнародныя законы. Ваш Ленін забыўся на святы абавязак...

— А ваш цар, якому вы хочаце маліцца...

— Я не малюся цару!

— Ці ваш Керанскі, пры якім мы трапілі ў палон... яны што? У імя захавання міжнародных законаў, у імя гуманнасці паслалі нас з вамі на гэтую крывавую бойню?

— Панове,— зморана просіць палкоўнік.— Не сварыцеся. Не хапала яшчэ, каб мы перагрызліся паміж сабой.

— Ленін заключыў мір і ўратаваў жыццё сотням тысяч такіх, як я і вы. І пра нас Ленін не забыўся. Не! Я ўпэўнены: пра пас думаюць у Савецкай Расіі!

Пампезна абстаўлены кабінет міністра замежных спраў Германіі. Над сталом — партрэт кайзера Вільгельма.

Пад гэтым вялізным партрэтам за вялізным і пустым — ніводнай паперы — сталом, у мяккім, нізкім, але з высокай спінкай крэсле постаць сівога старога ў дыпламатычным мундзіры здаецца ненатуральна маленькай: не чалавек, а гномік. Статс-сакратар, што пачціва стаіць збоку стала, выглядае асілкам побач з міністрам. Аднак голас у гнома моцны, як у добрага фельдфебеля, з металічным звонам. Гаворыць міністр, быццам чытае з амбона.

— Германскі імператарскі ўрад патрабуе звароту ў Севастопаль караблёў былога рускага Чарнаморскага флоту.

— Ваша высокасць, рускія пратэстуюць супроць вызначэння «былы».

— Адкажыце ім. Былы рускі Чарнаморскі флот з часу звяржэння імператарскага ўрада так часта мяняў сцяг і дзяржаўную прыналежнасць, што яго судны ні ў якім разе не могуць састаўляць так званы «рускі Чарнаморскі флот».

Статс-сакратар хутка занатоўвае словы свайго шэфа.

Раптам голас міністра мяняецца, ён кажа ціха, інтымна:

— Да вашага ведама, Кюльман: армія атрымала загад наступаць на Новарасійск. Рускія хацелі ратаваць свой флот. Яны страцяць і флот, і Каўказ. Бакінская нафта пацячэ ў Германію. Ва ўсёй дзейнасці, Кюльман, майце перад сабой гэтую мэту — нафту.

Статс-сакратар перагортвае паперу.

— Ваша высокасць, расстрэл рускага палоннага ў лагеры Базлау стаў вядомы місіі Чырвонага Крыжа.

— Знайдзіце сродак прымусіць місію маўчаць.

— Гэта магло зрабіць Упраўленне лагераў. Але цяпер позна.

Міністр на момант задумваецца.

— Ідыёты. Зноў нам з вамі трэба выручаць гэтых тупагаловых ваенных. Аперадзіце рускіх.

Статс-сакратар здзіўлены:

— Якім чынам?

— Пашліце ім ноту пратэсту супроць расстрэлу нямецкіх палонных, якія спрабуюць уцячы з лагераў.

— У нас няма ніводнага факта.

— Калі фактаў няма, то іх трэба выдумаць, Кюльман. Спашліцеся на нашых раненых палонных, якія вярнуліся з Сібіры. Вы толькі што дакладвалі, што чэхаславакі, якія ўзнялі мяцеж супроць Саветаў, захапілі станцыі Сібірскай магістралі. Такім чынам, Ленін і Чычэрын адрэзаны ад Сібіры. Няхай спрабуюць праверыць нашы факты.

— Гэта мудра, ваша высокасць.

Твар гнома расплываецца ў самазадаволенай усмешцы. Белая галава прыліпае да чорнай спінкі крэсла.

Кабінет Леніна ў Крамлі.

Уладзімір Ільіч, заклаўшы рукі за спіну, пад пінжак, узбуджана праходзіць ад стала да адчыненага акна, за якім шуміць вясёлы летні дождж. У знаёмым крэсле, трымаючы на каленях папку, сядзіць Чычэрын.

Нейкі міг Ленін глядзіць на дождж, потым імкліва паварочваецца да Чычэрына, абурана кажа:

— Якая нахабная бессаромнасць! Толькі імперыялісты здатныя на такую подласць. Майце на ўвазе: гэтай нотай немцы імкнуцца прыкрыць свае злачынствы — расстрэлы нашых палонных, здзекі з іх.

— Можа быць.

— Вы яшчэ дапускаеце сумненне? Не, дарагі Георгі Васілевіч, трэба зусім не ведаць здольнасці мілітарыстаў на любыя правакацыі, нямецкіх — асабліва, каб сумнявацца, што гэта подлы і хітры манеўр. Як з Украінай. З наступленнем на Дон. З Чарнаморскім флотам.

— Гэта безумоўна, Уладзімір Ільіч,— згаджаецца Чычэрын.— Але, думаю, маецца на ўвазе і другое: некаторыя лагеры нямецкіх палонных апынуліся ў зоне мяцяжу чэхаславакаў. Там могуць быць выпадкі расправы над палоннымі. Немцы загадзя хочуць узваліць за гэта віну на Савецкі ўрад.

— Безумоўна адно: немцы шукаюць і проста правацыруюць прычыны, каб як найдаўжэй затрымаць нашых палонных. Дармавая рабочая сіла! — кажучы гэта, Уладзімір Ільіч вяртаецца да стала, садзіцца наўпроці наркома.— А мы павінны зрабіць усё магчымае, каб хутчэй вырваць нашых людзей з кайзераўскага рабства. Як ідуць

перагаворы аб заключэнні пагаднення наконт абмену палоннымі? Што, хто перашкаджае з нашага боку?

— Шмат што, Уладзімір Ільіч. У тым ліку і тэорыя, што мы плацім кантрыбуцыю за нашых класавых ворагаў, бо там, у Германіі, салдаты аплацілі сваё ўтрыманне працай. Не працавалі афіцэры...

Ленін абурана ляпае далоняй па падлакотніку крэсла.

— Хто аўтар такой «тэорыі»? Троцкі? Правакатар! Троцкага не падпускаць да гэтай святой справы!

Ленін зноў імкліва падымаецца, ходзіць па кабінеце.

— Уплата кантрыбуцыі — цяжкая павіннасць. Але ўжо нават першым узносам мы не толькі вяртаем многія тысячы рускіх дадому, да сем'яў, але вымушаем немцаў адысці за Бярэзіну і такім чынам вызваляем значную частку Беларусі, вызваляем многія паветы з-пад нямецкага прыгнёту. Свабода людзей даражэй, чым золата.

Ленін спыняецца перад Чычэрыным.

— Георгі Васілевіч! Трэба знайсці магчымасць давесці да палонных Германіі, да салдат і афіцэраў экспедыцыйнага корпуса ў Францыі, што незалежна ад таго, да якіх сацыяльных класаў яны раней належалі, усім ім будзе дадзена справядлівае права знайсці работу ў рамках савецкай сістэмы ў адпаведнасці з іх здольнасцямі, ведамі. Што з нашым Чырвоным Крыжам? Архіважна, каб ён хутчэй аднавіў усе свае функцыі і галоўную з іх — клопат пра ваеннапалонных.

— Пасля вашай запіскі, Уладзімір Ільіч, работа па рэарганізацыі Чырвонага Крыжа ажывілася. Але Міжнародны камітэт па-ранейшаму лічыць, што Савецкі ўрад не прызнае канвенцыі, што дэкрэт аб перадачы маёмасці і капіталаў Чырвонага Крыжа ў дзяржаўную ўласнасць ліквідаваў Рускае таварыства.

— Што можам зрабіць, акрамя папраўкі да дэкрэта, якую ўжо прынялі?

— Прапаную звярнуцца непасрэдна да Міжнароднага камітэта.

Ленін на момант задумваецца і дапаўняе:

— І да ўрадаў усіх дзяржаў, якія прызнаюць Жэнеўскую канвенцыю.

Падыходзіць да тэлефона. Звоніць. Ветліва просіць:

— Мікалай Пятровіч, зайдзіце, калі ласка, да мяне.

Паклаўшы трубку, напамінае Чычэрыну:

— Але Троцкага да гэтай справы не падпускайце. Троцкі ўсё спаганіць.

Уваходзіць сакратар Саўнаркома Гарбуноў.

Ленін звяртаецца да яго:

— Мікалай Пятровіч, трэба тэрмінова — звыштэрмінова! — падрыхтаваць зварот да Міжнароднага Чырвонага Крыжа. Галоўныя тэзісы...

Гарбуноў садзіцца да стала збоку, запісвае.

Чычэрын таксама занатоўвае ў сваёй разгорнутай папцы.

Ленін ходзіць па кабінеце, звыкла ўзяўшыся за штрыфель пінжака. Гучыць яго голас:

— Расійская Федэратыўная Савецкая Рэспубліка прызнае Жэнеўскую канвенцыю ва ўсіх яе рэдакцыях. Усе пагадненні, што датычаць Чырвонага Крыжа, падпісаныя Расіяй да кастрычніка семнаццатага года, прызнаюцца і будуць захоўвацца Савецкім урадам. Растлумачце ім сэнс нашай рэарганізацыі Чырвонага Крыжа. І асноўнае,— Ленін спыняецца каля Гарбунова, заглядвае ў яго запісы,— падкрэсліце, калі ласка: галоўная задача Рускага Чырвонага Крыжа цяпер, пасля заключэння міру,— дапамога ваеннапалонным. Урад даручае Чырвонаму Крыжу прыкласці да справы дапамогі ваеннапалонным усю энергію, усе сродкі, якія маюцца.

Пальцы мужчынскай рукі перабіраюць струны гітары. Хрыплаваты барытон спявае:

Помню, помню нежный,
Безмятежный лен.
Да далеко где-то
Зацветает он.

Спявак ляжыць на ложку, металічным, вузкім, як у шпіталях. Але гэта не шпіталь. Гэта барак палонных рускіх афіцэраў. Тут адносны камфорт: ложкаў у пакоі восем, усе аднолькава беленькія, некаторыя акуратна, па-салдацку засланыя, на іншых пасцелі скамечаныя. Танныя, але вясёленькія — з кветачкамі, што па густу немцам, фіранкі на акне калыша вецер. За сталом пасярод пакоя чацвёра гуляюць у карты. Усе яны ў споднік кашулях, паношаных, залатаных. На двары паліць сонца. Спёка. Чалавек у цёмнай ад пота гімнасцёрцы з пагонамі капітана нервова ходзіць міма ігракоў.

Барадаты афіцэр, раздаючы карты, цяжка ўздыхае.

— Козыр чэрва. Панове, а ён якраз цяпер зацвітае. Лён. Ах, лён! Як гэта хараша! Выйдзеш на досвітку ў поле...— у выразных чорных вачах афіцэра дрыжаць слёзы — ад успамінаў, ад замілавання.

Капітан спыняецца перад сталом, просіць:

— Не вярэдзьце душу, панове. Баліць. Баліць! — ён шэпча словы, але яны — што крык,— Паручнік Хвошч, спявайце што іншае. Прашу вас.

— Аляксей Аляксеевіч, спявайце... чытайце ўсё! Усё, што ведаеце,— гаворыць прапаршчык Лукашэвіч; ён сядзіць каля акна, глядзіць удалеч, на смугу, што калышацца перад калючым дротам, на чырвоныя будынкі — адрыны ці казармы.

Капітан паварочваецца да яго, шэпча з гневам, плачам у голасе:

— Прапаршчык Лукашэвіч! Я старэйшы за вас... па званню... па ўзросту. Я — дваранін! — гэтае слова ён выкрыквае гучна і зноў пераходзіць на свой дзіўны шэпт:— Вы маглі б паважаць...

Ігракі ўсміхаюцца ў карты, кожны па-свойму, але гэта ўсмешкі людзей, якія неаднойчы чулі такую сварку, якім усё звыкла і... сумна.

— Паэзія — адзінае, што робіць нас людзьмі тут,— спакойна адказвае Лукашэвіч.

Паручнік спявае, на вольны матыў, трагічным голасам:

Не может сердце жить покоем,
Недаром тучи собрались.

Капітан заціскае далонямі вушы, стогне:

— О божа!

Немалады пануры ігрок злосна кідае на стол карты.

— Чорт вазьмі! Гэта сапраўды жывёльнае існаванне, Я не вытрываю. Я павешуся, як Бліноў. Як вырвацца з гэтай клеткі? Куды?

— Але,— згаджаецца паручнік. Кладзе гітару на падлогу. Пацвярджае безвыходнасць становішча радкамі верша: — «И мглою бед неотразимых грядущий день заволокло».

— Будзем маліцца, панове. Нам ёсць за што маліцца!— кажа трэці ігрок, бадай, самы стары тут, сярод прысутных, чалавек з аскетычным тварам манаха.

— За што? За што маліцца?— ускоквае з месца Лукашэвіч, яго нервы таксама не вытрымліваюць.

— За Расію,— адказвае аскет.

— Маліцеся, Лукашэвіч, за паэзію,— раіць паручнік-гітарыст, ён садзіцца на ложку, шырока расставіўшы босыя ногі, каб не наступіць на гітару.— За ўпакой яе святой душы. Вернецеся ў Расію — гэтага не пачуеце.— Ківае на гітару.— Там «тихое долгое красное зарево каждую ночь над становьем твоим». Бальшавікі растапталі культуру, паэзію. Спалілі палацы, маёнткі. Паляць бібліятэкі. На плошчах гараць кастры з кніг...

— Гэта няпраўда! — голас нягучны, але цвёрды.

Усе паварочваюць галовы ў той бок. У дзвярах — палкоўнік Яхантаў. Ён ідзе да свайго ложка, зморана садзіцца, выцірае пот з ілба і шыі. Даводзіць думку спакойна:

— Новы ўрад Расіі — самы адукаваны з усіх урадаў, якія ведае гісторыя. Кожны член гэтага ўрада валодае некалькімі еўрапейскімі мовамі. Амаль усе — аўтары сур'ёзных кніг... філасофскіх, эканамічных. А вы, паручнік, верзяце такую лухту — кастры з кніг. Паўтараеце паклёпы ворагаў Расіі.

Барадаты афіцэр, у якога блішчалі слёзы ад успамінаў пра лён, што зацвітае недзе там, у Расіі, кідае карты, спружыніста ўстае, голас яго стрыманы, але ў ім дрыжыць гнеў і абурэнне, сутаргава ходзяць жаўлакі:

— Палкоўнік Яхантаў! Дагэтуль я лічыў вас ідэалістам і філантропам. Цяпер бачу: тыя, з салдацкага камітэта, павярнулі вас у сваю веру. У бальшавіцкую. Пасаромцеся, палкоўнік! Вы — рускі афіцэр, дваранін... Што вы робіце?

— Я памагаю людзям. Я хачу памагчы людзям... салдатам, маім суайчыннікам,— і паведамляе са смуткам, з болем: — За мінулую ноч у салдацкім лагеры памерла сем чалавек.

— Памолімся за іх,— кажа афіцэр з аскетычным тварам і неахвотна жагнаецца.

Барадаты здзекуецца:

— Станем на калені, працягнем рукі да неба,— уздымае рукі, крыўляецца: — О божа міласэрны, накармі салдат, каб у іх была сіла...

— «Костями бог усеял все дороги...» — пачынае паручнік-гітарыст.

— Узняць мяне на штык. Ды чым больш гэтага быдла падохне, тым лягчэй будзе навесці парадак у Расіі.

— Як вам не сорамна! — крычыць абурана Лукашэвіч,— Вы... вы... не чалавек! Каму вы жадаеце смерці?! Гэта ганьба... Ганьба!

Яхантаў цяжка ўстае з ложка, але адразу нічога не можа сказаць — ён задыхаецца.

— О божа,— зноў стогне капітан, які па-ранейшаму ходзіць, як тыгр у клетцы,— Гэта вар'яцкі дом! Я вар'яцею. Мы ўсе вар'яты.

— Эх, вы! Нашчадак Песцеля! — толькі ўсяго і кажа Яхантаў барадатаму, але кажа з такой маральнай сілай, з такой пагардай, што той сумеўся і стараецца з гонарам для сябе пакінуць поле бою — садзіцца да стала, зграбае карты, тасуе калоду, хоча паглыбіцца ў ігру! Партнёры — па ўсім відаць — гатовы падтрымаць яго, абы не было сваркі. Але Яхантаў вымушае ўсіх іх уміг забыцца на карты, на ўсё іншае. Ён паведамляе:

— Панове, рыхтуецца чарговая партыя для абмену. Галава за галаву, чын за чын.

Усе ўскокваюць на ногі, абступаюць Яхантава, глядзяць на яго з прагнай зацікаўленасцю галодных дзяцей. Які абмен? Колькі чалавек? Якія чыны абменьваюцца? У іх сэрцах жыве страх перад новай Расіяй. Але там — Радзіма, там — сем'і. А тут — чужына і няволя, палон. А каму не хочацца хутчэй вырвацца з няволі — на радзіму, да блізкіх і родных? Хутчэй жа, палкоўнік, кажы! Не цягні! Нервы і без таго напружаны!

— На наш блок, панове,— адзін чалавек,— са смуткам кажа Яхантаў.

Капітан у непадпяразанай гімнасцёрцы, чорнабароды манархіст і набожны аскет зіркаюць адзін на аднаго ваўкамі. У іх аднолькавае званне. Калі абменьваюць капітана на капітана, яны стануць сапернікамі. Вымушаны будуць цягнуць жэрабя — так ужо было,— а гэта страшна, і страх гэты прыніжае больш, чым любы іншы.

Капітан у форме не вытрымлівае — нясмела кажа, жадаючы разжаліць іншых:

— У мяне памірае маці. Панове, вы чыталі пісьмо...

— У мяне пяцёра дзяцей,— шэптам, як на пахаванні, гаворыць аскет.

Чорнабароды абурана лаецца:

— Чорт вазьмі! Цяпер я разумею, чаму немцы нас білі. Нам вельмі хацелася да дзетак і да матак. Мы ўжо тады плявалі на веру і айчыну.

Яхантаў, на якім скрыжаваліся ўсе позіркі, не адказвае на іх словы. Ён глядзіць на гітарыста. Той раптам адступае, паднімае гітару, б'е па струнах, патэтычна дэкламуе:

— Когда идешь над бездной —

надо прямо Смотреть в лазурь и свет,— і тут жа заяўляе: — Панове, я выпадаю з вашай д'ябальскай гульні. Я казаў вам: я не жадаю вяртацца ў Расію. Як толькі на захадзе змоўкнуць гарматы, еду ў Парыж. Мой ідэал і мая мэта — Парыж.

— Вам можна ехаць,— уздыхае аскет.

— З нямецкага боку — лейтэнант,— нарэшце, паведамляе Яхантаў тое галоўнае, чаго ўсе з незвычайнай напружанасцю чакаюць.

— Чорт вазьмі! — расчаравана лаецца манархіст.— Няхай ён не даедзе дадому, гэты праклyты бош!

Гітарыст смяецца.

— Не мог ён, свіння, вырасці да капітана!

Перад Яхантавым астаецца адзін Лукашэвіч. Ён бледны, рукі яго дрыжаць. Гэта шокавы стан — ад радасці і страху.

— Я?! — ён не вымаўляе гэтага, толькі варушыць вуснамі, але кароткае слова выразна чытаецца і на вуснах і ў вачах, бо нічога іншага ён і не мог сказаць у такі момант.

— Але, шчасце выпала вам, Саша,— з радасцю за яго адказвае стары палкоўнік.— Віншую,— і працягвае руку.

— Як жа так, панове? — разгублена звяртаецца Лукашэвіч да іншых; яму няёмка, ён як бы просіць прабачэння за сваё нечаканае шчасце.

Чорнабароды груба абсякае:

— Кінь прыкідвацца, прапаршчык. Чорт з табой! Хадзі на галаве. Танцуй на пузе. Нам цяпер усё адно.

Стары палкоўнік і юны прапаршчык павольна ідуць уздоўж некалючага дроту, які адгароджвае афіцэрскую частку лагера ад салдацкай. Тут, у афіцэрскай, уздоўж дарожкі — кветкі. Там, за дротам, здаецца, з'едзена нават трава.

Пуста. Вечар. Заходзіць сонца. Палонных загналі ў баракі. У паўзмроку чырвоныя баракі, голы клён, вартавыя вежы здаюцца нейкімі фантастычнымі.

Блукаюць адзінокія постаці. Але вось вельмі выразныя постаці групы людзей: чацвёра нясуць насілкі. Яхантаў спыняецца, здымае з галавы фуражку.

— Яшчэ адзін.

Праводзіць нябожчыка хвілінай маўчання. Паварочваецца да Лукашэвіча.

— Запомніце, Саша, і гэтую карціну. Яна паможа вам выканаць маю просьбу. Да Леніна вам, канешне, не дабрацца. Але прабіцеся да каго-небудзь з членаў урада. Чым вышэй, тым лепш...

Прапаршчык уздыхае.

— Місія нялёгкая пры маёй нянавісці да бальшавікоў.

— Справа вашага сумлення — ненавідзець іх ці любіць. Але памагчы гэтым няшчасным, з якімі вы разам гнілі ў акопах, разам галадалі ў няволі,— ваш святы чалавечы абавязак. Не забывайце: ім ніхто не паможа, акрамя радзімы, што б там ні здарылася. Я веру ў гуманнасць людзей, якія так настойліва дамагаліся міру.

Гучаць пагрозлівыя ўдары бома — апошняе папярэджанне: па тым, хто астанецца ў недазволеным месцы, вартавыя будуць страляць.

Яхантаў і Лукашэвіч хутка ідуць да афіцэрскага барака.

Вузлавая станцыя. Мноства пуцей. Але не ўсе рэйкі пускаюць сонечных зайчыкаў, большасць паржавелі, запыліліся. Паміж шпаламі парасла трава. Парваны драты ад семафораў. Вывернуты рычагі

стрэлак. На запасных пуцях, у тупіках — нямала вагонаў, дзе-нідзе паравозы, але відно, што шмат якія стаяць тут ужо даўно, без руху.

Манеўровы паравоз — «кукушка» паволі цягне ўсяго тры вагоны. У адчыненых дзвярах цяплушак мірна сядзяць, звесіўшы ногі, нямецкія салдаты, падобныя адзін на аднаго; на каленях у іх — вінтоўкі. А над імі ў высокіх вокнах — прагныя нецярплівыя вочы людзей, твары ва ўсіх худыя як у зданяў, зарослыя бародамі, але вочы гараць радасцю.

Адзеты людзі па-рознаму: гімнасцёркі, на якіх латка на латцы ўсіх колераў, нямецкія мундзіры і цывільная напратка — сарочкі, пінжакі замежнага колеру і пакрою.

Шырокую паласу станцыйных пуцей перараазае агароджа з калючага дроту, такая недарэчная тут. Каля дроту ў варотах, праз якія праходзяць цягнікі,— нямецкі вартавы.

Кароткі састаў на момант спыняецца. Нямецкія салдаты саскокваюць на зямлю, сыходзяцца разам, абыякавыя да людзей, якія асталіся ў вагонах.

Вартавы свішча.

Машыніст дае гудок. Ляскаюць буферы, і вагоны гэтак жа павольна коцяцца далей.

Зноў калючы дрот. Але каля яго стаіць чырвонаармеец. ён зрывае з галавы фуражку і махае палонным, вітаючы іх са зваротам на радзіму.

У тым вагоне, дзе Лукашэвіч, нехта крычыць:

— Ура! Другі:

— Прывітанне Расіі!

Некалькі галасоў адразу:

— Няхай жыве Савецкая Расія!

Чалавек у нядрэнным, хоць пакамечаным, цывільным касцюме тузае за руку Лукашэвіча, шэпча:

— Аляксандр Андрэевіч, паслухайце мяне, выкіньце пагоны.

Лукашэвіч паварочваецца і адказвае гучна і бадай злосна:

— Не!

Афіцэр у цывільным паціскае плячамі.

З пустым салдацкім мяшком на правым плячы Лукашэвіч пераскоквае цераз каляі, бяжыць па платформе да доўгага будынка станцыі, на якім, пад чырвоным сцягам, надпіс; «Орша-Пассажирская» — вялікімі літарамі, з своеасаблівым чыгуначным напісаннем. Пасажыраў на станцыі, якая стала пагранічнай, не густа. Больш чыгуначнікаў, чырвонаармейцаў, занятых службай. Людзі гэтыя ўсё ўжо бачылі, да ўсяго прывыклі і на ўзбуджанага прапаршчыка не

звяртаюць увагі. А ён, мінуўшы дзверы ў залу, імкліва ўрываецца ў службовае аддзяленне. Адразу відаць, што яму тут усё знаёма — кожныя дзверы, кожны пакой. Але перад тэлеграфным пакоем яго затрымлівае вартавы матрос:

— Ты куды, браток? Сарваўся як з ланцуга.

Лукашэвіч задыхаўся ад шпаркай хады, ад хвалявання. Ён абураны такім зваротам — на ты — да яго, афіцэра. Адказвае з хлапчуковай дзёрзкасцю:

— Мне трэба.

— Куды табе трэба?

— Вы мне не тыкайце! Тут мой бацька.

— Хто? — спакойна, як бы не пачуўшы суровага папярэджання, пытае матрос.

— Лукашэвіч. Тэлеграфіст.

— Няма тут такога.

— Няма? — прапаршчык спалоханы, расчараваны: ён марыў, што адразу, выскачыўшы з вагона, сустрэнецца з бацькам. Дзе ж ён? Можа, расстралялі бальшавікі?

Тым часам матрос, аглядаючы нечаканага госця ў паўзмроку калідора, звярнуў увагу на афіцэрскія пагоны. Здзіўлена свіснуў.

— А што ты за гусь? Адкуль прыляцеў?

— Я вам не гусь!

— Ты не гусь, ты — певень,— лагодна адказвае матрос, але тут жа даволі красамоўна перасоўвае кабуру маўзера збоку наперад, на жывот, загадвае: — А ну, пайшлі са мной!

Праводзіць Лукашэвіча па калідоры. Адчыняе дзверы, крычыць:

— Камісар? Разбярыся, чаго хоча гэты суб'ект!

Лукашэвіч уваходзіць у вялікі пакой з закратаванымі вокнамі. Аглядаецца са здзіўленнем: пакой знаёмы, як усё тут, але шмат што змянілася.

Каля стала — двое: такі ж матрос, як вартавы, нібы двайнік, толькі ў гэтага кабура драўляная і вісіць нізка, ля калена; другі — чыгуначнік з сівымі вусамі, у зашмальцаванай форме. Яны заняты незвычайнай справай: дзеляць баханку хлеба сялянскай выпечкі — з бурштынавай апетытнай скарынкай.

Лукашэвіч, убачыўшы гэты хлеб, глытае сліну.

Баханка ўжо разрэзана, але — здалёк відно — не на роўныя палавіны.

Матрос адным позіркам акідвае вымушанага наведніка і, відаць, адразу зразумеўшы, хто гэта, зноў паварочваецца да чыгуначніка.

— Не, Ян Карлавіч, так несумленна. Папалам дык папалам.

— Таніла Іванавіч, не тумай ты пра гэта,— у чыгуначніка латышскі акцэнт, знаёмы Лукашэвічу, бо на чыгунцы было нямала латышоў, асабліва тут, у Оршы.— Мне ж прасцей тастаць. Спыню састаў ля вёсачкі, пітончык керасіну вынесу — і хатова, ёсць хлеп и та хлепа ёсць.

— Арыштую я цябе за спекуляцыю,— кажа матрос нібыта строга, але адчуваецца, што паміж імі вельмі шчырыя і сардэчныя адносіны.

Латыш смяецца:

— Холат — не цётка, усяму навучыць,— і з бацькоўскім клопатам: — Бяры, бяры, не ламайся. Знаю — не адзін з'ясі.

Латыш загортвае большую паўбаханку ў зачытаную газету, ложыць на край стала, меншую — засоўвае ў сваю скураную торбу. Лукашэвіча крыўдзіць такая няўвага да яго. Хамы! Хлеб ім важней за чалавека.

Нейкі момант ён сапраўды падобны на задзірыстага пеўня, гатовага кінуцца ў бойку.

Але яго апярэджвае матрос спакойным запытаннем:

— З палонных? Віншую са зваротам. На станцыі ёсць прадстаўнік Камітэта дапамогі палонным.

— Я... я — аршанін.

— Значыцца, дома ўжо? Ёсць з чым павіншаваць! — шчыра радуецца матрос за чалавека,— Праходзь. Сядай. Знаёміцца будзем. Я таксама, лічы,— аршанін. З Дуброўны.

Разгублены Лукашэвіч трохі нясмела падыходзіць да стала, яго бянтэжыць такое панібрацтва, такі зварот. Латыш узіраецца ў прапаршчыка. Пазнае.

— Сын тэлеграфіста? Во бацьку радасць будзе.

Лукашэвіч знясілена апускаецца на крэсла каля стала, выцірае па-салдацку пот з ілба. Гэта знясіленне ад шчасця пасля душэўнага напружання і трывогі. Значыцца, жывы бацька.

— Так я пайшоў, Таніла Іванавіч. Заўтра — на Маскву. Тровы павязу.

Яны астаюцца ўдвух, камісар станцыі і былы афіцэр царскай арміі, далёкі яшчэ ад усяго таго, што адбылося тут, на радзіме.

Лукашэвіч успамінае пра пусты мяшок, сарамліва скідае яго з пляча на падлогу. Яму хочацца мець перад гэтым бальшавіком найлепшы выгляд, трымацца з гонарам афіцэра.

Даніла Івашчанка садзіцца за стол, разглядае прапаршчыка, быццам хоча пранікнуць у нутро і ўбачыць, што за чалавек вярнуўся ў

Савецкую Расію, куды можа падацца гэты афіцэрых на чый бок стане ў рэвалюцыі.

— Ну, як там нашы? Галадаюць? — пытае камісар.

— Галадаюць. Салдаты мруць з голаду.

— Да-а-а... Буржуі не накормяць. Можа, цяпер лягчэй трохі будзе нашым. Па ўказанню таварыша Леніна пасылаем хлеб для палонных. Вунь эшалон стаіць,— камісар ківае на акно, за якім сапраўды відны вагоны.— Заўтра перадаём немцам. Трыццаць тысяч пудоў.

— Трыццаць тысяч пудоў хлеба для палонных? — з недаверам, здзіўленнем і радасцю перапытвае Лукашэвіч.

— Але. Во дакументы,— камісар кладзе цяжкую далоню на вялікі канверт, што ляжыць збоку,— Адрас: Берлін... Міжнародная камісія... Не, не камісія, фу, чорт, забываю. Місія. Місія Чырвонага Крыжа. Нялёгка, я табе, брат, скажу, адрываць гэты хлеб ад галоднага пралетарыяту. Самі — убачыш — галадаем.

Лукашэвіч мімаволі кідае позірк на газету, у якой загорнуты хлеб.

Камісар ловіць гэты позірк.

— Мы яшчэ нічога, у нас навокал — сёлы. А паглядзі, што робіцца ў Маскве, у Піцеры,— кажучы гэта, Івашчанка разгортвае газету, адломвае ладны кавалак хлеба, працягвае прапаршчыку.— На, еш.

Лукашэвіч ажно ўзнімаецца з крэсла, ён страшэнна збянтэжаны і нават абураны.

— Што вы!

— Не саромейся. Я хадзіў у плаванне, дык ведаю: які ён салодкі, калі вернешся, першы кус роднага хлеба. Удыхнеш яго — адразу перад вачамі ўсё роднае...

Непрыкметна для сябе прапаршчык бярэ хлеб, але не есць, не ведае, куды дзяваць яго, хоць у палоне добра пазнаў цану хлебу, а таму трымае яго з пашанай. Сапраўды, першы хлеб радзімы. Які ён будзе? Салодкі, горкі?

— Еш, еш. Бачу ж — згаладнеў.

Лукашэвіч адкусвае кавалачак і... не можа пракаўтнуць, з вачэй сыплюцца буйныя слёзы. Ён не саромеецца іх, сваіх слёз, сваёй слабасці. Няхай бальшавік бачыць яго слёзы. Урэшце, гэта не ўніжэнне перад камісарам, бо хлеб не яго, хлеб — роднай зямлі, вырашчаны рукамі тых салдат, з якімі ён, прапаршчык, абараняў гэтую зямлю.

Івашчанка апускае вочы, далікатна робіць выгляд, што не бачыць слёз госця. Кажа пра іншае:

— Пагоны... У нас іх не носяць.

— Не! — амаль крычыць Лукашэвіч і кладзе надкусаны хлеб на стол.

У гэтым «Не!» — увесь боль перажытых пакут і юнацкая ўпартасць — не скарыцца, не прыняць тых змен, якія зрабілі бальшавікі.

Камісар лагодна ўсміхаецца.

— Я разумею вас,— чамусьці ён пераходзіць на «вы», і гэта адразу насцярожвае і адначасова ўтаймоўвае натапыранага прапаршчыка.— Вам хочацца з'явіцца дадому ў форме. Калі ласка. Але калі па дарозе сустрэнуцца былыя салдаты — не любяць яны ў пагонах,— тлумачце, што вы толькі з палону.

— Дзякую.

Прапаршчык па-вайсковаму ўстае, стукае абцасамі.

— Хлеб вазьміце. Не грэбуйце.

Лукашэвіч зноў вагаецца — браць ні не браць?

У гэты момант адчыняюцца дзверы. Нехта пытае па-нямецку:

— Можна ўвайсці?

Лукашэвіч уздрыгвае, імкліва паварочваецца.

На парозе — стары чыгуначнік, падобны па латыша, які нядаўна выйшаў. Такі ж мундзір, толькі па колеру трохі адрозніваецца. Машыніст. Прафесія робіць людзей падобнымі адзін на аднаго.

— Бітэ,— запрашае камісар.

Немец зачыняе за сабой дзверы і з парога кажа:

— Я маю важнае для савецкіх улад паведамленне.

Івашчанка не разумее, паціскае плячамі, глядзіць на Лукашэвіча. Той перакладае.

Камісар скрабе патыліцу.

— Э, чорт, паслаў я свайго тлумача ў горад. Важнае, кажа? — і раптам адважваецца.— Перакладай, прапаршчык! Толькі, калі акажацца ваеннай тайнай... Разумееш? Мір мірам, а тайна можа быць.

Магчыма, юнацкая цікаўнасць прымушае Лукашэвіча згадзіцца на ролю перакладчыка ў камісара. Ён звяртаецца да нямецкага машыніста:

— Пан камісар вас слухае.

— Чыноўнік вашай перадатачнай камісіі... гэткі высокі,— паказвае рост — вышэй за сябе, пасля нахіляецца і праводзіць рукамі па халявах сваіх ботаў,— у крагах жоўтых... перадае нашаму ваеннаму ўпраўленню вагоны... Вашы... Перадае дзесяць, а накладную на зварот падпісвае на сем ці восем. І так не адзін раз. Нямецкія чыгуначнікі абураюцца. Гэта ж вялікая подласць — рабаваць сваіх!..

Просты і добры камісараў твар усё больш хмурнее, робіцца суровым, злосным. Рука цягнецца да кабуры, паднімае калодку. Важыць

кабуру, быццам правярае, ці на месцы, ці не выцягнулі знянацку зброю рэвалюцыі.

Лукашэвіч сочыць за ігрой грубых, з пачарнелымі пазногцямі пальцаў на калодцы кабуры.

Доўгі таварны састаў. Вагоны запламбіраваны. На некаторых надпісы крэйдай: «В Германию».

Лукашэвіч паволі ідзе ўздоўж састава, углядваецца ў кожны вагон, быццам нечага шукае. Вартавы чырвонаармеец падазрона азірае дзіўнага чалавека ў царскіх пагонах. На гэтай пагранічнай станцыі да ўсяго прывыклі. Аднак жа...

Прапаршчык спыняецца перад вагонам, на дзвярах якога — эмблема Чырвонага Крыжа. Хораша ўсміхаецца, быццам сустрэў добрага знаёмага.

Вартавы набліжаецца, пытае:

— Ты да чаго прыцэньваешся?

— Ды так...

— А калі так, дыкператакаваць не будзем. Каравульную службу не забыўся?

— Але, але,— згаджаецца Лукашэвіч і ўжо хутчэй ідзе далей. Спыняецца адзін раз, сустрэўшы чалавека ў крагах. Азіраецца на яго. Англійская мода, да вайны яе не было. Можа, гэты прадае вагоны? Чорт ведае што ў іх тут робіцца! Давялі Расію. Твар прапаршчыка хмурнее. Ды раптам яго спыняе звонкі — на ўсю станцыю — радасны і баязлівы жаночы крык:

— Са-ша! Са-а-ш-а-а!

Ён уздрыгвае, паварочваецца.

Па пуцях, цераз рэйкі, прыцягваючы ўвагу чыгуначнікаў, чырвонаармейцаў і пасажыраў, шпарка бяжыць дзяўчына. Яна ў белай кофтачцы, чорнай спадніцы. Ласкавы ліпеньскі вецер кудлачыць падстрыжаныя валасы.

Лукашэвіч нейкі міг жмурыцца ад сонца. Потым кідае на зямлю пусты мяшок і бяжыць насустрач.

Не дабегшы адно да аднаго крокаў колькі, яны спыняюцца, задыханыя, шчаслівыя і, магчыма, спалоханыя нечаканасцю, незвычайнасцю сустрэчы. Не ведаюць, што рабіць далей, як павітацца.

Прапаршчык шэпча:

— Юля...

Тады дзяўчына кідаецца да яго, абдымае, прыпадае тварам да грудзей, да залатанай, прапахлай потам гімнасцёркі.

Ён пяшчотна, асцярожна, нібы баючыся, гладзіць яе валасы, шэпча:

— Юля... Юля...

Вартавы спыняецца непадалёк, твар яго расплываецца ад лагоднай ухмылкі. Жартуе:

— То адразу б, дзівак, і сказаў, чаго тут шукаеш,— і пытаецца ў дзяўчыны:— Жаніх, таварыш Ніткоўская?

Прапаршчыка дзіўна ўражвае такі зварот, ён азіраецца на вартавога. Але дзяўчына шэпча:

— Саша, мілы. Нарэшце. Колькі я перажыла. Калі ты знік без весткі, мама заказвала малебен — за ўпакой. А я не верыла! Не дазваляла ёй. Саша! Я чакала! Я сэрцам чула, што ты жывы. Калі прыйшло тваё пісьмо цераз Швецыю... пры Керанскім... Божа мой! Якое шчасце. Нават бацька заплакаў. Мне зараз сказаў машыніст, латыш... Думала, памру ад разрыву сэрца. Кінула апаратную... Выскачыла. Здалёк, са спіны пазнала... Ты змяніўся... Два гады ў палоне. Страшна падумаць!

— Юля... Ты абрэзала касу,— гэта першае, што ён здолеў сказаць, бо ўсё яшчэ гладзіць далоняй па яе валасах.

Дзяўчына выпускае яго з абдымкаў, адступае на крок, устрахвае галавой. Проста, па-свойску тлумачыць:

— Цяпер новая мода, Саша. Цяпер тут усё новае. Не пазнаеш. Табе будзе нялёгка спачатку. Але не бойся.

Юля ў адзін міг з жаночай практычнасцю ўваходзіць у ролю гаспадыні, апякункі, павадыра: маўляў, не хвалюйся, са мной не загінеш, я цяпер усяму навучу. Адразу ад узнёслай, бадай кніжнай рамантыкі сустрэчы яна пераходзіць да жыццёвай прозы:

— Хадзем у апаратную. Я адпару пагоны. У нас іх не носяць. Хіба ты не ведаў?

І хлопец згаджаецца. Улада каханай — найвышэйшая ўлада.

Павольна, размаўляючы, ідуць яны ўздоўж таго ж састава. У гэтым ужо няма нічога незвычайнага, і на іх не звяртаюць увагі.

Юля ківае на вагоны:

— Падкормлівае Ленін немцаў.

Лукашэвіч быццам наскоквае на перашкоду, здалося — спатыкнуўся.

— Чаму немцаў? Гэта — нам, палонным. Чырвоны Крыж.

Юля скептычна крывіць вусны.

— Казачкі для прасцячкоў. Ты еў яго, гэты хлеб?

— Там нашы мруць... у лагерах.

— Вось бачыш... А немцы едуць з Сібіры — морды во якія!

Выраз твару ў прапаршчыка такі, быццам яму раптам моцна забалела ў жываце.

Пясчаная вуліца. Але па будынках відно, што гэта не бедная рабочая ўскраіна. Гэта адна з тых вуліц, дзе сяліліся чыноўнікі, мяшчане, паравозныя машыністы — сярэдні клас.

Негандлёвая вуліца, а таму чыстая; у агародчыках густа разросся любісцік, расцвілі вяргіні, выцягнуў срэбнае лісце кануфер, пахнуць кудраўцы. Дзеці тут кешкаліся ў пяску заўсёды, раней гэтак жа, як і цяпер.

Ён, Саша Лукашэвіч, таксама некалі качаўся ў пяску. Але чаго не было тут раней, дык гэта коз. Козы належалі бедным яўрэйскім кварталам. На гэтай вуліцы каза лічылася ганьбай, падзеннем дабрабыту дома, прэстыжу сям'і. А цяпер — дзеці, козы, куры.

Дзеці амаль не звяртаюць увагі на вайскоўца, які шпарка ідзе па вуліцы, прагна азіраючыся — пазнаючы тое роднае, што ўспамінаў у бяссонныя ночы ў палоне.

А козы разглядаюць яго з казінай бесцырымоннасцю. Бляюць услед, як бы выказваючы сваю незадаволенасць.

Лукашэвіч спыняецца каля дома на чатыры акны. Дом нішто сабе, толькі фарба на аканіцах паблякла, палупілася; плот агародчыка пахіліўся, падгнілі слупы.

Хлопец здымае фуражку, быццам хоча пакланіцца роднаму дому. Але не кланяецца — выцірае пот. Цяжка дыхае — ад хваляванння. Нясмела, быццам яна гарачая, бярэцца за клямку. На падворку, пад паветкай, дзе заўсёды складвалі дровы, жанчына доіць казу. Яна стаіць на каленях спіной да варот.

Сын пазнае маці. Ён здзіўлены і доўга не можа азвацца. Нарэшце ціха-ціха кліча:

— Мама.

Яна паварочвае галаву, ускрыквае.

Каза спалохана адскоквае.

З рук жанчыны падае каструлька, малако выліваецца на зямлю; жанчына хоча падняцца на ногі і не можа.

Сын падбягае, паднімае яе, а сам апускаецца на калені і прыпадае вуснамі да яе агрубелай ад працы рукі.

— Мама. Мамачка.

Ён плача. А яна нейкі момант стаіць як бы акамянелая, магчыма, не верачы такому шчасцю. Толькі тады, калі яе рука з пляча лажыцца на сынаву галаву, дотыкам пазнае родныя валасы, яна шэпча:

— Саша. Сынок.

І заліваецца слязьмі.

І вось яны ўжо абое на нагах. Выціраюць слёзы і вінавата ўсміхаюцца адно аднаму.

Падае голас каза.

Саша хмурнее.

— Што гэта такое, мама? Чаму тут гэта яўрэйская жывёліна?

Жанчына бянтэжыцца, быццам сын захапіў яе за працай, якая паніжае яе годнасць. Тлумачыць:

— Бацька хварэе. Яму трэба малако.

— А Марына дзе?

— Сынок! — ужо маці здзіўляецца сынаву няведанню.— Хто цяпер трымае прыслугу? Самім няма чаго есці.

Стары Лукашэвіч, сухотны чалавек у чыгуначным мундзіры, сустракае сына на ганку.

Саша падыходзіць па-армейску, схіляе галаву, як для блаславення.

Бацька цалуе яго ў лоб.

— Дзякую, сын.

— Завошта?

— За радасць, якую нам прынёс. Хіба бывае ў бацькоў радасць большая? Я баяўся, што не дачакаюся яе.

У доме Саша аглядае паўпусты пакой, бачыць, што шмат чаго не хапае з мэблі, посуду — з сямейнага набытку за доўгую бацькаву службу. Камодамі і сервізамі тымі некалі ганарыліся, яны ўзнімалі Лукашэвічаў у вачах людзей, адкрылі дзецям дарогу ў гімназію. Куды яны дзеліся — пра гэта лепш не пытаць.

Былы афіцэр былой арміі цяжка ўздыхае.

— Давялі вас бальшавікі.

— Не бальшавікі, сын,— пярэчыць бацька.— Вайна. Яна ўсё забрала. Бальшавікі нас не чапаюць. Я палітыкай не займаўся. І табе не раю. Але мне тут, дома, было відней, чым табе там. Бальшавікі ўзяліся за справу пачэсную: вывесці Расію з вайны, з разрухі, з голаду. З вайны вывелі. А далей, бачу, сілы не хапае, а галоўнае — ведаў, людзей адукаваных. Мужыкі ўмеюць толькі разбураць, паліць.

Маці завіхаецца, падае на стол, выстаўляе лепшае з посуду, што яшчэ не паспелі памяняць на тое, што можна есці, чым можна жыць.

Стол як на вяселлі: багатая закусь, адмысловыя графінчыкі, ружы ў крышталёвай вазе.

Не, стол гэты не ў доме Лукашэвічаў. Гэта ў доме Ніткоўскіх, у Юлі.

Сам гаспадар, Апалон Кірылавіч, высокі, хударлявы мужчына, з бародкай, у пенснэ, азірае стол, быццам Напалеон поле бітвы, якая мае адбыцца тут. Заходзіць з аднаго канца, з другога, перастаўляе «батарэі», расстаўляе «пяхоту». Задаволены «полем» і «баявымі сіламі»,

узнагароджвае сябе: налівае з графінчыка чарку, гарэзліва азіраецца на дзверы, падміргвае невядома каму, куляе, кідае ў рот скрылёк свежага гурочка... Спявае без слоў пераможны марш.

У адчыненае акно глядзяць з агародчыка бэз і любісцік. Свеціць сонца, яно вось-вось схаваецца за дамы на другім баку вуліцы.

Крычаць дзеці. Рыкае карова. Бляюць козы. Летні вечар у вёсцы. Але чуецца блізкі свіст паравоза, яго стомленае пыханне, ляскане буфераў — і знікае ўяўленне вёскі.

Ніткоўскі насцярожана прыслухоўваецца да гукаў на станцыі. За акном галасы. Жаночы голас недзе на ганку:

— Саша. Галубчык! — і ўсхліпы.

Гаспадар становіцца перад дзвярамі, чакае.

Дзверы адчыняюцца, за імі — Лукашэвіч, яго маці, памаладзелая ад шчасця, у святочным убранні, Юля, яе маці, поўная жанчына.

Лукашэвіча цяжка адразу пазнаць — так ён перамяніўся за паўдня: паголены, падстрыжаны. Але найбольш змяніла яго адзенне: замест старой залатанай вайсковай формы —чорны сурдут, белая накрухмаленая манішка.

Усё гэта некалі шылася на яго, гімназіста, падарунак бацькоў да выпуску. Але ён не вырас са свайго цывільнага адзення, наадварот, сурдут стаў вялікі, мешкаваты.

Адчувае сябе ўчарашні ваеннапалонны няёмка, нязграбна — як звязаны. Адзенне вымушае манераў, ад якіх даўно адвык не толькі ён, але і яго нявеста і нават яе бацькі.

Лукашэвіч адступае ўбок, кланяецца, жадаючы прапусціць наперад жанчын.

Юля ўзбуджана, радасна смяецца:

— Які ты старамодны! Ды праходзь жа!

— Праходзь, Саша,— кажа Ніткоўскі,— Цераз парог не будзем вітацца, а то будзем сварыцца. А навошта нам, сваім, сварыцца.

Гаспадар шырока расстаўляе доўгія рукі. Юля са смехам піхае нарачонага ў бацькавы абдымкі.

Ніткоўскі гучна цалуе яго тройчы ў шчокі.

— Са зваротам. Са шчаслівым зваротам!

Гаспадыня выцірае слёзы, глядзіць на будучага зяця

з жалем і замілаваннем. А Саша, вызваліўшыся з абдымкаў, аглядае стол, пакой, і на твар яго быццам падае цень ад кустоў за акном. Ён здзіўлены і яшчэ больш губляецца і бянтэжыцца. Няўжо для яго аднаго такі стол? І адкуль гэта ўсё ў галоднай краіне? Да ўсяго дадаецца крыўда за беднасць бацькоў. Некалі ж іх сем'і мелі аднолькавыя дамы, аднолькавы дабрабыт, грамадскае становішча, бо

бацькі, яго і Юлін, роўныя былі па службе: адзін — тэлеграфіст, другі — таварны дыспетчар.

Ніткоўскі цалуе Лукашэвічавай руку. Жанчына, якая некалі ўпрыгожвала кампанію чыгуначных служачых, трохі не плача ад збянтэжанасці. Можа, ад успамінаў пра мінулае. Добра, што любыя слёзы сёння можна выдаць за слёзы шчасця.

Сашу балюча за маці, якая адчувае сябе тут, у некалі сяброўскай сям'і, беднай сваячкай.

— Як там пачувае сябе харобрае рускае афіцэрства? — пытае Ніткоўскі.

— Як можна пачуваць сябе ў палоне? — у голасе Лукашэвіча прарываюцца дзёрзкасць і злосць, ён не можа дараваць іроніі ў такім пытанні.— Для кайзераўцаў кожны рускі — свіння!..

Ніткоўскі ляпае яго па плячы.

— Плюнь на афіцэрства. Здзьмула яго рэвалюцыя. Ты ж — не дваранін, ты, лічы, пралетарый. Твая дарога цяпер з намі, з рэвалюцыянерамі.

— Вы — бальшавік, Апалон Кірылавіч?

Ніткоўскі весела смяецца.

Думаеш, акрамя бальшавікоў, няма рэвалюцыянераў? Есць партыя больш рэвалюцыйная — сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Левых. Не блытай нас з Керанскім. Гэта бяздарны авантурыст.

— Апалон Кірылавіч, не ўцягвайце Сашу ў палітыку. Дайце адпачыць хлопцу, агледзецца.

— Дарагая Алена Паўлаўна, у наш час без палітыкі нельга. Саша па характару — наш, рэвалюцыянер, як і Юлька. Нянавісці да немцаў у яго больш, чым ва ўсёй партыі Леніна. Праўда, Саша?

— Нашы мруць там ад голаду.

— Вось бачыш!

Уваходзяць госці — чыгуначнік з жонкай. Вітаюцца. Цалуюцца.

За сталом чалавек дзесяць. Але два крэслы ў цэнтры, насупроць Лукашэвіча, пустыя. Нехта не з'явіўся.

Ніткоўскі аглашае тост.

— ...Перад тым як пайсці на фронт, Саша заручыўся з Юляй. І вось больш двух год — трывогі, пакуты, перажыванні, роспач ад няведання. Але жыла надзея, жыла вера, жыла любоў у маладых сэрцах. За надзею, за веру, за любоў! За ваша шчасце, дзеці!

Жанчыны расчулены, цягнуцца з чаркамі да маладых.

— За блізкае вяселле, Юлечка.

— Дай вам бог!

— Эй, маці, без бога!

— Вы можаце без бога, а я — з богам.

Мужчыны чокаюцца не з Сашам і Юляй — з гаспадаром. Яны паводзяць сябе стрымана-ветліва, але як бы з іроніяй да гэтай урачыстасці. Ці, можа, яны разумеюць, што гэта толькі знешняя прычына, зачэпка для збору, для вечарынкі, а ёсць прычына іншая, тайная?

Усе прагна накідваюцца на закусь. Дзіва што: такая смаката!

Юля — яна сядзіць побач з жаніхом, старая Ніткоўская цераз стол і нават употай яго маці, якая сядзіць з другога боку,— усе падкладваюць Лукашэвічу найлепшыя, найбольшыя кавалкі.

— Еш, Саша, еш, мілы.

— Згаладаўся, нябога.

Ад увагі такой, ад кармлення гэтага — як малога, адчувае сябе «харобры афіцэр» зусім блага: кавалак не лезе ў рот.

— І выпі. Маеш права! — кажа чыгуначнік.

— Але. Пі. Сёння табе можна. Можаш нават напіцца! — смяецца Юля.

Жанчына з двума цяжкімі клункамі цераз плячо — адзін наперадзе, другі ззаду — бяжыць паміж старымі вагонамі. Задыхалася, змакрэла ад поту. Валасы растрапаны, кофтачка расшпілена. Лезе пад вагон. Выпрастаўшыся, бачыць перад сабой вартавога матроса. Самлела апускаецца на зямлю.

Матрос дакорліва ківае галавой.

— Ад каго ты ўцякаеш, дурніца? І куды ты можаш уцячы? Да Масквы ж пехатой не пойдзеш. Усё адно будзеш садзіцца ў вагон. Давай хлеб. Паднясу. Калі ты рабочая, то не пакрыўдзім.

Але хлеба яна не аддае, учапілася ў мяшкі так, што пасінелі пальцы.

У станцыйнай зале праверка дакументаў і мяшкоў з хлебам. Правяраюць Івашчанка і намеснік начальніка ЧК Міхаіл Рам, малады франтавы чалавек у паўвайсковай форме — у крагах, галіфе, фрэнчы з англійскага сукна.

Матрос і чэкіст у цывільным бязменам важаць мяшкі. Па дэкрэту аб «хлебнай дыктатуры» толькі рабочыя з даведкамі ад заводскіх камітэтаў могуць правезці ў Маскву і Петраград не больш пуда хлеба.

Рам чытае даведкі весела, з усмешкай, здаецца, яму прыемны такі занятак.

Івашчанка, змрочны і хмуры, робіць на паперах адзнакі, запісвае, колькі ў каго хлеба канфіскавана.

Мяшочнікі стрымана абураюцца.

Чалавек у рабочай вопратцы, але мала падобны на рабочага, настойліва просіць Рама:

— Грамадзянін начальнік, грамадзянін начальнік... прашу выслухаць мяне аднаго.

Іншыя глядзяць на яго з нянавісцю.

Рам весела кідае:

— Івашчанка, паслухаеш пасля казку пра белага бычка.

— Ах, божа! Не пра бычка,— стогне мяшочнік.

Баба, якую прыводзіць матрос, убачыўшы поўныя мяшкі з канфіскаваным хлебам, крычыць на ўсю станцыю:

— Не дам! Не дам! У мяне трое дзяцей. Муж з вайны не вярнуўся. Я апошнюю сарочку выменяла Што ж гэта за рабочая ўлада? Хай вас халера...

— За абразу, баба,— стацця,— як бы забаўляючыся кажа Рам.

— Плявала я на вашу стаццю!

— Даведку! — ужо пагрозліва патрабуе Рам.

— Якую даведку?

— Ах, у цябе і даведкі няма ад рабочага камітэта на правоз хлеба? — нібы радуецца Рам.— Спекулянтка. Пасадзіць!

Жанчына спалохалася, што сапраўды пасадзяць Скінула клункі.

— Наце, жарыце!

Івашчанка кідае на Рама гнеўны позірк.

— Завошта яе садзіць? Пакінем ёй пуд, які належыць Няхай вязе дзецям. Дамо дакумент.

Жанчына на міг сціхае, потым закрывае твар бруднай хусткай, і плечы яе пачынаюць трэсціся ад нямога рыдання. Гэта ўражае ўсіх, нават Рама. Ён тлумачыць паблажліва:

— Мы сабе ваш хлеб не бяром. Вунь эшалон стаіць з хлебам. У Германію. Трыццаць тысяч пудоў.

Івашчанка ажно пабялеў ад гэтых слоў. Паднімаецца з лаўкі, на якой сядзеў, кажа Раму:

— Адыдзем на хвілінку, таварыш Рам.

Яны адыходзяць.

Івашчанка гнеўна пытаецца:

— Ты што мелеш пра Германію? З глузду з'ехаў?

— А хіба гэта тайна? — наіўна здзіўляецца Рам.

— Калі ў людзей адбіраюць хлеб, як яны могуць зразумець? Падумаў ты?

— А ты ім растлумач. Твой абавязак — растлумачыць. А я пайшоў. У мяне важная справа.

Лукашэвіч выпівае да дна. Юля налівае зноў з пузатай пляшкі. Ён куляе і гэтую чарку. Маці пазірае на яго з трывогай. Малады чалавек у вайсковай форме пераплецены партупеямі, глыбакадумна

выказвае прысуд таму, што мае адбыцца ў гэтым доме паміж маладымі людзьмі:

— Рэвалюцыя знішчыць сям'ю.

Лукашэвіч не даносіць відэлец да рота, насцярожваецца: у што цэліць гэты камісар? У яго каханне, у яго боль?

— Як жа без сям'і? — палохаецца гаспадыня.

— І любові не будзе? — бядуе жонка чыгуначніка.

— Любоў будзе. А віць сямейнае гняздо рэвалюцыянеру не да твару.

— Я не рэвалюцыянер! — раптам смела, дзёрзка, з выклікам адказвае прыгожаму вайскоўцу Лукашэвіч.— Я афіцэр рускай арміі!

Ён абараняе сваё каханне, сваё права на шчасце. Але такая заява бянтэжыць гаспадароў. Юліна маці цягнецца да Сашы з талеркай, поўнай скрылькоў вяндліны.

— Еш, Саша.

— І пі,— падказвае маўклівы чыгуначнік.

Ніткоўскі спяшаецца запярэчыць госцю:

— Не, я — за сям'ю. Сям'я — аснова дзяржавы...

— Якой?

— Сацыялістычнай таксама.

— Мяшчанскае разуменне сутнасці нашага вучэння. Пакуль будзе гарэць пажар сусветнай рэвалюцыі, рэвалюцыянер павінен усяго сябе аддаць служэнню справе... Як Марыя Аляксандраўна...

— Я схіляю галаву перад мужнасцю Спірыдонавай. Але не кожны здатны на такі подзвіг... Мільёны сялян, на працы якіх будзе трымацца дзяржава...

— Сяляне — іншая рэч...

— Што можна Юпітэру, таго нельга быку, так? — зноў-такі дзёрзка, з іроніяй пытае Лукашэвіч.

Вайсковец выпростваецца ў крэсле, папраўляе кабуру нагана, на твары яго незадаволенасць дзёрзкасцю гэтага афіцэра.

Ніткоўскі заўважае гэтую незадаволенасць, хутка налівае чаркі.

— Давайце мы лепш вып'ем. За што мы вып'ем?

— Пры чым тут бык? — не разумее, відаць, не вельмі адукаваны чыгуначнік.— Вып'ем... за... за...— і, успомніўшы, нарэшце, за што варта выпіць, амаль крычыць радасна: — За Марыю Аляксандраўну!

— Спірыдонаву!— дадае з парога Рам; ён з'явіўся нечакана і адразу садзіцца за стол. Яго прымаюць так, быццам ён сядзеў ужо тут і адлучыўся ненадоўга.— За Спірыдонаву вып'ем,— паўтарае Рам.— Паслязаўтра ў яе будзе цяжкі, але пераможны дзень!

Не ўсе разумеюць сэнс гэтых слоў, глядзяць на Рама, чакаючы разгадкі. Ён тлумачыць:

— Паслязаўтра адкрываецца з'езд Саветаў. На трыбуне гэтага з'езда Спірыдонава пахавае прадатрады, камбеды і разарве ганебны дагавор.

— Таварышы! За самую рэвалюцыйную партыю! — дапаўняе гаспадар, узнімаючы чарку.

— Які дагавор? — пытае Лукашэвіч, ён, чалавек, які вярнуўся з другога свету, не разумее таго, што разумеюць нават жанчыны.

— Брэсцкі дагавор,— адказвае чыгуначнік з гонарам, урэшце ў яго знайшлася магчымасць паказаць сваю палітычную дасведчанасць.

— Мірны? — ашаломлены Лукашэвіч,— Вы што ж, за вайну?

— Мы не можам уніжацца так перад нямецкім імперыялізмам, як уніжаецца Ленін,— гучна, як з трыбуны, гаворыць чалавек у цывільным, які да таго, акрамя некалькіх застольных слоў: «Дзякуй», «Падайце гурочкі»,— больш нічога не казаў. Слухаў,— Народ абураны рабаўніцкім гвалтоўным мірам, зверствамі кайзераўскіх бандытаў. Даволі адной іскры — і загарыцца пажар усенароднага паўстання супроць немцаў. Няма сумнення, што пажар рэвалюцыі перакінецца і ў самую Германію...

— А калі не загарыцца там? Сырое там. Сырое!

— Вы наіўна разважаеце, малады чалавек.

— Саша, каб зразумець палітычную сітуацыю, трэба пажыць дома не адзін дзень. Тут рэвалюцыя. Бушуюць страсці.

— Еш, Саша.

— Саша і ў гімназіі быў задзірысты, як певень,— спрабуе жартаваць Юля.— Я рада бачыць цябе такім жа.

Лукашэвіч не чуе ўгавораў.

— Вы ваявалі? — зноў-такі з выклікам пытаецца ён.

Яму не адказваюць.

— Вып'ем, таварышы,— просіць гаспадар.

— Пі, Саша.

— Вы ваявалі?

Усе п'юць.

— Вы гнілі ў акопах у пінскіх балотах? — амаль крычыць ён.— Вы бачылі, як паміраюць людзі?

— Хутка з вас вытхнуўся патрыятызм. Ці не вы крычалі «ўра!»? — уедліва кідае Рам.

Так, я крычаў «ура!». Я! Але я пазнаў, што такое вайна. І што такое палон!.. А вы жарэце тут...

— Ну-у, Аляксандр!— дакарае гаспадар, стрымліваючы абурэнне
— Саша, Сашачка, сынок,— просіць маці.

Ён паварочваецца да яе, каб нешта сказаць, але бачыць у вачах яе слёзы і таму сціхае.

— Добра, мама, маўчу,— і куляе сваю чарку. Цягнецца да чаркі, каб наліць яшчэ, ды раптам позірк яго спыняецца на этыкетцы: на ёй партрэт барадатага імператара Фрыдрыха і надпісы па-нямецку.

Лукашэвіч адводзіць руку. Хавае рукі пад стол, быццам не давярае ім, сваім рукам.

Больш Лукашэвіч нічога не чуе. Увагу яго прыкавала гэта пляшка. Партрэт Фрыдрыха як бы растварается і замест яго выплывае фізіяномія імператара Вільгельма. Жывая. Кайзер задаволена ўсміхаецца. Там, у палоне, нагледзеўся на яго партрэты, і вось, п'янаму, уяўляецца чорт ведае што.

— Саша! Саша, дзе ты? — смяецца нявеста, тузаючы яго за рукаў.

Лукашэвіч адрываецца ад этыкеткі, вяртаецца да рэчаіснасці і рады, што побач маці і Юля. Глядзіць на адну, на другую. Круціць галавой, адганяючы прывід. Вінавата і ласкава ўсміхаецца.

За сталом яшчэ больш нечакана, чым Рам, як у казцы, з'яўляецца нізкі ростам, тоўсты, але надзвычай рухавы чалавек. Быццам вылез з-пад стала. Цяпер уся ўвага гаспадароў і гасцей, акрамя Лукашэвічаў, яму, гэтаму таўсцялю.

— Якаў Пятровіч!

— Якаў Пятровіч!..

Усе хочуць яму прыслужыць, але ніхто не паспявае гэтага зрабіць. Якаў Пятровіч сам з надзвычайнай рухавасцю налівае сабе, накладае гару закусі і есць з апетытам галоднага асілка. Ніткоўскі падхапіўся са свайго крэсла і, як лакей, круціцца за спіной новага госця. Сам бяжыць на кухню, прыносіць чыстую сурвэтку, прапануе госцю. І не дарэмна, бо ў таго ажно цячэ з рота.

Лукашэвіч хвіліну цвяроза, з цікавасцю назірае за Якавам Пятровічам і за сваім будучым цесцем.

Юлі, мабыць, трохі няёмка за бацьку, і яна шэпча Сашу на вуха, пэўна, тлумачыць, што за чалавек з'явіўся. Відаць, прадстаўляе яго з гумарам, бо сама смяецца, яўна хоча рассмяшыць і нарачонага, каб адцягнуць яго ўвагу ад усіх іншых, якія так яўна выдаюць, што вячэра гэтая сабрана зусім з іншай прычыны — не дзеля яго, Лукашэвіча.

Але прапаршчык не думае пра гэта. І каханую не чуе. Позірк яго гэтак жа, як перад тым на пляшцы, спыніўся на нагах Ніткоўскага, на... жоўтых крагах. І адразу ў вачах — нямецкі машыніст, які

нахіляецца і паказвае, у што абуты той чыноўнік перадатачнай камісіі, які перадае немцам вагоны. З краг вочы свае з ліхаманкавым бляскам Лукашэвіч пераводзіць на багаты стол і зноў на пляшку. І зноў ажывае барадаты імператар.

Рам ветліва пытае ў новага госця:

— Як справы ў палку, Якаў Пятровіч?

Той папярхнуўся. Непрыгожа, неахайна, бесцырымонна выплёўвае ежу на талерку. Адказвае злосна:

— Хрэн цана ўсёй вашай рабоце — вось якія справы! Чым вы займаліся тут? Пілі?

— Што вы! — апраўдваецца Ніткоўскі.

— Што з эшалонам? — пытае Якаў Пятровіч.

— Заўтра выступяць рабочыя, магчыма, чырвонаармейцы...

— Магчыма!

— ...і эшалон замест Германіі пойдзе назад у Маскву.

Госць падскочыў, як мяч, шыбнуў сурвэтку траха не ў твар Юлі.

— Вы што, ашалелі? Чаму ў Маскву?

— А куды? — здзіўляецца Ніткоўскі, такое ж здзіўленне на тварах іншых.

— Хлеб павінен астацца тут, у Оршы. Раздайце яго!

— У Оршы не галадаюць так, як у Маскве,— кажа чыгуначнік.

Якаў Пятровіч нагой адкідвае крэсла, на якім сядзеў, крычыць:

— З кім я маю справу? З гімназістамі ці з рэвалюцыянерамі?

— Гады вы! — Лукашэвіч сказаў ціха. Але словы гэтыя, што бомба, якая раптам упала на стол, усіх прымусілі замерці, застыць. Нават вяртлявага, абуранага, разгневанага прадстаўніка цэнтра.

— Што? — амаль шэптам пытаецца ён.

— Гады вы! — цвёрда паўтарае Лукашэвіч.

Якаў Пятровіч кідаецца да Ніткоўскага, крычыць яму:

— Што? Што такое? Хто тут? Хто тут прысутнічае?

Ніткоўскі наступае на Лукашэвіча:

— Што гэта такое, прапаршчык? Ты дзе знаходзішся, чорт вазьмі?! Малакасос!

Лукашэвіч лёгка ўзнімаецца на ногі і хапае пузатую пляшку. Ніткоўскі ды і ўсе іншыя спалохана адхіляюцца. Але хлопец зусім не думае біць іх. Ён пытаецца, знешне нават спакойна, паказваючы пляшку:

— А гэта што?

Яго не разумеюць. Гаспадыня наіўна тлумачыць:

— Гарэлка.

— Чыя? Адкуль?

— Апалон Кірылавіч выменяў яе ў немцаў.

— За што выменяў? За вагоны?

— За якія вагоны? Што ты вярзеш? — гаспадар бледны і ажно дрыжыць ад абурэння, спалоху,— Ён п'яны! Юля! Алена Паўлаўна! Вядзіце яго спаць! Спаць яго вядзіце!

— Божа мой!

— У добранькую кампанію я трапіў,— кажа Якаў Пятровіч.

— Віншую вас з зяцем,—уедліва кідае Рам.

Юля адбірае ў Сашы пляшку. Маці абдымае яго, як бы жадаючы загарадзіць ад гэтых узлаваных людзей. Яна плача, моліць:

— Саша, Сашачка! Які сорам! Хадзем дадому.

— Хадзем, мама, дадому,— пакорліва і зусім па-цвярозаму згаджаецца Лукашэвіч.

— Смаркач! Такую вячэру сапсаваў,— гаворыць эсэр у цывільным.

На вуліцы, каля агародчыка, плача Юля.

— Як ты змяніўся! Які ты стаў! Я не пазнаю цябе. Мне страшна.

Яе супакойвае Алена Паўлаўна:

— Усё наладзіцца, Юлечка. Не плач. Напакутаваўся чалавек, згаладаўся, выпіў і не стрываў... размоў іх не стрываў, бо страшныя яны, размовы іх. Вайны ім хочацца. Мала яшчэ крыві? Мала гора?

Лукашэвіч стаіць тут жа, за два крокі, і маўчыць. Прагна курыць. Зацягваецца так, што цыгарка ўспыхвае і асвятляе ў змроку яго твар, засяроджаны, задумлівы.

Яны вяртаюцца ў свой дом. Маці запальвае лямпу, глядзіць на Сашу з ласкавым дакорам:

— Нельга табе піць, сынок. Нервы ў цябе слабыя. Лукашэвіч скідае сурдут, расшпільвае манішку і,

здзіўляючы маці, надзяе свой паношаны, залатаны вайсковы фрэнч. Падыходзіць да бацькавых дзвярэй, гукае:

— Тата!

— Га.

— Не спіш? Мне трэба параіцца з табой. Стары Лукашэвіч кашляе за дзвярамі.

— Чакай. Я выйду на святло.

Раніца. Сонца яшчэ за старымі ліпамі прывакзальнага сквера. Яшчэ не высахла раса на рэйках. І на траве раса. На кустах. Станцыя яшчэ спіць — ні гуку. Толькі ў горадзе галасіста спяваюць пеўні.

Уздоўж таго ж эшалона з хлебам ідуць Даніла Івашчанка і Лукашэвіч.

— Хто яны? — пытаецца камісар, спыніўшыся і павярнуўшыся да прапаршчыка.

— Гэтага я не магу сказаць. Я не даносчык!

— Афіцэрскі гонар? — з іроніяй пытае Івашчанка.

— Але, гонар!., афіцэрскі! — задзірыста і пакрыўджана адказвае Лукашэвіч.

— Чорт бы яго ўзяў, ваш гонар! — але лаецца камісар лагодна,— добра, дзякуй і за тое, што сказаў... Думаю, што гэта не правакацыя.

— Слова афіцэра!

— Увогуле я даўно перастаў верыць афіцэрскім словам, але твайму слову, прапаршчык, веру. Дзякую ад імя рэвалюцыі,— ён моцна цісне Лукашэвічу руку.

Доўгі састаў з дрывамі. Падчэплены паравоз. Дыміць. У топцы добра пашуравалі — з трубы ажно іскры ляцяць. З-пад пярэдняга вагона вылазіць Івашчанка. Спрытна ўскоквае на высокія ўсходы паравознай будкі.

У топцы гудзе полымя. Але машыніст і качагар мірна снедаюць перад дарогай. Сядзяць на бярозавых чурбаках, якія неўзабаве апынуцца ў топцы; на скрынцы, у якой інструменты, на замасленай газеце ляжыць ежа: хлеб, маладая цыбуля, невялічкая лустачка сала, разрэзаная напалам, стаяць конаўкі з варам.

Ян Карлавіч радасна вітае камісара.

— О, ранні госць! Шчаслівы — пад снеданне. Сядай, Іванавіч.

— Няма калі снедаць.

— Гэта ты дарэмна. Калі не паснедаеш, то які з цябе работнік будзе!

Машыніст разразае сваю лустачку сала і сваю скібку хлеба.

Качагар пратэстуе:

— Дзядзька Ян!

Пятро, табе трэба двайная цяга, а мы з камісарам і на адной пацягнем.

— Рэйс ваш прыйдзецца адкласці,— гаворыць Івашчанка.

— Што ты, Іванавіч! Дровы для Масквы! Там яны патрэбны, як хлеб.

— Маю звесткі: контра хоча напасці на эшалон з хлебам. Трэба падняць бальшавікоў, Ян Карлавіч. Ты — сакратар ячэйкі.

Паравоз ідзе заднім ходам. Міма эшалона з хлебам. Вартавыя — цяпер іх некалькі — праводзяць яго здзіўленымі позіркамі. Але з будкі выглядвае камісар станцыі — і вартавыя супакойваюцца. Паравоз імчыць на захад, да Оршы-Тацарнай, да якой, аднак, праехаць нельга: яна адгароджана калючым дротам, там — немцы. З барака

выскокваюць чырвонаармейцы. Правяраюць стрэлку. Усё ў парадку: паравоз можа зайсці толькі ў тупік. З нямецкага боку бліскаюць бінoклі. Паравоз спыняецца з ходу.

Івашчанка саскоквае на зямлю. Насустрач яму ідзе камандзір пагранічнай часці. Па-свойску лаецца:

— Ты што, такую тваю, парушаеш парадак? Гэта ўжо звышпанства — на паравозе ездзіць. Што здарылася?

— Маю звесткі: контра хоча напасці на эшалон з хлебам для нашых палонных.

— Чакай. Учора тут, у палку, круціўся адзін вось такі,— паказвае аршын ад зямлі.— Ад ЦК левых эсэраў. Падбіваў байцоў на правакацыі на лініі міру. Я асабіста даў яму каленам у зад. Эх, як ён крычаў! Між іншым, пра хлеб гэта ён таксама распінаўся: маўляў, кормім нямецкіх імперыялістаў і сваё афіцар'ё. Скажу па сакрэту: у некаторых адсталых элементаў ускаламуціў ён мазгі гэтым хлебам. Маю данясенні камісараў рот. Не вераць, што хлеб гэты атрымаюць палонныя.

— Левы эсэр? Так, праясняецца. А наконт хлеба — я прышлю чалавека, які ўчора вярнуўся з палону. Ён раскажа, як там паміраюць нашы. А ты дай мне на сёння «максіма». На ўсялякі выпадак пастаўлю на воданапорнай. За кулямётчыка пашлі свядомага бальшавіка. І трымай вуха востра. Калі заварыцца каша, памагай.

— Гэта яны перад з'ездам муцяць ваду, эсэры?

— Напэўна.

— Гнаць іх трэба з Саветаў!

Івашчанка, па-матроску шырока расстаўляючы ногі, як на палубе, хутка ідзе па прывакзальнай плошчы. Узыходзіць на ганак двухпавярховага дома.

У пакоі працуе некалькі чалавек. У цэнтры — за самым вялікім сталом — Ніткоўскі, ён — начальнік. Адзін са служачых кідае на камісара, які ўвайшоў, шырока і шумна адчыніўшы дзверы, выразна нядобразычлівы позірк. Другі вітаецца па-вайсковаму лісліва:

— Здравія жадаю, таварыш камісар!

Ніткоўскі паважна паднімаецца, выходзіць з-за стала ступае насустрач з працягнутай рукой.

Івашчанка пацiскае яму руку і ветліва кажа:

— Апалон Кірылавіч, тэлеграфуйце немцам: праз гадзіну-дзве перадамо эшалон з хлебам.

Ніткоўскі здзіўлены.

— Даніла Іванавіч! Чаму такая спешка? Не гатовы дакументы.

— Колькі трэба часу падрыхтаваць дакументы?

— Ды гадзін...— азіраецца на саслужыўцаў, просячы іх падтрымкі,— пяць.

Нядобразычлівец уедліва ўсміхаецца.

— Пяць гадзін? А што рабілі ўчора?

— Ведаеце, я хацеў папрацаваць увечары. Перакласці акт, накладныя. Немцы любяць акуратнасць Але вярнуўся з палону жаніх маёй дачкі. Падзея! Трэба было неяк адзначыць. Пасядзець. Два гады пакутаваў чалавек

Дык вось дзе быў прапаршчык! Вось дзе змова' — чытаецца на твары камісара. Але выдае ён свае думкі хіба толькі тым, што трохі здзіўлена, быццам бачыць упершыню, аглядае высокую постаць Ніткоўскага. Позірк яго затрымліваецца на жоўтых крагах. Надоўга затрымліваецца. Недаўменна глядзіць на свае ногі сам Ніткоўскі і глядзяць на яго ногі служачыя. Што ўбачыў у іх камісар? Нарэшце Івашчанка адрывае вочы ад краг. Шырокі дабрадушны твар яго — твар селяніна — робіцца суровы і жорсткі. Голас як бы раптам ахрып, але праз хрыпату гэтую прарываецца гнеўны звон:

— Дайце дакументы. Я сам падрыхтую!

Ніткоўскі адступае за стол, быццам спрабуе схавацца: твар яшчэ больш выцягваецца.

— Гэта што? Недавер?

— Дайце дакументы! — камісар падыходзіць да стала, углядаецца ў паперы, якія ляжаць там, мяркуючы што гэта тыя, якія патрэбны.

Але Ніткоўскі нахіляецца і лезе ў ніжнюю шуфляду стала, корпаецца там. Рукі яго калоцяцца, карак пунсавее.

— Вунь як вы рыхтуеце іх! Дарэчы, заадно дайце ўсе акты на вагоны, якія перадалі...

Ніткоўскі імкліва выпростваецца.

— На якія вагоны?

— На нашы вагоны. Якія немцы павінны вярнуць нам.

Чыноўніку, што ўедліва ўсміхаўся ўвесь час, больш не да ўсмешак, ён уціскае галаву ў плечы, здаецца, гатовы палезці пад стол.

Старшыня перадатачнай камісіі, забыўшыся, выдае сябе: прыціскае руку да сэрца, пальцы сутаргава камечаць фрэнч.

На пероне Івашчанку абкружаюць пасажыры: натоўп разнастайны — сяляне з мяшкамі, салдаты, абываценлі. Паводзяць сябе стрымана, не крычаць, не абураюцца, як гэта было звычайна ў той час на станцыях. Тут, на пагранічнай станцыі, свае законы.

Скардзяцца, просяць.

— Чаму не адыходзіць поезд на Смаленск?

— Усю раніцу сядзім у вагонах.

Чаму не адыходзіць поезд? Камісару не да таго, каб разбірацца з гэтым. Пасажырскія цягнікі часам стаяць суткамі — нічога дзіўнага: то няма паравоза, то няма брыгады — спатрэбілася для больш важнага маршруту. Але ў той сітуацыі, якая мае скласціся тут, лепш, каб на станцыі асталося менш людзей.

Івашчанка задумваецца, нешта прыкідвае ў галаве і цвёрда абяцае:

— Грамадзяне, супакойцеся. Паедзеце праз гадзіну.

Гадзіна ў той час мала што значыла, таму пасажыры грамадой спяшаюцца да вагонаў.

Сярод іх — Лукашэвіч.

Камісар убачыў яго, затрымлівае:

— Хвіліначку, прапаршчык. Вы таксама едзеце?

— Мне трэба ў Маскву. Маю наказ таварышаў па няшчасцю, свайго лагернага камандзіра расказаць высокаму дзяржаўнаму органу аб становішчы палонных. Я даў слова.

— Я пасаджу вас на састаў, які давязе да самай Масквы. І афармлю дакументы. Інакш вам будзе цяжка. Час ваенны. А цяпер прашу: памажыце мне аформіць дакументы на перадачу вось гэтага хлеба,— ён ківае на знаёмы састаў.

Лукашэвіч у нерашучасці, вагаецца.

Твар камісара перасмыкаецца ад злоснай ухмылкі, ён груба пытае:

— Што... афіцэрскі гонар дазваляе толькі словы прыгожыя гаварыць? Ты практычна памажы таварышам у бядзе!

Лукашэвіч сцяміў, што камісар зразумеў яго ваганні як адмову, і збянтэжана запэўняе:

— Не... я памагу... я памагу! Але... але...— і раптам адважваецца — як у халодную ваду нырае: — Дазвольце зайсці ў апаратную... на тэлеграф. Там — мая нявеста... А я... я ўчора... нахаміў... трохі.

Камісар нейкі момант падазрона ўзіраецца ў Лукашэвічаў твар: ці не змова тут? Але прапаршчык вельмі ж падобны ў гэты момант на закаханага гімназіста — чырванее, заікаецца. Ды і якую тайну ён можа выдаць? Што ён, Івашчанка, хоча хутчэй перадаць эшалон з хлебам нямецкім чыгуначным уладам? Дык гэта ўсім вядома. Гэта абавязак не толькі яго — усіх, хто служыць тут.

— Нявесту наведай, канешне. Калі пасварыўся — перапрасі. Дзеўкі любяць, каб іх перапрошвалі.

Лукашэвіч стаіць перад дзвярамі тэлеграфнай — не адважваецца зайсці. Але за спіной у калідоры ходзіць вартавы,

глядзіць на яго, таму доўга стаяць няёмка. Ён рашуча адчыняе дзверы і хутка зачыняе іх за сабой.

Юля адрываецца ад апарата, глядзіць на яго.

Прапаршчык, нябога, пасля ўчарашняга чакаў «грому і маланкі». А таму яшчэ больш разгубіўся, калі сустрэў позірк, поўны сонечнай радасці.

Юля кінулася яму насустрач.

— Саша! Які ж ты малайчына, што прыйшоў сюды!

Ён падае перад ёй на калена.

— Даруй, Юля.

— Завошта?

— За ўчарашняе. Я нахаміў...

— Божа мой! Хіба я не разумею. Ты столькі пакутаваў. Згаладаўся. Ап'янеў...

Але, ап'янеў... Ты — мой добры ангел,— прыціскае яе руку да вуснаў.

Але Юля падхоплівае яго, як малога, пад рукі, падымае і горача цалуе ў вусны.

— Я заўсёды разумела цябе. Як ніхто. Помніш, у гімназіі?

Саша п'янее ад яе ласкі, ад яе блізкасці, пра якую столькі марыў. Цяпер ужо ён смела абдымае каханую. Шэпча:

— І ты заўсёды была са мной. У акопах. І там, у лагерных бараках. І ты давала мне сілы ўсё адужаць. Бяссоннымі начамі, а іх было сотні, я сачыняў табе пісьмы.

І тут жа «чытаў» твае адказы. О, каб я мог запісаць іх, свае пісьмы і твае...

— Якія сачыняў ты? — смяецца Юля.

— Ты не смейся.

— Я смяюся ад радасці.

— Каб можна было ўсё запісаць. Такой кнігі не ведаў яшчэ свет! Людзі плакалі б, чытаючы яе. І я ўпэўнены — рабіліся б лепшымі, дабрэйшымі. Гэта быў бы прысуд вайне. Людзі павінны вынесці вайне прысуд. Юля! Гэта страшна! Гэта антычалавечна, Юля!

— А як ты рваўся на вайну?

— Мне сорамна! Мне сорамна ўспамінаць той свой парыў.

— Але ты такі ж ідэаліст, Саша. У цябе заўсёды крайнасці.

Ён на момант задумваецца, як бы прыслухоўваецца да сябе — які ён?

— Не, Юля, больш я не ідэаліст.

— Што ты ўчора плёў пра нейкія вагоны?

— Пра вагоны? — Саша задумваецца, на твары яго цень развагі — сказаць шчыра? — але мабыць тут жа ўспамінае, што ён сапраўды не ідэаліст ужо, што ёсць рэчы, пра якія лепш змоўчаць.— Не помню. Далібог, не помню.

— Не магу ўявіць, як можна напіцца так, каб нічога не помніць. І на фронце ты так напіваўся?

— Напіваўся! — адказвае ён жорстка і амаль з выклікам.

Зумерыць апарат. Пачынае стракатаць. Юля ідзе на сваё месца, садзіцца, чытае тэлеграфную стужку. Схіляецца, запісвае тэлеграму.

Лукашэвіч стаіць ззаду, глядзіць на яе падстрыжаныя валасы, на прывабную дзявочую шыю. Не стрымліваецца — пяшчотна дакранаецца да шыі вуснамі. Кажа:

— Але ты не бойся: больш я не буду піць,— ходзіць за яе спіной,— Там я цвёрда рашыў: бог дасць, вярнуся — і адразу пачну новае жыццё. К чорту палітыку! Хопіць! К чорту дурныя сябелюбныя думкі пра сваю выключнасць, імкненне некуды ўгору. Нікуды я не хочу больш! Нікуды! Навошта? Стану простым тэлеграфістам, як мой бацька. Мы разам будзем хадзіць на працу. Не, ты не будзеш хадзіць!

Юля афармляе тэлеграму — піша дату, гадзіну, і, не адрываючыся ад працы, адказвае:

— Зноў крайнасць, Саша. У наш час без палітыкі не пражывеш. Помніш з гімназіі? «Закат в крови! Из сердца кровь струится. Покоя нет! Покой нам только снится!» Забыла далей.

Ад гэтага прапаршчыку робіцца чамусьці балюча.. Можа, вершы нагадалі барак і таварышаў па бядзе? Ці балюча ад таго, што каханая забыла тое, што разам, чыталі, што ён так любіў? ён стогне:

— О божа!

— Чаго ты?

У адказ ён нечакана просіць:

— Дай паспрабую: не забыў я Морзе?

Дзяўчына ахвотна ўступае месца.

— На. Перадай, што адпраўка эшалона з дровамі адкладваецца.

З вузкай вуліцы на прывакзальную плошчу высыпае натоўп людзей — дэманстрацыя. Але не падобна яна на баявыя згуртаваныя дэманстрацыі рэвалюцыі, калі са сцягамі і плакатамі ішлі аднадумцы — рабочыя заводаў, салдаты, ішлі дружна, імкліва, бо была ясная мэта і наперадзе крочылі арганізатары і важакі.

Тут выйшлі людзі, якія не ведалі сілы сапраўдных дэманстрацый, розныя людзі: жанчыны, дзеці, былыя салдаты, абывацелі, магчыма, былыя прыказчыкі, адзетыя пад рабочых, мардатыя сяляне ў лапцях. Было гэтых людзей сотні паўтары. На плошчы яны спыніліся, яўна не

ведаючы, што ж рабіць далей, бо кіраўнікі і «рэжысёры» не выйшлі наперад; яны стаяць збоку, у завулку за скверыкам, каля пакгауза — Ніткоўскі; нізкі, тоўсты і рухавы прадстаўнік цэнтра Якаў Пятровіч; чыгуначнік і маўклівы цывільны, што прысутнічалі на вячэры ў Ніткоўскага.

Над натоўпам — плакаты са свежымі падцёкамі аднае і той жа фарбы:

«Ні грама хлеба нямецкім імперыялістам!»

«Далоў ганебны мір!»

«Нашы дзеці галадаюць».

«Няхай жыве сусветная рэвалюцыя!»

Лукашэвіч і Юля глядзяць на натоўп з акна тэлеграфнай. Дзяўчына радасна-ўзбуджаная.

— Нашы прыйшлі.

— Хто гэта вашы? — змрочна пытае прапаршчык.

— Народ. Хіба не бачыш? Цяпер няхай пакруціцца матрос!

— Ты радуешся? Юля!

— Часам мне, як і табе, хочацца цішыні, а часам — каб усё навокал крышылі, ламалі... Каб бушавала стыхія.

Лукашэвіч паварочваецца да дзяўчыны, сціскае яе плячо.

— Юля! Гэта хлеб для дзяцей, якія паміраюць... Калі Ленін памагае ім, я — за Леніна.

Яна нервова смяецца.

— Гэта ж палітыка, Саша. А ты толькі што абяцаў не ўмешвацца ў палітыку. Давай пастаімо збоку.

— Я пайду паслухаю.

— Саша, не лезь, калі каша заварыцца.

— Хіба могуць біцца?

— Усё можа быць. Ты абяцаў не ўмешвацца ў палітыку.

— Добра. Я пастаю збоку.

Камісар Івашчанка, Ян Карлавіч, яшчэ тры чалавекі з Аршанскага Савета выходзяць з дзвярэй вакзала і ідуць да дэманстрантаў.

Убачыўшы іх, натоўп заварушыўся, абурана загудзеў, стоўпіўся шчыльней. Наперад выходзіць тоўстая старая. Яна трымае за рукі худзенькіх змарнелых дзяцей, хлопчыка і дзяўчынку. Дзеці спалохана хаваюцца за яе. У бабы ваяўнічы выгляд. Гэтак жа ваяўніча выступае побач з ёй мужык у доўгай белай саматканай кашулі, у лапцях.

Трэці прадстаўнік народа — сапраўды чалавек змарнелы, відаць, сухотнік, гараджанін, магчыма, настаўнік.

Баба ведае, хто адказвае за эшалон, бо адразу звяртаецца да Івашчанкі і адразу пачынае крычаць:

— Бачыш іх? — выштурхоўвае наперад спалоханых дзяцей.— Яны ад голаду папухлі. А вы прэце наш хлеб германцам, супастатам, буржуям ненасытным, яны крывёй нашай абліліся.

— Цётка, хлеб не буржуям, хлеб нашым палонным, яны галадаюць.

— Во што нашы налучаць,— баба падносіць Івашчанку дулю.

У натоўпе смяюцца. Але тут жа крычаць:

— Правільна кажа!

— Прадатрады выграбаюць у мужыка ўсё да зернетка. Для рабочых, кажуць, галадаючых. Ажно вунь куды яго гоняць! — гудзе мужык, азіраючыся на натоўп; ён яўна чагосьці баіцца, і ў словах яго мала ўпэўненасці.

— Вярніце наш хлеб! Даволі! Эшалон не пойдзе ў Германію! На рэйкі ляжам! — звонка крычыць сухотнік.

У яго хапае ўпэўненасці. Такі можа легчы і пад колы. Палымянасць яго перадаецца натоўпу.

— Аддайце хлеб!

— Згоднікі!

— Рабаўнікі!

Івашчанка паднімае руку, просіць увагі. Яго не хочуць слухаць. Ён крычыць:

— Грамадзяне! Вас падбіваюць на контррэвалюцыйную правакацыю. Эшалон пойдзе ў Германію! Гэта хлеб для нашых ваеннапалонных. Яго пасылаюць па ўказанню таварыша Леніна!

Ян Карлавіч нечакана ідзе ў натоўп, смела расштурхоўваючы дэманстрантаў.

Усе глядзяць на старога машыніста.

У глыбіні натоўпу за іншымі плакатамі ўзнімаецца зноў-такі той жа фарбай намаляваны плакат: «Далоў згоднікаў з немцамі — бальшавікоў».

Ян Карлавіч вырывае з рук маладога мужчыны гэты плакат.

— Ах ты, контра!

Мужчына разгубіўся, сумеўся. Апраўдваецца:

— А я што? Мне далі.

— Ах, табе далі? — Ян Карлавіч хацеў было паламаць плакат, растаптаць кардонку, на якой напісалі паганыя словы. Але не ламае. Ідзе назад. Людзі яго прапускаюць, хоць і гудзяць. Ян Карлавіч на міг паднімае кардонку.

— Во! Хіба гэта не гаворыць, што за вашай спіной стаяць тыя, хто падбіў на мяцеж чэхаў, хто штурхае нас на вайну з немцамі?

Яго слухаюць.

Яны стаяць не за спіной — збоку, «рэжысёры» дэманстрацыі. Ад пакгауза падышлі бліжэй — у скверык, каб было чуваць, пра што тут гавораць. Нібыта староннія назіральнікі. Толькі мужчына ў цывільным некуды знік.

З другога боку на плошчы адзінока стаіць Лукашэвіч. Камісар убачыў яго, кліча:

— Хадзіце сюды, прапаршчык! — і звяртаецца да людзей: — Во чалавек, які толькі ўчора з палону. Ён раскажа, як там паміраюць з голаду рускія салдаты.

Усталявалася цішыня. На прапаршчыка глядзяць з цікавасцю. Чакаюць. Захоплены знянацку, Лукашэвіч разгублена пераступае з нагі на нагу, не ведаючы, як стаць, з чаго пачаць размову з гэтымі разгневанымі людзьмі. Ды сказаць яму не даюць і двух слоў.

На пуцях, там, дзе стаіць эшалон з хлебам,— крыкі. І стрэлы. Адзін. Другі. Івашчанка першы кідаецца туды. Следам за ім — яго таварышы. А за імі — уся дэманстрацыя. З крыкам. Свістам. Эсэры-«рэжысёры», не дарэмна яны стаялі ў скверыку, бліжэй да варот, выбягаюць на перон адначасова з бальшавікамі.

Правакацыя была задумана хітра. Арганізатары разумелі, што падбіць усіх дэманстрантаў на разгром эшалона немагчыма: з патрабаваннем хлеба прыйшло многа людзей несвядомых, але сумленных ці баязлівых абывацеляў. Таму ў час размовы прадстаўнікоў Савецкай улады з натоўпам з пасажырскіх вагонаў цягніка, які павінен быў ісці ў Смаленск, выскачыла банда рабаўнікоў. Збілі вартавога, пачалі зрываць пломбы з вагонаў, адчыняць іх.

Разлік быў дакладны. Пры такім вэрхале да эшалона кінуцца ўсе. Адны — ратаваць хлеб, другія — паласавацца гэтым хлебам.

Але левыя эсэры спланавалі напад на эшалон да таго, як Івашчанка ўзмацніў ахову. Эшалон цяпер ахоўвала не два чалавекі, а, па сутнасці, увесь каравульны ўзвод. Аднаго вартавога збілі. А сусед яго адкрыў па рабаўніках агонь.

Пераскокваючы цераз шпалы, цераз рэйкі бягуць людзі. Усе змяшаліся. Абаронцы эшалона, рабаўнікі, служачыя-чыгуначнікі. У вузкім праходзе паміж двума саставамі Лукашэвіч даганяе нізкарослага тоўстага чалавека, які адстаў ад іншых, задыхаўся. Пазнае ў ім учарашняга госця Ніткоўскіх — Якава Пятровіча.

На даху вагона з'яўляецца постаць у матроскім бушлаце. Івашчанка страляе з маўзера ўгору. Крычыць:

— Спакойна, таварышы!

Тоўсты эсэр выхоплівае з кішэні наган, цэліцца ў камісара. Лукашэвіч падбягае і б'е яго па руцэ. Наган ляціць на зямлю.

Яны стаяць тварам у твар. Эсэр перасмыкаецца ад злосці, лезе на прапаршчыка з кулакамі.

— А-а, зяцёк... падла.

Лукашэвіч размахваецца і б'е яго ў тоўстую морду. Тлустае мяккае цела, як мяшок з мукой, ляціць пад вагон. Па-бабску пранізлівы лямант эсэра перапыняе кулямёт. Ён пачынае біць з воданапорнай вежы. Кулі свішчуць над эшалонам, над галовамі людзей. І ўсе, хто прыбег сюды, да эшалона, з благім намерам — парабаваць, кідаюцца назад, лезуць пад вагон састава з дрывамі, са спрытам спалоханых кошак пераскокваюць цераз плот, што адгароджвае станцыю ад прывакзальнай вуліцы і плошчы.

На даху вагона з хлебам, як на палубе, шырока расставіўшы ногі, Івашчанка засоўвае маўзер у драўляную кабуру і са стрыманай усмешкай назірае з вышыні, як разбягаюцца рабаўнікі.

У тым жа вакзальным пакоі, дзе Івашчанка і Лукашэвіч сустрэліся ўпершыню, зноў яны ўдвух. Але цяпер за сталом сядзіць прапаршчык, разбірае паперы; іх нямала.

Камісар ходзіць па пакоі, усхваляваны, устрывожаны.

— Разабраўся?

— Разабраўся. Але да ліха іх тут цяпер. І накладныя, і акты, і пратаколы.

— Напладзілі такія... як Ніткоўскі... знарок, каб нашаму брату цяжэй было правяраць іх.

— Відаць, патрабуюць немцы,— не паднімаючы галавы, адказвае Лукашэвіч.

Камісар спыняецца перад сталом, глядзіць на яго, не сказаць каб падазрона, а як бы са шкадаваннем: маўляў, добры ты хлопец, а падтрымліваеш гада, таму што ён твой будучы цесць.

Лукашэвіч адрываецца ад папер, позіркі іх сустракаюцца, яны чытаюць думкі адзін аднаго, хоць не зусім дакладна.

— Ведаеце, якія яны акуратысты? Нават падлічвалі, колькі палонных за дзень наведвае прыбіральню.

— Чорт з імі, з немцамі! Нам трэба хутчэй перадаць ім эшалон. Пастарайся, Саша,— просіць камісар проста, па-сяброўску шчыра.— Добра б сёння перадаць. Каб не было спакусы ні для каго. А то ўначы могуць зноў якую правакацыю ўчыніць. І так тры чалавекі ранены. Наган, які ты знайшоў каля вагона, трывожыць мяне. Значыцца, ішлі са зброяй. Маглі страляць.

Лукашэвіч апускае галаву ніжэй, ён зноў не сказаў усяе праўды, як і раніцой, і яму сорамна.

У пакой уваходзіць намеснік начальніка павятовай ЧК Рам — той, што быў у гасцях у Ніткоўскага. З ім — два чэкісты. Усе трое ў чорных скураных тужурках, хоць на двары спёка — ліпень.

Івашчанка ўзрадаваўся іх прыходу. Ідзе насустрач.

— Здароў, Рам. Малайцы, што так хутка з'явіліся.

Трэба разабрацца ў гэтай правакацыі. Тут пахне контррэвалюцыяй.

Камісар станцыі працягвае руку, але Рам трымае свае рукі ў кішэнях скуранкі.

— За расстрэл мірнай дэманстрацыі я ўпаўнаважаны арыштаваць вас, Івашчанка.

— Мяне? — Івашчанка адступае назад да стала.— Ты што, з глузду з'ехаў? Якой мірнай? Які расстрэл? Страляў вартавы, якога ранілі і сарвалі пломбы з вагонаў.

Рам дастае з кішэні паперу, здалёк паказвае яе.

— Ёсць санкцыя губеранскай ЧК.

— Ты калі паспеў атрымаць яе, санкцыю? Пакажы. Хто падпісаў?

Рам хавае паперу назад у кішэню, крывіцца ва ўедлівай усмешцы.

— А ты думаў, можна беспакарана расстрэльваць людзей?

— Ах, сволач!

— За абразу ЧК — асобая стацця. Здаць зброю!

— Не! — Івашчанка ў гневе хапаецца за кабуру.

Але чэкісты, якія ў час размовы выйшлі наперад, па

сутнасці, абкружылі яго, спрытна, умела скручваюць яму рукі назад. Рам падыходзіць, выцягвае з кабуры маўзер, абмацвае кішэні.

— Дурань! — скрыпача зубамі камісар,— Я — дурань, забыўся, хто ты. Ты ж — эсэр. Толькі не левы. Не. Ты правей Керанскага, сволач. І тое, што ты робіш, гэта — контррэвалюцыя.

— За супраціўленне ЧК — асобая стацця,— Рам гаворыць нібыта лагодна, але з яўным здзекам пераможцы.

Лукашэвіч стаіць за сталом, ашаломлены такой нечаканай прыгодай. Але ў той час, калі Рам абмацвае камісаравы кішэні, прапаршчык ледзь прыкметным рухам накрывае паперамі наган, які выбіў у тоўстага эсэра.

Рам звяртаецца да яго, груба, злосна:

— А вы што тут робіце?

— Дык вось перакладаю дакументы... на перадачу хлеба.

Івашчанка стогне, быццам яму занадта балюча скруцілі рукі. З дакорам глядзіць на свайго памочніка.

Рам з незвычайнай паспешлівасцю кідаецца да стала, зграбае паперы. Пад імі — наган.

— Чый?

— Аднаго з тых, што грамілі вагоны.

Рам, здзекліва-спакойны ў адносінах камісара, злосна крычыць Лукашэвічу:

— Не блытайся пад нагамі, жаніх! Растопчуць!

— Ты як гаворыш з людзьмі, контра? — абураецца Івашчанка.

У тэлеграфнай Юля стаіць каля адчыненага акна, глядзіць на сквер, на ліпы ў квецені. Дыхае спёкай летні дзень. Юля ціха спявае раманс. На твары яе спакой і раздасць. Зусім іншае на твары ў яе каханага. У глыбокай задуме Лукашэвіч праходзіць па апаратнай, спыняецца за спіной у дзяўчыны. Але яго не радуе ні сонца, ні зеляніна. Ён думае пра іншае.

— Сапраўды мне цяжка разабрацца ў вашай барацьбе. Але арышт камісара — гэта ўдар у спіну. Забаронены прыём.

— Ох, даўся ён табе, гэты камісар! За суткі зрабіў з цябе бальшавіка,— Юля не задаволена, што ён перапыняе раманс, кідае цень на яе лірычны настрой.— ЧК — іх, бальшавіцкі, плод. Няхай пакаштуе.— Раптам на твары яе з'яўляецца хітрая ўсмешка. Яна паварочваецца да Сашы, гаворыць з жаночым какецтвам: — Ён прапаноўваў мне сваю любоў.

Лукашэвіч хмурыцца: непрыемна чуць такое.

— Але я засмяялася яму ў твар. Хіба не смешна?

— Чаму смешна?

— Ты можаш уявіць мяне жонкай гэтага мужлана?

На плошчы з'яўляецца высокі Ніткоўскі і нізенькі эсэр — прадстаўнік цэнтра. Спешліва ідуць на перон. Юля стаіць спіной і не бачыць іх. А Лукашэвіч убачыў. Абдымае дзяўчыну, адводзіць ад акна, цалуе.

Юля радасна смяецца, сама цягнецца яшчэ раз пацалавацца.

— Я люблю цябе,— кажа яна.

— І я люблю цябе.

Саша выпускае яе з абдымкаў, ідзе да апарата.

Дзяўчына вяртаецца да акна. Прапаршчык хутка выстуквае ключом.

Юля чытае марзянку:

— Я лю-б-л-ю ця-бе. Я вель-мі лю-б-лю ця-бе. Мас-ква. Ле-ні-ну. Я люб-лю Ю-лю.

Юля рагоча.

— Тэлеграфуй Леніну, Вільгельму, Лойд-Джорджу, што ты любіш мяне.

За смехам яна не пачула, як ён уключыў апарат. Ключ пачынае працаваць з ліхаманкавай хуткасцю, І тэлеграфістка не адразу зразумела, што адбылося, не адразу схапіла тэкст тэлеграмы. Паўтарае апошнія словы:

— Прашу дапамогі. Камісар Івашчанка.

Яна кідаецца да апарата.

— Што ты робіш? Што ты перадаеш? — выключае апарат, цягне назад стужку, чытае.— Ты што гэта перадаў? Здраднік!

Лукашэвіч падымаецца спакойна, з выглядам чалавека, які зрабіў самае галоўнае з таго, што наканавана яму ў жыцці. Пытае:

— Я — здраднік?

— Ты! Ты!

— Не! Здраднік твой бацька. Ён прадае немцам вагоны і штурхае мяне зноў на смерць. Хоча ўкрасці хлеб галодных і выдае сябе за абаронцу галадаючых...

Юля кідаецца на каханага з кулакамі.

— Зноў пра вагоны? Хлус! Камісараў падбрэхіч! Якія вагоны?

Саша хапае яе за рукі, моцна сціскае іх.

— Калі ты можаш выслухаць спакойна, я табе раскажу, якія вагоны.

Уваходзяць Ніткоўскі і тоўсты эсэр. Ніткоўскі, убачыўшы дачку і будучага зяця ў такой паставе, падазрона пытае:

— Што вы робіце?

— Я? — Лукашэвіч выпускае рукі дзяўчыны,— Цалую сваю нявесту.

Юля, апусціўшы галаву, як бы засаромеўшыся, адыходзіць у дальні куток пакоя.

— Юля! Каб пра гэты эшалон нікуды ніводнага слова не пайшло. Ясна?

Юля маўчыць.

Тоўсты эсэр з нянавісцю зіркае на Лукашэвіча, гладзіць сваю распухлую шчаку.

Прапаршчык у сваю чаргу пaглядае на яго дзёрзка і насмешліва. Эсэр перасмыкаецца ад такога позірку, дастае з кішэні штаноў наган, магчыма, той самы, перакладае яго ў кішэню пінжака: маўляў, сцеражыся!

Ленін абедае на кухні сваёй крамлёўскай кватэры. Есць суп з апетытам чалавека, які хораша папрацаваў.

Гаспадыня стаіць каля пліты, па-сялянску падпёршы далоняй шчаку, глядзіць на правадыра з любоўю маці.

— Выдатны суп, Аляксандра Міхайлаўна. Выдатны. Дзякую.

— Суп як суп. Хлеба мала. Няхай бы вам больш давалі.

— Хлеба? Не, хлеба даволі,— але тут жа думка Ільіча набывае іншы маштаб, на лобе з'яўляюцца зморшчыш, ён уздыхае і згаджаецца: — Але, хлеба мала. Мала ў нас хлеба. Хоць хлеб ёсць у кулакоў. Ад таго, колькі мы яго здабудзем, залежыць лёс рэвалюцыі.

— Учора сюды мужыкі прыходзілі. Скардзіліся на атрады, што хлеб забіраюць.

Ільіч хмурыцца. Ён падняўся. Ходзіць па кухні, характэрна заклаўшы рукі за спіну.

— Мужыкі, Аляксандра Міхайлаўна, розныя. Лішкі хлеба канфіскуем у кулака. Без прадтавараў горад... рабочыя памруць з голаду, і буржуазія задушыць рэвалюцыю.

Ленін убачыў праз адчыненыя дзверы сакратара СНК Гарбунова, які ціха ўвайшоў у калідор кватэры.

— Заходзьце, Мікалай Пятровіч. Заходзьце. Хочаце супу? Выдатны суп.

— Дзякую, Уладзімір Ільіч. Паступіла тэлеграма... па-мойму, адна з тых, пра якія вы прасілі паведамляць неадкладна.

Падае тэлеграму.

Ленін хутка чытае яе.

— Але, гэта архітэрмінова! — Паварочваецца да гаспадыні.— Вось, Аляксандра Міхайлаўна. Зноў хлеб! Хлеб для нашых палонных у Германіі. Мікалай Пятровіч, папрасіце, калі ласка, да мяне таварыша Дзяржынскага.

Кабінет Леніна ў Саўнаркоме.

Дзяржынскі стаіць каля стала, чытае тую ж тэлеграму. Чытае залішне доўга.

Уладзімір Ільіч сядзіць у рабочым крэсле, глядзіць на старшыню ВЧК. Чакае.

Дзяржынскі чытае тэкст уголас:

— Масква. Леніну. Эсэры затрымалі эшалон хлебам Германію. Прашу дапамогі. Камісар Івашчанка. З Оршы?

— З Оршы,— адказвае Ленін і паднімаецца.— Што вы скажаце, Фелікс Эдмундавіч?

— Пасля мяцяжу чэхаў гэта не самае страшнае, Уладзімір Ільіч. Эпізод у нашай барацьбе.

— Так, эпізод. Але які? Затрымалі хлеб эсэры. Левыя, безумоўна, якія працуюць з намі ў Саветах. У правых камісар Івашчанка напэўна

страляў бы. Усё гэта адбываецца адразу пасля з'езда партыі левых эсэраў. Заўтра адкрываецца з'езд Саветаў, на якім эсэры збіраюцца даць нам бой за Брэсцкі мір, за прадатрады, за камбеды. Хлеб! Хлеб! І яшчэ раз хлеб! Распальванне страсці ў мужыка.

Ленін абыходзіць вакол стала, спыняецца насупраць Дзяржынскага.

— Не, Фелікс Эдмундавіч! Гэта не мясцовы эпізод. Гэта хітра задуманая правакацыя не аршанскага маштаба. Трыццаць шэсць вагонаў, трыццаць тысяч пудоў хлеба ў Германію — гэта моцны прапагандысцкі козыр. Трэба ведаць псіхалогію селяніна! Эсэрам неабходна падтрымка сялянства. Ім напляваць на тое, што гэтыя ж сяляне ў палоне паміраюць з голаду.

— Згодзен з вамі, Уладзімір Ільіч. Калі мець на ўвазе паведамленні, што левыя эсэры падбіваюць асобныя часці на сутычкі з немцамі...

— Але, гэта адзін ланцуг. Вось бачыце! Трэба памагчы аршанскім бальшавікам.

— Калі Гарбуноў пазваніў, я туг жа звязаўся са Смаленскай ЧК. Яны нічога не ведаюць.

— Пашліце людзей. Надзейных таварышаў. Абавяжыце іх растлумачыць на ўсіх вузлах — у Оршы асабліва! — што мы з усіх сіл павінны памагаць нашым ваеннапалонным.

— Будзе зроблена, Уладзімір Ільіч.

— Як вашы ўласныя эсэры? У апараце ВЧК?

— Нічога. Працуюць. Я супроць усялякай падазронасці да людзей, Уладзімір Ільіч.

— Так, Фелікс Эдмундавіч, людзям трэба давяраць. Але мы, бальшавікі, не павінны забываць, што партыі сялянскай стыхіі... дробнабуржуазнай стыхіі здатныя на любыя авантуры. У нас будзе цяжкі з'езд Саветаў. Магчыма, больш цяжкі, чым мінулы. Заўтра таксама будзе вырашацца лёс міру, а значыцца — і рэвалюцыі

Вечарэе.

Ідзе паравоз — той самы, Яна Карлавіча. На пляцоўках, у будцы, на тэндэры — рабочыя, замурзаныя у замасленым адзенні, па ўсім відаць, толькі з дэпо, ад паравозаў, станкоў, з кузні. Некаторыя ўзброены вінтоўкамі.

Паравоз спыняецца каля самага вакзала. Рабочыя сыходзяць на перон. Прыветліва махаюць Яну Карлавічу, які выглядае з будкі. Паравоз ідзе далей, да дэмаркацыйнай лініі, да калючага дроту. Атрад займае вакзальны будынак.

Камандзір абвяшчае:

— Грамадзяне! Цягнікоў сёння нікуды не будзе. Просьба ачысціць вакзал.

Не вельмі ахвотна, але пакорліва, без абурэння, нешматлікія пасажыры забіраюць клункі, торбы. Сярод іх — Лукашэвіч. Ён спачатку глядзіць на ўзброеных людзей насцярожана, а пасля бачыць сярод іх чорвонаармейцаў, што вартуюць эшалон з хлебам, і супакойваецца. Падыходзіць да рабочага камандзіра, просіць:

— Можна мне астацца з вамі?

Той падазрона аглядае чалавека ў афіцэрскім фрэнчы, катэгарычна адмаўляе:

— Нельга! Праходзьце! Не, пачакайце. Вашы дакументы!

На запасных пуцях з-пад старых паламаных, пабітых за вайну вагонаў вылазяць Якаў Пятровіч, Ніткоўскі, чыгуначнік. Яны спацелыя, задыханыя. Тоўсты эсэр кіпіць, шыпіць:

— Дзе вашы людзі? Дзе вашы рабочыя? Вунь яны дзе! У бальшавікоў! Трэба было ўзброіць тых, што прыйшлі раніцой. А цяпер шукай ветру ў полі. Разбегліся, як зайцы. Спалохаліся адной кулямётнай чаргі. Арганізатары, такую вашу!..

Ніткоўскаму абрыдла за дзень слухаць лаянку гэтага чалавека, і ён нарэшце не вытрымлівае, зрываецца:

— А вы хацелі, каб мы зрабілі пераварот? Захапілі ўладу? Тут, у Оршы? Паспрабуйце захапіць яе ў сябе, у Маскве!

Прадстаўнік цэнтра, спалохана азірнуўшыся, кідаецца на яго са сціснутымі кулакамі:

— Ты што крычыш! Ідыёт!

— Сам ты ідыёт! — абражаны кіраўнік мясцовых эсэраў уміг траціць спакой, паважнасць, пачцівасць.

— Ах, так! — шыпіць тоўсты і ныраe пад вагон.

Чыгуначнік смяецца. Гэты просты чалавек, якога хацелі ўцягнуць у авантуру, глядзіць на рэчы прасцей, чым Ніткоўскі.

У адным з пакояў Аршанскай ЧК. Рам, як кажуць, «прыціснуты да сцяны» бальшавікамі. Тут Ян Карлавіч, кіраўнікі Савета, камісар палка — той, з якім Івашчанка сустракаўся раніцой.

— Я, канешне, падпарадкоўваюся рашэнню Савета,— здаецца Рам, але працягвае ўпарціцца: — Аднак лічу яго няправільным. ЧК стаіць на варце закону. А закон для ўсіх роўны.

— Для каго роўны? Для рабочага і буржуя роўны савецкі закон? — гнеўна пытае яго Ян Карлавіч.

— Вы мяне не лавіце на слове.

— Рам, у нас няма часу,— спакойна, але важка напамінае камісар палка, дастаўшы з кішэні гадзіннік-цыбуліну.

— Вызваліце арыштаванага! — загадвае Рам чэкістам. Чацвёра маўкліва стаяць збоку. Адзін выходзіць.

— Я буду дакладваць ВЧК,—усё яшчэ пагражае Рам.— Дзяржынскі на нарадзе сказаў: перавышэнне ўлады — злачынства перад партыяй... Івашчанка расстраляў дэманстрацыю...

Партыя разбярэцца, хто вінаваты ў сённяшнім. Наша партыя, бальшавіцкая,— гаворыць Ян Карлавіч.

Рам ажно падскочыў.

— Ты на што намякаеш? На што намякаеш?

— Навошта намякаць? -— зноў-такі спакойна адказвае камісар палка.— Ведаючы, што ты левы эсэр, я хачу папярэдзіць: з'явяцца яшчэ вашы ў палку і будуць муціць ваду — расстраляем.

— Ах, вось вы як загаварылі!

— А ты як хацеў? Працаваць у Саветах і ставіць Савецкай уладзе палкі ў колы?

Уваходзяць Івашчанка і чэкіст. Даніла Іванавіч пацiскае сваім рукі.

— Дзякую, таварышы,— і тут жа паварочваецца да Рама, рашуча патрабуе: — Дакументы!

— Якія дакументы?

— На эшалон з хлебам!

— Не бачыў я ніякіх дакументаў.

Гэта страшэнна абурае Івашчанку. Ён кідаецца да Рама так, што той спалохана адскоквае.

— Ты што гэта, сволач! Як не бачыў?!

— За абразу...— але тут Рам не канчае, што можа быць за абразу.

— Былі дакументы! — выступае наперад чэкіст Ткачоў, які хадзіў па Івашчанку.— Былі дакументы! Што вы круціце, Рам? Я хачу заявіць, таварышы. Чэкісты-бальшавікі пратэставалі супроць арышту камісара станцыі. Але Рам атрымаў тэлеграму губернскай ЧК. У Смаленску, відаць, не разабраліся.

— Дакументы! — сціснуўшы кулакі, наступае на Рама Івашчанка.

— Дайце час — я прынясу вам вашы дакументы.

— Не, Рам, вы пойдзеце з намі туды, дзе схавалі дакументы,— па-ранейшаму надзвычай спакойна, нібыта нават жартуючы, гаворыць камісар палка...

Ужо згарэў доўгі ліпеньскі дзень. Зайшло сонца. Ціхі белы вечар. Сціхае Орша. Засынае: няма чым свяціць.

З вузкай вулачкі група людзей выходзіць на падворак. Паднімаюцца па знадворнай лесвіцы на другі паверх.

Рам стукае ў дзверы.

— Хто там?

— Я. Адчыні, Анатоль.

Дзверы асцярожна адчыняюцца, выглядвае тоўстая морда эсэра. Убачыўшы, што Рам не адзін, эсэр спрабуе зачыніць дзверы, але на іх навальваюцца Івашчанка і чэкіст Ткачоў.

Задыханы прадстаўнік цэнтра стаіць пасярод невялікага пакоя голы, без кашулі, у адным сподніках — збіраўся спаць. Прыціскае руку да сэрца.

— А, стары знаёмы!—здаецца, радасна выгукае камісар палка.

— Дакументы! — патрабуе Івашчанка.

— Якія дакументы?!

— Аддайце, Анатоль,— змрочна гаворыць Рам.— Мы прайгралі. У іх — сіла. За намі — меншасць.

Анатоль, ён жа Якаў Пятровіч, глядзіць на яго з нянавісцю і пагардай. Злосна кідае:

— Слізнякі. «Рэвалюцыянеры»!

Ідзе да насценнай шафкі, дзе посуд. За ім насцярожана сочаць. Эсэр з-пад талерак дастае папку, працяг-, вае Хвашчанку.

— На, камісар. Служы немцам. Кармі ворагаў!..

— За антысавецкую прапаганду сярод чырвонаармейцаў я абвяшчаю вас арыштаваным,— сурова і гучней, чым ён гаварыў дагэтуль, кажа камісар палка.

«Анатоль» адскоквае, як спалоханы тыгр.

— Мяне? Не маеце права! Я член ЦК партыі...

— Якой? — пытае Ян Карлавіч...

Раніца. Сонца яшчэ не абсушыла расу на кустах бэзу, на ліпах. А станцыя ўжо жыве. Тонка свішча манеўровы паравоз. Яму адгукаецца ражок стрэлачніка.

З-пад доўгага эшалона з запламбіраванымі вагонамі відаць, як коцяцца колы — на ўсход пайшоў састаў з дрывамі. Але вось ляскаюць буферы і гэтых вагонаў. Эшалон з хлебам зрушыў з месца. Эшалон пайшоў на захад.

У паравознай будцы на месцы машыніста Ян Карлавіч. Побач з ім — Лукашэвіч. На падножцы Івашчанка.

Калючы дрот. Вартавы чырвонаармеец. Вартавы немец у касцы.

Орша-Таварная. Пуцей тут больш, чым на пасажырскай. Але станцыя пустая. Увесь рухомы састаў немцы пагналі на захад. Дзе-нідзе здымаюць рэйкі.

Івашчанка хмура глядзіць на сляды гаспадарання акупантаў.

Эшалон спыняецца.

Немцы, ваенныя і чыгуначныя чыноўнікі, ужо чакаюць каля невялікага будынка таварнай канторы.

Івашчанка саскоквае на зямлю, Лукашэвіч — за ім.

— О, сам пан камісар? — здзіўляецца, казыраючы, старэйшы з чыноўнікаў, хоць ім тэлеграфавалі, хто едзе з эшалонам.— А дзе пан Ніткоўскі?

— Пан Ніткоўскі захварэў,— адказвае Лукашэвіч.

— Які жаль. Перадайце яму наша пажаданне хутчэй ачуняць. Гэты чалавек умее працаваць з нашай, нямецкай пунктуальнасцю,— тонкі папрок за тое, што, маўляў, без старшыні перадатачнай камісіі, спецыяліста, інтэлігента, перадача эшалона затрымалася больш чым на суткі. Івашчанка разумее гэта, ухмыляецца.

— Безумоўна, куды нам да Ніткоўскага!

— Пан маёр яшчэ адпачывае. Але ён абавязкова засведчыць пану камісару сваю павагу.

— Буду ўдзячны пану маёру. А цяпер за працу.

Ідуць уздоўж эшалона. Правяраюць пломбы. Навешваюць яшчэ адны — нямецкія. Запісваюць нумары вагонаў. Другая група правярае спраўнасць вагонаў.

Перапынак у рабоце Пятага з'езда Саветаў.

Як марскі прыбой, гудзе зала. А тут, за сцэнай, за кулісамі адносная цішыня. Фантастычны свет: дэкарацыі, рэквізіт, антычныя статуі, адмысловая мэбля. Залаты пыл у святле сонечных праменняў, якія льюцца аднекуль зверху, з адчыненых вентыляцыйных фрамуг.

Разыходзіцца прэзідыум. Хто-ніхто нязвыкла блукае ў гэтым тэатральным царстве, не адразу знаходзіць выхад.

Група дэлегатаў абкружыла Леніна.

— Уладзімір Ільіч, што вы скажаце пра выступленне Спірыдонавай?

— Па сялянскаму пытанню гэта выступленне ідэолага кулацтва. Па пытанню вайны і міру — агента англа-французскай буржуазіі. Левыя эсэры з хуткасцю экспрэса коцяцца ў балота контррэвалюцыі.

Спыняецца адзін з левых эсэраў. Кажа пачціва, але з дакорам:

— Уладзімір Ільіч, нельга ж так. Ваша непрымірымасць, бескампраміснасць пашырае раскол паміж нашымі партыямі.

— Вы штурхаеце нас на вайну. Вы зрываеце забеспячэнне гарадоў, арміі хлебам... І патрабуеце кампрамісаў? Не, бацечка, на такі кампраміс мы не пойдзем! Левыя эсэры сёння ўжо нічым не адрозніваюцца ад правых! Ад Керанскага і Савінкава!

Эсэру няма чаго запярэчыць. Ён спяшаецца адысці.

Уладзімір Ільіч працягвае абурацца:

— Назваць камбеды «камітэтамі сялянскіх гультаёў» можа толькі кулак. Пагражаць, як Камкоў, нямецкаму паслу кулаком можа толькі дурань і невук.

Падыходзіць Дзяржынскі. Ён, напэўна, праверыў каравулы перад выхадам Леніна, членаў урада на вуліцу.

Уладзімір Ільіч адразу звяртаецца да яго:

— Фелікс Эдмундавіч! Што ў Оршы?

— У Оршы парадак, Уладзімір Ільіч. Хацелі было зрабіць правакацыю...

— Эсэры? Левыя? Вось!

— Але маю паведамленне, што эшалон сёння раніцой перадалі. Там цвёрдым бальшавіком аказаўся камісар станцыі...

— Івашчанка?! — Ленін адразу ўспамінае прозвішча.

— Але... Івашчанка.

Уладзімір Ільіч азіраецца, шукаючы, на што сесці. Збоку — дэкарацыйныя ўсходцы, пафарбаваныя пад граніт. Ленін садзіцца на прыступку, дастае з кішэні блакнот, пачынае пісаць.

Ён у святле самага яркага снопа праменняў.

Аддзірае лісток, працягвае Гарбунову.

— Мікалай Пятровіч, перадайце ў Оршу.

Тэлеграфная. Каля апарата сядзіць Юля, глядзіць у зачытаную кнігу. Каля акна стаіць Лукашэвіч, разгублены, засмучаны. Відаць, што сардэчная размова ў іх не атрымоўваецца, і маладыя людзі пакутуюць ад гэтага.

Саша кажа:

— Заўтра паеду ў Маскву.

Гэта — што мосцік для наладжвання сувязі.

Юля адрываецца ад кнігі.

— Навошта?

— Я павінен выканаць даручэнне таварышаў па няшчасцю.

Юля крывіць вусны.

— Дабрацца да Леніна?

— Не. Навошта? Ёсць Камітэт дапамогі ваеннапалонным.

— Хіба ты не бачыў, што ім памагаюць?

— Усё адно я абавязаны.

— Якія мы сталі. Гаворым адно, а робім другое.

— Юля... Адно нішто не можа змяніць: я люблю цябе.

Юля падымаецца. Яна як бы ажывае, вочы загараюцца. Яна многа разоў чула яго прызнанні ў каханні, але гэта, магчыма, самае важнае для яе.

Спачатку як бы нясмела ступаюць яны адно да аднаго. Потым Юля кідаецца, прыціскаецца тварам да яго грудзей, плечы яе ўздрыгваюць.

— Калі з вагонамі праўда— тату расстраляюць.

— Ну, што ты,— няўпэўнена супакойвае Лукашэвіч.— Ён жа не вораг. За гэта не расстрэльваюць.

— Не кідай мяне, Саша,— па-жаночаму жаласліва просіць яна. Куды дзяваўся яе анархічна-бунтарскі дух! Цяпер гэта звычайная бездапаможная дзяўчына, якой хочацца прыгарнуцца да каго дужэйшага.

Лукашэвіч зусім разгубіўся ад такой нечаканай і непатрэбнай, па яго разуменню, просьбы.

— Што ты, Юля. Як я магу кінуць цябе!

Пачынае працаваць апарат. Юля паспешліва ідзе да яго, чытае стужку.

— Тэлеграма твайму камісару. Ад Леніна.

— Ад Леніна? — Лукашэвіч кідаецца да апарата, падхоплівае стужку, якая спаўзае са стала. Чытае. Раз. Другі. У нейкі міг, здаецца, яму не хапае паветра.

Ён адрывае стужку. Асцярожна камечыць яе і, трымаючы перад сабой у дзвюх жменях, выскоквае з апаратнай, заглядвае ў камісараў пакой. Пуста. Імчыць на перон.

— Дзе камісар?

Чырвонаармеец паказвае ў бок воданапорнай вежы.

Лукашэвіч бяжыць па пуцях, міма Вагонаў, пераскоквае цераз стрэлкі. Здалёк бачыць Івашчанку. Той стаіць з чыгуначнікамі.

— Даніла Іванавіч! Даніла Іванавіч!

Камісар устрывожана кідаецца насустрач.

— Што здарылася?

— Тэлеграма! Вам!..

— Эх, напалохаў. Ляціш, як на пажар.

— Ад Леніна.

— Ад Леніна?!

— Слухайце: «Камісару станцыі Орша Івашчанкаву. Дзякую за пропуск 36 вагонаў у Германію. Гэта для нашых бедствуючых ваеннапалонных. Прашу абвяргаць усе гнюсныя паклёпы і помніць, што мы павінны памагаць нашым ваеннапалонным з усіх сіл. Старшыня Саўнаркома Ленін».

Івашчанка больш здзіўлены і разгублены, чым узрадаваны. Яму як бы няёмка.

— Хто мог перадаць Леніну?

Лукашэвіч апускае вочы на стужку.

— Ёсць людзі…

— Ты?! — амаль узлавана кідаецца да яго Івашчанка.

— Што вы! Як я мог.

Сапраўды: як ён мог?

Былы матрос асцярожна бярэ стужку, сам чытае…

Падыходзяць чыгуначнікі.

Лукашэвіч радасна паведамляе ім:

— Тэлеграма ад Леніна.

Камісара абкружаюць.

— Чытай, Іванавіч!

Паволі ідзе манеўровы паравоз. Машыніст высоўваецца з будкі.

— Што там у вас?

— Тэлеграма ад Леніна!

Паравоз спыняецца. Машыніст і качагар далучаюцца да тых, што абкружылі камісара.

З-пад вагонаў вылазяць рамонтныя рабочыя.

Расце натоўп людзей, каб пачуць ленінскае слова.

1970 г.

ЗМЕСТ



Иван Петрович Шамякін БРОНЕПОЕЗД «ТОВАРИЩ ЛЕНИН» Повести

Для старшего школьного возраста Библиотека юношества Минск, издательство «Юнацтва» На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі
В. М. НОВІК Рэдактар
У. Б. ІДЭЛЬСОН Малодшы рэдактар
Г. Д. З ШПАНКА Мастацкі рэдактар
В. І. КЛІМЕНКА Тэхнічны рэдактар
Г. Ф. ДУБРОЎСКАЯ Карэктар
Л. С. ЗІЗА

Шамякін І.

Ш 19 Браняпоезд «Таварыш Ленін»: Аповесці. [Для ст. шк. узросту/Маст. А. М. Дэмарын].— Мн.: Юнацтва, 1985,— 271 с., 4 л. іл, I л. партр.— (Б-ка юнацтва).

У пер.: 95 к.

Аповесці «Першы генерал», «Браняпоезд «Таварыш Ленін» і кіна-аповесць «Эшалон прайшоў» склалі кнігу прозы народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна.

Усе гэтыя творы — на ленінскую тэму.